**Аўтары ідэі кнігі Алесь Анціпенка і Валянцін Акудовіч.**

**Гэтая кніга реалізаваная ў межах праграмы польскай замежнай дапамогі Міністэрства замежных справаў РП у 2008 годзе. Непасрэдны выканаўца праграмы Ўсходнеэўрапейскі дэмакратычны цэнтар. Тэксты кнігі выражаюць толькі погляды аўтараў і не адлюстроўваюць афіцыйны погляд МЗС РП.**

**Выказваем шчырую падзяку фондам "За новую Беларусь" (Расея) і "Чалавек у бядзе" (Чэхія), а таксама Аляксандру Коктышу і Любашу Вэселу за падрыхтоўку і выданьне расейскай і чэскай вэрсій кнігі.**

У эсэістычнай форме кніга распавядае пра Беларусь, гісторыю, культуру і мэнтальнасьць яе насельнікаў. Гэта – краіна, убачаная вачыма ня толькі беларусаў, але і нашых суседзяў, палякаў і расейцаў.

Аўтары кнігі – вядомыя беларускія інтэлектуалы, пісьменьнікі і гісторыкі, польскія і расейскія дасьледнікі, а таксама публічныя асобы.

У 2005 г. кніга была перакладзена і выдадзена ў Расеі і Чэхіі. У Беларусі выдаецца ўпершыню.

# ЗЬМЕСТ

Прадмова да беларускага выданьня.
**Алесь Анціпенка** .......................................... 4

**I. БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА БЕЛАРУСАЎ**

1. Роздумы пра Беларусь. **Васіль Быкаў** .......................... 8
2. Ад Рагвалода да БНР. **Уладзімер Арлоў** ................... 30
3. Праект Беларусь. **Сяргей Дубавец** ............................ 74
4. Беларус міталягізаваны, гістарычны і рэальны.
   **Пятро Васючэнка** ........................................... 95
5. А. Лукашэнка – партрэт улады і чалавека.
   **Алесь Анціпенка, Валер Булгакаў** ........................ 126
6. Мы і Расея. **Валянцін Акудовіч** .............................. 151
7. Мы і Польшча. **Алесь Смалянчук** ........................... 174
8. Эўропа тут ужо была. **Ігар Вуглік** ........................... 207
9. Беларусь сёньня і заўтра. **Андрэй Дынько** ............... 221

**II. БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА РАСІЯНАЎ**

1. Паўночна-Заходнія губэрні Расеі
   ці Wschodnie kresy polskie? **Андрэй Акара** ............... 248
2. Вачыма сэрца. **Аляксей Сіманаў** ............................. 262
3. Саюз без саюзу. **Аляксандар Фадзееў** ..................... 274
4. Чалавечае і нацыянальнае. **Валянцін Гефтэр** ........... 285

**III. БЕЛАРУСЬ ВАЧЫМА ПАЛЯКАЎ**

1. Маё бачаньне Беларусі. **Эльжбета Смулкова** ............. 302
2. Нетыповае грамадзтва. **Рышард Радзік** .................... 330

**IV. ЗАМЕСТ ПАСЬЛЯСЛОЎЯ**

Terra incognita. **Валянцін Акудовіч** ................................ 366

**Зьвесткі пра аўтараў** ..................................................... 372

# ПРАДМОВА

У 2005 г. гэтая кніга была ўпершыню выдадзена ў Расеі і Чэхіі, адпаведна, у перакладах на расейскую і чэскую мовы. Шаноўны чытач можа слушна запытацца: а чаму ня ў нашай краіне? І ці варта цяпер чытаць такую "старую" кнігу?

Адказ на першае пытаньне просты і вынікае з задумы кнігі: яна стваралася перадусім для замежнага чытача. А таму перад яе аўтарамі стаяла задача распавесьці пра краіну, яе гісторыю і пра нас, беларусаў, максымальна ясна і даходліва, але аніяк не абмінаючы ўсіх тых складанасьцяў, якія часам на доўгія гады, а то і стагодзьдзі, амаль перакрэсьлівалі хоць якія пэрспэктывы нашага гістарычнага выжываньня.

А ў пэўныя пэрыяды мы папросту зьнікалі з эўрапейскай палітычнай, сацыяльнай ды культурніцкай сцэны. Нас немажліва было знайсьці хоць на якой мапе ці на старонках выдаваных кніг. Для іншых мы папросту не існавалі. А таму "ня быць", "адсутнічаць" амаль такі ж натуральны для беларуса стан, як "быць" і "прысутнічаць". З гэтай нашай гістарычнай ды культурніцкай апрычонасьці Валянцін Акудовіч нават сфастрыгаваў для сябе формулу індывідуальнага пражываньня жыцьця. Вядома ж, беларускага – "мяне няма".

Але дзякаваць Богу, беларусы былі і ёсьць. Бо калі б толькі адсутнічалі, дык ня мела б сэнсу пісаць пра іх і гэтую кнігу.

Маючы на мэце рэпрэзэнтаваць замежнаму чытачу нашу краіну і яе насельнікаў, мы разам з тым найменей хацелі, каб кніга служыла хоць якім палітычным мэтам. Бо калі замежны чытач што-небудзь і чуў ці чытаў пра Беларусь, дык найхутчэй пра яе актуальную палітычную сытуацыю. З таго важнымі для нас былі не палітычныя рэаліі, а канцэптуальныя характарыстыкі нашай гісторыі і культуры, базавыя структуры беларускай мэнтальнасьці.

Карацей, кніга мусіла адказаць на шэраг істотных пытаньняў. Адкуль мы? Чаму мы такія, якія ёсьць? Якія гістарычныя падзеі сфармавалі нас? Чым мы адрозныя ад нашых суседзяў? І што нас лучыць з Эўропай? А што з Расеяй? Мы – эўрапейцы ці эўразійцы? Чаму да сёньняшняга дня маем праблемы з нацыянальнай ідэнтычнасьцю? Куды рушым? Ці папросту ўсё яшчэ стаім на раздарожжы?

І вось цяпер, праз колькі год тэксты зноў намі перачытаныя. І што зьмянілася за гэты час? Шмат што зьмянілася. Але, напраўду, мала што зьмянілася, калі мець на ўвазе тыя пытаньні, якія пакладаліся ў аснову кнігі. І перадусім галоўнае зь іх – пра наш геапалітычны, цывілізацыйны і культурніцкі выбар, якое і дагэтуль аніяк не праясьненае.

Перачытваючы тэксты, мы натуральна сутыкаліся зь месцамі, у якіх тагачасныя ацэнкі некаторых працэсаў аказаліся неадэкватнымі сёньняшнім рэаліям, паколькі самі рэаліі зьмяніліся. У такіх выпадках рабіліся альбо рэдактарскія заўвагі, альбо нязначныя скарачэньні. Разам з тым нам было прыемна ўсьвядоміць,

што самі тэксты ня страцілі сваёй актуальнасьці. А той факт, што ад часу зьяўленьня "Невядомай Беларусі" ў краіне не было выдадзена ніводнай кнігі, якая сістэмна трактавала б тыя ж самыя праблемы, дае нам надзею на тое, што яна будзе цікавая і беларускаму чытачу.

Кніга ўтрымлівае таксама і шэраг тэкстаў, якія належаць вядомым расейскім і польскім дасьледнікам ды публічным асобам. Спадзяемся, што погляд збоку на нас і нашу краіну таксама зацікавіць беларускага чытача.

*Алесь Анціпенка*

# РОЗДУМЫ ПРА БЕЛАРУСЬ*

## Васіль Быкаў

Усё значнае патрабуе платы, у тым ліку і незалежнасьць...

Мы ведаем з гісторыі, што многія народы за сваю незалежнасьць пралілі мора крыві. У нас жа гэта адбылося без асаблівых высілкаў і вялікіх дэбатаў... Відаць, незалежнасьць патрабуе другой цаны, другой платы. Напэўна, і эканамічных выпрабаваньняў – самых жорсткіх...

Такі стан рэчаў не залежыць ад чыёсьці злой волі альбо недагляду: тут дзейнічаюць гістарычныя прычыны. Будзе яшчэ шмат тупікоў і пастак... Калі нацыя мае волю да незалежнасьці, яна з іх выберацца; калі ж на пачатку дарогі карціць вярнуцца назад – тады, можа, і ня варта было на гэты шлях ступаць.

* * *

Бывае розны нацыяналізм, гэтаксама як рознай бывае і дэмакратыя. Я разумею гэтую match рознасьць у меры таго і другога. Нацыяналізм вялікай нацыі непазь-

---

* Тэкст скампанаваны з фрагмэнтаў гутарак Юрася Залоскі з Васілём Быкавым («Дыялёгі з Васілём Быкавым», «Кантрапункт – і, між іншым, ідэалёгія», «Рэцэпт напою багоў»). Частка фрагмэнтаў друкуецца ўпершыню... Сюды ж далучаныя паасобныя моманты з розных інтэрв'ю пісьменьніка, якія ён даваў журналістам радыё («Свабода», «Рацыя», «Нямецкая хваля») і газэтаў («Известия», «БДГ»). Скарыстаны і адзін невялікі ўрывак з артыкула Васіля Быкава «Свабода – найбольшая каштоўнасьць».

бежна перараджаецца ў шавінізм і імпэрыялізм, а нацыяналізм малой нацыі, якім бы ён ні быў, накіраваны перш за ўсё на выжываньне сярод іншых.

Калі паглядзець на гісторыю Эўропы, дык мы ўбачым, што ў пэўных гістарычных варунках "нармальны" нацыяналізм выдатна спалучаецца з дэмакратыяй. Дзяржаўнасьць краін Заходняе Эўропы так ці інакш заснавана на нацыянальнай ідэі, апроч хіба што Швайцарыі. Астатнія дзяржавы арганізаваліся паводле этнічнага раскладу, і іхні нацыяналізм ажыцьцяўляецца ў разумнай меры, не пасягаючы на інтарэсы іншых нацый. Чаму Беларусь, зьяўляючыся эўрапейскай дзяржавай, ня можа пабудаваць *свой лад*?

* * *

У наш складаны, бязбожны час традыцыйныя духоўныя каштоўнасьці застаюцца галоўным апірышчам нацыі. Тое было пэўна ў гады татальнага вынішчэньня рэлігіі, нездарма бальшавікі з першых дзён свайго панаваньня пастралялі царкоўных герархаў, пабурылі цэрквы – яны не трывалі духоўнай канкурэнцыі. Дэмакратычна арыентаваныя і проста сумленныя грамадзяне заўжды спантанна адчувалі згубу атэістычнай бездухоўнасьці і неяк спрабавалі процістаяць ёй. На пачатку перабудовы, калі зьявілася такая магчымасьць, я ў "Комсомольской правде" палемізаваў з заўзятымі маскоўскімі прафэсарамі-атэістамі. Але затым мой заступніцкі патас зьнізіўся, калі новыя ўлады ў адносінах да царквы цынічна зьмянілі бізун на пернік. Вядома, ад камуністаў усяго можна было чакаць, але зьдзіўляла тая "хэнць",

разьлік або наіўная легкавернасьць, зь якой царква (найбольш праваслаўная) кінулася ў камуністычныя абдымкі, спрэс ператвараючыся ў банальныя “рычагі” ўлады.

* * *

Хрысьціянства, безумоўна, магутная сіла. Але ў дачыненьні да сучаснага моманту, я баюся, атэістычны пэрыяд нашай гісторыі падзейнічаў самым разбуральным чынам. За той час, калі грамадзтва жыло ў атэістычнай атмасфэры, яно выпрацавала ў сабе ўнутраную здольнасьць існаваць без хрысьціянства, абыходзіцца атэізмам. Гэта вялікае няшчасьце... Сёньня, я баюся, наўрад ці магчыма такое становішча, пры якім рэлігія зноў заняла б у нашым грамадзтве тое месца, якое яна займала да 1917 году.

Мы, аднак, бачым, што заходняе грамадзтва, якое ніколі не было атэістычным, у якім хрысьціянская рэлігія існавала ў нармальных умовах, сёньня ня надта каб захаплялася хрысьціянствам. Яго там прызнаюць, шануюць, але тым ня менш ахладжэньне да хрысьціянства назіраецца ва ўсім цывілізаваным сьвеце.

* * *

Кожны народ пры нармальным (без гістарычнай паталёгіі) разьвіцьці праходзіць пэўны, аб’ектыўна азначаны гісторыяй шлях, пераскочыць асобныя звеньні якога нікому ня дадзена. Нельга з феадалізму адразу сягнуць у сацыялізм, з эканамічнага прымітыву Верхняй Вольты інтэгравацца ў высокаразьвіты Эўрапейскі Эканамічны Саюз, ад бальшавіцкага лікбезу ўзвысіцца да сучаснай эўрапейскай культуры. Мусіць, спярша

трэба назапасіць эканамічны, культурны, маральны капітал. Наша дэмакратыя зьяўляецца дэмакратыяй пачаткоўцаў, а наша зьнявечаная бальшавізмам, дэнацыяналізаваная культура, вядома ж, яшчэ не валодае патрэбным імунітэтам да горшых праяў так званай масавай культуры Захаду.

Відаць, і нам трэба прайсьці нейкі абавязковы гістарычны прамежак, каб выпрацаваць высокія ўзоры культуры, а галоўнае – прывіць грамадзтву густ і патрэбу ў высокім. Хоць, зрэшты, узоры высокай культуры, як і высокі густ – болей прывілея эліты, а масы задавальняюцца культурай ніжэйшага гатунку. Так ва ўсім сьвеце, так мусіць быць і ў нас. Шмат што ў гэтым сэнсе будзе залежаць ад духоўнай патэнцыі нацыі, якой у беларусаў даволі за стагодзьдзі назапашана, зьберажона ў геннай памяці, ня выдаткавана ў суровым жыцьці і цярпліва чакае свае магчымасьці для выяўленьня. І тое суцяшае.

* * *

У трыццатыя гады я быў хлопец, хадзіў у школу, яшчэ малы быў, але, тым ня менш, мне там бачыцца вялікі драматызм нашага мінулага, там шмат якія разгадкі і нашага часу, і ранейшага. Гэта быў вельмі драматычны час. На сялянскай Беларусі тады нішчылася цэлая кляса – сялянства. Менавіта тады яна нішчылася. І гэта было так балюча, прычым жа ня толькі перапісвалі з аднаго саслоўя ў другое, але сапраўды нішчыўся, фізычна вынішчаўся. Гэта як жа можна было ў Беларусі жыць сялянам, загнаным у калгасы, у якіх прымушалі пра-

цаваць цэлы год і нічога не плацілі? Толькі сорак сотак агародаў было, і з гэтага агарода трэба было ўсё дзяржаве аддаць, і падаткі, і малако, і мяса, і яйкі, абсалютна ўсё здавалі. Купіць што-небудзь не было за што, бо ніхто не зарабляў грошай, і не было дзе купіць, нічога ж не прадавалі. Гэта было жахліва. Я ня ведаю, як тады магчыма было выжыць... Аднак жа выжылі. Пасьля – вайна. Вайна, канечне, жахлівая рэч, але вот я ведаю, мае землякі ў вёсцы гаварылі: толькі ў вайну і паелі хлеба. Да вайны ня елі. І пасьля вайны, натуральна, ня елі, – толькі ў вайну паелі, – у вайну, у гэтую крывавую вайну, пад акупацыяй, пры партызанцы, калі фронт два разы прайшоў!.. Аднак жа – у вайну елі хлеб. А ўсё таму, што немцы вярнулі назад зямлю, кожны сваю “палоску” вярнуў, хоць межы былі панішчаны, і сеялі, хто мог, усе сеялі і зьбіралі... Якая гэта была гаспадарка – ні энэргарэсурсаў, ні МТС, ні трактароў не было, і коні не ва ўсіх былі, – аднак неяк апрацоўвалі і былі з хлебам. З 1933 года і да самага пачатку вайны хлеба не было, каторая канчалася недзе вясной, у красавіку. І вось нічога – ні хлеба, ні бульбы, траву елі. Пасьля, натуральна, пасьляваенныя гады – 1945, 1946, 1947, мабыць, і 1948-ы – таксама былі галодныя. Толькі пазьней пачалі зажывацца патроху...

* * *

Тое, што мы называлі калябарацыянізмам і калябарантамі і адпаведна да іх ставіліся, як цяпер бачыцца, было куды больш складаней. Існавалі і калябаранты, і калябарацыя – даволі значныя на Беларусі.

Я заўсёды пра гэта гаварыў. Калі ў Беларусі было каля мільёна партызан, і яны ваявалі, дык з кім яны ваявалі? Гэта камуністы рабілі такую падмену, што, маўляў, партызаны ваявалі быццам зь немцамі. На самай справе якія немцы – у той час як фронт стаяў пад Масквой?.. Немец быў у лепшым выпадку адзін на раён, у раённай адміністрацыі. З кім жа тады ваявалі шматтысячныя партызанскія арміі? Зразумела, з кім – з паліцэйскімі фармаваньнямі, каторыя, як і партызанскія злучэньні, рэкрутаваліся зь беларусаў альбо з суседзяў – літоўцаў ці ўкраінцаў. Гэта ж атрымалася абсалютна спантанна – Хатынь. Трагедыю Хатыні спрабавалі аднесьці на рахунак немцаў, а папраўдзе яе спаліў канкрэтны 118 украінскі паліцэйскі батальён. Дык вось, што датычыць калябарацыі: прыблізна столькі ж, колькі партызан, было і калябарантаў. І тое, што тут адбывалася, мела ўсе прыкметы грамадзянскай вайны. Нямецкія рэгулярныя войскі ў гэтую справу ўлезьлі тады, як фронт падышоў к Полацку. Тады яны акружылі і зьліквідавалі ўсю партызанскую зону. “Прарыў” – гэта эўфемізм: разгром быў заменены на “прарыў”. Які прарыў? Прарваліся рэшткі... Немцы ўмелі гэта рабіць, гэта не Чачня, партызаны для іх не ўяўлялі ніякай небясьпекі... Яны іх акружылі і задушылі меней чым за месяц. Рэшткі, каторыя прарваліся з блакады, пасьля хаваліся ў Селіцкай пушчы, я пра гэта пісаў. У густых хвойках яны прывязваліся рамянямі да вершалін і там сядзелі. Ды немцы пусьцілі сабак, каторыя аблайвалі дрэвы. Немец падыходзіў і даваў уздоўж ствала некалькі чэргаў... Пасьля вайны, у 1947 годзе,

калі я прыяжджаў на радзіму, на тых хвойках яшчэ бялелі партызанскія косьці, абгладаныя вараньнём...

* * *

Жыцьцё ўсіх пакаленьняў нашай няшчаснай краіны вельмі ж незайздроснае, у тым ліку і таго пакаленьня, да якога належыць ваш суразмоўнік.

Але ўся справа, мусіць, у адносінах да тае незайздроснасьці: адны яе саромеюцца, другія ёю ганарацца. Адныя імкнуцца асэнсаваць сваё мінулае, каб здабыць зь яго нейкі, хай сабе маральны ўрок, іншыя – каб здабыць якую выгаду. У нас ідзе барацьба за прывілеі, па сутнасьці – за кавалак сьмярдзючай каўбасы, якую не ядуць сабакі. І тут цікава тое, што некаторых абурае не сама сутнасьць тае паскуднае барацьбы, а яе пэўны вынік. Звычайна ў такіх выпадках навучыліся гаварыць: так, подла, па-свалачному жылі, але ж верылі шчыра, быў энтузіязм! (“Мы не глядзелі, што мы елі – такі вялікі быў уздым”). Саджалі, калектывізавалі, будавалі. І высылалі. І даносілі. І супрацоўнічалі... Але мне думаецца, што чалавек з нармальнай псыхікай у такім выпадку лепш прамаўчыць, каб не дэманстраваць ня толькі відавочную амаральнасьць свайго жыцьця, але і сваё дрымучае глупства.

Так, сапраўды, ня ўсё так адназначна ў нашай гісторыі, ды і псыхалёгіі таксама. Пакаленьні людзей, якія за шмат гадоў прызвычаіліся існаваць у дагары нагамі перакуленым сьвеце, па той бок славутага люстэрка, і на старасьці год ня здольныя зразумець свае

трагедыі, – гэтыя пакаленьні для нацыі страчаны, таксама як і для чалавечай гісторыі.

* * *

Народ заўжды жыў клопатам пра сваё зямное, галоднае, турботнае, нярэдка страхавітае жыцьцё – камуністы-інтэлігенты верай і праўдай служылі вар'яцкім інтарэсам усемагутнай партыі. Зрэшты, ці магло быць інакш, калі ад тае іх стараннасьці на ўсе 100 працэнтаў залежалі іх кар'ера, дабрабыт, побыт – ад пыжыкавых шапак да дэпутацкіх чыноў і акадэмічных званьняў. Яны і цяпер працягваюць жыць на той, назапашаны ад кампартыі капітал, іншага ў іх проста няма. І наўрад ці будзе: зарабіць у рынкавай сыстэме яны ня ўмеюць, а прасіць няма ў каго.

Камунізаваная інтэлігенцыя, бадай, самая канфармаваная кляса нашага беларускага грамадзтва. Зь ёю атрымалася прыкладна тое ж, што здарылася з расейскай інтэлігенцыяй пасьля паразы рэвалюцыі 1905 году, – яна ўсё жыцьцё каялася. Наша, беларуская інтэлігенцыя каялася болей моўчкі – за "грэх" беларусізацыі 20-х (вядома ж, каб уратавацца і выжыць ва ўмовах сталінскага тэрору). Праўда, тое ўратавала ня ўсіх, затое паслужыла добрым урокам жаху, якога ёй хопіць, мабыць, ажно да канца стагодзьдзя. Ці не з тае прычыны так цяжка ідзе новая "беларусізацыя" зь яе плачэўнымі вынікамі?

* * *

Камуністычны лад і камуністычная па сутнасьці псыхалёгія панавалі ў нас ледзь не стагодзьдзе. У яе атмасфэры выхаваўся пэўны мэнталітэт грамадзтва. Ліквідаваць, зжыць гэты мэнталітэт немагчыма.

Для таго павінна адбыцца і зьмена пакаленьняў. Мы бачым, што пабудова дэмакратычнага грамадзтва, апроч іншага, моцна ўпіраецца ў псыхалёгію. Нават нашы дэмакраты (несумненна, лепшыя сярод нас людзі, і людзі разумныя), якія хочуць быць іменна дэмакратамі, але... яны такімі быць ня могуць. Яны суб'ектыўна ня могуць быць такімі хоць бы таму, што цяжка зжыць ня толькі камуністычную мэнтальнасьць, але і тое імпэрскае, шавіністычнае мысьленьне, якое ёй спадарожнічае. Каб пазбавіцца ўсяго гэтага, мусіць, патрэбны час...

Хаця рух у напрамку дэмакратызацыі, несумненна, ідзе. Толькі ідзе марудна, з рознымі эксцэсамі. Іншага выйсьця няма. Могуць быць і рэцэдывы мінулага, узьнікненьне ў выніку путчаў дыктатарскіх рэжымаў – гэта абсалютна магчыма. Толькі будучыні за імі няма, таму што яны ня здольныя забясьпечыць гістарычны працэс, і рана ці позна самы жорсткі і ўсеўладны дыктатарскі рэжым рухне. Рухне зусім не таму, што яго скінуць нейкія рэвалюцыйныя сілы, а па той прычыне, што матэрыяльна ён будзе пазбаўлены магчымасьцяў для разьвіцьця. У нас так ужо атрымалася: Гарбачоў і кампартыя пачалі перабудову, бо пераканаліся, што "сацыялістычны" мэтад гаспадараньня зжыў сябе і мы сталі банкрутам у спаборніцтве з Захадам. Гэтым жа скончыць кожны новы Франка, Піначэт ці Салазар.

* * *

У той час як у іншых рэспубліках былога СССР галоўнай палітычнай сілай у справе самавызна-

чэньня выступілі найперш нацыянальныя сілы, у Беларусі такія сілы паявіліся запозьнена, ужо ў ходзе суверэнізацыі, да якой, па сутнасьці, яны не былі гатовыя. У нас адсутнічаў нацыянальны авангард. Беларускі Народны Фронт утварыўся толькі ў канцы 1988 года, і наменклатура адразу ўцягнула яго ў дробязныя сваркі наконт ягоных жа мэтаў, палітычнага і асабістага іміджу яго лідэраў, усяляк іх дэскрыдытуючы. Шмат часу таксама адабралі бясплённыя дыскусіі аб мове. Яшчэ і дагэтуль нацыянальная дэмакратыя траціць пэўныя высілкі на доказ аксыяматычных рэчаў накшталт важнасьці мовы ў нацыянальнай дзяржаве і шкоды дзяржаўнага дзьвюхмоўя...

* * *

Сучасны стан нашага беларускага грамадзтва дае падставы гаварыць пра яго як пра грамадзтва апалітычнае. Калі б яно было ў дастатковай меры палітызаванае і ўсьведамляла ўласную ролю ў гісторыі Беларусі, дык у нас ня меліся б такія прыкрыя зьявы, якіх не бывае ў нармальным палітызаваным грамадзтве. А менавіта: значныя палітычныя падзеі расцэньваліся б адэкватна і ня блыталіся б з другараднымі (параўнайце рэакцыю насельніцтва на абвяшчэньне сувэрэнітэту рэспублікі і на аднаразовае павышэньне кошту заводзкага харчаваньня), не было б негатыўных адносін да свае нацыянальнае мовы і культуры. Палітызаванае грамадзтва не паставіла б паўтысячы аднолькавых помнікаў чужому правадыру і без дыскусій зразумела б, чаму іх цяпер трэба прыбраць. Урэшце, палітызаваныя грамадзяне інакш бы паставіліся да выбараў у парлямэнт...

“А што ад таго (ад выбараў, рэферэндумаў і да т.п.) – пабольшае каўбасы?” – вось вынік тае палітызацыі наадварот, якая і цяпер дае самыя шырокія магчымасьці для маніпуляцыі народнаю воляю ўсім, хто наверсе, – ад камуністаў да дэмакратаў, якіх, зрэшты, шырокія масы проста не навучыліся адрозьніваць між сабой...

Пры пасыўнасьці і апалітычнасьці грамадзтва больш пэрспэктыўна, відаць, ставіць задачы больш маштабныя, чым тое дазваляюць выканаць сёньняшнія магчымасьці. Трэба, каб грамадзтва прызвычаілася да высокіх мэт. Паглядзіце, некалькі год таму Беларускі Народны Фронт ставіў, здавалася б, зусім нерэальнае, неверагоднае пытаньне аб прызнаньні нацыянальнай сымболікі. Тады гэта гучала нязвыкла, шмат хто і сярод інтэлігенцыі лічыў, што і ня варта гэтае пытаньне ўздымаць... А сёньня – бачыце: “крамольны” сьцяг лунае над Вярхоўным Саветам (ужо даўно не лунае. – *рэд.*). Гэтаксама і з заваёвай сувэрэнітэту. Яшчэ за некалькі месяцаў да прыняцьця дэклярацыі сама ідэя ўспрымалася як лёзунг, “фраза”. Аднак жа і гэтая ідэя ператварылася на нашых вачах у рэальнасьць. І так, трэба меркаваць, будзе ва ўсім, што тычыцца палітычнага працэсу. Калі ж чакаць “сьпеласьці” грамадзтва, дык мы ў справе пабудовы незалежнай Беларускай дзяржавы асуджаны бясконца таптацца на месцы.

* * *

Шмат якія пакаленьні беларусаў выхоўваліся ў сфэры расейскай культуры, што, як і кожная нацыянальная культура, мае свае значныя і нават вялікія здабыткі. Увогуле, гэта было і няблага, асабліва калі ўлічыць, што ў тых умовах менавіта праз расейскую мову

і культуру ў значнай меры ішло далучэньне беларусаў да здабыткаў сусьветнай культуры. Але тут ёсьць і пэўная нелягічнасьць: з таго працэсу была найперш выключана свая, нацыянальная культура, якой належала стаць грунтам, падмуркам усяго грамадзкага працэсу – як і ў кожным цывілізаваным грамадзтве. Нармальны працэс культурнага разьвіцьця павінен быў выглядаць так: спярша ў самым поўным аб'ёме – уласная культура, затым іншыя – расейская, нямецкая, польская, ангельская – чым болей, тым лепш, наколькі хапае да таго здольнасьцяў грамазтва ці асобнага яго члена. Таго, аднак, не адбылося. Або адбылося зусім інакш – аднабакова, ненармальна, што садзейнічала ўтварэньню асаблівага, мутантнага генатыпу, маргінальнага ў культурных адносінах, ня здольнага да ўспрыняцьця сучаснай гуманістычнай культуры наогул.

Нашы палітычныя партыі (найперш, вядома, Беларускі Народны Фронт) з самага пачатку свае дзейнасьці паставілі задачу культурнага адраджэньня нацыі. Вядома, задачу высакародную, але і надта праблематычную ўжо хаця бы з тае прычыны, што ажыцьцяўлялася яна на не зусім прыдатным для таго матэрыяле. Не падмацаваная нацыянальнай сьвядомасьцю народа, яна ўжо ўпачатку абяцала марудна і безвынікова сканаць. Відавочна, палітычныя прыярытэты некаторых дэмакратычных партый былі вызначаныя неабачліва, а сілы для іх ажыцьцяўленьня аказаліся неабмежаванымі. Зноў жа, відаць, не была ўлічана мера супраціву антынацыянальных сілаў, іх шматгадовая спрактыкаванасьць у барацьбе з нацыянальным. Так, каб перамагчы ў вялікім, яны

пайшлі на ўступкі ў меншым, дазволіўшы прыняць хоць бы рэлятывісцкі закон аб мовах, добра ведаючы, што выконвацца ён ня будзе. Цяпер яны навязваюць нацыі абсурдную дыскусію аб дзьвюхмоўі. Вядома, у аснове такога абсурду ляжыць пэўны разьлік. Нацыянальнасьведамая частка грамадзтва наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг адной з дзвюх граматык – Тарашкевічавай і наркомаўкі, дыскутуючы аб разыходжаньні ў трактоўцы мяккасьці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўстанавіць расейскае аднамоўе. Прапагандысцкім прыкрыцьцём тае акцыі займаюцца сацыялягічныя інстытуты і агенцтвы, што сядзяць на ўтрыманьні ўрада і ў любы момант з высмактанымі з пальцаў лічбамі могуць даказаць, што беларусы – супраць беларускай мовы.

* * *

Беларускі народ у сваёй масе напрыканцы XX ст. меў клопат ня так з праблемай адраджэньня, як з праблемай выжываньня. Хоць як-небудзь, хоць з бальшавіцкім рылам, але каб не ператварыцца ў мерцьвяка, што ўвогуле было рэальна. Па сутнасьці ішоў працэс паміраньня (ва ўсіх сэнсах), і важна было клапаціцца, як затрымацца на краі пагібелі, а ня дбаць пра колішнюю веліч часоў Вялікага Княства Літоўскага. Народ тое адчуў інстынктыўна і таму на першых прэзыдэнцкіх выбарах у масе сваёй не пайшоў за Пазьняком і Беларускім Народным Фронтам зь іх віртуальным нацыянал-дэмакратызмам, архаізацыяй і без таго ня надта палагоджанай мовы,

чым сталася, на думку некаторых, вяртаньне да граматыкі Тарашкевіча. З часоў Тарашкевіча шмат што зьмянілася ў сьвеце, у тым ліку і ў беларускай мове, з чым прагматычнаму палітыку немагчыма было не лічыцца. Народ пайшоў за жорсткім, напорыстым, прагматычным дырэктарам саўгасу, ідэі якога былі простыя, як мычаньне каровы, і зразумелыя да рэшты.

Без увагі да нацыянальных прынцыпаў Лукашэнка кінуўся да Расеі, найперш каб выбіць адтуль асабістую падтрымку, а таксама хлеб, бензін, газ, без якіх немагчыма было ня толькі “адраджацца”, але і пераждыць зіму да вясны. Вядома ж, разумнейшыя адчувалі, што ён адбіраў у Беларусі суверэнітэт, будучыню і пазбаўляў дэмакратыі. Але што карысьці з дэмакратыі, калі плакалі галодныя дзеці? Несумненна, будучы дэмакратамі, лідэры БНФ не зразумелі, што дэмакратыя – гэта не справядлівасьць, а арытмэтыка, што нацыянальную будучыню цяпер вырашаюць лічбы, а не ідэі, якія б разумныя яны не былі.

Пра высокія нацыянальныя ідэі мусіла дбаць нацыянальная эліта, нацыя ж дбала пра элемэнтарную мэту – выжыць. Дужа сумніўна, што тае мэты мог дасягнуць нацыяналіст Пазьняк, затое дамагчыся яе абяцаў прагматык Лукашэнка. Тое, што ягоныя мэтады па сутнасьці дэмагагічныя, тады мала хто ведаў.

* * *

Некалі, на пачатку дэмакратычных пераўтварэньняў у Расеі, у Маскве, я дужа спадзяваўся на расейскіх дэмакратаў. І мне здаваліся празьмернымі закіды Пазьняка ў бок расейскай дэмакратыі. Многіх з тых

дэмакратаў я ведаў асабіста, і ў мяне была спадзяванка на іх, я разьлічваў, што яны як дэмакраты зразумеюць і дэмакратыю нацыянальную, напрыклад, у Беларусі, і падтрымаюць яе... Але апынулася, што Пазьняк меў рацыю. Мы пабачылі, як перарадзілася ў сваёй масе расейская дэмакратыя. Нават лепшыя зь іх сталі дзяржаўнікамі, апраўдалі разгром Чачні. Намінальна дэмакратычны ўрад Ельцына, што мяне моцна зьдзівіла, паяднаўся з тымі ж таджыкскімі камуністамі, каторыя пры ўладзе, пачаў іх падтрымліваць – супраць дэмакратычных нацыяналаў, каторых выгналі ў эміграцыю. Цяпер у адносінах да Украіны гэтыя "дэмакраты" павялі сябе ня лепшым чынам. І адносна Беларусі, хоць пра Беларусь пакуль што асабліва не выказваліся... Я скажу, што гэта дзівосная, гібрыдная рэч – расейская дэмакратыя; гэта ня тая дэмакратыя, за каторую мы яе прымалі і на каторую хацелі спадзявацца. Гэта вельмі і вельмі сумна, таму што лёс Беларусі, што б там ні казалі, моцна зьвязаны зь лёсам Расеі. Як мацнейшая суседка яна вызначае шмат што з нашага ўнутранага жыцьця. Тое, што ў нас робіцца, – толькі адбітак тых працэсаў, якія адбываюцца ў Расеі. Благіх ці добрых. Дык вось гэта вельмі прыкра, што адбылося з расейскай дэмакратыяй. Зрэшты, там ёсьць і людзі, каторыя не да канца ў гэтым сэнсе збанкрутавалі, – дэмакраты, каторым я веру, і каторыя, спадзяюся, такімі застануцца і надалей... Я мог бы назваць Валянціна Аскоцкага – літаратара, крытыка; гісторыка Юрыя Афанасьева; паэта Булата Акуджаву; даўніх маіх сяброў, равесьнікаў Віктара Астаф'ева і Лазара Лазарава. Але ўся справа ў тым, што яны не пры ўладзе, не яны вызначаюць...

Тым ня менш, я лічу, што, як бы там ні склаліся нашыя адносіны з Расеяй, трэба падтрымліваць зь ёю сувязі і неяк хаўрусавацца з сапраўды дэмакратычнай часткай расейскай грамадзкасьці. Не адпрэчваць іх толькі на той падставе, што яны, маўляў, “расейскія дэмакраты”. Хоць, паўтаруся, падстаў для гэтага апошнім часам зьявілася болей чым дастаткова. Але ж на каго нам абаперціся? Заходняя дэмакратыя для нас прымальная яшчэ меней, я ўжо некалькі разоў меў магчымасьць пераканацца ў гэтым. Перш за ўсё – яны нас папросту ня ведаюць; пасьля – яны нас не разумеюць; а ўрэшце – у іх заўжды свой разьлік. Неяк я ўдзельнічаў у “круглым стале” ў Заслаўі, на каторым выступалі і ўнівэрсытэцкія прафэсары са Швайцарыі. Дык яны выказаліся супраць суверэнітэту і Літвы, і Беларусі. Яны – за захаваньне імпэрыі, таму што гэта, ці бачыце, – “гарант стабільнасьці ў Эўропе”. Яны думаюць, што калі тут, на ўсходзе Эўропы, будзе адно дзяржаўнае фармаваньне, з моцнай уладай, то з гэтай уладай ім прасьцей можна будзе дамовіцца і тым самым забясьпечыць стабільнасьць у Эўропе...

У Маскве зноў распачынаецца палітыка антыамэрыканізму, канфрантацыі з Захадам. І гэта натуральна, таму што гэтыя людзі могуць існаваць толькі ў стане канфрантацыі з усім сьветам. Няважна, як яны сябе называюць, дэмакратамі ці камуністамі... І рана ці позна яны да гэтага вернуцца. Гэтая эканоміка, што шмат гадоў спэцыялізавалася на вытворчасьці зброі і ракет, іх да таго змусіць... Яны ня могуць існаваць у стане міру. Іх звыклы стан – жорсткая барацьба, “осажденная крепость”. А для гэтага патрэбен вораг. Гэта,

перш за ўсё, – Амэрыка. І акажацца, што самы нацыянальны палітык у Расеі – Жырыноўскі, а самы лепшы імпэратар – нярускі Джугашвілі ці невядома якой крыві Ленін, ці хто яшчэ... І вызначаць будзе Лубянка, а ня Белы Дом. Лубянка заўсёды вызначыць. Гэта ж зразумела. І тое Лукашэнка зразумеў, чаму ён пераможа Кебіча яшчэ на тых выбарах: Кебіча рыхтавалі Ельцын з Чарнамырдзіным, а Лукашэнку – іншая ўстанова. Заўсёды Лубянка перамагала, як бы яна не называлася.

***

Я даўно ўжо назіраю, з другой паловы 90-х, што Беларусь шмат у якіх праявах становіцца палітычнай лябараторыяй Расеі. Некаторыя будучыя ініцыятывы апрабуюцца ў Менску. Асабліва да гэтага ахвочыя камуністы. Па вялікім рахунку, у выпадку інтэграцыі Расея атрымае магутную ін’екцыю – антыдэмакратычную, дыктатарскую, кадэбісцкую Беларусь. Расеі, з усімі яе складанасьцямі і супярэчнасьцямі, прапануюць чысты, дыстыляваны прадукт. Нават КДБ у Беларусі ніколі не мяняла сваёй назвы. Зрэшты, гэтая ін’екцыя ўжо ўводзіцца. Яшчэ да ўсялякай інтэграцыі. І спэцслужбы супрацоўнічаюць, і Дума не вылазіць зь Менску, і адміністрацыі двух прэзыдэнтаў даўно ўжо схаўрусаваліся...

Абрынулася вялікая імпэрыя, паколькі сябе канчаткова вычарпала, пакінуўшы мноства праблемаў, якія, відавочна, ня вырашыць за адно пакаленьне. Яны будуць вырашацца яшчэ доўга, нават калі для гэтага ёсьць добрая воля і ніхто ня чыніць супраціву... У кож-

най краіне былога СССР маюцца і свае спэцыфічныя, нацыянальныя праблемы... Усё вельмі складана, і ня варта чакаць, што жыцьцё хутка ўпарадкуецца.

* * *

Цяпер ужо абсалютна відавочна, што ў тым, што адбылося, не вінаваты ні Гарбачоў, ні Віскулі, ні сучаснае кіраўніцтва, – вінаваты пэўны выбар, зроблены ня намі, зроблены ў 1917 годзе. У 1917 годзе наша грамадзтва зьвярнула з магістральнага шляху грамадзкага разьвіцьця некуды ўбок і празь вялікія намаганьні, праз кроў і ахвяры ўрэшце ўперлася ў тупік. Цяпер выйсьці з гэтага тупіка шчасьлівым шляхам, відаць, ня ўдасца, гэта пэўна: усім нацыям, якія маюць дачыненьне да Вялікага Кастрычніка, трэба прынесьці нейкія ахвяры. Што мы і робім...

Важна зразумець, што шлях быў памылковы, што ішлі мы не туды, што разьвіцьцё ішло абсалютна антычалавечым чынам, і трэба выбірацца... Як выбірацца – гэта ўжо іншая справа. Хочацца, канечне, выбірацца, не вяртаючыся назад, нейкім чынам пераскочыць у іншы цягнік. Але, відаць, гэтак ня выйдзе.

Мы бачым разбурэньне культуры, духоўнасьці, ня кажучы ўжо пра эканоміку, якая ня можа існаваць і ня будзе існаваць – і наўрад ці яе можна паправіць нейкімі папраўкамі, кампрэсамі, даляравымі ін’екцыямі. Відаць, нічога ня выйдзе. Тая эканоміка, што паказала сваю непаўнавартасьць, павінна разбурыцца, і яна бурыцца, нягледзячы ні на якія захады. І толькі пасьля яе разбурэньня пачне прарастаць новая... Тая эканоміка, што існуе на Захадзе, можа даць чалавеку шмат

чаго, калі ня ўсё. Ну, усё, відаць, ні адно грамадзтва і ні адзін лад ніколі чалавеку не дадуць. Так ужо заведзена: чалавек застаецца нейкім чынам адзін на адзін з жыцьцём і – будзе цярпець...

А што культура? Мы стаім на тым, што культура павінна мець нацыянальную форму. Але ў сучасных варунках нацыянальная самабытнасьць культуры зьяўляецца і яе моцным, і слабым месцам. Моцным у тым сэнсе, што гэта спрадвечнае; нацыянальнае, між іншым, гэта ня тое, што дазволена або ўведзена дэкрэтам. Гэта біялягічнае, унасьледаванае ад прыроды, дадзенае Богам... Тут ня трэба, як гэта часам бывае, папракаць, што ў адных яно ў большай меры праяўляецца, у іншых – у меншай. Гэта ўжо як каму дадзена. Але гэта натуральнае пачуцьцё, такое самае, як пачуцьцё мацярынства, іншыя сакрамэнтальныя пачуцьці, закладзеныя ў чалавеку генэтычным шляхам.

Адзіны спадзяванак цяпер – на тое, што нацыянальная культура неяк вытрымае дзякуючы перш за ўсё свайму нацыянальнаму мэнталітэту. У беларусаў ёсьць вопыт. Усё-такі, ня маючы сваёй дзяржаўнасьці на працягу стагодзьдзяў, намаганьнямі мноства пакаленьняў, і перш за ўсё апосталаў сваіх, беларусы захавалі сваю нацыянальную культуру. Былі пэрыяды, калі яна амаль зусім зьнікала. І тым ня менш яна засталася.

***

Вяртаецца нешта большае, чым камуністычныя знакі ды сымбалі. У Беларусь ужо вярнулася сапраўдная савецкая ўлада. А ў Расею вяртаецца імпэрская

ідэя. Вось гэта і ёсьць сапраўдны знак бяды, які не пакідае бедную Расею ў спакоі. У густой поліўцы гэтай ідэі "варацца" мары аб Сталінградзе, чырвоным сьцягу, помніку Дзяржынскаму, інтэграцыі зь Беларусьсю, а затым – прылучэньне Ўкраіны...

***

Я да гэтага часу зьдзіўляюся, як ня толькі, так бы мовіць, народныя масы, але нават і мовазнаўцы ня бачаць недарэчнасьці, алягізму ў гэтым словазлучэньні «Саюзная дзяржава». Што азначае «Саюзная дзяржава»? Гэта тое, што і «вадзяны агонь» ці «вогненная вада». Калі слова «саюзнае» прадугледжвае нешта, што складаецца з дзвюх частак, дык «дзяржава» наадварот – нейкае адно цэласнае ўтварэньне. Таму можа быць ці «саюзнае», ці «дзяржава». Мяркуючы па ўсім, завадатары інтэграцыі гэта цудоўна разумеюць, і за «саюзным» яны адно хаваюць сапраўдную мэту – «дзяржава». Гэтае стварэньне ўнітарнай дзяржавы, гэта, па сутнасьці, першыя крокі да імпэрыі – новай імпэрыі, пасьля той, якая была скасаваная ў Белавежскай пушчы. Але я мяркую, што цяпер усё ж такі ўжо іншыя часы. Беларусь па ўсіх законах – і чалавечых, і Боскіх – мае права на ўласнае суверэннае існаваньне, а вось часы імпэрыяў незваротна прамінулі, і ніякую імпэрыю адрадзіць не атрымаецца – ні Расейскую, ні савецкую, ні славянскую, пра якую таксама мараць пэўныя сілы, галоўным чынам у Маскве, але і ў Беларусі таксама.

***

Я думаю, гэта самая вялікая бяда Расеі, што яна вечна шукае нейкі свой адметны шлях, а ня рухаец-

ца разам з усім чалавецтвам. Ня трэба вынаходзіць ровар, калі ён ужо вынайдзены. Трэба адно ўмець ім карыстацца. Гэты бясконцы пошук свайго шляху і прывёў Расею да таго, што на пачатку дваццаць першага стагодзьдзя ў яе ўвогуле няма ніякага шляху. Няма ні вартай эканомікі, ні ўласнай філязофіі, ні высокай духоўнасьці. На сваім гістарычным шляху Расея згубіла хоць якія абгрунтаваныя амбіцыі. Трэба, нарэшце, разьвітацца з сваёй веліччу і рабіцца нармальнай вялікай ці малой (вялікай толькі па памерах) дзяржавай. Былая веліч да гэтага часу тлуміць галовы некаторым расейскім палітыкам. На самай справе – гэта сярэдняя і вельмі шараговая дзяржава. Такой яна і павінна сябе ўсьведамляць. Толькі тады і пачнецца шлях да нармальнага жыцьця...

***

Больш як 70 гадоў Беларусь была з Расеяй у самым цесным братэрскім сяброўстве, шчыльнай лучнасьці, поўнай гармоніі ва ўсіх сфэрах – палітычнай, эканамічнай, культурнай, ідэалягічнай. І чым гэта скончылася? Гэта скончылася крахам ва ўсіх значэньнях нашага, так бы мовіць, экзыстэнтнага існаваньня. Таму, кіруючыся элемэнтарным здаровым сэнсам, мусім запытацца: ці ня варта нам пераарыентавацца з азіяцкага Ўсходу на эўрапейскі Захад? Хаця ўвогуле гэты працэс зусім няпросты, і яшчэ невядома, што нам дасьць новы саюз, але, тым ня менш, тут мне бачыцца нейкі шанец. Тым болей, што папярэдні выбар скончыўся для Беларусі поўным банкруцтвам.

***

Трэба мецць на ўвазе, што Беларусь выпала з нармальнага, натуральнага гістарычнага эўрапейскага працэсу. Беларусь – гэта анамалія. І таму звычайныя меркі, якія сталі стандартамі для эўрапейскай дэмакратыі, напрыклад, альбо нават для эўрапейскай гісторыі, – яны ня дзейнічаюць для Беларусі. Таму што хада беларускай гісторыі звыродлівая, і невядома, як яе вярнуць на натуральны шлях. Мне думаецца, што толькі ў сям'і эўрапейскіх народаў – будучыня Беларусі. Але вось менавіта шлях туды – цяжкі й амаль што немагчымы, ва ўсялякім разе, у бліжэйшай будучыні.

# АД РАГВАЛОДА ДА БНР ДЗЕСЯЦЬ ВЯКОЎ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ

**Уладзімер Арлоў**

Пераключаючы неяк тэлевізійныя каналы, я ўбачыў у студыі БТ вядомых у гэтых шыротах палітыкаў — беларуса і расейца, надзейных і правераных прыхільнікаў “яднаньня нашых братніх народаў” (непрыхільнікаў на Беларускім тэлебачаньні можна зрэдку ўбачыць толькі ў сюжэтах, зьнятых спэцапэратарамі зь іншых ведамстваў). І аблічча братоў-славянаў, і іхняя бясконцая інтэграцыйная “жуйка” былі знаёмыя да дзікай аскоміны, але рука, што пацягнулася да пульту, на паўдарозе спынілася. Гэтым разам зацятыя аб’яднальнікі, відаць, шукаючы для тэлегледачоў дадатковыя аргумэнты, наважыліся зрабіць экскурс у глыбокую гісторыю. Гаворка ішла пра тое, як нашы продкі, што былі “адзіным старажытнарускім народам”, супольна змагаліся за вызваленьне родных земляў ад мангола-татарскага прыгнёту, а потым, зноў жа разам, на чале зь Пятром І прабівалі вакно ў Эўропу. Слухаць, за што продкі сучасных расейцаў і беларусаў дружна змагаліся далей, было ўжо нецікава.

Датэлефанавацца ў студыю, каб уступіць у палеміку зь дзяржаўнымі мужамі (хаця б паведаміць ім, што не было ніколі на беларускіх землях мангола-татарскага ярма), выглядала задачай настолькі ж рэальнай, як дазваніцца самому імпэратару Пятру, у часы якога продкі беларусаў ня мелі аніякай неабходнасьці ламіцца ў Эўропу, бо іх дзяржава знаходзілася там ужо некалькі стагодзьдзяў.

Якраз дзякуючы той тэлеперадачы я і вырашыў пагадзіцца з прапановаю стаць адным з аўтараў кнігі, якую вы трымаеце ў руках, — не ў апошнюю чаргу натхняючыся спадзяваньнем, што ў ліку яе чытачоў, магчыма, апынуцца і згаданыя вышэй "тэлезоркі", а таксама іхнія калегі з абодвух бакоў беларуска-расейскай мяжы.

Тысячагадовы гістарычны шлях Беларусі нават на аснове самых парадаксальных вэрсіяў гісторыі славянскіх, дый наагул эўрапейскіх народаў уяўляецца мне гранічна міталягізаваным. Калі (напрыклад, у Македоніі) рамантычныя экспэрымэнты з гісторыяй так або іначай спрыяюць разьвіцьцю нацыянальнай ідэі, дык афіцыйная беларуская гістарыяграфія па-ранейшаму нярэдка спрабуе абапірацца на традыцыйныя імпэрскія міты. Тым больш, што апошнія палітыкам зручна выкарыстоўваць у інтэграцыйнай рыторыцы.

Пачнем "ab ovo* — з старажытнарускага народу".

Для мяне і маіх калегаў, прафэсійных гісторыкаў новага пакаленьня, якія разглядаюць мінулае з

* ab ovo (лац.) — літаральна "зь яйка", ад самага пачатку.

пазыцыяў існаваньня беларускай нацыі й дзяржаўнасьці з шматвекавой традыцыяй, абсалютна відавочна, што вэрсія паходжаньня ўсходніх славянаў з "адзінага кораня" — гэта плён творчасьці расейскіх вучоных XVIII—XIX стст., закліканых абгрунтаваць прэтэнзіі крамлёўскіх уладароў на беларускія і ўкраінскія землі. Лёгіка тут надзвычай простая: паколькі мы, маўляў, з аднаго кораня, значыцца, і жыць павінны ў адной дзяржаве — зразумела, у расейскай.

Рэальнага існаваньня адзінай старажытнарускай народнасьці, адкуль быццам бы выйшлі беларусы, украінцы й расейцы, нішто не даказвае. Ад самага пачатку этнагенэз трох народаў адбываўся на розных тэрыторыях і з удзелам розных этнічных кампанэнтаў. Далёкія продкі беларусаў, рухаючыся з поўдня, ад Прыпяці, у VIII ст. пачалі калянізацыю іншых земляў Беларусі, дзе ўжо другое тысячагодзьдзе жылі балты. Славяне стаялі вышэй за карэннае балцкае насельніцтва па сваёй грамадзкай арганізацыі і разьвіцьцю гаспадаркі. Магчыма, якраз гэты фактар абумовіў мірнае суіснаваньне двух этнасаў. Вынікам іхняга ўзаемадзеяньня стала ўтварэньне міжплямёнавых супольнасьцяў крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў — этнічнай асновы будучых беларусаў.

У летапісах вы ня знойдзеце назвы "Кіеўская Русь". Тэрыторыя, якую абазначаюць такім чынам, не была адзінай ні этнаграфічна, ні тым больш палітычна. Полацкае княства, зь якога бярэ пачатак беларуская дзяржаўнасьць, трапляла ў залежнасьць ад Кіеву на лічаныя гады, і кожны раз кіеўцы мусілі

выкарыстоўваць для гэтага збройную сілу. У 1129 г. пры сыне Ўладзіміра Манамаха Мсьціславе полацкіх князёў удалося выслаць у Візантыю, але праз тры гады Мсьціслаў памёр, і Полацк зноў стаў незалежным. Дзяржава Рурыкавічаў ня мела галоўнай прыкметы, што характарызуе этнічную супольнасьць — агульнай самасьвядомасьці. Да сярэдзіны XIII ст. летапісцы называюць насельніцтва Беларусі ранейшымі найменьнямі — крывічы, дрыгавічы, радзімічы. Ня толькі Полацак, але і Ноўгарад, Растоў, Суздаль, Разань не лічыліся ў той час "Русьсю", а наадварот — ёй супроцьпастаўляліся. За Ўладзіміра-Суздальскай зямлёй гэтая назва замацавалася толькі ад другой паловы XIII ст., калі жыхарства беларускіх земляў ужо было асобнай этнічнай супольнасьцю.

Калі ў першай палове 1970-х гадоў я вучыўся ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, нам, студэнтам гістарычнага факультэту, настойліва ўдзёўбвалі ў галовы, што беларусы атрымалі дзяржаўнасьць дзякуючы перамозе "Вялікага Кастрычніка". Але нават самае павярхоўнае знаёмства з крыніцамі пераконвае ў тым, што традыцыі дзяржаўнага будаўніцтва на беларускіх землях былі закладзеныя амаль за тысячу гадоў да Ўладзіміра Ільіча, пры канцы X ст., у часы нашых першых, вядомых зь летапісаў гістарычных асобаў — полацкага князя Рагвалода і яго дачкі Рагнеды.

Полацкае княства было тыповай для сваёй эпохі эўрапейскай раньнефеадальнай дзяржавай. Сваімі памерамі яно адпавядала такім тагачасным краінам,

як герцагства Баварскае або каралеўства Партугальскае. Апрача сталічнага Полацку, упершыню згаданага летапісцамі пад 862 годам, княства налічвала яшчэ паўтара дзясятка гарадоў: Віцебск, Менск, Ворша, Заслаўе, Барысаў, Браслаў, Лукамль, Лягойск… Улада Полацку пашыралася на ніжняе Падзьвіньне да самага Балтыйскага мора. Гэта значыць, што Полацкае княства было марской дзяржавай. У X—XIII стст. Полацкай зямлёй валодала княская дынастыя Рагвалодавічаў, а любыя спробы Кіеву пасадзіць тут сваіх стаўленікаў нязьменна сканчваліся правалам. Камусьці можа здавацца, што гэта ўсё адно былі “задворкі Эўропы”, але, напрыклад, візантыйскія базылеўсы з славутага дому Камнінаў так не лічылі. Захаваліся сьведчаньні, што дачка самага знакамітуга полацкага князя Ўсяслава Чарадзея стала жонкаю імпэратара Аляксея Камніна.

На ўсходзе Полацкая зямля межавала з іншым створаным крывічамі моцным княствам — Смаленскім, на поўдні — з Тураўскім, якое ўзьнікла на землях дрыгавічоў. Беларускія землі ўжо ў X ст. сталі часткаю хрысьціянскага сьвету. Полацкая епіскапская катэдра была заснаваная ў 992 г., прычым трывалыя сувязі першай старажытнабеларускай дзяржавы з Канстантынопалем дазваляюць лічыць, што новая вера прыйшла сюды наўпрост, зь Візантыі. Тураўская епархія вядзе сваю гісторыю ад 1005 г. Крыху пазьней атрымала епіскапскую катэдру Смаленскае княства.

Асаблівасьцю прыходу хрысьціянства на беларускія землі быў яго негвалтоўны, паступовы характар. Новая вера яшчэ вельмі доўга мірна суіснавала з

старым паганскім сьветаўспрыманьнем. Паганцамі ў душы заставаліся ня толькі простыя людзі, але нават і некаторыя зь вялікіх полацкіх князёў. (Летапісы паведамляюць, што Ўсяслаў Чарадзей зьявіўся на сьвет "от волхвования" — значыць, пры ўдзеле паганскіх вешчуноў-"валхвоў"). Працэс сьцьверджаньня новай веры на тэрыторыі старажытных беларускіх княстваў сучасныя дасьледчыкі слушна параўноўваюць зь ірляндзкім варыянтам хрысьціянізацыі, калі сьвятары, што несьлі вучэньне Хрыста, каб дасягнуць посьпеху, мусілі мірна кантактаваць зь вешчунамі-друідамі, шмат чаго ад іх пераймаючы. Разам з тым, хрысьціўшыся паводле грэцкага абраду, продкі беларусаў не адчувалі варожасьці да вернікаў-ляцінянаў. У XII ст. у Полацкім княстве працягвалі пашырацца жыцьцяпісы рымскіх сьвятых. "Родам рымлянін" быў беларускі сьвяты Мэркур Смаленскі.

З тых далёкіх часоў у Беларусі ўсталёўваліся адносіны павагі да іншадумцаў і іншаверцаў. Мы ня ведалі царкоўных расколаў, як у Масковіі, і рэлігійных войнаў або падзеяў кшталту Барталямэеўскай ночы, як на Захадзе. Забягаючы наперад, адзначу, што традыцыя талеранцыі — рэлігійнай і нацыянальнай цярпімасьці — была пранесеная беларусамі праз стагодзьдзі. Сёньня яна знаходзіць свае адметныя выяўленьні: Беларусь — адзіная эўрапейская дзяржава, дзе галоўныя хрысьціянскія сьвяты — Нараджэньне і Ўваскрэсеньне Хрыстовае — афіцыйна адзначаюцца паводле як грыгарыянскага, так і юліянскага каляндароў. Ня менш унікальны і той факт, што ў дзяржаўным каляндары прысутнічаюць

сьвяты дахрысьціянскага паходжаньня — Дзяды і Радаўніца, зьвязаныя з шанаваньнем памяці продкаў.

У XII—XIII стст. старажытныя беларускія княствы ўзроўнем разьвіцьця адукацыі, кніжнай справы, архітэктуры ды іншых галін культуры нічым не саступалі суседнім эўрапейскім дзяржавам. Полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды, летапісы называюць першым “князем-кніжнікам” на ўсходнеславянскіх землях, а ягоная пячатка (разам з надпісам на пасудзіне, знойдзенай пад Смаленскам) зьяўляюцца першымі ў гэтым рэгіёне сьведчаньнямі кірылічнага пісьма, якім болей за тысячу гадоў. Асьветнікі старажытнай Беларусі Еўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі і Клім Смаляціч сталіся зоркамі першай велічыні на небасхіле культурнага жыцьця ўсёй Усходняй Эўропы. Тураўскае Эвангельле XI ст., а таксама створаныя ў XII ст. жыцьцяпісы Еўфрасіньні Полацкай і Кірылы Тураўскага лічацца аднымі з найдаўнейшых арыгінальных помнікаў пісьменства ўсходніх славянаў. У Полацку, які ў сілу сваёй незалежнасьці ня меў патрэбы арыентавацца на кіеўскія ўзоры, склалася самабытная школа дойлідства. Яе найвышэйшым дасягненьнем стала збудаваная ў сярэдзіне XII ст. дойлідам Іаанам Спасаўская царква, якая шчасьліва захавалася да нашых дзён і сёньня — месца паломніцтва вернікаў з шмат якіх краінаў. Падарожнікаў вабяць ня толькі дасканалыя архітэктурныя формы старажытнага храму, але і ўнікальныя фрэскі XI ст., якія пакрываюць усю яго ўнутраную прастору. У “полацкім” стылі, дарэчы, узводзіліся храмы ня толькі на іншых землях Беларусі (у Наваградку, Смаленску), але і ў

далёкім Ноўгарадзе, дзе полацкія дойліды пабудавалі славутую царкву Пятра і Паўла на Сінічай гары.

У сярэдзіне XI ст. над Дзьвіной узьняўся полацкі Сафійскі сабор, які сымбалізаваў роўнасьць Полацку з Кіевам і Ноўгарадам, якія таксама мелі храмы ў гонар Сьвятой Сафіі. Гэтыя гарады былі на ўсходзе Эўропы трыма дзяржаўнымі і народаўтваральнымі цэнтрамі. Сапраўднай трагедыяй для ўсходніх славянаў стала зьяўленьне праз некалькі стагодзьдзяў новага цэнтру — Масквы, якая падмяла пад сябе ноўгарадзкі этнас зь ягонымі дэмакратычнымі традыцыямі, а затым заявіла пра свае прэтэнзіі на беларускія і ўкраінскія землі.

Асобнае месца незалежнай Полацкай зямлі ўва ўсходнеэўрапейскай геапалітыцы сталася невырашальнай праблемаю, “галаўным болем” для ўсіх “клясычных” расейскіх гісторыкаў, пачынаючы ад Васіля Тацішчава, і застаецца такім дагэтуль. Наша першая дзяржава ўпарта ня клалася ў схему “адзінай старажытнай Русі”, таму і ў падручніках, і ў манаграфіях на гэтую тэму Полацкае княства прыгадвалі ўскосна, а часам і наагул не ўспаміналі. У 1980-х гадах шырока адзначалася 800-годзьдзе “Слова пра паход Ігаравы”, дзе адзін з галоўных герояў — князь Усяслаў Чарадзей, за часамі якога Полацкая зямля дасягнула найвышэйшай магутнасьці. Для аўтара “Слова” ён быў прыкладам дзяржаўнага дзеяча, якога так не хапала пры канцы XII ст. І вось у адной зь юбілейных тэлеперадачаў вельмі паважаны мною акадэмік Дзьмітры Ліхачоў выказаў на гэты конт сваю думку. Аказваецца, “вместо того, чтобы радеть о единстве Русской земли, Всеслав провел свою жизнь в беспутных походах”. Калі імпэрскі

стэрэатып мысьленьня, паводле якога незалежнасьць Полацку ад Кіеву — абсалютнае зло, падзялялі вучоныя такога рангу, дык чаго ўжо патрабаваць ад гісторыкаў меншага калібру?

Традыцыя беларускай дзяржаўнасьці была працягнутая ў часы Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Гэтая дзяржава ўзьнікла ў сярэдзіне XIII ст. у выніку саюзу Новагародзкага (Навагрудзкага) княства і літоўскага князя Міндоўга. Новагародак стаў першай сталіцаю ВКЛ. Тут Міндоўг спачатку прыняў веру сваіх падданых — хрысьціянства праваслаўнага абраду, затым у палітычных мэтах перайшоў у каталіцтва і ў 1253 г. атрымаў ад рымскага папы каралеўскую карону. Неабходнасьць аб’яднаньня разрозьненых славянскіх і балцкіх земляў дыктавалася двайной пагрозаю: мангола-татараў — з усходу і нямецкіх рыцараў — з захаду. Альянс адпавядаў інтарэсам абодвух этнасаў, паміж якімі існавалі даўнія шчыльныя сувязі. Таму ўтварэньне агульнай дзяржавы адбылося натуральна і пераважна мірным шляхам.

За князем Вітаўтам (1392—1430 гг.) ВКЛ стала вялікім ня толькі паводле назову і тэрыторыі (яно разьлягалася ад Балтыйскага да Чорнага мора і складала болей за 900 тыс. кв. км), але і паводле сваёй палітычнай ролі ў Эўропе. У 1410 г. злучаныя войскі ВКЛ і Польскага каралеўства разьбілі пад Грунвальдам адну з наймацнейшых у той час армію Тэўтонскага ордэну. Большая частка з 40 палкоў-харугваў Вялікага Княства прыйшла зь беларускіх земляў. У бітве ўдзельнічалі амсьціслаўская, аршанская, берасьцейская, ваўкавыская, віленская, віцебская, га-

радзенская, дарагічынская, лідзкая, новагародзкая, пінская, полацкая, слонімская, смаленская (старажытны крывіцкі Смаленск і Смаленская зямля канчаткова сталі часткаю ВКЛ у 1404 г.), старадубская, троцкая ды іншыя харугвы. 30 зь іх мелі на сваіх баявых сьцягах наш старажытны герб — “Пагоню”. Пасьля разгрому Ордэну 200-гадовая агрэсія нямецкіх рыцараў на Ўсход была спыненая, і суадносіны сілаў у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе зьмяніліся на карысьць славянскіх дзяржаваў.

Трэба дадаць, што на поўстагодзьдзя раней, у 1362 г., дзядзька Вітаўта, вялікі князь Альгерд, у бітве на рацэ Сінія Воды (прытока Паўднёвага Бугу) ушчэнт разграміў татараў. Гэта была першая ўва ўсёй Усходняй Эўропе буйная перамога над татарамі, у выніку якой ад прыгнёту азіяцкіх заваёўнікаў былі вызваленыя ўкраінскія землі. Бліскучы посьпех Альгерда на Сініх Водах стаў натхняльным прыкладам для ўсходніх славянаў, што яшчэ цярпелі залатаардынскае ярмо, і падрыхтаваў наступную вялікую перамогу — над ханам Мамаем на Куліковым полі.

Галоўную ролю ў Вялікім Княстве адыгрывалі беларускія землі. Нашым продкам належала большасьць найвышэйшых дзяржаўных пасадаў. Як паведамляў пасол Тэўтонскага ордэну, зь іх складалася і бліжэйшае акружэньне Вітаўта, які разам з сваім дваром гаварыў па-беларуску. Па падліках гісторыкаў, летапісная Жамойць ды іншыя населеныя балтамі (продкамі літоўцаў у сучасным разуменьні гэтага слова) землі займалі ў ВКЛ менш за $^1/_{15}$ тэрыторыі і мелі $^1/_{20}$, або 5 адсоткаў яго насельніцтва. Дзяржаўнай мовай Вялі-

кага Княства была старабеларуская, з чым ніяк ня могуць зьмірыцца літоўскія гісторыкі, якія ўпарта мянуюць яе то “канцылярскай”, то “славянскай”. Менавіта на тагачаснай беларускай мове вялося справаводства ў канцылярыі ВКЛ, дакумэнты якой — дзяржаўны архіў Княства — у сучаснай гістарыяграфіі зазвычаена называюць Літоўскай Мэтрыкай. У ёй сустракаюцца вельмі цікавыя паведамленьні пра тое, што калі дзяржаўныя чыноўнікі выпраўляліся ў глыбінку, дзе жылі жамойты, яны кожны раз мусілі браць з сабой перакладчыка. Іншымі словамі, дзяржаўнае жыцьцё Вялікага Княства Літоўскага, якое пры Вітаўце і ягоных бліжэйшых пераемніках было найбуйнейшай краінаю Эўропы, на працягу некалькіх стагодзьдзяў праходзіла ў беларускіх нацыянальных формах.

Тут дарэчы будзе згадаць адзін надзвычай красамоўны гістарычны факт. У 1920 г., падчас падпісаньня дамовы незалежнай Літоўскай Рэспублікі з Савецкай Расеяй, літоўцы запатрабавалі назад Літоўскую Мэтрыку, што пасьля інкарпарацыі земляў ВКЛ была вывезеная на ўсход. У створаную экспэртную групу быў уключаны вядомы беларускі гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі, які прапанаваў вярнуць літоўцам усе гістарычныя матэрыялы на літоўскай мове. Сярод дзясяткаў тысяч дакумэнтаў дзяржаўнага архіву ВКЛ такіх не знайшлося ніводнага.

Гаворачы пра пэрыяд Вялікага Княства, неабходна спыніцца на пытаньні самаідэнтыфікацыі ягоных жыхароў, а таксама на тым, пад якімі назвамі яны фігуравалі ў гістарычных крыніцах і былі вядомыя сваім блізкім і далёкім суседзям. Продкі сучасных

беларусаў мянавалі сябе ліцьвінамі, а калі хацелі падкрэсьліць прыналежнасьць да праваслаўнага веравызнаньня і славянскага паходжаньня — “русінамі” або “рускімі”. Вось чаму “рускім” зваўся заснаваны палачанамі ў Рызе гандлёвы двор, а беларускі першадрукар Францішак Скарына выдаваў “Біблію Руску”. Уносячы ў праблему яснасьць, гуманіст XVI ст. Сымон Будны пісаў пра славянскія народы так: “Рускія, маскавіты, сэрбы ды іншыя славяне”.

Паводле сярэднявечнай традыцыі суседзі — расейцы, украінцы, палякі — па назве дзяржавы і ў XIV, і ў XVII ст. звалі “ліцьвінамі” або “літоўцамі” ўсіх жыхароў ВКЛ, ці, скарочана, Літвы. У расейскіх дакумэнтах можна прачытаць, напрыклад, такое: “Литовцы Федзька да Матюшка да Микитка Матвеевы из Полоцку”. Войска, што з часоў вялікага князя Альгерда няраз прыходзіла пад сьцены Масквы і часта на $^{9}/_{10}$ складалася зь беларусаў, расейскія летапісы таксама называлі “літоўскім”. З тае самае прычыны жыхары Маскоўскай Русі для “літоўцаў” былі “маскавітамі”, а пазьней “маскалямі”.

Разам з тым падкрэсьлю, што незалежна ад месца паходжаньня і веравызнаньня, як дома так і за межамі сваёй краіны, продкі традыцыйна адчувалі і называлі сябе найперш “ліцьвінамі”, а сваю зямлю — “Літвой”. У гэтым выяўляліся іх агульнадзяржаўныя патрыятызм і сьвядомасьць, якія захаваліся і пасьля зьнікненьня ВКЛ з палітычнай мапы сьвету. “Радзіма Літва! Як здароўе, так ты дарагая...” — пачынае сваю паэму “Пан Тадэвуш” беларус па бацьку Адам Міцкевіч. Паэт мае на ўвазе родную Наваградчыну,

што, як вядома, знаходзіцца ў цэнтры цяперашняй Беларусі. Ліцьвінам лічыў сябе першы прафэсійны беларускі пісьменьнік новага часу Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Літвой называў радзіму паўстанскі правадыр 1863 г. Канстантын Каліноўскі. Найменьні "Беларусь" і "беларусы" (доўгі час так называлі толькі ўсходнебеларускія землі — Смаленскую, Віцебскую і Магілёўскую губэрні, і, адпаведна, іх жыхароў) для азначэньня ўсёй тэрыторыі і ўсяго насельніцтва нашай сёньняшняй краіны пашырыліся вельмі позна — толькі ў XIX ст. Гэтаму спрыялі царскія ўлады, бо ў этноніме "беларус" сьцьвярджалася блізкасьць да тэрміну "рускі", што цалкам адпавядала русіфікатарскай палітыцы. З другога боку, царская адміністрацыя ў тых самых мэтах не выказвала супроцьдзеяньня замацаваньню назваў "Літва" і "літоўцы" за балцкімі землямі былога ВКЛ у пэрыяд літоўскага нацыянальнага адраджэньня пры канцы XIX ст.

Такім чынам, сёньняшнія беларусы ў гісторыі выступалі пад назвамі, якія доўгі час былі іх уласнымі ("русіны", "рускія", "літоўцы"), а затым сталі найменьнямі суседніх народаў. Гэтая акалічнасьць спрычынілася да шмат якіх непаразуменьняў і гістарыяграфічных парадоксаў. Вось самы паказальны: у XII ст. нашы продкі мелі гарады, княствы, мураванае дойлідства, пісьменства, былі хрысьціянамі. У той самы час продкі літоўцаў заставаліся паганцамі, у якіх не было ні дзяржаўнасьці, ні гарадоў, ні пісьменства. Тым ня менш у выніку намаганьняў літоўскіх гісторыкаў тэрміны "Літва" і "літоўцы" фігуруюць у эўрапейскай гістарыяграфіі ўжо ў дачыненьні да падзеяў самага

пачатку XI ст., а “беларусы” зьяўляюцца толькі праз некалькі стагодзьдзяў. Яшчэ адзін парадокс у тым, што “прыватызацыя” ўсёй гістарычнай спадчыны ВКЛ выключна літоўцамі пасьлядоўна падтрымлівалася Масквой у савецкія часы. У абмен на лаяльнасьць моцнай нацыянальнай інтэлігенцыі і нацыянал-камуністаў у Літоўскай ССР, адзінай з “саюзных” рэспублік, побач з камуністычнай была дазволеная нацыяналістычная ідэалёгія, што грунтавалася на гістарычных мітах (пра заваяваньне літоўскімі князямі беларускіх земляў, вызначальную ролю літоўскіх земляў у ВКЛ і г.д.). Адной з асноўных прычынаў такога парадоксу была перадача Сталіным у 1939 г. колішняй сталіцы ВКЛ Вільні і Віленскага краю з складу БССР у Літву. Межы артыкулу не дазваляюць заглыбіцца ў гэтую праблематыку, таму ўсіх зацікаўленых пераадрасую не да працаў беларускіх гісторыкаў, а, каб не выглядаць занадта староннім, да толькі што выдадзенай манаграфіі амэрыканскага спэцыяліста Тымаці Снайдэра. (Timothy Snyder. The Reconstruction of Nations. Poland, Ukraine, Lithuania, Belarus. 1569—1999. Yale University, 2003), дзе закранутай тэме прысьвечаны цэлы разьдзел “Спрэчкі за літоўска-беларускую Айчыну”. Рэцэнзенты ўжо выказвалі думку, што кніга мае ўсе шанцы стаць сапраўдным навуковым бэстсэлерам і адчувальна пахіснуць у сучасным заходнім дыскурсе пазыцыі афіцыйнай літоўскай гістарыяграфіі.

Мы ж вернемся ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага, якое было ўсходнім аванпостам адзінага эўрапейскага сьвету. Гэтае адзінства найперш выяўлялася ў культуры

і традыцыях дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця. Улада манарха-“гаспадара” была абмежаваная тут своеасаблівым тагачасным парлямэнтам зь дзьвюх палатаў — Рады і Сойму. Жыцьцё беларускіх гарадоў грунтавалася на магдэбургскім праве (першай у 1387 г. яго атрымала Вільня, праз тры гады — Бярэсьце, яшчэ праз год — Горадня). Прыняты ў 1588 г. Трэці Статут ВКЛ быў найбольш перадавым і дасканалым зборам законаў у тагачаснай Эўропе. Ён быў напісаны і выдадзены на беларускай мове (якую замацоўваў як дзяржаўную), што рабіла ягоны тэкст даступным пераважнай большасьці насельніцтва дзяржавы, тым часам як у краінах Заходняй Эўропы карысталіся законамі, выкладзенымі на незразумелай простым людзям ляціне.

Статут абвяшчаў ідэю праўнай дзяржавы, заканадаўча сьцьвярджаў ідэю рэлігійнай талеранцыі і бараніў правы ўсіх жыхароў, незалежна ад веравызнаньня. Кожны вольны чалавек меў права выехаць за мяжу. Грунтоўна было распрацаванае ў Статуце крымінальнае права: уводзілася прэзумпцыя невінаватасьці, вызначалася адказнасьць шляхціча за забойства простага чалавека, больш суровыя пакараньні прадугледжваліся за злачынствы супроць жанчын. У параўнаньні зь іншымі эўрапейскімі краінамі сыстэма пакараньняў была гуманьнейшая: вызваляліся ад крымінальнай адказнасьці дзеці й падлеткі да 18 гадоў, а таксама псыхічна хворыя, забаранялася асуджаць на сьмерць цяжарных кабет. Прыродныя багацьці краіны Статут бараніў значна лепей за некаторыя сучасныя законы. За разбурэньне

сакалінага або лебядзінага гнязда злачынца плаціў ад трох да шасьці коп грошай, за адлоў ці адстрэл бабра — ад дзьвюх да чатырох. (Дзеля параўнаньня: рабочы вол ці жарабец каштавалі тады дзьве капы).

Статут ВКЛ вельмі істотна паўплываў на юрыдычную думку Польшчы, Украіны, Латвіі і Эстоніі. Яго выкарыстоўвалі пры кадыфікацыі прускага права. Шмат якія артыкулы нашага Статуту без усякіх зьменаў перайшлі ў расейскае “Соборное уложение”. Юрыдычны помнік беларусаў і сёньня прываблівае навукоўцаў розных краінаў. На працягу цэляга сэмэстру вывучаюць спэцкурс па Статуце 1588 г. студэнты-юрысты Сарбоны.

ВКЛ было самай верацярпімай краінаю Эўропы. На гарадзкіх і местачковых пляцах праваслаўныя, а пазьней уніяцкія цэрквы мірна суседзілі з каталіцкімі касьцёламі, з сынагогамі, а часам і з мячэтамі (ад часоў Вітаўта ў Княстве жылі запрошаныя сюды татары, якія, дарэчы, перанялі беларускую мову і, карыстаючыся арабскім пісьмом, стварылі на ёй свае ўнікальныя рэлігійна-маральныя кнігі — кітабы). Па вуліцах Полацка і Вільні, не баючыся ні вогнішча, ні допытаў у сутарэньнях інквізіцыі, хадзіў шляхціч Васіль Цяпінскі, які выкрываў у невуцтве праваслаўнае духавенства і дзеля асьветы народу пераклаў і выдаў па-беларуску Эвангельле. На дыспут з манахамі-езуітамі ў Полацак прыяжджаў яго добры знаёмы філёзаф-гуманіст і дзеяч Рэфармацыі Сымон Будны. У вучонай спрэчцы (якую, дарэчы, прайграў) ён адстойваў тэзіс пра тое, што няма ні пекла, ні раю, а душа памірае разам зь целам. Паспрабаваў бы ён займацца такімі дыспутамі з маскоўскімі багасловамі!

Ува ўсходніх суседзяў панаваў зусім інакшы дух. "Няхрышчаным немцам" нават не дазвалялі заходзіць у царкву, а калі нехта зь іх і трапляў туды, яго адразу выганялі і падмяталі падлогу. Пераселеных у Масковію беларускіх майстроў — "литовских иноземцев", нягледзячы на тое, што яны былі праваслаўнымі, усё адно "приводили к истинной вере".

Вельмі адрозьніваўся культурны ўзровень ВКЛ і Масковіі. Беларусь была ўсходнім рубяжом агульнаэўрапейскага Рэнэсансу. Яна дала той эпосе сваіх тытанаў, сярод якіх выключнае месца займае Францішак Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар, перакладчык, выдавец і мастак. Сын народу, што жыве на эўрапейскім памежжы, ён геніяльна зьнітаваў у сваёй творчасьці традыцыі візантыйскага ўсходу і лацінскага захаду. Дзякуючы Скарыну беларусы атрымалі друкаваную Біблію на роднай мове раней за расейцаў і ўкраінцаў, за палякаў і літоўцаў, за сэрбаў і балгараў, за французаў і ангельцаў...

Наведаўшы ў 1925 г. Вільню, службовец Брытанскага Біблійнага таварыства Ўайзман уражана пісаў у справаздачы: "Беларусы — адзін зь першых народаў, якія надрукавалі Сьвятое Пісьмо на сваёй мове. Гэта было ў 1517 г., за восем гадоў да першага друкаванага выданьня па-ангельску. Можна ўявіць, кім беларусы былі б цяпер, каб перасьлед і ўціск не прывялі іх да заняпаду". У гады майго студэнцтва такія цытаты ў нашых навучальных дапаможніках цяжка было прысьніць і ў самым сьветлым сьне. Затое ў адным з выдадзеных у Маскве ўнівэрсытэцкіх падручнікаў

мы маглі прачытаць, што “в Белоруссии дело Ивана Федорова продолжил Франциск Скорина”. Між тым фёдараўскі “Апостал”, першая датаваная кніга ў Расеі, выйшла на 47 гадоў пазьней за Скарынаў “Псалтыр”, якім першадрукар распачаў выданьне біблійных кнігаў. Імкнучыся пашырыць сьвятло навукі сярод усходніх суседзяў, Скарына прывёз вялікую партыю сваіх выданьняў у Маскву і прапанаваў сьвецкім і духоўным уладарам наладзіць кнігадрукаваньне, але замест удзячнасьці ўбачыў, як на загад маскоўскага князя зь ягоных кнігаў склалі велізарнае вогнішча.

У параўнаньні з маскавітамі жыхары ВКЛ мелі нязьмерна болей правоў і духоўнай свабоды, значна шырэйшыя магчымасьці атрымаць адукацыю. Да заснаваньня ў 1579 г. Віленскай акадэміі тысячы юнакоў-ліцьвінаў здабывалі асьвету ўва ўнівэрсітэтах Чэхіі, Нямеччыны, Польшчы, Італіі, Швайцарыі, Францыі. Адначасова з Скарынам у Кракаўскай alma mater, як сьведчаць матрыкулы, грызьлі навуку Ян і Паўла з Горадні, Станіслаў з Клецку, Вінцэсь са Слуцку, Мікола з Ашмянаў, Марка зь Нямігі. Пры канцы XV ст. магістар Ян з Полацку чытаў кракаўскім студэнтам курс “Лісты Цыцэрона”, а ягоны калега і аднаймельнік Ян з Мастоў выкладаў “Этыку” і “Мэтафізыку Арыстотэля”.

На вялікі жаль, Масковія, у адрозненьне ад Беларусі, ня мела ў сваім мінулым ні эпохі Адраджэньня, ні Рэфармацыі — тых зьяваў, якія вызначалі фундамэнтальныя асновы эўрапейскай цывілізацыі. На ўсход ад Смаленску, у Маскоўскай дзяржаве, сытуацыя была прынцыпова іншай. У той час як культурная

традыцыя і Літоўскі Статут уводзілі наш люд паспаліты ў грамадзянскі стан, народ маскоўскі, паводле слоў выдатнага расейскага гісторыка Васіля Ключэўскага, быў асуджаны на ролю "государевых людишек", чыё жыцьцё ўва ўсіх сваіх праявах залежала не ад уласнага выбару, а выключна ад волі цара-дэспата.

Вызваленьне ад татарскага ярма, гэтай найвялікшай трагедыі расейскага народу, які быў вырваны з эўрапейскай цывілізацыі, на жаль, было толькі зьнешнім. Замест забытых дэмакратычных традыцыяў старажытных княстваў Масковія ўспадчыла дзяржаўную пабудову Арды і шмат у чым зрабілася яе адлюстраваньнем. Пра гэта сьведчаць і жорсткае адзінаўладзьдзе, і поўнае бяспраўе перад "государем" нават самых знакамітых расейскіх родаў, і ідэя ўлады над усім сьветам — "Два Рима пало, а Москва третий есть, а четвертому не быти". Усходні сусед абвяшчаў сябе спадкаемцам апошняга "истинно христианского царства" — Візантыі, а значыцца, выратавальнікам хрысьціян ад усіх "паганых" і "раскольнікаў". У гэты разрад раней за ўсіх, натуральна, трапілі суседзі. Зь неверагоднай жорсткасьцю зьнішчыўшы Ноўгарадзкую рэспубліку, Масква ўжо напрыканцы XV ст. заявіла аб прэтэнзіях на Беларусь і Ўкраіну, мянуючы іх не іначай як "искони русскими землями".

Гісторыя ўзаемадачыненьняў Масковіі і ВКЛ — гэта гісторыя бясконцых войнаў. Падставаю для збройнага канфлікту магло стаць усё, што заўгодна: напрыклад, нежаданьне гаспадароў ВКЛ называць маскоўскіх князёў царамі. Пасьля першай распачатай Масковіяй вайны 1492—1494 гг. мірных перадышкаў

амаль не было: дзяржавы-суседкі (зь ініцыятывы “трэцяга Рыму”) ваявалі ў 1500—1503, 1507—1508, 1512—1522 гадах. У час апошняй з гэтых войнаў пасьля капітуляцыі Смаленску і захопу ваяводамі Васіля III іншых усходнебеларускіх гарадоў над Вялікім Княствам Літоўскім сапраўды навісла сьмяротная небясьпека. Але інтэрвэнты былі спыненыя пад Воршай, дзе войска ВКЛ 8 верасьня 1514 г. здабыло адну з самых выдатных перамогаў у эўрапейскай гісторыі XVI ст. 35 тысячаў ваяроў на чале з гетманам Канстантынам Астроскім разьбілі 80-тысячнае маскоўскае воінства. Захопнікі страцілі 40 тысячаў забітымі, у палон трапіла дзесяць ваяводаў. Мікалай Карамзін у “Истории государства Российского” пісаў, што войскі Вялікага Княства яшчэ “ніколі не атрымлівалі такой славутай перамогі над расіянамі”. Пра Аршанскую бітву ведала ўся Эўропа: яе вывучалі як прыклад бліскучых дзеяньняў малалікай арміі супроць значна большай збройнай сілы непрыяцеля. Гетмана Астроскага называлі другім Ганібалам, а яго ваяроў часта параўноўвалі з мужнымі воінамі антычнай Македоніі. Праз колькі гадоў пасьля перамогі невядомым мастаком, верагодна, з кола Лукаса Кранаха, было створанае батальнае палатно, дзе адлюстраваны адзін з эпізодаў сечы. На карціне, што захоўваецца цяпер у Нацыянальным музэі ў Варшаве, можна ўбачыць баявыя бел-чырвона-белыя сьцяжкі беларускіх ваяроў. Гэта першая па часе выява беларускага нацыянальнага сьцягу, пад якім у 1992 г. у дзень гадавіны бітвы пад Воршай на пляцы Незалежнасьці ў Менску адбылася прысяга беларускіх вайскоўцаў на вернасьць свайму народу.

Аднак націск з усходу працягваўся, і этнічная блізкасьць дзьвюх краінаў не рабіла канфлікты менш жорсткімі і бязьлітаснымі. У час Інфлянцкай (у расейскай гістарыяграфіі яна мае назоў Лівонскай) вайны крывавую трагедыю перажыў захоплены і разрабаваны стральцамі Івана IV у 1563 г. Полацак. У горадзе было зьнішчанае ўсё неправаслаўнае насельніцтва, а 50 тысяч палачанаў зімовымі дарогамі пагналі на ўсход. З болем піша пра гэта ў сваёй “Хронікі Эўрапейскай Сарматыі” удзельнік вайны італьянец Аляксандар Гваніні, а яшчэ адзін сучаснік тых падзеяў, аўтар “Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі” Мацей Стрыйкоўскі дадае, што гналі полацкіх палонных “не па-хрысьціянску, а як іудзеяў да Вавілону”. (Прымусовымі перасяленьнямі беларусаў — найперш майстравітых і адукаваных гараджанаў — у Масковію суправаджаліся практычна ўсе войны).

Падзеі Інфлянцкай вайны і найперш акупацыя Полаччыны падштурхнула ВКЛ да дзяржаўнай вуніі з Польшчай, акт якой быў прыняты ў 1569 г. у Любліне. Паводле Люблінскай вуніі Вялікае Княства і Польская Карона аб’ядноўваліся ў агульную дзяржаву — Рэч Паспалітую, якая мела прыкметы як фэдэрацыі, так і канфэдэрацыі. ВКЛ захоўвала ў Рэчы Паспалітай ня толькі сваю назву і тытул манарха, але і ўласную сыстэму дзяржаўных пасадаў, войска, скарб, мытную службу і нават права. У згаданым вышэй Літоўскім Статуце 1588 г. назва “Рэч Паспалітая” наогул не згадвалася. Разам з тым Люблінская вунія, якая дапамагла пераможна завяршыць вайну з Маскоўскай

дзяржавай, непазьбежна ўзмацняла ў дзяржаве нашых продкаў польскія і каталіцкія ўплывы.

Было б, вядома, памылкаю зводзіць стасункі Масковіі і ВКЛ да выключна вайсковага супрацьстаяньня. У XVI—XVIII стст. беларускія землі былі для Масковіі каналам сувязі з эўрапейскай культурай. Асьветнік, пісьменьнік і пэдагог Сімяон Полацкі, перасяліўшыся зь Беларусі ў Маскву, зьдзейсьніў там амаль што культурную рэвалюцыю. Дастаткова сказаць, што пасьля таго як Сімяон адчыніў сваю, не залежную ад царкоўнай цэнзуры друкарню, іхняя колькасьць ува ўсёй Расейскай дзяржаве адразу падвоілася: была адна, стала дзьве. У той самы час на радзіме нашых продкаў, у Рэчы Паспалітай, кнігі сыходзілі з варштатаў у 134 друкарнях. (Аднойчы з-за гэтага красамоўнага параўнаньня тагачаснага культурнага ўзроўню дзьвюх краінаў з праграмы БТ пільны чыноўнік выкрасьліў зьняты паводле майго сцэнару навукова-папулярны фільм “Сімяон”, які нібыта мог пахіснуць сьвятую справу “інтэграцыі нашых братніх народаў”). Сімяон Полацкі стаў першым у Расеі прафэсійным літаратарам і пакінуў пасьля сябе цэлую школу паэтаў. Ён напісаў праект першай у Расеі вышэйшай навучальнай установы, паводле якога потым стваралася маскоўская Славяна-грэка-ляцінская акадэмія. Славутая Сімяонава кніга “Вертоград многоцветный” была своеасаблівай энцыкляпэдыяй, адкуль чытач мог атрымаць зьвесткі з гісторыі, геаграфіі, заалёгіі, мэдыцыны. У 1672 г. Полацкі адчыніў першы ў Расейскай дзяржаве прыдворны тэатар, акторамі якога сталі добра

Пакроўскі сабор у Ізмайлаве, царкву Ўсьпеньня ў Ганчарах... Болей за сорак беларусаў працавала ў 1662 г. у Срэбнай палаце Крамля. (Падрабязьней пра гэта можна даведацца з кнігі: Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVII в. Мн., 1957.) Сучасныя расейскія дасьледчыкі зь зьдзіўленьнем пішуць, што ў другой палове XVII ст. у амаль цалкам непісьменнай Маскве пад пастановамі сходаў у Мяшчанскай слабадзе ўласнаручна падпісвалася амаль палова жыхароў. Апрача гэтае свабоды нашых суайчыньнікаў расьсялялі па ўсім горадзе. Кожны пяты жыхар расейскай сталіцы быў тады беларусам. З тае пары Масква і пачала панашаму “акаць”, хоць вакол яе дагэтуль “окаюць”.

Знаходжаньне на скрыжаваньні эўрапейскіх і эўразійскіх шляхоў, амбіцыяў і інтарэсаў не абяцала Вялікаму Княству спакойнай будучыні. XVII ст. увайшло ў хронікі найперш крывавым патопам. У масавай сьвядомасьці беларусаў самай страшнай вайной дагэтуль лічыцца Другая сусьветная, калі рэспубліка страціла кожнага чацьвёртага жыхара. Людзі, знаёмыя з гісторыяй, ведаюць, што, на жаль, гэта яшчэ адзін міт. Мы перажылі ў мінулым яшчэ больш жудасную трагедыю.

У 1654 г. цар Аляксей Міхайлавіч разьвязаў чарговую вайну за “искони русские земли”. Прыкрываючыся словамі пра абарону праваслаўя ад уціску “проклятых ляхов”, у Беларусь уварваліся тры вялізныя арміі колькасьцю да 100 тысяч. Царскія ваяводы Трубяцкой, Шарамецьеў і казацкі атаман Залатарэнка занялі Віцебск, Полацак, Воршу, Крычаў, Амсьціслаў, Гомель, Шклоў ды іншыя гарады. Тыя зь іх, што

адмаўляліся ад капітуляцыі і мужна бараніліся, былі на загад цара разбураныя, а іх насельніцтва — вынішчанае або выведзенае ў палон. Найбольш цяжкі лёс напаткаў Амсьціслаў, дзе, як сьведчаць расейскія гістарычныя дакумэнты, "шляхты, литвы и иных служилых людей побито больши десяти тысяч", а ў некаторых архіўных актах сустракаюцца паведамленьні і пра пятнаццаць тысяч ахвяраў: "Трубецкой с товарищи город Мстиславль взял и высек и выжег, а побил в нем больше пяти на десяти тысяч. (Акты собранные в библиотеках и архивах России. СПб., 1836, с. 128). Руінамі сталі Рэчыца, Жлобін, Рагачоў. У 1655 г. была ўзятая Вільня.

Усе абяцаньні Аляксея Міхайлавіча, што ён захавае правы і маёмасьць беларускай шляхты й забясьпечыць праваслаўным беларусам спакойнае жыцьцё (трэба сказаць, што напачатку на памежных з Расеяй землях яны мелі даволі значны ўплыў), былі забытыя. На захопленых землях царскія ваякі займаліся непрыкрытым рабаваньнем і гвалтам. У адказ пачаўся масавы партызанскі рух, асабліва актыўны на Амсьціслаўшчыне (дарэчы, менавіта з той вайны бярэ пачатак вядомая ўва ўсім сьвеце традыцыя гераічнай беларускай партызанкі). У ліпені 1654 г. 15-тысячнае войска ваяводы Трубяцкога гераічна заатакаваў аддзел з трох тысяч беларускіх сялянаў Калесьнікаўскай воласьці. Жыхары Магілёва, якія здалі царскім стральцам горад бяз бою, ня вытрымаўшы зьдзекаў і бясконцых рабункаў, 1 лютага 1661 г. паўсталі і за некалькі гадзін выразалі ўвесь 7-тысячны царскі гарнізон. (Гл.: Археографический сборник

дакументов, относящихся к истории Северо-Западной Руси. Вильна, 1867. Т. 2. С. XVIII; Акты Московского государства, изданные Императорскою Академиею наук. Спб., 1901. Т. 3, с. 324). Народна-вызвольны рух на акупаваных беларускіх землях даў магчымасьць войскам Рэчы Паспалітай перайсьці да пасьпяховых баявых дзеяньняў. У выніку Андрусаўскага замірэньня 1667 г. Смаленскае і Чарнігаўскае ваяводствы адыходзілі Расейскай дзяржаве, але ўсю захопленую паўночную Беларусь цар Аляксей Міхайлавіч мусіў вярнуць.

Наша краіна выйшла з той вайны зь неверагодна цяжкімі стратамі. Беларусь не далічылася болей за палову жыхароў — палеглымі ў бітвах, памерлымі ад голаду, перасеrange ленымі ў Расею. У абсалютных лічбах страты выглядалі наступным чынам: з 2 млн. 900 тыс. жывымі засталіся каля 1 млн. 350 тыс., а на ўсходзе Беларусі не ацалела і трэцяй часткі насельніцтва. (Дэмаграфічныя табліцы пра страты насельніцтва Беларусі, складзеныя на падставе архіўных крыніцаў, гл. у кнігах: Генадзь Сагановіч. Невядомая вайна. 1654—1667. Мн., 1995; Morzy J. Kryzys demograficzny na Litwie i Bialorusi w drygiej polowie XVII wieky. Poznan, 1965). Палонных беларусаў маскоўскія стральцы прадавалі на астраханскіх рынках у пэрсідзкае рабства па тры рублі за душу. Як піша дасьледчык тых падзеяў Генадзь Сагановіч, вайна 1654—1667 гг. быццам падмяніла нашую зямлю. Іншым зрабілася практычна ўсё — ад умоваў жыцьця да нацыянальнага генафонду. Беларусы амаль цалкам пазбавіліся сваёй эліты, гараджанаў, прадпрымальнікаў. Гэта ў выніку той вайны на чужыне, у Маскве ды іншых расейскіх

гарадах, апынуліся тысячы й тысячы адукаваных майстравітых беларусаў, пра якіх ішла гаворка раней. А сялянскаму народу ўздымацца да нацыянальнай кансалідацыі было неверагодна цяжка. Якраз у той эканамічнай, культурнай, дэмаграфічнай катастрофе вытокі шмат якіх нацыянальных комплексаў і бедаў сёньняшніх беларусаў.

Тым больш, што драма працягвалася.

Кожны трэці загінуў у Беларусі ў гады Паўночнай вайны, якую Пётар I імкнуўся весьці на чужой для яго беларускай зямлі, дзе стаяла 70-тысячная расейская армія. У той вайне Расея і Рэч Паспалітая былі саюзьнікамі, але паводзіны пятроўскага воінства больш нагадвалі дзеяньні захопнікаў. Варта згадаць, што сам імпэратар разам з Аляксандрам Меншыкавым асабіста ўдзельнічалі ў забойстве ў полацкім Сафійскім саборы пецярых уніяцкіх сьвятароў. Царскі ўрад вымушаны быў тлумачыць гэты інцыдэнт эўрапейскім дварам, выкарыстоўваючы самыя фантастычныя адгаворкі. Але Пётар зь яго паталягічнай нянавісьцю да ўніятаў на гэтым не супакоіўся і загадаў ператварыць полацкую Сафію (якая з часоў Берасьцейскай царкоўнай вуніі 1596 г. была галоўным храмам беларускіх грэка-католікаў) у вайсковы склад, дзе трымалі амуніцыю і коней, а ў сутарэньнях — парахавыя запасы. Досыць было іскры, каб беларуская сьвятыня ўзьляцела ў паветра, і паводле дзіўнай выпадковасьці гэтая іскра ўспыхнула 1 траўня 1710 г., якраз напярэдадні адыходу з Полацку расейскага войска. Старажытны

храм, сымболь колішняй велічы й незалежнасьці, быўператвораны ў руіны.

Цяжкія страты ад “саюзьнікаў” несьлі і сотні іншых беларускіх гарадоў, мястэчак і вёсак. Узімку 1707 г. расейская кавалерыя абрабавала ў Менску жаночы вуніяцкі кляштар Сьвятой Тройцы. Потым надышла чарга Сьвятадухаўскай царквы на Высокім рынку ды іншых храмаў і манастыроў, у тым ліку і праваслаўных. Па сьлядах рабаўнікоў ішлі царскія казакі і калмыкі. Менскае праваслаўнае брацтва заклікала жыхароў да зброі, і на Нямізе марадзёры атрымалі адпор. Драматычны лёс напаткаў у часе Паўночнай вайны адзін з найбагацейшых беларускіх гарадоў, Магілёў. На загад расейскага камандаваньня ён безь ніякай ваеннай патрэбы быў зруйнаваны і спалены. Долю Магілёва падзялілі Віцебск, Горадня, Нясьвіж... Беларусь страціла амаль 800 тысяч жыхароў: у 1700 годзе яе насельніцтва складала 2 мільёны 247 тысяч, у канцы вайны — 1 мільён 457 тысяч чалавек. (Карпачев А. М.; Козловский П. Г. Динамика численности населения Белоруссии во второй половине XVII—XVIII в., стар. 99. М., 1968). Толькі каля 10% насельніцтва захавалася ў Шклоўскім графстве. Тры чвэрці сялянскай ворнай зямлі стаяла ўпусьце ў Гарадзенскай эканоміцы. Тыповай карцінай былі тады зарослыя пустазельлем і лесам палі, пакінутыя вёскі і маёнткі.

Межы Рэчы Паспалітай пасьля той вайны засталіся бязь зьменаў, але рэальны сувэрэнітэт дзяржаваю быў амаль страчаны. Яна ўсё больш ператваралася ў пры-

датак царскай імпэрыі. Пагатоў, Пётар I дамогся значнага скарачэньня войска Рэчы Паспалітай, якое не павінна было перавышаць 24 тысяч (18 тысяч у Польшчы і 6 тысяч у Вялікім Княстве Літоўскім). Тым часам арміі бліжэйшых суседзяў былі шматкроць большымі: у Расеі — 350 тысяч, Аўстрыі — 280 тысяч, Прусіі — 200 тысяч.

Лёс зьнясіленай войнамі Рэчы Паспалітай быў прадвызначаны. Для захаваньня палітычнай, вайсковай і эканамічнай жыцьцяздольнасьці існавала вострая патрэба ў рэформах, але іх правядзеньню пасьпяхова перашкаджалі магутныя суседзі і найперш Расея. Дамова 1764 г. паміж Расеяй і Прусіяй зьмяшчала сакрэтны артыкул, які абавязваў падтрымліваць у Рэчы Паспалітай шляхецкія вольнасьці і права “лібэрум вэта”, што ператваралі яе з канфэдэрацыі дзьвюх дзяржаваў, па сутнасьці, у канфэдэрацыю асобных паветаў, дзе ўладарылі магнаты. Расейская імпэрыя зноў і зноў умешвалася ў палітыку радзімы нашых продкаў, накіроўвала на яе абшары войскі, узводзіла на трон сваіх стаўленікаў. Вялікаму князю літоўскаму і каралю польскаму Станіславу Аўгусту Панятоўскаму выпаў лёс стаць апошнім манархам Рэчы Паспалітай. Пасьля трох падзелаў паміж Расеяй, Аўстрыяй і Прусіяй — у 1772, 1793 і 1795 гг.— гістарычны гадзіньнік дзяржавы спыніўся. Даўняя мара крамлёўскіх уладароў зьдзейсьнілася: Беларусь стала часткаю Расейскай імпэрыі. Былы каханак Кацярыны II Станіслаў Аўгуст падпісаў адрачэньне, а трон ягоны імпэратрыца загадала прывезьці ў Пецярбург і прыстасаваць для спраўляньня сваіх штодзённых фізыялягіч-

ных патрэбаў. На ім, дарэчы, праз год Кацярыну і разьбіў паралюш.

Да самага пачатку 1990-х г. захоп беларускіх земляў Расеяй у афіцыйнай беларускай гістарыяграфіі, падручніках і энцыкляпэдыях называўся не іначай як "узьяднаньнем", у выніку якога беларусы нібыта атрымалі ледзь не свабоду і шчасьлівую будучыню. (Пры гэтым сарамліва не ўзгадвалася, што Маркс і Энгельс трапна называлі Расейскую імпэрыю жандарам Эўропы, а Ленін — турмой народаў). Пра сапраўдныя наступствы "ўзьяднаньня" было сказана ўжо ў гады незалежнасьці, дакладней у яе "далукашэнкаўскі" пэрыяд.

"Прирезав" да сваіх уладаньняў Беларусь, Кацярына II і яе сын Павел I з радасьці раздалі ў беларускіх губэрнях сваім дваранам 208,5 тысячы душ "мужеска полу", па якіх адбываўся перапіс сялянаў. Такім чынам, блізу паўмільёна беларусаў зрабіліся прыгоннымі расейскіх памешчыкаў, прычым значная частка падараваных былі раней асабіста свабодныя. Сельская гаспадарка ў Расеі вылучалася прымітыўнасьцю. Беларускіх сялянаў, якія ў большыні сваёй плацілі грашовы аброк, пагналі на паншчыну. Памешчыкі шырока практыкавалі здачу тысяч прыгонных на будаўнічыя работы ў далёкія расейскія губэрні. Жорсткая эксплюатацыя сталася прычынаю надзвычайнага зьбядненьня вёскі. Віцебскі губэрнатар у справаздачы за 1807—1809 гг. пісаў, што толькі нямногія зь сялянаў харчуюцца чыстым хлебам, а ўсе астатнія "заўсёды дамешваюць да яго мякіну". Так ажыцьцяўлялася абяцаньне Кацярыны II зрабіць далучаныя да

імпэрыі землі “соучастниками блаженства, величия и полного изобилия”.

Беларускія гарады пазбавіліся магдэбургскага права і нават гэрбаў. Дробную шляхту, што не магла дакумэнтальна давесьці сваіх правоў, пераводзілі ў падатковы стан. Падаткі ў беларускіх губэрнях, адрозна ад расейскіх, дзяржава да 1811 г. зьбірала не ў асыгнацыях, а ў звонкай манэце. Паводле неафіцыйнага курсу, 100 папяровых рублёў былі роўныя 22 рублям срэбра.

На зьмену расфармаванаму новымі ўладамі прафэсійнаму войску Вялікага Княства Літоўскага прыйшлі невядомыя дагэтуль Беларусі рэкруцкія наборы. У рэкруты бралі маладых здаровых мужчын ад 19 да 35 гадоў. Мірным часам Пецярбург вымагаў ад 500 душ аднаго салдата, у вайну — чатырох, пяці і нават васьмі. Родныя праводзілі іх, не раўнуючы, як на той сьвет. Да 1793 г. рэкруты служылі ўсё жыцьцё, потым тэрмін абмежавалі “ўсяго” чвэрткай стагодзьдзя, а наступнае скарачэньне службы — да дваццаці гадоў — адбылося толькі ў 1834 г. За адзін 1811 год Беларусь дала ў расейскую армію 14 750 рэкрутаў. Між іншым, Полацкаму мушкецёрскаму палку належыць галоўная роля ў здабыцьці Суворавым Ізмаілу: якраз яго жаўнеры першыя ўварваліся ў фартэцу. Згадку пра геаічных полацкіх мушкецёраў вы сустрэнеце нават у паэме лорда Байрана “Дон Жуан”. Хтосьці знаходзіць у гэтым падставу для гонару, але насамрэч беларусы рабіліся гарматным мясам у захопніцкіх царскіх паходах.

Расея ня ведала нацыянальнай і рэлігійнай талеранцыі. Беларусаў наогул не прызнавалі за асобны народ, лічылі крыху папсаванымі пальшчызнаю

рускімі. Адпаведнае стаўленьне было і да мовы. Нашых продкаў пазбавілі нават права на ўласныя імёны і прозьвішчы. Адразу пасьля інкарнацыі ўсходніх беларускіх земляў царскія пісарчукі пазапісвалі Язэпаў “Иосифами”, Міхасёў — “Михаилами”, Тамашоў — “Фомами”. Жукі ператварыліся ў “Жуковых”, Каты — у “Котовых”, Кавалі — у “Ковалёвых”... Адметныя беларускія прозьвішчы ў значна большай ступені захаваліся ў цэнтральнай і заходняй частцы Беларусі, дзе па нечым недаглядзе пісарская братыя не атрымала адпаведных інструкцыяў.

На загад Кацярыны II “для собственного употребления по упражнению ея в исторических сочинениях” зь беларускіх манастырскіх, царкоўных і прыватных бібліятэк у Пецярбург вывозілі гістарычныя хронікі і архівы найбольш славутых шляхецкіх родаў. Ці не тады канчаткова згубіліся сьляды неацэннага Полацкага летапісу?

Царызм ня мог пакінуць без увагі і навучальныя ўстановы. Над некаторымі ўвялі вайсковы нагляд. У новых падданых адабралі права набываць адукацыю ў заходніх унівэрсытэтах, якім беларусы карысталіся некалькі стагодзьдзяў. Рабіліся спробы вярнуць тых, хто ўжо вучыўся ў Эўропе. Моваю навучаньня ў Беларусі ў першыя дзесяцігодзьдзі пасьля анэксіі была польская. Гэта можа здавацца дзіўным, але менавіта тады, ужо ў Расейскай імпэрыі, палянізатары дасягнулі вялікіх посьпехаў. У Пецярбургу лічылі, што на захопленых землях лепей мець справу з аднымі палякамі. (Ёсьць народ — ёсьць праблема, няма народу — няма праблемы).

З другога боку, няўхільна набірала абароты русіфікацыя. Забягаючы наперад, адзначу, што за 150 гадоў Расейская імпэрыя, выкарыстоўваючы прыродныя, эканамічныя і чалавечыя рэсурсы Беларусі, не дазволіла адчыніць ніводнай беларускай школы. Першыя зь іх зьявіліся ў гады Першай сусьветнай вайны на тэрыторыі, занятай немцамі, вайсковая адміністрацыя якіх прызнавала беларусаў самастойным народам. Беларускі кнігадрук і прэса былі афіцыйна дазволеныя, але вельмі абмежавана і безь дзяржаўнай дапамогі, толькі пасьля рэвалюцыі 1905 г.

Не было даверу нават лаяльнаму да Пецярбургу праваслаўнаму духавенству. Сьвятароў-беларусаў пераводзілі ў глыб імпэрыі, а на вызваленыя месцы адтуль ехалі расейцы, што ня ведалі ні мовы, ні мясцовых традыцыяў. Яны падазрона перачытвалі сьпісы беларускіх сьвятых, паніжалі іх у рангах, бязьлітасна змагаліся з калядаваньнем, купальлямі ды іншымі спрадвечнымі звычаямі беларусаў. Пра стаўленьне вернікаў да гэтых праваслаўных “місіянэраў” губэрнатары дакладвалі Паўлу I: “Присланные священники не способны к исполнению своих обязанностей и к поддержанию хороших отношений с людьми, этот край населяющими. Они стали ненавистны народу”. Пачаўся прымусовы перавод у праваслаўе вуніятаў, або грэка-каталікаў, якія, паводле падлікаў вядомага вучонага доктара гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча, пры канцы XVIII ст. складалі каля 80% беларускага насельніцтва. Гэтая лічба красамоўна сьведчыць, чаго вартыя сьцьверджаньні пра вызваленьне Расеяй праваслаўных беларусаў (такіх тады налічвалася

меней за 10%) ад рэлігійнага прыгнёту. Між тым якраз дэкляраваная абарона правоў “адзінакроўных” і “адзінаверных” беларусаў шмат разоў у тым самым XVIII ст. рабілася падставай для ўзброенага ўмяшаньня ўва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай.

Абмежавальныя законы былі прынятыя ў дачыненьні да габрэяў. У 1794 г. расейскія ўлады ўстанавілі гэтак званую “мяжу аселасьці”, за якой юдэі ня мелі права сяліцца. Але і на дазволенай тэрыторыі яны не маглі жыць за межамі гарадоў і мястэчкаў. Габрэйскія мяшчане, купцы і рамесьнікі мусілі плаціць удвая большыя за хрысьціянаў дзяржаўныя падаткі. На дзяржаўным узроўні насаджаўся антысэмітызм.

Каляніяльны стан былога Вялікага Княства Літоўскага змушаў многіх патрыётаў пакідаць радзіму. Незадаволеныя новымі парадкамі былі і шырокія колы астатняга насельніцтва. Вось чаму вайна 1812 г., у адрозьненьне ад усходніх суседзяў, для Беларусі не была Айчыннай. З Напалеонам зьвязваліся надзеі на аднаўленьне ВКЛ. У беларускіх палках Вялікай арміі францускага імпэратара ваявалі ня меней за 25 тысяч салдат і афіцэраў. Спадзяваньні на вяртаньне незалежнасьці, як вядома, ня спраўдзіліся, а шэсьць месяцаў вайны Расеі з Банапартам забралі яшчэ мільён беларусаў, кожнага чацьвёртага...

Пасьля здушэньня паўстаньня 1831 г. царскія ўлады перайшлі да пасьлядоўнай палітыкі поўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтаю пры расейскім урадзе быў створаны “Асобы камітэт па справах заходніх губэрняў”. Ён найперш прапанаваў рэзка пашырыць на далучаных да імпэрыі абшарах

землеўладаньне расейскіх дваранаў і чыноўнікаў, якія атрымлівалі шматлікія прывілеі. У краі праводзілася чыстка дзяржаўных установаў, судоў, органаў асьветы і культуры ад службоўцаў мясцовага паходжаньня. Іх месца займалі ўраджэнцы цэнтральных расейскіх губэрняў, якіх вабілі вялікія надбаўкі да акладаў і магчымасьць хуткай кар’еры. Усё справаводства і навучаньне было пераведзенае на расейскую мову. У 1832 г. быў зачынены Віленскі ўнівэрсытэт, які на той час заставаўся адзінай вышэйшай навучальнай установай на землях былога ВКЛ. (Яшчэ раней такі самы лёс спасьціг Полацкую акадэмію, што мела ўнівэрсытэцкі статус).

Рэзка ўзмацніўся ціск на вуніятаў, якія ведалі, што яны — не расейцы і не палякі, бо рэлігія ў іх не праваслаўная і не рымска-каталіцкая. Сьвятары мусілі адпраўляць набажэнствы па службоўніках, прысланых з Масквы і Пецярбургу. Нязгодных судзілі як царкоўных злачынцаў. На вачах у вернікаў з храмаў выкідалі бакавыя “рымскія” алтары, ламалі арганы. Але нават ува ўмовах жорсткага перасьледу ў Беларускай вуніяцкай дыяцэзіі ў 1838 г. з 680 сьвятароў за далучэньне да праваслаўя падпісаліся толькі 186. Тым ня менш пад эгідай уладаў у наступным годзе адбыўся Полацкі царкоўны сабор, дзе была абвешчаная пастанова пра вяртаньне вернікаў-вуніятаў “в лоно прародительской православной веры, дабы пребывать отныне в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода”. Закрыцьцё грэка-каталіцкіх храмаў, кляштараў і колаў суправаджалася масавым паленьнем рэ-

лігійных і навучальных кнігаў, зьнішчэньнем царкоўных інтэр'ераў.

Пра жорсткія пакараньні і зьдзекі зь беларусаў-вуніятаў з абурэньнем пісалі Леў Талстой і Аляксандар Герцэн. Разам з прымусовым вяртаньнем да "истинной" веры продкам убівалася ў галовы формула: "праваслаўны — рускі, каталік — паляк". Так беларусаў таксама пазбаўлялі будучыні, адводзячы ролю этнічнага матэрыялу, пастаўшчыка сваіх багацьцяў і талентаў іншым. Згаданая формула дажыла ў сьвядомасьці вялікай часткі грамадзянаў Беларусі да нашых дзён...

Расейскія ўлады плянамерна вытоптвалі на нашай зямлі ўсё самабытнае, роднае, беларускае. У тым самым 1839 г., калі была зьнішчаная Вунія, прыдворны царскі гісторык Устралаў у сваёй "Русской истории" ацэньваў нашу мову і старажытнае пісьменства: "Белорусское наречие, господствовавшее в Литовском княжестве, представляло безобразную смесь слов и оборотов русских, польских и латинских". Особенно "безобразной" в глазах "вучонага" выглядала, напэўна, ляціна, на якой некалькі стагодзьдзяў пісала і гаварыла ўся адукаваная Эўропа. (Каб канчаткова зьняць праблему, пазьней цар-"вызваліцель" Аляксандар II забароніць выкарыстоўваць у беларускім друку ляцінскі шрыфт, а затым накладзе агульную забарону на беларускае друкаванае слова).

Падрыхтаваўшы глебу забаронай народнай веры, якой па сутнасьці было вуніяцтва, Санкт-Пецярбург зрабіў новы ўдар па нацыянальным быцьці нашага народа — у 1840 г. адмысловым царскім указам у

афіцыйных дакумэнтах было забаронена ўжываць назвы “Беларусь” і “Літва”, замест якіх уводзілася найменьне “Северо-Западный край”. Роўна праз тыдзень выйшаў указ пра скасаваньне дзеяньня на гэтай тэрыторыі Статуту ВКЛ.

Датычныя Беларусі ўказы і пастановы імпэрскіх уладаў стракацелі словамі “забараніць”, “зачыніць”, “не дазволіць”. Забарона выкладаньня не па-расейску. Забарона вучням размаўляць у навучальных установах на роднай (не расейскай) мове. Закрыцьцё Горы-Горацкага земляробчага інстытуту... Калянізатары імкнуліся ператварыць “Северо-Западный край” у глухі куток імпэрыі, дзе ўсё жыцьцё трымалася б на трох кітах вялікадзяржаўнай расейскай ідэалёгіі — “самодержавие, православие, народность”.

Створаная царызмам імпэрыя, адрозна, скажам, ад Брытанскай, была не заморскай, а кантынэнтальнай. Іначай кажучы, калёніі знаходзіліся побач з мэтраполіяй. Такая геаграфічная, а часам і этнічная (як у выпадку зь беларусамі і ўкраінцамі) блізкасьць давала магчымасьць ня толькі маскаваць прыгнёт, але яшчэ і навязваць паняволенаму народу чужую гісторыю, падсоўваць яму чужых герояў.

Вось ці не самы яскравы таму прыклад. Вызвольнае паўстаньне 1794 г. (яно было пратэстам супраць другога падзелу Рэчы Паспалітай), якое ўзначальваў беларус па крыві і ліцьвін па духу Тадэвуш Касьцюшка, жалезнай хваткай душыла рэгулярная, загартаваная ў захопніцкіх паходах армія Аляксандра Суворава. На працягу ўсёй сваёй кар’еры ён аддана служыў жандарскай палітыцы царызму і, дарэчы, ня

ўдзельнічаў ні ў адной абарончай вайне. Для Расеі ён сапраўды выдатны палкаводзец, для Беларусі — найперш карнік, камандзір захопнікаў. За зьдзейсьненыя яго салдатамі крывавыя подзьвігі Аляксандар Васільевіч атрымаў ад імпэратрыцы ў Беларусі Кобрынскую воласьць з 13 279 душамі беларускіх прыгонных сялянаў-мужчын. Камусьці гэта падасца неверагодным, але яшчэ і цяпер у Беларусі захаваліся дзясяткі вуліцаў Суворава, а вуліцы імя Касьцюшкі можна пералічыць на пальцах адной рукі. А ёсьць жа яшчэ сувораўская вучэльня, Кобрынскі музэй Суворава...

Жорсткую імпэрскую палітыку, як ні горка гэта прызнаваць, падтрымлівалі і віталі “ўладары дум” перадавога расейскага грамадзтва. У адказ на паведамленьні эўрапейскага друку пра расправы з удзельнікамі вызвольнага паўстаньня 1831 г. і іх сем’ямі Пушкін адгукнуўся вядомым вершам “Клеветникам России”:

Что возмутило вас? волнение Литвы?
Оставьте: это спор славян между собою.
Домашний старый спор,
уж взвешенный судьбою...

Адметна, што гэтыя радкі, апрача ўсяго астатняга, сьведчаць: абараняючы імпэрскія інтарэсы, Аляксандар Сяргеевіч не сумняваўся, што гістарычная Літва — славянская краіна. Ва ўнісон з Пушкіным сьпяваў яшчэ адзін абаронца імпэрыі Фёдар Цютчаў, што бачыў місію Расеі ў тым, каб

Славян родные поколенья
Под знамя русское собрать
И весть на подвиг просвещенья
Единомысьленных, как рать.

Ува ўсе часы бацыламі вялікадзяржаўнага шавінізму былі заражаныя і расейскія дэмакраты. (Здаецца, сёньня для абсалютнай большасьці зь іх існаваньне незалежнай Беларусі таксама ўспрымаецца як нейкі гістарычны казус, які трэба выправіць). Някрасаў, як вядома, прысьвяціў душыцелю нацыянальна-вызвольнага руху ў Беларусі Міхаілу Мураўёву (у маладосьці ўдзельніку руху дзекабрыстаў) цэлую оду, дзе ўслаўляў яго такімі словамі:

Бокал заздравный поднимая,
Еще раз выпить нам пора
Здоровье миротворца края!
Так много ж лет ему. Ура!

Зьвяртаючыся да прадстаўнікоў беларускага дваранства, “миротворец”, які заслужыў у нашых продкаў мянушку “вешальнік”, казаў: “Забудьте наивные мечтания, занимавшие вас доселе, господа, и помните, что если вы не станете здесь по своим мыслям и чувствам русскими, преданными Отечеству, то вы будете здесь иностранцами и должны тогда покинуть этот край”. Як быў бы ўсьцешаны царскі сатрап-русіфікатар, каб здолеў зазірнуць у нашу цяперашнюю рэальнасьць. Зачыняюцца беларускія газэты, родная мова тытульнай нацыі на загад зьверху зьнікае ў тэ-

левяшчаньні, у нацыянальную ганьбу ператварылася шматгадовае валаводжаньне з адкрыцьцём помніка Скарыну ў Менску. Савет міністраў (ну чаму не Міністэрства ўнутраных спраў?) у 2003 г. прыняў пастанову пра ліквідацыю адзінага ў краіне, а значыць, і ў сьвеце Беларускага гуманітарнага ліцэю... Справа Мураўёва не прапала, яе працягваюць тыя (дакладней, той), хто ёсьць прадуктам намаганьняў мураўёўцаў розных гатункаў і эпохаў. Я перакананы, што калі б сёньня мы мелі Беларускі нацыянальны ўнівэрсытэт, за стварэньне якога зацята змагаецца Таварыства беларускай мовы, гэты ўнівэрсытэт напаткаў бы лёс Беларускага ліцэю. Адзіная розьніца палягала б у тым, што зачынялі б alma mater не пастановай Саўміну, а ўказам прэзыдэнта...

Існуе міт пра адвечную пасыўнасьць і сонную пакорлівасьць беларусаў. Аднак не хто-небудзь іншы, а якраз нашы прадзеды на працягу няпоўных ста гадоў пасьля захопу Беларусі царскай Расеяй тройчы — у 1794-м, 1831-м і 1863-м — браліся за зброю, намагаючыся разам зь суседзямі, палякамі і літоўцамі, вырвацца з сьмяротных абдымкаў імпэрыі. У апошнім з гэтых паўстаньняў шмат хто змагаўся ўжо не за Рэч Паспалітую, а менавіта за Беларусь. У шэрагах інсургентаў знаходзіліся клясыкі беларускай літаратуры Вінцук Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч. Паўстанцы выдавалі першую беларускую газэту “Мужыцкая праўда”.

У паўстаньнях, як і ў войнах, першымі гінулі лепшыя, тыя, хто лічыў толькі гэтую зямлю роднай і гатовы быў аддаць за яе самае дарагое — жыцьцё. Але,

нягледзячы на незьлічоныя ахвяры, беларускі народ знайшоў у сабе сілы выжыць, выстаяць і аднавіць сваю дзяржаўнасьць. 25 сакавіка 1918 г. была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Толькі ў адказ на гэты крок авангарду нацыі бальшавікі пайшлі на стварэньне БССР. Аднак у Савецкім Саюзе сытуацыя хутка вярнулася ў традыцыйныя імпэрскія рамкі, падноўленыя ідэямі бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі. Ідэі засталіся дэклярацыямі і, у прыватнасьці, прывялі да таго, што ў 1970-х гадах у Менску, як і ў іншых беларускіх гарадах, не існавала ніводнай беларускай школы. Пра тагачасны стан гістарычнай адукацыі, зь якой непарыўна зьвязаная гістарычная, а значыць, і агульнанацыянальная сьвядомасьць, гаворка ўжо ішла.

Дзьвесьце гадоў, з тых часоў, калі Беларусь апынулася ў кіпцюрах двухгаловага арла, нам забаранялі глядзець на сьвет уласнымі вачыма. Бо калянізацыя — ня проста захоп тэрыторыі. Як дакладна адзначае філёзаф Алесь Анціпенка, калянізацыя — гэта палітыка мэнтальнага, інтэлектуальнага і культурніцкага падпарадкаваньня "тубыльцаў", якім мэтанакіравана прышчапляюцца патрэбныя мэтраполіі комплексы. У выніку выяўляецца, што ёсьць "культурная" расейская мова і "некультурная" беларуская. Ёсьць багатая і слаўная "История великой России", і ёсьць яе сумны і нецікавы падразьдзельчык пад назваю "История Белоруссии".

Трэба прызнаць, што, нягледзячы на велізарную працу па вяртаньні гістарычнай праўды (па зразумелых прычынах гэтыя намаганьні нацыянальнай інтэлектуальнай эліты былі асабліва плённымі ў пер-

шай палове 1990-х гадоў), у XXI ст. Беларусь уступіла зь цяжкімі наступствамі каляніяльных комплексаў.

Сёньняшняя палітыка беларускай улады, якая максымальна выкарыстоўвае ў сваіх мэтах лёзунгі інтэграцыі, часам прыводзіць да яшчэ большага гвалту над беларускай гісторыяй, чым гэта было пры савецкай уладзе. У перадачы Беларускага радыё “Разговор по существу” нейкі “палітоляг” Мікалай Сяргееў называе, напрыклад, кіраўніка антыцарскага паўстаньня 1863 г. Канстантына Каліноўскага “тэрарыстам”, імя якога трэба неадкладна выкрасьліць з усіх падручнікаў. Між тым у часы СССР Каліноўскі як “беларускі рэвалюцыянер-дэмакрат” згадваўся нават у агульнасаюзным падручніку гісторыі для сярэдняй школы! Мы зьяўляемся сьведкамі яшчэ адной, найноўшай спробы цынічнага рэдагаваньня гісторыі ў афіцыйных выданьнях, энцыкляпэдыях, навучальных дапаможніках, дзе рэанімуюцца, здавалася б, даўно разьвянчаныя імпэрскія міты. Пакіну за межамі артыкулу разгляд найсьвяжэйшага па часе выхаду дапаможніка па гісторыі Беларусі, створанага сьціплым магілёўскім выкладчыкам Я. Трашчанком, што як умеў выкладаў некалі свой прадмет студэнту гістарычнага факультэту А. Лукашэнку. (Пра ўклад тав. Трашчанка ў навуку прафэсійным слугам Кліо невядома). Заўважу толькі, што названы навучальны дапаможнік чамусьці зноў і зноў прыводзіць мне на памяць падручнік, па якім я вучыўся ў часы дарагога Леаніда Ільіча. А вось прыклад карэкцыі гісторыі зусім недалёкай. Нядаўна выдадзены 9 том “Беларускай Энцыкляпэдыі” ў артыкуле пра шырока і страшна вядомае ў сьвеце

ўрочышча Курапаты пад Менскам паведамляе, што там, аказваецца, паводле адной з вэрсіяў, “ляжаць ахвяры фашысцкага генацыду”. І, на ўсялякі выпадак, — ні слова пра колькасьць ахвяраў, якую ў 1995 г. энцыкляпэдычны даведнік “Беларусь” ацэньваў на падставе дадзеных Дзяржаўнай камісіі ў 30—100 тысяч чалавек. Чаму ж не назваць гэтыя вусьцішныя лічбы? Тым больш, калі за іх нясуць адказнасьць фашысты? А таму, што ў даведніку “Беларусь” (які чамусьці ні разу не перавыдаваўся і даўно стаў рарытэтам) адназначна сьцьвярджалася, што ў Курапатах людзей штоночы зьнішчалі забойцы ў форме НКУС. Выдатна вядома гэта і рэдактарам 9-га тому, але загад ёсьць загад.

Якія б амаль ідылічныя карціны ні спрабавалі маляваць нашыя “дзяржаўныя мужы” і іхнія сэрвільныя сродкі масавай інфармацыі, неаспрэчным фактам ёсьць глыбокі раскол сучаснага беларускага грамадзтва. Сёньня існуюць, па сутнасьці, дзьве Беларусі. Кожная — са сваімі духоўнымі каштоўнасьцямі і ўяўленьнямі пра будучыню краіны. У кожнай — свая мова, свая сымболіка, сваё бачаньне гістарычнага шляху нацыі.

Адна Беларусь працягвае жыць у фантастычным сьвеце імпэрскіх мітаў, якія культывуюцца афіцыйнай ідэалягічнай машынай. Чаго вартыя хаця б “сацыялягічныя дасьледаваньні”, калі жыхарам незалежнай Беларусі прапануецца пытаньне, ці зьяўляюцца беларусы асобным народам. І ці трэба зьдзіўляцца, што сёй-той адказвае адмоўна, калі беларуская мова працягвае выцясьняцца зь дзяржаўных СМІ і сыстэмы адукацыі, калі мова

тытульнай нацыі адкрыта ігнаруецца вышэйшым кіраўніцтвам краіны.

Але існуе іншая Беларусь, якая мае нацыянальныя арыентыры і нацыянальную ідэю, якая імкнецца вярнуцца ў дэмакратычную сям'ю эўрапейскіх народаў. Менавіта беларуская Беларусь, што павольна, але няўхільна ўмацоўвае свае пазыцыі, стварае нацыі і дзяржаве гістарычную пэрспэктыву. У сучаснай Расеі такую Беларусь, як мне здаецца, амаль ніхто не жадае чуць і бачыць, і гэта ёсьць глыбокая памылка. Воляю гістарычнага лёсу нашым дзяржавам наканавана жыць побач, і будучыня Беларусі за тымі, для каго яна — Радзіма, а не за ўладай, для якой гэта толькі тэрыторыя, дзе пакуль можна адчуваць сябе беспакарана.

Культурная агульнасьць усходнеславянскіх народаў сапраўды рэальна існавала. Яшчэ войска вялікага князя Ягайлы, накіроўваючыся на Куліковае поле, каб дапамагчы Мамаю, за колькі вёрстаў да месца бітвы спынілася. Ільвіную долю гэтага войска складалі продкі цяперашніх беларусаў, і яны адмовіліся біцца на баку чужынцаў, прадстаўнікоў іншага сьвету.

Ніхто ня супраць таго, каб культурная прастора славянскага сьвету і сёньня разьвівалася, узбагачалася, набывала новыя формы. Але гэтая культурная прастора не павінна ператварацца ў прастору палітычную. Час імпэрыяў — як бы хтосьці ні настальгаваў па ім — застаўся ў XX ст.

# ПРАЕКТ БЕЛАРУСЬ

## Сяргей Дубавец

Праект Беларусь паўстаў у XIX ст. як частка агульнаэўрапейскага працэсу стварэньня сучасных нацыяў.

Сёньняшні сьвет, у якім Беларусь прызнаная і як дзяржава, і як нацыя, выглядае завершаным. Прынамсі, на цяперашнім гістарычным этапе праблемы нацыянальнага станаўленьня ў цэнтры Эўропы – хутчэй маргінальныя, а сацыяльныя, палітычныя ды іншыя аспэкты "нацыянальнага пытаньня" і ўвогуле ўспрымаюцца як анахранізм. Жыва і актуальна выглядае толькі адзін бок нацыянальнага праекту – этычны. Напэўна, тады, у XIX ст., бачылася па-іншаму. Тым ня менш, этычны аспэкт прысутнічаў, а магчыма, быў вызначальны і ў тыя часы. Словам, зірнем на гісторыю стварэньня і ажыцьцяўленьня нацыянальнага праекту Беларусь гэтым сёньняшнім, этычным вокам.

У XIX ст. край нашых продкаў разьвітваўся са сваёй ранейшай 500-гадовай гісторыяй існаваньня ў выглядзе Вялікага Княства Літоўскага і ўваходзіў у новую гісторыю як частка Расейскае імпэрыі. Дакладней, не ўваходзіў сам, а быў гвалтам далучаны і гвалтам жа перарабляўся, перакручваўся, відазьмяняўся на расейскі лад. "Чаго ня зробіць расейскі штых, тое зробіць расейская школа", – казаў прызначаны

ў сталіцу краю Вільню новы начальнік, генэрал-губэрнатар граф Мураўёў. “Вы ідзеце змагацца з ворагамі, але памятайце, што яны браты”, – настаўляў сваіх салдат імпэратар Аляксандар I. “Ты ж, братскою стрелой пронзенный, // Судеб свершая приговор, // Ты пал, орел одноплеменный, // На очистительный костер!» – сьпяваў Ф. Цютчаў.

Уявіце сябе “з другога боку барыкадаў”, з боку нашчадкаў ВКЛ, і паспрабуйце зразумець пачуцьці і лёгіку, закладзеныя ў пералічаных цытатах. Наўрад ці вам гэта ўдасца. Прычым адчуеце вы не неразуменьне, а пратэст і – раптоўную прагу самасьцьверджаньня. Вось той штуршок, які прымусіць вас напружана думаць над сваім нацыянальным праектам, над новай формулай самаідэнтыфікацыі. Новай, бо вы разумееце, што прыйшлі новыя часы і новыя рэаліі, у якіх ані ВКЛ, ані толькі што падзеленая на часткі Рэч Паспалітая ня могуць быць шляхаводнай зоркай. Трэба ўбачыць сябе і свой край у новым сьвеце – адпаведнымі яму.

Зь верхатуры нашага часу мы бачым, што гэта быў сымбіёз польскамоўнага краёвага патрыятызму і расейскамоўнага «западноруссизма», якія шукалі карані сваіх пачуцьцяў у беларускамоўнай сялянскай культуры і старажытных актах з гісторыі бацькаўшчыны. Яны не пачуваліся палякамі або расейцамі і ў сваім краі ня бачылі працягу Польшчы або Расеі, таму шукалі доказаў самадастатковасьці свайго краю і сябе саміх.

Ім замінала праблема назвы. Іхныя слаўныя продкі жылі ў незалежнай краіне – Вялікім Княстве Літоўскім, якое ў эўрапейскім кантэксьце выглядала паўнавартаснай дзяржавай. Яго вайскаводцы не

аднойчы перамагалі ў лёсавызначальных бітвах, яго прафэсура рабіла адкрыцьці ў астраноміі, ягоныя вынаходнікі друкавалі кнігі, рабілі ашаламляльныя праекты ў будаўніцтве субмарынаў і ракетнае зброі, капалі каналы, ягоныя палітыкі праводзілі аграрныя рэформы і складалі найбольш лібэральныя ў тагачасным сьвеце законы. Галоўным прынцыпам у тых законах была – талеранцыя: міжэтнічная, міжканфэсійная, сацыяльная. Дастаткова сказаць, што каля 10 адсоткаў насельніцтва ў ВКЛ складала шляхта. Гэта значыць, што кожны дзясяты быў носьбітам адказнасьці за сваю краіну і ўплываў на яе лёс, складаў, кажучы сёньняшняй мовай, маральную большасьць грамадзтва. Уласна гэтыя 10 адсоткаў і рабілі гісторыю – і тады, і пасьля, у XIX ст., калі паўставаў праект Беларусь.

Чаму перастала існаваць іхнае слаўнае ВКЛ? Натуральна, таму, што страціла незалежнасьць. Нібыта перад пагрозай зьнешняй агрэсіі ВКЛ стала фэдэратыўнай часткай Рэчы Паспалітай – “рэспублікі абодвух народаў” – разам з Польшчай. А паколькі Польшча ў гэтым саюзе дамінавала (польскі кароль быў “па сумяшчальніцтве” вялікім князем літоўскім), дык найбагацейшая шляхта ВКЛ яшчэ напрыканцы XVII ст. пачала імкліва палянізавацца – як зь меркаваньняў эканомікі, так і зь меркаваньняў прэстыжу. Сьледам за магнатамі пераходзілі на “каралеўскую мову” і шарачкі – шараговая шляхта. Страціўшы сваю беларускую мову, якая ў Вялікім Княстве Літоўскім была афіцыйнай, наша дваранства такім чынам касмапалітызавалася і цяпер думала адно пра сваю спадчынную маёмасьць. Вось чаму калі тры суседнія імпэрыі – Аўстрыя, Прусія і Расея дзялілі міжсобку

тую Рэч Паспалітую абодвух народаў, найбагацейшая шляхта думала толькі пра свае землі, скарбы і капіталы. Незалежніцкі запал застаўся хіба ў тых, каму губляць, апроч свае спадчыннае дваранскае годнасьці, не было чаго. Вось гэтыя і падымаюць адно за адным паўстаньні на землях, што мусілі адысьці да Расеі. 1794, 1831, 1863. А Расея адно за адным гэтыя паўстаньні душыла, навадняючы край сваёй адміністрацыяй і сваімі парадкамі.

Зразумела, што маральная большасьць (нашчадкі тых 10 адсоткаў) увесь час рэпрадукуецца, і ў маладых галовах ды гарачых сэрцах зноў і зноў нараджаюцца ідэі краёвага патрыятызму ды жаданьне вярнуць спадчынную маёмасьць. Тым часам расейская адміністрацыя пазбаўляе дваранства краю ня толькі маёмасьці, але й спадчыннае годнасьці. Шляхтуаднадворцаў (самы масавы атрад і апірышча патрыятызму) спачатку перастаюць лічыць за дваранаў, а пасьля й наагул пераводзяць у лік сялянаў. Няцяжка ўявіць сабе іхныя пачуцьці. Яны абражаныя, яны хто пяром, хто штыхом пратэстуюць. Яны ствараюць падпольныя студэнцкія гурткі, яны пішуць адозвы да сялянаў, яны партызаняць, яны кідаюць бомбу ў расейскага цара. А іх сотнямі высылаюць на катаргу ў Сібір, іх вешаюць і расстрэльваюць на гарадзкіх плячах, іх схіляюць да эміграцыі. А ў дадатак ім афіцыйна забараняюць карыстацца беларускай мовай і самім словам Беларусь.

Інакш кажучы, у краіне адбываецца "зачыстка" маральнае большасьці. Дакладней, падмена яе прывезеным з Расеі адміністрацыйным рэсурсам. Характарыстыку тых, хто прыехаў, дае сучасьніца падзеяў –

Н. Ланская ў сваёй кнізе “Обрусители” (СПб., 1887):

«Несколько лет тому назад западный край был центром, куда стекалось великое множество людей великорусского происхождения преимущественно и православного исповедания непременно. В то время край представлял собою арену, где, не рискуя ничем, можно было тысячу раз отличиться, выйти, что называется, в люди и затем, успокоившись на лаврах, произнести со спокойной совестью: мы обрусили. Сюда стремились все те, кто был чем-либо не доволен у себя дома: всякий, кого обошли чином, местом или наградой, чей не приняли или возвратили проект, чье имение, вследствие новых порядков, пришло в упадок, а приняться за дело не было ни уменья, ни сил – все это спешило в западный край. Здесь стекались люди всяких профессий, возрастов и положений: молодые, старые, любившие пожить и прожившиеся вовсе, разочарованные в любви, обманутые в жизни и обманывавшиеся сами, – все стремились сюда с лихорадочною поспешностью. Если было много званых, было много и избранных. Это был пир, на который шли все те, кому нечего было терять, у кого ничего не осталось за душой дома. Здесь можно было только выиграть, там уж нечего было проигрывать. Это была ежечасная эмиграция. Манивший их стимул был таков, что мог расшевелить самого равнодушного и неподвижного человека, и действительно: равнодушные и неподвижные, за немногими исключениями, превращались здесь в исправных приобретателей… Кроме того, человек, ехавший в этот провинциальный край на службу, часто считал это таким со своей стороны подвигом, за который никакое вознаграждение ня могло быть достаточным; такой жертвой,

которую оценить надлежащим образом мог, разумеется, только тот, кто ее приносил. И хотя, в большинстве случаев, в жертву приносилась полуграмотность, если не вовсе невежество, свободное время, которое было некуда девать, пустой карман, который надлежало наполнить... а иногда и не совсем безгрешное прошлое – тем не менее иные считали себя блягодетелями quand meme... Находчивым и смелым людям тут было раздолье; тут можно было сделаться помещиком без гроша; не купив леса, выгодно продать его, совершить какую угодно сделку, назваться чьим угодно именем...

Аттестатов никаких не требовалось: достаточно было приехать из России и заявить себя православным, чтобы получить право на такие льготы, права и преимущества, которые превращались в настоящий рог изобилия. Можно поэтому представить, какая масса разной дряни наводнила собой эти несчастные 9 губерний! Какой контингент лжи, низости, всяких обманов, подкупов, подлогов и нравственного растления принесла с собою эта православная армия алчущих и жаждущих, чающих и ожидающих! Как саранча, бросились они на готовые места, торопясь захватить все то пространство, которое было для них насильственным образом очищено; церемониться было ни к чему, и под видом обрусения и пропаганды православия эти завоеватели преследовали такие цели, которые не имели ничего общего ни с религией, ни с нравственностью, ни даже с политикой действительного обрусения..."

Апісаная хваля «обрусителей» была закліканая замяніць сабою ўвесь без выключэньня «бюджэтны» апарат – ад губэрнатара да вясковага настаўніка. Агульная колькасьць такога роду прыежджых складала ня

менш за паўмільёна чалавек. А каб як сьлед зразумець, куды яны ехалі, дазволю сабе яшчэ адну цытату, гэтым разам – з запіскі начальніка Віленскай навучальнай акругі І. Карнілава:

"Несмотря на приглашения и вызовы через попечителей и через газеты, долгое время не появлялось охотников занимать места в Западном крае, – скардзіцца Карнілаў і тлумачыць: – Служба в Западном крае требует от русского большего труда, энергии и такта, чем в центральных губерниях. Сама жизнь в уездном городе или в бедном местечке, вдали от всего родного, среди людей, чужих по вере и по убеждениям, а очень часто просто враждебных, является малоутешительной. Вне службы жизнь российского чиновника, полная тревоги и неприятностей, ограничивается узкими рамками семейного или товарищеского кружка".

Словам, нашэсьце расейскага адміністрацыйнага рэсурсу адбывалася нібы само па сабе, а нацыянальная ідэя сьпялілася сама па сабе. Гэта былі два радыкальна варожыя лягеры. Пры сутыкненьні адбываўся выбух. Але, уяўляючы цяпер грамадзкую атмасфэру ў тагачаснай Беларусі, вернемся да нацыянальнага праекту.

За аснову яго была абраная беларушчына – мова і звычаёвая культура тагачаснага сялянства і зьбяднелае шляхты. Інакш кажучы, тых, хто не палянізаваўся, не зьбіраўся і русіфікавацца. Гаворка ідзе пра нацыянальныя адметнасьці, якія гатовыя стаць матэрыялам для нацыянальнага праекту, але самі сабою нічога ня робяць. Бо гэта як частка прыроды, як дзікі куст, які можа высечы захопнік, акультурыць садоўнік, апісаць батанік. З захопнікамі мы ўжо пазнаёміліся, цяпер – чарга садоўнікаў і батанікаў.

Стваральнікі праекту далёка не заўсёды карысталіся беларушчынай. Пачынальнікі, студэнты Віленскага ўнівэрсытэту пачатку XIX ст., аб’яднаныя ў тайныя таварыствы філаматаў і філарэтаў, выхадцы зь беларускае глыбінкі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Антон Адынец ды іншыя, пісалі па-польску, верагодна, таму, што марылі пра літаратурную кар’еру, а беларуская мова тады магла пакінуць іх у шыхтах літаратурных маргіналаў. Тым ня менш, менавіта Міцкевіч у сваёй лекцыі ў Калеж дэ Франс назваў беларускую мову самай чыстай і з усіх славянскіх найменш зьмененай. Ян Чачот сабраў і выдаў некалькі кніг беларускіх народных песень, а Антон Адынец намаўляў Арцёма Вярыгу-Дарэўскага пісаць не па-польску, а па-беларуску, што той і рабіў.

Уласна гэта і быў самы пачатак нацыянальнага праекту. Пачынальнікі ўяўлялі яго не такім, якім ён выглядае сёньня – што Літва, Беларусь і Ўкраіна стануць асобнымі дзяржавамі, дастаткова адчужанымі міжсобку. Што ў Беларусі Літву будуць называць “краінай далёкага замежжа”, а Вільня – колішняя сталіца ВКЛ – апынецца за візавай мяжой. Што ў Беларусі будуць дзьве дзяржаўныя мовы – беларуская і расейская (а чаму тады яшчэ й ня польская?). Што праваслаўная царква стане дзяржаўнай. Словам, што будуць страчаныя найважнейшыя і найбольш любыя іхнаму сэрцу традыцыі Вялікага Княства: незалежнасьць, адзінства краю і талеранцыя. Тым ня менш, асновы будучай беларускай адметнасьці ў новым сьвеце і беларускай дзяржаўнасьці заклалі менавіта яны – філаматы і філарэты.

Важна зразумець матывы стварэньня і характар таго першапачатковага праекту Беларусі.

Пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай вобраз самаідэнтычнасьці нашых продкаў перастаў існаваць як сацыяльны або палітычны чыньнік. Таму нацыянальнае нараджалася як этычнае. Рамантыкі-пачынальнікі яшчэ памяталі Ідылію, але былі расчараваныя найвышэйшымі элітамі, якія спачатку палянізаваліся, а пасьля зь вялікімі капіталамі ўцякалі на Захад. Таму форма новае ідэнтычнасьці была абраная сялянская, “незаплямленая”, чыстая. Але паколькі творцамі праекту было дваранства, дык і напаўненьне ён атрымаў не “народніцкае”, а шляхецкае – з ідэямі супраціву расейскай анэксіі, русіфікацыі і рабаваньню сядзібаў. Гэтак ад хлапаманства філаматаў, ад захапленьня фальклёрам Чачота, ад лекцыяў Міцкевіча справа дайшла да ідыліі Дуніна-Марцінкевіча. Ідэя сацыяльнага міру на беларускіх землях і была тым праектам, сялянскім паводле формы і шляхецкім паводле зьместу.

Менскі драматург Дунін-Марцінкевіч, бадай, першы, хто робіць літаратурную кар’еру па-беларуску. Разам зь ім на гэтай ніве пачынаюць працаваць яшчэ адзін мянчук Янка Лучына і віленскі юрыст Францішак Багушэвіч, які ўрэшце і піша базавы маніфэст беларускае нацыянальнае ідэі. Менавіта зь ягонае формулы Беларусі напачатку наступнага, XX ст. адбудзецца сапраўдны бум новага праекту – падхопленага і пашыранага ўжо новым пакаленьнем. Але гэта па-ранейшаму будзе пакаленьне нашчадкаў тых 10 адсоткаў, зьбяднелага дваранства ВКЛ, той маральнай большасьці, якую праз усё XIX ст. расейскай адміністрацыі так

і не ўдалося вынішчыць дазваньня. І вось, нібы з рога ўсяго многа, – газэты, кнігі, тэатры, партыі, школы, бажніцы...

Шляхецкую крыўду і прагу супраціву яны паранейшаму апраналі ў сялянскую сьвітку, пісалі пра гараваньне да крывавага поту і нішчымную зямельку. Хоць усё гэта была фікцыя. Насамрэч гэта быў плач шляхты па сваёй спадчыннай годнасьці і спадчыннай маёмасьці. Ім трэба быў ужо ня проста вобраз ідыліі. Ім патрэбная была незалежная свая краіна, дзе яны маглі б вярнуць гістарычную справядлівасьць і дзе іхныя ўнукі ніколі не напішуць пра "ўбогі край", як пішуць яны самі, настойліва пратэстуючы такім чынам супраць расейскае акупацыі.

Трэба зразумець іхны глыбокі этычны пасыл. Яны, натуральна, ведалі расейскую культуру і саму Расею, але ў Расеі іх душа не адгукалася на слова радзіма. Урэшце, як і ў Польшчы. І ня толькі з фармальных прыкметаў – краявід, мэнтальнасьць, мова. Падзел зьмяшчаўся значна глыбей – у іхным, назавем яго так, сарматызме і той бясконца любаснай для іхнае душы этыцы збройнага земляўласьніка, прамяні якой даходзілі да іх ад іхных сярэднявечных продкаў і кранալі сэрца.

Паспрабуем каротка рэканструяваць гэты вобраз. Сярэднявечны беларускі арыстакрат, незалежна ад маёмаснага становішча і канфэсіі, уяўляў сябе рыцарам Хрыста, які бароніць веру. А таму гэта быў чалавек збройны, які браў у рукі шаблю яшчэ ў дзяцінстве. У тыя часы толькі шляхта мела права насіць зброю, за што ёй даваўся выключны прывілей – толькі яна бараніла сваю дзяржаву, праліваючы кроў. З гэтага

вынікала адмысловая сыстэма выхаваньня хлопчыкаў. Беларуская шляхта сьцьвярджала пра сваё паходжаньне наўпрост ад сарматаў, качавых іранскіх плямёнаў Прычарнамор'я. На мяжы XVII й XVIII стст. сарматызм стаў зброяй супраць касмапалітызму ў культуры, то бок супраць вонкавых уплываў як з Усходу, так і з Захаду. Беларуская шляхта бясконца ваявала. Не пайсьці на вайну альбо адкупіцца, як тое практыкавалася ў заходнеэўрапейскіх краінах, было немагчыма. Бо менавіта коштам свае рыцарскае крыві наша арыстакратыя аплочвала свае правы на вольнасьць і рэспубліканскі лад. Калі ў Францыі кароль Людовік XIV мог сказаць: "Дзяржава – гэта я!", дык у нас гэта з поўным правам мог сказаць кожны шляхціц. І тыя, абраныя шляхтаю, каралі былі вартыя свайго рыцарства... Для старавечнага беларуса было б недарэчнасьцю пагаліць вусы, надзець панталёны і парык, як гэта было на Захадзе. У нас для стварэньня адметнасьці ўжываліся самыя неверагодныя фантазіі і кампіляцыі з каўкаскіх, пэрсыдзкіх, турэцкіх матываў. Адныя слуцкія паясы чаго вартыя!.. Яшчэ адным складнікам ідэалёгіі беларускае арыстакратыі была Зямля. Высакародны земляўласьнік – ідэал рыцара! Пачуцьцё годнасьці было не аддзельным ад зямлі. Тыя, што пralівалі кроў за сваю зямлю, умелі яе й цаніць і гаспадарыць на ёй. Родавае гняздо, маярат быў каштоўнасьцю выключнай. За яго трымаліся да апошняга, яго багамілі, рамантызавалі. Зямля продкаў – у літаральным, вузкім сэнсе... Панятак безьзямельнае шляхты зьявіўся вельмі позна, толькі ў XVIII ст., у выніку ўсё тых жа войнаў. Баючыся пазбыцца свайго шляхецтва, гэтыя бедакі змушалі дзяцей вучыць на па-

мяць усю сваю генэалёгію, каб не прапасьці... Наступнай адметнасьцю арыстакратыі была яе высокая адукаванасьць. Прынамсі, кожны шляхціц, нават шарачок быў пісьменны і ведаў ляціну... Арыстакратыя заўсёды знаходзіла між сабою агульную мову, не зважаючы на розьніцу вызнаньняў. Аднак паміж мужчынамі-арыстакратамі, нягледзячы на ўсё іхнае братаньне, існавала складаная сыстэма герархіі й адпаведнага этыкету. Перад кім здымаць шапку, каму ціснуць руку, а каму цалаваць, каму ківаць, а перад кім складацца да зямлі – гэта была мудрагелістая навука. Пагатоў, трэба было дакладна ведаць тытулы, званьні, заслугі. Гэта вывучалася ў паходах і на соймах. Памылковае прывітаньне было абразаю... Істотным складнікам беларускага арыстакратычнага мэнталітэту было падкрэсьлена паважлівае стаўленьне да кабетаў, мала падобнае да куртуазнае культуры Заходняе Эўропы, пагатоў да расейскага дамастрою. У нашых “сарматаў” усё выходзіла натуральна. Шляхціц, які вяртаўся з татарскага палону ці з паходу на швэдаў, быў зусім не гатовы да сэрэнадаў альбо букетаў. Не вучылі куртуазнаму абыходжаньню ані ў сям'і, ані ў школах. А вось ліставаньне ўхвалялася. Нашая арыстакратыя пакінула немалую эпісталярную любоўную спадчыну... Жанчыну (бабцю, маці, жонку) блізу што багамілі, раўнуючы іхны цнатлівы вобраз зь Дзевай Марыяй. Менавіта жанчыны перахоўвалі старыя звычаі ды сямейныя паданьні. Ва ўмовах, калі большасьць мужчынаў непазьбежна гінула ў росквіце сілаў на войнах, на жанчыну лягаў увесь цяжар клопату за дом і за дзяцей. Каб у сьвет пайшло чарговае пакаленьне арыстакратаў,

высакародных землеўласьнікаў, якія будуць бараніць сваю дзяржаву й сваю зямлю.

За стагодзьдзі вобраз уласнае ідэнтычнасьці дасягнуў дасканаласьці. І тых, што прыйшлі ў праект на пачатку XX ст., гэты вобраз злучаў, нібы нейкая таемная повязь. Таемная, бо яны не маглі казаць пра свае маёмасныя і тытульныя правы народу, які б папросту не зразумеў іх. А якраз народ быў галоўным носьбітам той культуры, зь якой яны меркавалі зрабіць сваю краіну. Парадокс паміж крыўдаю двараніна і хлапаманіяй быў закладзены ў праект яшчэ філаматамі і філарэтамі, а затым падтрыманы наступнікамі. А прычынаю парадоксу была прысутнасьць трэцяга чыньніка – каляніяльнай адміністрацыі зь яе русіфікатарскай палітыкай, якая аднолькава варожа ставілася як да шляхецкае годнасьці, так і да беларушчыны сялянства. Пачатак XX ст. паставіў нашых адраджэнцаў перад адсутнасьцю выбару. Магчыма, у душы яны хацелі мець сваю зусім нармальную, “буржуазную” Беларусь. Але каб схіліць на свой бок народныя масы ў атмасфэры гарачага дыханьня расейскіх рэвалюцыйных закалотаў, ім заставалася толькі адно – сацыялізм.

І тады яны пачынаюць уласную тугу і нядолю абяртаць у формы нядолі сялянскай. Плач, плач і плач гучыць са старонак газэт і з тэатральнае сцэны. Аб цяжкай долі мужыка, аб убогай і беднай роднай старонцы, аб роднай мове і аб усёй Беларусі. Дысанансам чуваць галасы нэафітаў зь сялянства ці голас Максіма Багдановіча, які вырас і жыве недзе ў Расеі. Маўляў, ды што ж вы плачаце, калі трэба адстойваць свае правы, калі такая прыгажэнная ў нас краіна, калі такая гарманічная і прыгожая мова і ўся наша фантастычная

Беларусь. Не, яны проста нэафіты і таму не разумеюць, што насамрэч хаваецца за нашым плачам...

Іншы раз нэафіты – найбольш таленавітыя зь іх – разумелі, што пад лічынаю камунізму ў Беларусь пракрадаецца ня што іншае, як старая знаёмая русіфікацыя. Калі старэйшыя ідэолягі прымалі гэта як дадзенасьць, дык для маладзейшых гэта было адкрыцьцё. Вось як апісвае яго філёзаф новае, але яшчэ дасавецкае хвалі Ігнат Абдзіраловіч (Канчэўскі):

“Усход не прызнаваў нас як беларусаў, а вымагаў ад нас прыняцьця свайго ўсходняга выгляду, які, па ўсходняму разуменьню, быў абавязковым. «Славянские ручьи сольются в русском море» – вось як падгрунтоўавалася абавязковасьць абмаскаліцца. З гэтага вынікае гвалт і ўціск нашай індывідуальнасьці, з гэтага – гвалтоўнае жаданьне адняць наш твар. Яны ня ўцямлялі, што разам зь беларушчынай мы трацім і лепшую частку чалавечнасьці”.

Адначасова з гэтым пісаўся пасаж Максіма Гарэцкага ў аповесьці “Дзьве душы”, дзе аўтар гаворыць вуснамі сваёй гераіні:

“– Прыгожы матыў «Інтэрнацыянала», але пакуль ён не пабуджае ў маёй душы ўяўленьня гора або радасьці абы-якой «інтэрнацыянальнай» грамады людзей, пакуль такой грамады сярод нацый на зямным клубку я ня відзела й ня знаю, – патуль мне больш чаго кажаць матыў нашай мужыцкай беларускай марсэльезы, з матывам каторай мне ўяўляецца бясконцы, цярнёвы, крывавы шлях к інтэрнацыяналу майго няшчаснага народу...

Памаўчаўшы і трошку спакайней, але зь яшчэ вялікшай тугой у голасе дзяўчына казала далей:

– Праўда, мне і з тым і з тым матывам аднолькава ўяўляецца тое трагічнае і нялепае для нас, адраджоных беларусаў, што чужыя для нас людзі, не заўважаючы на сабе яшчэ ня скінутай імі сваёй нацыянальнай прапітанасьці, прыйшлі да нас з інтэрнацыяналам толькі на вуснах, зь яго толькі фікцыяй у сваіх мазгох, і з фанатычнай безьміласэрнасьцю ўзяліся рабіць зь беларускай нацыі толькі гной на градкі для ўзрашчываньня сваёй фікцыі інтэрнацыяналу. О, будзь яны пракляты! – узварушоным голасам, з горам крыкнула яна. – Яны хочуць зрабіць адзнакі сваёй нацыянальнасьці інтэрнацыяналам для нас, – дык дзякуй за ласку... Можа, трапім увайсьці ў інтэрнацыянал як роўныя з усімі, бяз гэтай дадатковай формы развіцьця!”

Аднак гэтыя сумневы маладых інтэлектуалаў не атрымалі якога-небудзь пашырэньня. Што да сялянскіх масаў, дык яны, ясная рэч, хутчэй купляюцца на гораснае суперажываньне, чымся на заклікі да барацьбы. Зрэшты, чалавек увогуле больш цэніць спагаду, чым заклікі.

Такім чынам, рэкрутаваныя ў праект шырокія сялянскія масы прынялі ягоную беларускую форму, зразумеўшы ягоны зьмест як крыўду і супраціў не шляхецкія, а пралетарскія. Праз закалоты рэвалюцыі і грамадзянскай вайны адбываецца імклівая пралетарызацыя першапачатковага праекту. У беларусаў ужо нямала ўласных палітыкаў, якія трымаюць нос па ветры і робяць стаўкі. Калі становіцца зразумела, што стварыць уласную і зусім незалежную краіну, а галоўнае – вырваць яе ў бальшавікоў – ім ня хопіць сілы, тады яны пачынаюць саветызаваць праект, падладжваць яго пад новыя савецкія парадкі. Для

масаў, якія атрымліваюць нацыянальную адукацыю ў гэты час, акцэнт плачу і скаргі мусіць быць зьменены на іншы, пазытыўны. Такім акцэнтам становіцца камунізм.

Гэта ня лёзунг, а новы характар усяго праекту. Беларусь паміж Першай і Другой сусьветнымі войнамі падзеленая на Ўсходнюю – БССР, і Заходнюю – што далучаная да буржуазнай Польшчы. Але характар беларушчыны зьмяняецца і там, і там. У чым сутнасьць? У БССР у 20-я гады праводзіцца так званая беларусізацыя. За ёй, хоць і не татальна, стаяць усё тыя ж нашчадкі шляхты, маральнае большасьці. Наўрад ці яны паверылі ў рэальнасьць савецкага нацыянальнага адраджэньня. Яны думаюць перахітрыць гэтую чарговую акупацыю і нават скарыстацца зь яе. Усё ж такі самастойная БССР са сваімі органамі ўлады, сыстэмай адукацыі і гэтай вось беларусізацыяй – бліжэй да ажыцьцяўленьня праекту, чым раней. Зь іншага боку, ці падтрымаюць маскоўскія таварышы наша нацыянальнае адраджэньне, калі яно па сутнасьці ня будзе камуністычным і прамаскоўскім? Зразумела, не. Таму дзеля будучых дывідэндаў можна і паступіцца, правесьці знак роўнасьці паміж беларушчынай і камунізмам.

Так яны думаюць, тым часам наваствораныя формы дзяржаўнага існаваньня напаўняюцца масамі, вядома ж, пралетарскага паходжаньня. Масам падабаецца думаць пра сьветлую будучыню, і патрэбу беларусізавацца яны калі і ўспрымаюць, дык толькі праз гэткую прызму: беларушчына – гэта камунізм.

Падобную палітыку, толькі са сваімі матывамі, праводзіць падпольны беларускі актыў у Заходняй Беларусі, пад Польшчай. Урэшце, ім можа і прасьцей

было б арганізаваць нацыянальна-вызваленчы рух у чыстым выглядзе, але… Хто б гэты рух фундаваў? А Масква гатовая даваць грошы толькі пад камуністычную дзейнасьць – хай сабе і ў беларускай абгортцы. І потым яна, Масква, разам зь Менскам, назасылалі ў Заходнюю Беларусь масу сваіх агітатараў, змагацца зь якімі, ды яшчэ ў падпольлі, няма сілаў. А яшчэ гэтае магутнае дыханьне шчасьлівай Краіны Саветаў пад бокам, якое аж заварожвае простага заходнебеларускага селяніна… Урэшце, народ і краіна рана ці позна мусяць быць узьяднаныя, а тут і сьляпому відаць, што ўзьяднаньне адбудзецца не пад Польшчай. Словам, заходнебеларускія адраджэнцы, хто лёгка, а хто зь цяжкім сэрцам, уплятаюць у праект новую чырвоную нітку – камунізм. У выніку на Крэсах Усходніх нараджаецца новае вызначэньне: беларус – значыць, бальшавік.

Можа быць, хітрасьць нашых праектантаў і спрацавала б некалі, і дала б нейкі іншы плён, калі б хоць аднаму зь іх удалося перажыць гады 30-я. Паляваньне пачалося з раскулачваньня, пасьля высылаліся ў ГУЛАГ і расстрэльваліся цэлыя акадэмічныя інстытуты. За адну толькі ноч НКУС у Менску паставіў да сьценкі 20 паэтаў. Гэта рэкорд – у іншыя дні расстрэльвалі па пяць-сем. Быў дазваньня прачасаны ўвесь дзяржаўны апарат. Гэта ў сталіцы і абласьцях, “на месцах” нават не складалі пратаколаў, нібы выконвалі і перавыконвалі пляны “нарыхтовак”. Тлустую кропку паставілі ў 39-м, у далучанай да БССР Заходняй Беларусі. Там у эшалёны інтэлігенцыю заганялі аблавамі…

Што яны маглі сказаць на допытах? Што яны невінаватыя? Што яны будавалі камунізм? Што іхнае

паходжаньне – не дваранскае, ня дробнабуржуазнае? Што яны ня марылі пра сваю асобную краіну?.. Мабыць жа, і казалі такое, толькі не было ім веры.

У 1930-я гады праект Беларусь радыкальна зьмяніў сваіх носьбітаў. Тыя, хто прыдумаў яго, нашчадкі шляхты, маральнае большасьці, 10-ці адсоткаў, якія ведалі таямніцу, глыбока ў сэрцах хавалі памяць пра сарматызм і крыўду сваіх продкаў на адабраную годнасьць і маёмасьць, перасталі існаваць. Усе сьведкі ранейшага "беззаганнага зачацьця" былі забітыя, пайшлі на катаргу, зьехалі ў беззваротную эміграцыю. Засталіся тыя, для каго адпраўной формулай праекту была "беларус – значыць, бальшавік". Ім належала пасьля вайны наноў перапісаць праект Беларусь.

І яны перапісалі ўсю гісторыю краіны. Маўляў, зьявілася на сьвет Беларусь дзякуючы пралетарскай рэвалюцыі, а датуль не было нічога, апроч цяжкай долі мужыка, каўтуна і лапцей. Маўляў, толькі за саветамі і ў братняй сям'і народаў беларусы набылі сваю дзяржаўнасьць і магчымасьць разьвіваць сваю індустрыю, калгасы і культуру. Новы праект моцна патыхаў пралетарскім духам, самапрыніжэньнем перад вялікай расейшчынай і абсалютным гісторыка-прававым нігілізмам. Ён пустаслоўна ўзьвялічваў тых хлопаў, мужыкоў ды пралетароў, у разьліку на якіх ствараўся калісьці філаматамі, Каліноўскім ды Янкам Купалам, і апошнімі словамі паносіў любыя прыкметы арыстакратызму, дваранства, чыстае красы і нацыянальнае тоеснасьці. Камунізм стаў стрыжнем нацыянальнае ідэі, а саветызм – галоўнай адзнакай беларускага народу. Далей уся сыстэма выхаваньня, адукацыі і дзяржаўнае ідэалёгіі раскручвала толькі гэты вобраз:

беларус – значыць, бальшавік. І ў такім выглядзе праект Беларусь у масавай сьвядомасьці дачыкільгаў да нашых дзён.

Ёсьць, натуральна, і іншыя прачытаньні. Са зьнішчэньнем тых 10 адсоткаў насельніцтва ня зьніклі сьведчаньні іхнае дзейнасьці. Што дазваляе нам зразумець іх, як, зрэшты, і тое, што хлапаманства паранейшаму спрацоўвае, асабліва пры сёньняшнім палітычным рэжыме. Праўда, мы ўжо разумеем і тое, што нацыянальны праект мусіць быць дужы сам па сабе і абапірацца на арыстакратыю грамадзтва, а не на сацыяльную большасьць. Прынамсі, такім шляхам ідуць суседнія зь Беларусяй краіны, нацыянальныя праекты якіх пачыналіся адначасова з нашым.

Што да будучыні беларускага нацыянальнага праекту, дык тут магчымыя два варыянты разьвіцьця – актыўны і пасіўны. Першы магла б ажыцьцявіць дзяржава і моцная нацыянальная эліта, другі ажыцьцяўляецца сам.

Першы – гэта суд над камунізмам, накшталт Нюрнбэргскага працэсу ў Нямеччыне.

Нюрнбэрг для немцаў стаў працэсам хірургічным. А менавіта – на месца нацыянал-сацыялісцкага стрыжня ў нямецкую сьвядомасьць быў ужыўлены стрыжань пакаяньня. Кожны немец адчуў сябе асабіста вінаватым. І тая вінаватасьць перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне. Можна безь перабольшаньня сказаць, што ніхто так не асуджаў немцаў, як яны асуджалі сябе самі. Гэта і было праўдзівае пакаяньне, якое адначасова вызваліла, ачысьціла душу, дазволіла з галавой заняцца сваёй краінай – абноўленай Нямеччынай.

У беларусаў замест свайго Нюрнбэрга і пакаяньня засталіся сотні расстрэльных ямаў НКУС па ўсёй краіне, стагнацыя і крыўда на немцаў, маўляў, мы, пераможцы, жывем горш за пераможаных. Беларусы ахвотна эмігруюць у Нямеччыну, адваротнага працэсу няма і ня можа быць. Беларусы, нават тыя, што прымаюць ідэю суду над камунізмам, часьцяком рашуча адмаўляюць ідэю пакаяньня. А перад кім гэта і за што мы павінны каяцца? Ды не перад кім. Перад кім каяліся немцы? Гаворка ідзе пра хірургічны працэс – пра замену таго стрыжня нацыянальнае тоеснасьці – камунізму – які замінае нам жыць ня горш за пераможаных. У гэтым сэнсе беларусам, можа быць, як нікому патрэбны другі Нюрнбэрг. У Беларусі, як нідзе, складаюцца сёньня перадумовы для такога суду. Вяртаньне савецкіх парадкаў, рэпрэсіі людзей за іхныя палітычныя перакананьні, непавага да прыватнае ўласнасьці і свабоды слова. Досьвед Нямеччыны паказаў, што выдаленьне пухліны “бальшавік” з самаідэнтыфікацыйнага слова “беларус” і пераход да этыкі пакаяньня – ці ня самы прадуктыўны для нацыі і краіны шлях.

Аднак для такога суду спатрэбілася б вялікая палітычная воля і дзяржавы, і элітаў нацыі. Што да пасыўнага варыянту, дык ён выглядае так.

Сёньня нельга сказаць, што беларускі нацыянальны праект ажыцьцявіўся ў гэткай ступені, як у суседніх краінаў. Адначасова сам час стварэньня і ажыцьцяўленьня такіх праектаў незваротна мінуў. Той сьвет, у якім існуе і зь якога вылучаецца сваёй нацыянальнай недавершанасьцю Беларусь, жыве ўжо іншымі клопатамі, куды кожны прыйшоў з тым, з чым прыйшоў. Тут ніхто ня будзе аспрэчваць патрэбнасьці

культуры, а адсутнасьць нацыянальнае адметнасьці народу, які названы і прызнаны як такі, успрымаецца хіба як мовэтон. Не сакрэт, што большасьць людзей, якія езьдзяць на сучасных машынах, цьмяна ўяўляюць сабе ўсе асаблівасьці будовы рухавіка, а тыя, што карыстаюцца Інтэрнэтам, могуць нічога ня ведаць пра элемэнтарныя законы перадачы току. У сучасным сьвеце, у якім існуе Беларусь, нацыянальныя праекты спакваля пераходзяць у катэгорыю такіх вось асаблівасьцяў будовы, прынцыпаў работы і элемэнтарных законаў. Гэтым займаецца вузкае кола спэцыялістаў. Што да шырокіх масаў народу, дык для іх актуальным застаецца этычны аспэкт праблемы. Але і тут мы маем справу са зьмененым сьветам. Проста кажучы, адмаўленьне ад свае мовы і культуры, ад свае ідэнтычнасьці можа быць параўнанае з пагардлівым стаўленьнем да асабістае гігіены ці грамадзкае санітарыі. Нездарма абсалютная большасьць беларусаў, карыстаючыся ў жыцьці вулічным варыянтам расейскае мовы, інтуітыўна называюць у апытаньнях сябе самі беларусамі, а сваёй роднай мовай беларускую. Інтуітыўна, бо насуперак ідэалёгіі і палітыцы цяперашняга палітычнага рэжыму, яны выбіраюць эўрапейскі тып цывілізацыі, дзе ня быць сабою сёньня і незразумела, і непрыстойна.

# БЕЛАРУС МІТАЛЯГІЗАВАНЫ, ГІСТАРЫЧНЫ І РЭАЛЬНЫ

## Пятро Васючэнка

Мая мілая маскоўская знаёмая любіць гасьцяваць у мяне ў Беларусі. Кажа, што любіць беларусаў, а найболей – размаўляць са мной. Але, па-мойму, найболей яна любіць ставіць пытаньні і ня слухаць адказы на іх. Таму ня дзіўна, што сёньня яна пытаецца пра тое ж, што і ўчора. Прыкладам: "Ну чаму б вам не прызнацца, што вы такія самыя рускія, як і мы?"

Бывае, што яна зьмяняе форму пытаньняў, але зьмястоўна яны тыя ж. Учора яна пыталася ў мяне: "А ці праўда, што вас прыдумалі палякі?" Сёньня: "Ці не камуністы вас прыдумалі?" Заўтра будзе пытацца: "Ды хто вас увогуле, такіх, прыдумаў?"

Адказаць бы ёй, што ўсе нацыі спраектаваў Госпад, як яно і ёсьць, але яна западозрыць мяне ў месіянізме. Каб не сварыцца, зводжу адказ да жарту: "Хай сабе і камуністы нас прыдумалі, ня самая горшая іхная прыдумка".

Можа быць, нас прыдумалі і тыя ж рускія. Скажам, у дзевятнаццатым стагодзьдзі, калі замацавалі за намі старасьвецкае і даволі цьмянае найменьне: "белоруссы" альбо нават "белоруссцы". Маўляў, тое ж самае, што і "рускія", хай сабе белыя. Абы не палякі. Каб ня гэтая прыдумка, можа, хадзілі б мы дагэтуль крывічамі або

ліцьвінамі, як у даўнейшыя часы. Хаця і тады беларусы называлі сябе тутэйшымі. “Я ня лях, не маскаль, але тутэйшы чалавек”. А сёньня, каб ня рускія, мы, можа б, і штосьь больш мілагучнае ды мадэрновае сабе прыдумалі.

Беларуская асаблівасьць у тым, што мы пачынаем прыдумваць сябе пасьля таго, як нас ужо нехта думае. Гэтая чужая думка пачынае сьвярбець, і тады беларус мусіць думаць пра сябе сам, ужо ў мэтах самазахаваньня.

У 1860 г. расейскія дабрадзеі-літаратары жыўцом пахавалі беларуса: маўляў, такі ён і сякі, зусім занядбаны, адсталы, закатаваны, забіты, збыдлячэлы. Аж нават спадар дэмакрат Мікалай Дабралюбаў абурыўся: ня веру, кажа, каб цэлы народ гэтак забілі ды затуркалі. Паглядзім, маўляў, што скажуць самі беларусы.

І беларусы неўзабаве адказалі – удзелам у антыімпэрскім паўстаньні 1863–1864 гг.

Па вялікім рахунку, кожны народ сам сябе прыдумвае – праз саманазву, міт і прыхарошаную гісторыю.

Беларусы, як і іншыя народы, самі сябе прыдумвалі, самі выводзілі свой радавод ад легендарнага племені волатаў і рымскіх патрыцыяў, самі сябе дабудоўвалі цягам гісторыі, за рознымі акупацыямі і адраджэньнямі, і такім чынам стварылі іпастась **беларуса міталягізаванага**. Але рабілі мы гэта запозна і часам адставалі ад сутворцаў. Нашыя суседзі надзялялі беларускі тып такімі міталягічнымі якасьцямі, як звышцярплівасьць, звышталеранцыя, забітасьць, затурканасьць, прыгнечанасьць, мужыцкасьць, бясконцая адданасьць большаму брату.

Гэтым міталягемам з усяе сілы супрацiўляецца **беларус гістарычны,** які жыў за часамі паўстаньняў,

войнаў і лякальных боек, сыходзіў у падпольле, вылазіў з сутарэньня, біўся з ворагам твар у твар, паміраў, адраджаўся, цярпеў, ненавідзеў, даруваў, словам, адыгрываў сваю непаўторную ролю ў гістарычнай драме.

Ёсьць яшчэ **беларус рэальны**, які паўстае з першых дзвюх іпастасяў, але прарастае празь іх у найноўшую гісторыю; ён пажыў за Саветамі, ён пасмакаваў незалежнасьці, ён звыкся ўжо з тым, што жыве ў незалежнай дзяржаве, хаця ня раз прымаў рашэньні насуперак гэтай незалежнасьці на рэфэрэндумах.

Перадусім беларус рэальны – сёньня творца гісторыі, ён папхнецца на новыя выбары і рэфэрэндумы, або не папхнецца, у ягоных руках уласная экзыстэнцыя і экзыстэнцыя тых беларусаў, што прыйдуць пасьля яго.

Ва ўсіх спробах акрэсьліць тып беларуса, ці робяць гэта суседзі, ці робяць свае, заўжды будзе момант непрасьветленасьці, недапраяўленасьці, недавыказанасьці. Гэта заўважыў яшчэ ў першай траціне XX ст. філёзаф Ігнат Абдзіраловіч. Падкрэсьліў ён і тое, што, ня стаўшы народам ні Заходняй Эўропы, ні славянскага Ўсходу, беларус захаваў такім чынам незалежнасьць свайго духу.

Непраяўленасьць Беларусі нагадвае вока тайфуна: навокал усё бурапеніць, віруе, а ўсярэдзіне штыль. Суседзі актыўна афармляюцца, набываюць выразнае культурнае аблічча, яно кідкае, выразна акрэсьленае.

Мы іншыя, бо ў цэнтры гістарычных шляхоў, на скрыжаваньні парадыгмаў. Усё, што наўкол, складаецца на нашай зямлі ў адметную суму, але запісваецца

даволі таемнымі пісьмёнамі, якія, бы рунічныя знакі, не расчытаеш адразу. І калі мы хочам спасьцігнуць беларуса рэальнага, трэба ад самага пачатку рабіць акцэнт на гэтую непраяўленасьць і таямнічасьць.

Грэючы душу ўспамінамі, вялікі ліцьвін Адам Міцкевіч у лекцыях па славянскім фальклёры ды філялёгіі, якія ён чытаў у Парыжы, так выславіўся пра сваіх суайчыньнікаў-беларусаў: “Жыцьцё іх цалкам у духу. На зямлі іх гісторыя поўная смутку і жальбы”. У Беларусі шмат чаго алягічнага, невытлумачальнага, не падуладнага сылягізму.

У гэтым трагедыя і абранасьць. Як быццам Творца пазначыў тут цэнтр таемнага сілавога поля, **зону zero**, у якой вонкавае ператвараецца ва ўнутранае, істотнае, але дасюль не расшыфраванае.

## Антрапалёгія

Мая эрудыраваная маскоўская знаёмая разьбіраецца ў антрапалёгіі; яна лічыць, што мы адной крыві. “Што, чэрап мне будзеш штангенцыркулем мераць?” – у запале пытаецца яна. А пасьля з уласьцівай ёй непасьлядоўнасьцю мысьленьня пытаецца: “Чым жа вы ўсё-ткі адметныя?”, маючы на ўвазе будову чарапоў і ўсяго астатняга, што складае чалавечую зьнешнасьць.

Беларусы міталягізаваныя мелі гіганцкі рост і паставу. В. Ластоўскі, дасьледчык беларускае даўніны, наш Умбэрта Эка пачатку XX ст., сьцьвярджаў, што мае продкі жылі бясконца доўга, бо жывіліся толькі сырым, а страцілі даўгалецьце, калі аскароміліся – пакаштавалі варанага.

Антрапалягічную рэпутацыю беларуса гістарычнага моцна папсаваў адзін зь любімых паэтаў маёй начытанай маскоўскай знаёмай Мікалай Някрасаў, калі прысьвяціў яму наступныя радкі ў вершы “Чыгунка”:

… Волосом рус,
Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый, больной белорус:

Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах;

Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо дня в день налегала весь век…
Ты приглядись к нему, Ваня, внимательно:
Трудно свой хлеб добывал человек!

Не разогнул свою спину горбатую
Он и теперь еще: тупо молчит
И механически ржавой лопатою
Мерзлую землю долбит!

Хворага беларуса, дробнага ў костцы, чэзлага, як бяроза на балоце, сьпітага ды ростам меншага за жанчыну насамрэч можна сустрэць на паўночным памежжы маёй краіны, дзе кабеты аруць і косяць, а мужыкі займаюцца браканьерствам і мяняюць рыбу на чарніла і танны адэкалон.

Інакш выглядае беларус, якога паказаў на абразе “Палясоўшчык” расейскі мастак І. Крамской: вочы, бы

два зьледзянелыя азёры пад блакітна-сталёвым небам, іх позірк не абяцае чужынцу нічога добрага. За спінаю рукі хаваюць невядома што: сякеру такога самага колеру, што і ягоныя вочы, ці зьвязку ўпаляваных качак. Такога і ў горадзе ў ціхім завулку страшна сустрэць сам-насам, ня тое што ў лесе.

Беларус рэальны ў сваёй большасьці захаваў яшчэ рысы, якія адзначыў у ім наш літаратурны клясык Уладзімір Караткевіч у эсэ “Зямля пад белымі крыламі”. Тыповы беларус – бялявы, з блакітнымі або шэрымі вачыма, мяккімі рысамі твару. Нават калі ён брунет, вусы ў яго найчасьцей русявыя. Барады старасьвецкія беларусы прынцыпова не насілі і гэтым адрозьніваліся ад рускіх і старавераў.

Дэмаграфічныя працэсы разбавілі гэты тып, і вось ужо на Палесьсі і беларускім захадзе сустрэнеш чарнявых землякоў, што сьведчыць пра дамешак яцвяжскай (балцкай) або габрэйскай крыві.

Так, нас разбаўлялі ў розныя часы рускія, габрэі, татары, балты, украінцы, і гэта асьвяжала беларускі генафонд і спрыяла мясцоваму нацыяналізму. Заўважана, што самыя заўзятыя беларускія нацугі – напаўкроўкі або квартэроны. Каго бракуе ў Беларусі – дык гэта сваіх мурынаў, хаця апошнім часам яны пачынаюць зьяўляцца, сьпяваюць беларускія зонгі. Зьмітрок Бядуля, наш паэт-клясык габрэйскага паходжаньня, марыў некалі пра негрыцянскую акупацыю Беларусі, “абы не было ў ёй бальшавікоў”.

Разбаўленьне нацыянальнай інтэлігенцыі падчас масавых рэпрэсіяў не заўжды ішло на карысьць захаваньню тутэйшай мовы, культуры, традыцыі, бо

часам імпартовы вучоны бачыў нас як народ, а часам і ня бачыў. Вучыў або не вучыў нашу мову. Гінуў дзеля яе ў сталінскіх канцлягерах або выкараняў тутэйшых “нацдэмаў”.

Антрапалягічнае здароўе нацыі вымяраецца ў нас спортам. Характэрна, што беларусы перамагаюць у тых відах лёгкай атлетыкі, якія робяць яе цяжкай. Беларускія Зігфрыды і Брунхільды, што спрытна шпурлялі ядро, молат, дыск, змусілі ашалець публіку на апошнім чэмпіянаце сьвету. Беларусь – краіна волатаў і снайпераў. Посьпехі ў біятлёне згадваюць пра даўнейшыя нашыя партызанскія якасьці – уменьне страляць і ўцякаць. Такім быў наш старажытны князь Усяслаў Полацкі, якога за здольнасьць зьнікаць, калі трэба, і зьяўляцца там, дзе не чакалі, абвясьцілі ваўкалакам і пярэваратнем.

Някідкасьць, стандарт знешнасьці беларускага мужчыны, дзеля якога ён мог бы стацца таленавітым віжом ці шпіёнам, кампенсуецца хараством беларускіх дзяўчатаў і размаітасьцю формаў гэтай прыгажосьці, якая задаволіць самы пераборлівы густ.

Прайдзіцеся ўлетку па праспэкце Скарыны ў Менску ў той час, калі дрэвы апранаюцца ў зялёныя шаты, а дзяўчаты максымальна распранаюцца, і паўзірайцеся ў гэтыя твары і не загарэлыя яшчэ целы, і калі праспэкт не паплыве ў вас перад вачыма, як чароўная рака, дык ці мужчына вы? Інквізіцыя на Захадзе зьнішчыла дзявочае хараство, бо спальвалі самых прыгожых і спакусьлівых, а Беларусь гэтая пошасьць абмінула.

Мая прыўкрасная маскоўская знаёмая ня любіць гаворак на гэтую тэму, хаця пры нагодзе згадвае свае тры кроплі беларускае крыві.

Але яна ўжо больш ахвотна пагаджаецца са мною ў тым, што важнае і тое, што хаваецца пад чэрапам, чаго не кранае чарвяк часу, – тое, што завецца беларускі дух.

## Тутэйшы

“Я ведаю, што такое Руская Ідэя, – кажа мне мая начытаная маскоўская знаёмая. – А Беларуская Ідэя ў прыродзе існуе?”

Паколькі мая госьця не чытае па-беларуску і з гэтае нагоды ня можа засвоіць трактат тутэйшага філёзафа Ігната Абдзіраловіча “Адвечным шляхам”, які акрэсьліў Беларускую Ідэю як шлях і замацаваў за ёй прынцып “ліючайся формы”, я раблю ёй прыемнае: вяду ў тэатар на спэктакль “Тутэйшыя” паводле п’есы Янкі Купалы. Праходзяць абразы беларускага жыцьця за часамі рэвалюцыйных забурэньняў і так званай грамадзянскай вайны. Мінск, або Менск, як называўся ён тады, па чарзе захоплівалі немцы, палякі, бальшавікі, чырвоныя, а тутэйшыя людзі гандлявалі гарэлкай і зброяй, заганялі немцам іхныя маркі, а палякам злотыя, слухалі палітычных прамоўцаў у мясцовым Гайдпарку – на Брахалцы – і ня верылі нікому, шыліся ў пажарнікі, каб ня трапіць на прымусовыя работы, цішком здавалі адных акупантаў іншым і не рабілі галоўнага – ня ладзілі свайго нацыянальнага жыцьця. Такую хворую рэакцыю на гістарычныя зьмены Купала і акрэсьліў як “тутэйшасьць”.

Купала ведаў кошт гэтаму “тут” як цэнтру беларускай сьвядомасьці, яго фатуму і болю, зь якімі беларус

не разьвітаецца, напэўна, ніколі, бо нават тутэйшасьць як хвароба ёсьць часткаю яго самога.

Беларуская зямля была асвоеная людзьмі каля 100 000 гадоў таму, і з тае пары яе насяляе адзін і той народ, аўтахтоны. Хай сабе цягам тысячагодзьдзяў мы зьмянялі свае імёны і нават мовы. Быў час – ("Які жах!" – вырываецца ў маёй знаёмай-славянкі) – калі мы нават не былі славянамі, а належалі да цьмяных праіндаэўрапейцаў, арыяў, балтаў. Але мы дасюль захавалі сваё найпершае – пракаветнае **тут**.

Цягам доўгіх стагодзьдзяў чужынцы ўздымалі пыл на нашых дарогах і ў спешцы нічога ня ведалі і ведаць не хацелі ні пра нашу зямлю, ні пра нашых людзей. Ім цікавей былі тыя, за кім яны гналіся або хто іх ганяў. Для іх Беларусь і беларус былі заўжды празрыста-прыдуманымі, праз што яны праходзілі без перашкодаў, як праз паветра. Як жа яны дзіваваліся, калі аб гэтае празрыстае балюча набівалі гузы, як, прыкладам, татары пад Сіняй Вадой, крыжакі пад Грунвальдам, маскоўцы пад Оршай, акупанты дваццатага стагодзьдзя ў беларускіх лясах ды багнах.

Вось так і рассыпаецца міт пра беларуса звышцярплівага, звышталерантнага, звышміралюбнага, бо ён бярэцца за зброю тады, калі ніхто ад яго гэтага не чакае.

Беларус гістарычны сядзіць на ўзбочыне дарогі і мэлянхалічна глядзіць з-пад далоні, хто там яшчэ сунецца. А той, хто сунецца, менш за ўсё чакае небясьпекі ад гэтага вонкава абыякавага чалавека.

Рана або позна да фатальнай недапраяўленасьці беларуса гістарычнага дадаўся інстынкт самазахаваньня тутэйшага. У рэшце рэшт, мала хто тут сноўдаецца

зь люду прышлага, а выходзіць да кожнага ды пытацца: “Хто ты такі і чаго табе трэба?” – дык ніякага цярпеньня ня хопіць. Жыцьцё навучыла: усе яны гэтымі ж дарогамі і сыдуць, а ён, тутэйшы, заўсёды тут, каля свайго Богам наканаванага крыжа.

Слова “тутэйшы” па-за тым трагічна-саркастычным значэньнем, якое надаў яму Купала, ёсьць дастатковым самавызначэньнем чалавека, які жыве ў запаветнай зоне zero. Яму абыходзіць, хто тут каля яго вошкаецца, гэта прыхадням трэба дапасоўвацца да тутэйшай прасторы і насельніцтва, прыдумваць для іх адэкватныя імёны, а нам да гэтага ніякай справы няма.

Абярнуліся гэтыя гульні тым, што ў XIX ст. рускія ды польскія этнографы самі пачалі пытацца ў тутэйшага люду: “Хто вы такія?”, і гэта прывяло да “дапраяўкі” нацыянальнай сьвядомасьці тутэйшых.

Напрыканцы XIX ст., калі землякі маёй дапытлівай маскоўскай знаёмай пачалі задаваць беларусам занадта шмат пытаньняў, шляхціц Францішак Багушэвіч напісаў культавую кнігу “Дудка беларуская”, у якой адказаў на ўсе магчымыя пытаньні гадоў на дзьвесьце наперад. Ягоны герой, селянін Мацей Бурачок, якога казакі ставяць пад бізуны і пытаюцца: “Хто ты ёсьць?”, адказвае па-беларуску дыхтоўна:

“Тутэйшы”, кажу я, свой чалавек,
Сын бацькі свайго, а бацька дзяцей,
Тут і радзіўся, тут жыву век,
Юркам зваць бацьку, я дык Мацей.
Вунь дзе і хата, і выган, і сад:
Там жнець мая жонка, а там гарэць брат…

Гэты адказ расчытваецца прыблізна так: “Я, Мацьвей Юр’евіч Бурачок, жыву на сваёй зямлі, нікому не перашкаджаю, я аўтахтон, мае продкі нарадзіліся і памерлі тут, і я так спадзяюся пражыць, па нацыянальнасьці я не маскаль і ня лях, а тутэйшы чалавек, па веры я ўніят, гаспадарку маю невялікую, але яна мая, і найбольш пільнуюся сваёй хаты”.

Яго гаспадарка – гэта ягоны сьвет, ягоны мікракосм, а тлумачыцца варта было б казакам. Поўнае значэньне слова “тутэйшы” вядомае толькі Мацею, але ён не зьбіраецца казаць нічога звыш таго, што ўжо сказаў. А казак, для якога “тутэйшасьць” абсалютна недасяжная рэч, ажно вар’яцее ад злосьці. І прымяняе сілу.

Хто ж ён – тутэйшы, як ён жыве на гэтай зямлі?

## Ягоны дом

Мая маскоўская знаёмая азіраецца ў маёй гасьцёўні і кажа: “Дом як дом, і нічога новага. Ёсьць народы, “зацыкленыя” на сваіх дамах. Вось ангельцы кажуць: “Мой дом – мая крэпасьць”. Дык у іх жа насамрэч дамы! А ў вас? Што тут ахоўваць?”

Нядаўна мы з маёй мілай тэатралкай наведалі яшчэ адзін спэктакль зь беларускага рэпэртуару, драму Я. Купалы “Раскіданае гняздо”. Усё ў гэтай п’есе ня так, як у людзей. Герой, селянін Лявон Зяблік, вешаецца ўжо напрыканцы першага акта, калі да фіналу яшчэ бездань часу. Ён не сьцярпеў трагедыі бясхаццявя – яго выгналі з дома, які ўзводзіў уласнымі рукамі, бервяно за бервяном, “скуль бацьку і матку на могілкі вывез”.

Астатнія пэрсанажы сноўдаюцца па руінах бацькоўскае хаты і вырашаюць, як ім быць далей. Мая цудоўная тэатралка пацiскае плячыма і не знаходзіць у гэтым сюжэце падставы для трагедыі.

Беларус гістарычны, як і беларус рэальны, нічога ня будзе вам тлумачыць, пераконваць у нечым, а як што, дык і ў хату не пусьціць. Дзіўная ў яго хата, парадаксальныя адносіны да яе.

Бедна ж мая хата, расселася з краю
Між пяскоў, каменьня, ля самага гаю.
Ля самага бору, на беражку лесу:
Ніхто тут не трапе, хоць бы з інтарэсу.
*(Ф. Багушэвіч, “Мая хата”)*

“Кепска мая хата, падваліна згніла, і дымна і зімна”, – зацягвае сваю песьню Мацей Бурачок. Суседзі, шкадуючы гаротніка, будуць запрашаць яго ў новую хату, прапаноўваць інтэрнат, сужыцельства і гэтак далей. Але гаспадар упарта трымаецца за сваю хаціну. Аддзярыце яго гвалтам ад гэтай хаты, вывезіце туды, куды Макар цялятаў не ганяў, – ён вернецца да руінаў, пажарышча, котлішча, нават на згубу сваёй галавы, як гэта зьдзейсніў герой аповесьці Васіля Быкава “Аблава” Хведар Роўба, у якога адабралі дом, гаспадарку, сям’ю, раскулачылі і вывезлі ў Сібір.

“Што гэта, любоў да ўласнай беднасьці? Патрыятызм? – дзівіцца мая маскоўская знаёмая. – Патрыятызм ня ёсьць любоўю да ўласнае галечы. Патрыятызм – імкненьне выбавіцца ад галечы”.

Ключавыя словы знаходзім у Мацея Бурачка: “А яна мне міла”. Мне і нікому іншаму. Што там, за гэтымі

збуцьвелымі сцэнамі, што сагравае сэрца гаспадару хаты? Ягоная душа.

Хата як замкнёная на замкі душа ёсьць сымболем беларускай эзатэрыкі і інтравертнасьці. За някідкай, нецікавай абалонкаю дзеецца ўласная містэрыя, таямніца, дзяліцца якой беларус ні з кім не жадае.

"П.С.Х." – так назваў свой твор двойчы апальны беларускі драматург Леапольд Родзевіч. За часамі Юзафа Пілсудскага пісьменьніка ганялі польскія ўлады, а пасьля расстрэльвалі Саветы. Мужык і жонка, героі п'есы, зьняверыліся ў камуністах і вырашылі стварыць уласную партыю. П.С.Х. расшыфроўваецца як: "Пільнуй свае хаты".

"Колькі вы будзеце цярпець? Няўжо ня брыдка?" – пытаецца мая спагадлівая маскоўская знаёмая, калі ёй нешта ў нас не падабаецца. Міталягізаваны беларус істота звышцярплівая, але і гэтай цярплівасьці пакладзена мяжа. "Калі? – пытаецца яна. – Калі апошні мех з бульбай з-пад азадка выцягнуць?" – "Не, – адказваю я. – З такой бядой беларус справіцца". – "Будзе з голаду пухнуць?" – "Ня будзе. У яго ў падпольлі яшчэ адзін мех закапаны". – "А калі і той адбяруць?" – "У яго ў лесе ў капцы яшчэ адзін". – "І гэта будзе апошні?" – "Апошняга ня будзе ніколі".

Душа як хата, хата як душа – сымбалі беларускага эзатэрычнага існаваньня, адменьнікі дзвюх сакрамэнтальных формулаў яго існаваньня: "Я тут" і "Я ёсьць".

Гэта вялікія таямніцы беларуса, якія ён старанна ахоўвае. Вось чаму так ахвотна ён адмаўляецца (на словах) ад роднай мовы, ад сувэрэнітэту (нацыянальнага дома). Толькі з тае прычыны, што насамрэч ён іх нікому не аддасьць. Ні мовы, ні незалежнасьці. Нікому

і нізавошта. А так – хай сабе цешацца. А мая маскоўская знаёмая ўсё дапытваецца: “Чаму вы ня любіце сваю мову?” А іншым разам: “Чаму вы ня кінеце беларускую мову і не пяройдзеце на нашу?”

Насамрэч ніколі беларусы не выракаліся свае мовы. Памятаюць. Хаваюцца ў яе, ведаюць сваю перавагу над суседзямі: захочам, дык вы нас не зразумееце, а мы вас – заўжды. Вы для нас празрыстыя, а мы – цьмяныя.

“А беларусы ж нічога ня маюць”, – так шкадаваў суайчыньнікаў Янка Купала. “Чаму вы вечна прыбядняецеся?” – дзівіцца мая раскручаная маскоўская знаёмая. Чаму нават новыя беларускія інтэлектуалы, папаездзіўшы па Літве ды Польшчы, уражаныя, адхрышчваюцца ад свайго ды кажуць, што ў нас усё чужое – польскае, літоўскае, расейскае? Што за гістарычная звычка да самапрыбядненьня? Іншыя нацыі крадуць чужых клясыкаў, а беларусы імкнуцца задарма аддаць сваё чужым.

Беларусы твораць міт наадварот. Прыкідваюцца, што ў іх нічога няма.

Беларусы – гобіты эўрапейскага лесу, што хаваюцца ў цень ад саміх сябе. Яны спадзяюцца, што гэты цень іх схавае. І што гэты цень потым дапаможа ім выйсьці зь ценю. Бо ім выгадней, каб іх рэальнага быцьця не заўважалі. Гэта нацыя, якая спарадзіла адзінага ў сьвеце філёзафа, які сьцьвярджае, што яго няма.

## Наша здрада

Калі нашыя адносіны пагаршаюцца, мая раўнівая маскоўская знаёмая абвастрае і свае пытаньні: “Чаму

сярод вас столькі здраднікаў?”, “Чаму вы так любіце здраджваць?” Пэўна, яна лічыць, што я здраджваю ёй, але ж гэта ня так, бо яна мне ня жонка і не айчына.

“Памятаеш, у нас быў путч? Вы нас не падтрымалі”, – прыгадвае яна, надзьмуўшыся, сваю гістарычную крыўду.

Праўда, беларусы і тым разам маўчалі, бо сытуацыя была ў краіне маёй сяброўкі такая, што без паўлітры не разбярэш. Зрэшты, і самі яны дагэтуль ня могуць разабрацца, дзе там праведнікі, а дзе здраднікі.

У нас на той час таксама былі людзі, якіх пасьля назавуць пярэваратнямі і здраднікамі. Яны на былой плошчы Леніна, якая цяпер Незалежнасьці, палілі чырвоныя кніжачкі, што калісьці насілі каля сэрца. Палала вогнішча з чырвоных кніжачак, усе радаваліся. У майго знаёмага не было чаго кінуць у полымя, бо не быў ён камуністам. Дык ён пашпарт у вогнішча кінуў, каб неяк спрычыніцца да ачышчальнага аўтадафэ.

Ані кнігі, ані кніжачкі паліць ня варта. Але і тыя людзі на плошчы ня бачацца мне здраднікамі.

Дай Бог уласную гісторыю разблытаць, бо яна, калі глядзець на яе вачыма маёй рыгарыстычнай сяброўкі, – суцэльны клубок здрадаў.

Уладзімір, князь кіеўскі, здрадзіў бацьку і братам Рагнеды на сваім крывавым вясельлі. Рагнеда здрадзіла свайго бацьку і братам тым, што пайшла за іх забойцу. Потым яна і на мужа ўзьняла меч. Сын яе, Ізяслаў, таксама замахнуўся мечам на бацьку. Але пасьля ён з бацькавых рук прыняў спадчыну – Полацак. Уладзімір безьліч разоў здраджваў Рагнедзе з палюбоўніцамі, якіх у яго было ня менш, чымся ў цара Салямона, аж пакуль па хрысьціянскім звычаі

не павянчаўся з візантыйскай царэўнай, а верную жонку аддаў у манашкі.

Кароль нашае здрады – Ягайла. Ён здрадзіў свайму дзядзьку Кейстуту ў бруднай крэўскай справе, а заадно здаў і Беларусь дзеля польскае кароны. Гісторыкі скажуць, што гэтым ён Беларусь адначасова і адратаваў. Падчас Грунвальдскае бойкі невядома хто каму здраджваў – Ягайла Вітаўту або Вітаўт Ягайлу. Польскія храністы цьвердзілі, што зь беларусамі атрымаўся канфуз, і яны на чале зь Вітаўтам уцякалі ажно да Вільні.

Нехта невядомы здрадзіў Вітаўтавай кароне.

Апанас Філіповіч здрадзіў уласнаму вучню Яну Лубу. Вучыў, выхоўваў чарговага Ілжэдзмітрыя, каб пасьля здаць маскоўскаму пасольству. Яшчэ Апанас Філіповіч клікаў Міхаіла Раманава, каб ішоў з вайною на родную Апанасу Літву, дзяліўся з маскоўскім царом дзяржаўнымі таямніцамі, павучаў караля Уладзіслава IV, канцлера Льва Сапегу. Кароль ды канцлер глядзелі на гэтыя вымудры паблажліва. Апантаны Апанас выробляў у гэтай дзяржаве што хацеў – і ўрэшце даскакаўся. Царква зрабіла са здрадніка сьвятога.

Аднойчы ў беларускай Акадэміі навук збіраліся ўшанаваць памяць самых знакамітых дзеячаў старажытнасьці – паставіць стэлы. Абмеркаваньне кандыдатураў было, па дэмакратычным часе, адкрытае. Павесілі на дошцы даўгі спіс кандыдатаў на стэлу, і кожны з навукоўцаў вольны быў паставіць “плюс” альбо “мінус”.

Насупраць прозьвішча Сімяона Полацкага якісь максымаліст напісаў: “Здраднік. Перакінуўся на бок цара маскоўскага”.

Небарака Сімяон Полацкі заблукаў на мяжы канфэсіі ды Радзімы, ня ведаў, што галоўнае, але і ў сваёй “здрадзе” імкнуўся захаваць сумленнасьць. Спрабаваў перарабіць маскоўскага Навуходаносара на цывілізаванага эўрапейскага манарха, але не атрымалася. Сімяон Полацкі стаўся для Масковіі культуртрэгерам, навучыў маскоўцаў складаць вершы, падараваў ім першы літаратурны стыль (барока), але ягоных высілкаў не ацанілі як сьлед ані тутэйшыя, ані тамтэйшыя. Добра, што яшчэ на палю не пасадзілі.

Падчас кампаніі Напалеона Банапарта ў Беларусі пачалася суцэльная здрада – мяшчане віталі супастата хлебам ды сольлю, а шляхта запісвалася ў напалеонаўскія харугвы, каб разам ваяваць Маскву. Як быццам вярнуліся часы Альгерда.

Кастусь Каліноўскі вызваляў “дзецюкоў”, “братоў сваіх, мужыкоў родных” ад няволі, а тыя браты адлоўлівалі ды здавалі каліноўцаў царскім жандарам за тое, што “хаваюць ад народу царскую волю”.

XX ст. было росквітам здрады, тут і кветачкі цвілі, “зялёны ліст, чырвоны цьвет”, і ягадкі крывавыя сьпелі. На нашым матэрыяле можна складаць анталёгію здрадніцтва.

У лябірынце здрады можна заблукаць. Асабліва калі глядзець на матывацыі ды ўчынкі асобаў ды ўсёй грамады не праз нейкую ідэалягему ці маральную максыму, а праз агульнапрыняты (адмоўны) вобраз здрады.

Беларусь прадалі падчас падпісаньня Берасьцейскага ды Рыжскага пагадненьняў, прычым нават дывідэндамі не падзяліліся.

У 1930-я гады беларускія літаратары навучыліся здраджваць адзін аднаму. Рабілася гэта адкрыта і пакрыёма. Купала ў “Зьвяздзе” выракаўся былых

сяброў-“нашаніўцаў”, Кандрат Крапіва ва “Узвышшы” – “няправільных” правых “узвышэнцаў”. Бэндэ, Кучар і яшчэ цэлая плойма аўтараў прафэсійна займаліся зьнішчэньнем літаратараў праз крытыку і даносы.

Выпрацоўваўся адмысловы тып пісьменьніцкага двудушша, які невядома як вызначыць – амаралізм ці проста тутэйшы спосаб літаратурнае экзыстэнцыі.

“Пачакай! Пашкадуй сябе і свой народ! – не вытрымлівае мая чуйная знаёмая. – Хіба ж вы унікумы? У гісторыі кожнага народу можна знайсьці безьліч крывавых і ганебных плямаў!”

А я пра што кажу?! Нашто ж нас адных судзіць так строга і абвяшчаць увесь край здрадніцкім?

Тут яна ажыўляецца: “Вось-вось! Дык чаму падчас вайны сярод вас было столькі калябарантаў?”

За часамі Другой сусьветнай вайны Беларусь, як ня раз ужо здаралася, была закінутая ў тыл акупантаў. Знайшліся тыя, што ня беглі са зброяй у лясы, сеялі жыта, кармілі сям’ю, вучылі дзяцей, выдавалі газеты, пісалі вершы, былі выгнаныя на працу ў Нямеччыну. Іх абвяшчалі найчасьцей калябарантамі. Расейскія гісторыкі ўжо спрабуюць апраўдаць генэрала Уласава, а ў нас па-ранейшаму поўна “калябарантаў”.

Беларус у чорную гадзіну часта кіраваўся індыйскай мудрасьцю: “Лепей жывы сабака, чымся здохлы леў”. Гэта дапамагала яму выжыць.

У горшыя часы мы выправаджвалі аднаго ўладара, каб замяніць яго новым. Пакрыўджаныя ўладары маглі назваць гэта здрадаю. Яны прапаноўвалі нам саюзы, уніі, выгадныя ўмовы анексіі. А потым крыўдавалі, што беларусы гэтых умоваў не прымалі.

“Мы заўсёды былі пад кімсьці”, – кажа калега А. “Мы заўсёды былі ў нейкай уніі або саюзе”, – кажа калега Б.

“Можа, цяпер ганарары будуць большыя”, – уздыхае калега В.

Праўда. Мы былі пад кімсьці, каб з-пад яго пасьля вылузацца. І ў саюзы ўступалі, каб пасьля зь іх выходзіць. Гэта і лічылася здрадай. Падманулі давер.

Навошта ж было верыць? Ня верылі б – і здрады не было б аніякай.

Ёсьць пакрыўджаныя на нас, што “здрадзілі”, а мы гэтай крыўды як бы і ня чуем, а на крыўдлівых ваду возяць. Паверылі ў нас, пасьля зьняверыліся – ня трэба было верыць.

Тое, што называюць “здрадай”, выглядае сумай розных матывацыяў, учынкаў ды іх наступстваў. Здрада – таямнічая, закрытая камера – абскура. Яна ж – і зьмесьціва гэтай камеры, таямнічае, няўлоўнае рэчыва.

Яно можа рассыпацца на першасныя матывацыі, на элемэнтарныя рэфлексы і пачуцьці, і тады здрады ня стане. Яна можа перарасьці ў сваю процілегласьць, і тады яе таксама ня стане.

Мы не апраўдваем здраду, але шукаем яе матывацыю. Здрада – зброя слабога. Гісторыя пра меншага брата вядомая яшчэ ў Эгіпце старажытным. Беларусаў прывучылі выконваць ролю меншых братоў пры моцных суседзях, хаця па ўзросьце яны старэйшыя. І на гэтую ролю мы ўнутрана не згадзіліся.

“Вы кепскія саюзьнікі і пры нагодзе можаце здаць, – працягвае мая крыху разгубленая знаёмая. – А ў чым вы добрыя?”

Адказваю, хоць гэтыя адказы пададуцца камусь стэрэатыпнымі. Беларус – добры сусед для тых, хто паважае ягонае “тут”. Ён надзейны сябра для тых, хто паважае ў ім яго самога, а не прыдуманага кімсь. Ён адда-

ны саратнік, калі адстойвае разам зь іншымі свае “тут” і “ёсьць”, а не чужыя прыхамаці. У эканоміцы ён надзейны партнёр, і – ідэальны працаўнік. Толькі не рабіце зь яго служку, не абуджайце ў ім застарэлы комплекс служэньня, зь якога вырастае жаданьне здаць часовага гаспадара. Нашыя жанчыны – гарэзьлівыя і незалежныя, зьменлівыя, але не здрадлівыя. Нашы мужчыны гнуткія ў экзыстэнцыйным выбары, але пасьлядоўныя ў анталягічных памкненьнях (выжыць, выстаяць, пратрымацца, ацалець, самазахавацца насуперак усяму). У каханьні яны…

“Не сьпяшайся пра гэта, – кажа мая знаёмая, – пасьля паглядзім”.

## Людзі на балоце

“Балота, – са скрухаю кажа мая госьця, – ці ж ня ёсьць вы балотная нацыя?”

Ад беларускіх памежжаў цякуць у процілеглых кірунках рэкі. “Сіняя-сіняя” – сказаў пра нашу краіну Уладзімір Караткевіч. А другі клясык, Іван Мележ, беларускі народ назваў “Людзі на балоце”. Сіняя ад безьлічы крыніцаў і рэчак, азёраў ды балотаў зь іх павольнай, маларухомай вадой.

Вада – захавальніца і правадніца энэргіі ў кожным фізычным целе.

Абкружаны вадой, рэкамі, азёрамі ды багнай, беларус настальгаваў па трывалай зямлі, і шэдэўры нашай літаратуры – паэма Якуба Коласа “Новая зямля”, “Палеская хроніка” Мележа – увабралі ў сябе гэтую адвечную прагу беларуса.

Літаратура міталягізавала беларуса, які марыць пра зямлю больш, чым пра нявесту, і рэальны беларус сёньняшняга дня таксама здатны зьдзіўляць сваёй геафіліяй або геаманіяй. Бадай што і бульбаманіяй.

Чароды “Мерседэсаў”, “Аўдзі” і “Гальфоў”, што шнуруюць у дачныя сезоны паміж вёскай і горадам, ня сьведчаць, што беларусы апанаваныя голадам. Гэта сьведчаньне неспатоленага голаду духоўнага, настальгіі аб “сваім”. Беларусу важна, каб на стале ў яго было сваё – “свая цыбулька, свой часнок”.

Беларус – дзіця плённага шлюбу зямлі і вады. Зямля, на якой ён стаіць, нагадвае яму пра тое, што ён **тут**, а вада, якая спрабуе вымыць зямлю з-пад ягоных ног, кажа пра тое, што ён **ёсьць** і будзе. Заўжды, як гэтая рака часу.

Тут, на гэтай вільготнай зямлі, шмат што нараджалася, але непрыкметна, нягучна. Балота – ня мора, каб бушаваць і бурапеніць. Беларус жыве настальгіяй па страчаным калісь моры – мільёны гадоў таму яно плёскалася каля паўднёвых берагоў нашае зямлі, а пасьля зьнікла, пакінуўшы карысныя выкапні і аграмаднае Пінскае балота. Якое, дарэчы, Гэрадот зблытаў з морам, і адсюль пайшло – “мора Гэрадота”.

На берагах Гэрадотавага мора рэвалюцыі адбываюцца бязгучна і мляўка.

Мы з маскоўскай госьцяй стаім на гаўбцы маёй кватэры, разглядаем наваколье і гаворым пра беларускую палітычную гісторыю. “Чаму ў вас не было сваіх дысідэнтаў? – дапытваецца мая прыяцелька. – Што рабіла вашая творчая інтэлігенцыя, калі Салжаніцын і Вайновіч зьяжджалі на Захад?”

Я жыву ў мікрараёне, які праглынуў некалі прылеглую да Мінска вёску. Ад вёскі засталася толькі назва –

Уручча – і падземнае возера ад асушаных калісь ручаёў. Аднойчы вада выйшла на паверхню. Возера засыпалі жвірам і пабудавалі на ягоным месцы аўтастаянку.

“Зірні вунь туды”, – паказваю я ў бок Маскоўскае шашы. Там, за асфальтавай ракой, утварылася новае возера. Месяц таму яно было мёртвае, а сёньня ўжо качкі на ім гняздуюць, жабы крумкаюць і дзеці плаваюць у начоўках ды ловяць калючак.

Так і зь беларускім духам. Яго засыпаюць жвірам, заганяюць у падземныя лябірынты, і ніхто ня ведае, дзе ён паўстане далей. Ён неўміручы, як гэтая блукаючая вада.

Дысідэнты і палітычныя эмігранты ў нас былі і ёсьць, як і ў кожнай нацыі. Але не абавязкова яны, тутэйшыя, зьяжджалі ў іншыя краіны – яны сыходзілі ва ўнутраную эміграцыю. Нашы паэты маўчалі гадамі, а мова – дзесяцігодзьдзямі. Беларусы пабудавалі для свайго духу схоў – падземны лябірынт, а суседзі пра іх існаваньне згадвалі толькі тады, калі беларусы выходзілі з лябірынту. Пакрыёмнага існаваньня амаль ніхто не заўважаў.

І таму ня варта дзівіцца, што мы ўсё-ткі ёсьць. На гэтай крыжаванай зямлі на працягу апошніх пяці стагодзьдзяў гіне то кожны другі, то кожны трэці, чацьверты. Чарнобыль пасыпаў радыяцыйным попелам галовы тутэйшых. Неаднойчы ў нашае гісторыі здавалася, што колькасьць людзкіх стратаў пераваліла крытычную масу, і пасьля такога адрадзіцца ўжо немагчыма. Наўрад ці які яшчэ з эўрапейскіх народаў перажыў бы і ацалеў пасьля такога бязьлітаснага вынішчэньня.

А мы сабе сеем і сеем
Пшаніцу і радасьць і кветкі;

Ачышчаным сеем насеньнем
Шчасьлівыя нашы палеткі...

– пісаў Купала ў страшным 1938 г., калі творчая інтэлігенцыя была практычна вынішчаная.

Ня першы раз заўважаецца, што беларуская мэнтальнасьць хавае ў сабе архетып багны, дрыгвы. Рызыкоўна выпрабоўваць вонкава спакойную, непрадказальную стыхію.

Варта ведаць адну ўласьцівасьць балота: на ім немагчыма што-небудзь трывалае збудаваць. Але і дарэшты разбурыць немагчыма.

Энэргія Гэрадотавага мора можа сплысьці ў нетры Палесся, прыхавацца, як нячутна хаваецца ва ўласным панцыры палеская дрыгвяная чарапаха. Праз нашу літаратуру, як праз ракавіну, чуцён пошум памерлага мора. Але яно нагадвае пра сябе – і ня толькі ў літаратуры.

Як ціха, амаль незаўважна пачыналася вялікая дзея ў дамку па-над Сьвіслаччу ў 1898 г., дзе на першы свой зьезд сабраліся расейскія сацыял-дэмакраты! Аж пакуль па ўсіх абшарах Расейскай імпэрыі і далей не разьлілася “такая чырвоная паводка... такая, меджду протчым, паводка, аб якой не снілася ні Фараону, ні Саламону” (Я. Купала, “Тутэйшыя”).

Каб праз стагодзьдзе зноў ціха суняцца дзе-небудзь у гушчарах Белавежскае пушчы.

Але багна бывае і проста прыгожай. Толькі сьляпы не ацэніць хараства смарагдавых імхоў, з якіх паказваюцца, бы кроплі крыві, буйныя ягады журавіны. Калі-небудзь мая маскоўская знаёмая прасякнецца дзівосным хараством беларускіх балотаў.

## Беларус сярод іншых

“Чаму вы нас ня любіце?” – гняўліва спытала мая знаёмая пасьля таго, як мы пасварыліся з-за фільма “Сібірскі цырульнік”, які яна ўпадабала, а я не.

Як непрэтэнцыёзная нацыя беларусы не клапоцяцца, каб іх дужа любілі. Мы ж не амэрыканцы і не расейцы, для якіх чужая любоў жыцьцёва неабходная. Беларусу больш актуальна, каб яго не чапалі. Няма ў беларуса і вялікай любові да якога-небудзь іншага народу ці нацыі.

Адпаведна ў беларусаў няма грунтоўнай нянавісьці да іншых народаў. Марная справа культываваць сярод беларусаў антысэмітызм або зьвярыны нацыяналізм. Як і ўвогуле прышчапіць ім чужую ідэю. У маёй краіне хапае пракорокаў, тутэйшых і прышлых, якія прапаведуюць чужыя майму народу ідэі і твораць на кожным кроку Брахалку, але душа беларуса на гэтыя заклікі не адгукаецца.

Беларус будзе пагаджацца з усім, што вы яму скажаце, махаць галавой, але сам у гэты час будзе думаць пра другое, а рабіць трэцяе. Адсюль пэўная немажлівасьць (да нядаўняга часу) беларускага месіянізму.

Беларус ня можа ненавідзець іншыя народы, але ў штурханіне, барацьбе за месца пад сонцам ёсьць у яго свая стратэгія.

“Беларус, дзе трэба, крэпкім словам, што бізуном, дасьць...” – казаў пра наш нораў пісьменьнік Максім Гарэцкі. Але рэдка беларусы той бізун уздымаюць. Пра сваіх суседзяў – палякаў, расейцаў, украінцаў, габрэяў, цыганоў – кажуць найчасьцей жартам. Пацьвельваюцца.

Пацьвельваньне – мяккая, гуманная, ачышчальная тэрапія сьмехам. Беларус не жадае ліха сваім суседзям, калі іранізуе зь іх. Нехта можа і пакрыўдзіцца на іх нязлосныя показкі. Але апраўдвае беларусаў тое, што найболей ахвотна і дасьціпна яны пацьвельваюцца з саміх сябе.

Практыка самаіроніі – гэта памахваньне, ківаньне, гульня бізуном. Удару няма. Шкадуючы іншых, няўжо беларус будзе сьцябаць самога сябе?

Сьмех мае ўласьцівасьці памяншальнага шкла.

– А за Гомлем людзі ё? – пытаецца адзін беларус у другога.

– Ё. Толькі дробненькіё, – адгукаецца другі.

У сьвятле сьмеху мізарнеюць ня толькі рэчы, але і сур'ёзныя заганы.

Якія якасьці беларусы самі ў сабе высьмейваюць?

Тыя, што нам прыпісваюць. Правінцыялізм, вясковасьць, ксэнафобію, звышцярплівасьць, звышпамяркоўнасьць, здрадлівасьць.

Самаіронія беларусаў – папераджальны захад супраць нянавісьці. Мы сьмяемся з тых міталягемаў, якімі нас надзяляюць, і прымушаем іншых сьмяяцца, а не ненавідзець.

Пацьвельваньне хавае ад чужога вока ўласную няёмкасьць. Сорам ператвараецца ў браваду.

У XIX ст. невядомы аўтар склаў першаванае апавяданьне "Тэатар", герой якога, безыменны селянін, у самаіранічных фарбах распавёў пра сустрэчу з Мэльпаменай. Ён выгадна прадаў дровы, купіў жонцы хустку, сыну нагавіцы, сабе тытуню і вырашыў павесяліцца. Убіўся ў тэатар, купіў квіт, залез на галёрку, зняў лапці, анучы і разьвесіў сушыцца. Яму здавалася, што прыго-

жая, хаця і худаватая актрыса глядзіць толькі на яго. Калі грымнулі воплескі і на сцэну пасыпаліся кветкі, герой шпурнуў актрысе сваю ахвяру – люльку з гарачым пяплом, пасьля наважыўся кінуць лапаць, але яго схапілі пад пахі паліцыянты. У кутузцы герою спадабалася яшчэ больш, бо яму выдалі тры хвунты белага хлеба, якога ён ніколі ў жыцьці не каштаваў. Потым ён гэтым хлебам частаваў у вёсцы дзевак.

Наіўнасьць героя, ясна, удаваная. Ён як бы запрашае: ну, ведама, мужык – дурны, як варона, дык сьмейцеся, шаноўныя, абы пасьля ня плакалі.

Самаіронія для беларуса – панцыр, у які ён хавае свае комплексы і таямніцы.

Пацьвельваньне – інтэлектуальная тэхніка, гульня шкляных пацеркаў, рызыкоўная, але вартая перайманьня, высокае майстэрства, вынаходлівая містыфікацыя. Шэдэўры нашага пісьменства – “Прамова Мялешкі”, “Ліст да Абуховіча”, “Энеіда навыварат”, “Тарас на Парнасе”, “Панскае ігрышча” – сьведчаць пра тое, што беларусы валодалі гэтай тэхнікай здаўна.

Сур’ёзным і закамплексаваным на сваёй сур’ёзнасьці народам ёсьць чаму ў беларусаў павучыцца.

То ж бо ад сьмешнага да вялікага таксама адзін крок.

## Адносіны да хваробы і сьмерці

Мая госьця аднойчы ўзлавалася на мяне за нешта і шпурнула ў мяне кактус. Сама пакалолася і мяне пакалола. Адразу пабегла ў паліклініку рабіць прышчэпку ад слупняку, бо ў Амэрыцы, дзе яна пражыла

колькі часу, усе так робяць. З-за гэтага інцыдэнту ў нас адбылася гаворка пра адносіны беларуса да хваробы і сьмерці.

Закрытасьць і эзатэрыка прысутнічаюць і тут.

Беларус хварэе, як і кожны чалавек. Цярплівасьць, якую часам перабольшвалі, праяўляецца тут напоўніцу. Беларус вытрымае любую хваробу і любы боль. Я ведаў некалькі старых беларусаў, якія памерлі, ня ведаючы, што хворыя на рак лёгкіх.

Яшчэ ў беларусе жывуць спрадвечныя недавер і страх перад Лекарам.

Я лекар, глаўны аптэкар,
Умею лячыць,
Кроў мячыць,
Корпію ўстаўляць,
Жывых людзей на той сьвет адпраўляць:
Ка мне вядуць на нагах,
А ад мяне вязуць на санях,

– самарэкламуецца Лекар з батлейкі (народнага лялечнага тэатру).

Лекар ва ўяўленьні беларуса – гэта тутэйшы Харон, які перапраўляе людзей у апраметную і ніколі – адтуль. Беларус як істота інтравертная ня любіць, каб хтосьці корпаўся ў ягоных шлунках. Зьвязвацца зь Лекарам азначае тое ж, што хаўрусаваць са Сьмерцю.

Таму беларус, калі яго апаноўвае немач, схільны без староннняй дапамогі ачуньваць або ісьці да Абрама на піва саматугам.

Беларусы лечацца і паміраюць паасобку. Да апошняга моманту іх не пакідае надзея: можа, як-небудзь

рассасецца? І няма ў традыцыйнага беларуса такой звычкі – паміраць у калектыве. Кожны імкнецца зрабіць гэта ціха, бязь лішніх сьведкаў.

Калі ў Беларусі пабудавалі больніцы, людзі запоўнілі іх неахвотна. І ня дзеля таго, каб лячыцца. А для таго, каб, як той казаў, у іх “ляжаць”. Хаця насамрэч беларусы ў больніцах не ляжаць. Яны ў іх сноўдаюцца, поўзаюць, цягаюцца, мадзеюць, чаўрэюць, але не ляжаць. Няма ў нас такой мэнтальнае рысы – ахвоты да ляжаньня. У Беларусі Ільля Мурамец не праляжаў бы і трох дзён, бо яго сьцягнулі бы з печы.

Прагматычныя беларусы вырашаюць у больніцах тыя праблемы, якія яны ня могуць вырашыць на волі. Больніца – месца, дзе можна прабавіць час узімку, калі працы няма, пракачацца, наглядзецца сэрыялаў, каб аж уваччу пазелянела. Улетку больніцы напаўпустыя. Беларусам улетку няма калі хварэць ды паміраць.

У больніцах як нідзе беларусы выяўляюць свае мэнтальныя рысы: цярплівасьць ды законапаслухмянасьць.

Прыгадваю, зь якой пакораю прымалі пацыенты самае балеснае, што ёсьць у больніцы: уколы ў вочы. Сам, атрымаўшы іх з тузін, засьведчу: пасьля такога радуешся кожнай хвіліне, пражытай  без уколаў.

Дысцыплінаванасьць хворага беларуса паказаў пісьменьнік  Ядвігін Ш. у аповедзе “З бальнічнага жыцьця”. Пацыент № 17 марудна канае, і нецярплівы наглядчык, не дачакаўшы ягонай сьмерці, запісвае ў кніжцы: “Памёр у 9 гадзін вечара”. “Як увесь свой нядоўгі век быў паслухмяны Сымон, так і ў гадзіну свайго кананьня стаўся паслухмяным начальству: у дзевяць сканаў”, – піша аўтар.

Больніца прышчапіла беларусам кепскую звычку: хадзіць шоргаючы ды ўгнуўшыся.

Часам думаю, што ўсе хваробы пайшлі ад гэтай звычкі – існаваць угнуўшыся ды шоргаючы. Не абмінулі гэтае хваробы многія народы, у тым ліку і мы, грэшныя. Праходзіць час, і людзі выпростваюцца, паколькі кожнай хваробе пакладзены канец. Беларусы ж паводле мэнтальнасьці настроеныя на неўміручасьць, бо яны, як кажа філёзаф Валянцін Акудовіч, абраныя вечнасьцю.

## “Што-та будзе цяпер?”

Такое пытаньне сёньня задаваў і задае кожны, хто думае пра Беларусь. Самі беларусы пераважна маўчаць. Альбо адказваюць, як мудры Купала вуснамі сваіх хітраватых палешукоў з паэмы “Над ракой Арэсай”:

Што-та будзе тут цяпер?
“Нічога ня будзе!” –
Хітра думалі ў чацвер
Палескія людзі.

Гэта адказ і тым, хто ўпотай спадзяецца на зьнікненьне з эўрапейскай карты гэтай краіны, асіміляцыю яе народу. І хто шчыра спачувае гэтаму народу і трывожыцца за яго лёс.

“Не загіне краю родны”, “чарнобылем не зарасьце”, як казалі тутэйшыя паэты, бо край гэты асуджаны на неўміручасьць, прынамсі, да тае пары, пакуль “не пагаснуць зоры ў небе”.

Ня зьнікне беларуская мова, пра паміраньне якой казалі дзясяткі і сотні гадоў таму, а яна жыла, насуперак усім законам, паводле якіх нараджаюцца і паміраюць мовы.

Але ў гэтай краіне, пад вонкава спакойнай паверхняй яе быцьця, адбываюцца новыя таемныя зьмены, якія закранаюць душу беларуса.

Беларусы ў XXI ст., у кампутарнай і глябалізаванай цывілізацыі – ня зломкі і не ізгоі. Яны таксама хочуць жыць, як усе людзі паспалітыя, і цярэбяць да годнага жыцьця свой адмысловы шлях. Прыжыцца ў новых варунках рэальнаму беларусу дапамагаюць такія яго прыроджаныя якасьці, як цягавітасьць, прагматызм, жывучасьць, эўрыстычнасьць мысьленьня, пакрыёмнасьць існаваньня.

Апошняя якасьць нібыта перашкаджае беларусу раскручвацца як гандляру або творцу, але посьпехі нашых дзялкоў і мастакоў перакульваюць і гэты стэрэатып.

Беларус рэальны адмаўляецца ад забабонаў і падкрэсьленай сьціпласьці, хаця ў глыбінях душы захоўвае якуюсь таямніцу.

Учэпістасьць новага беларуса дапамагае яму рабіць бізнэс нават там, дзе мала хто зрабіў бы. Прыкладам, на літаратуры.

Мы з маёй госьцяй, вялікай аматаркай чытаньня, спыняемся каля кніжнага развалу, дзе ў каляровых вокладках прадаюцца чарговыя працягі прыгодаў славутай Скарлет, выкананыя тутэйшымі стылізатарамі, якія схаваліся пад амэрыканскімі жаночымі прозьвішчамі, і набывае чарговы том: “Скарлет і каўбой”.

“Ты ж адукаваная жанчына. Навошта табе гэтая падробка?” – пытаюся я. “Адчапіся. Ведаю, што

падробка. Але мне ўсё адно цікава", – кажа мая маскоўская знаёмая.

"Дарэчы, пра літаратуру. Дзе вашы Нобэлеўскія ляўрэаты?" – зьедліва пытаецца яна.

А яны ўжо выстраіліся ў доўгую чаргу, і, ведаючы беларускую настойлівасьць і вынаходлівасьць, можна меркаваць, што ляўрэаты будуць.

У галаве новага беларуса няспынна варацца дасьціпныя палітычныя, бізнэсовыя і творчыя праекты, і гэта карэктуе яго базавыя якасьці.

Беларусы зьмяняюць абалонку свайго зямнога быцьця, абнаўляюць сьцены свайго дома. Манія абнаўленьня, адбудовы дамоў, кварталаў, дарог і ходнікаў апанавала сталіцу, вялікія і малыя гарады.

Экалягічны турызм. Гандаль пітной вадой. Прыбыткі за транзіт. Мноства іншых ідэяў, часам фантастычных, пракручваюцца ў гэтай абноўленай сьвядомасьці, і я не гарантую, што ў псыхалёгіі новага беларуса не запануе тое, чаго не было раней, – месіянізм.

Беларусы маглі б выконваць місію пасярэдніка паміж Усходам і Захадам. Тое, чым яны займаліся пакрыёма, цішком яшчэ за часамі Скарыны і Сімяона Полацкага, неўзабаве можа ажыцьцяўляцца маніфэстацыйна.

Гэтаксама як і дзяліцца таямніцамі нацыянальнага выжываньня ў самых неспрыяльных геапалітычных варунках. Нэгатыўны досьвед сваёй гісторыі беларус можа абярнуць у пазытыў.

Беларусы застаюцца гобітамі эўрапейскага лесу, але якраз цяпер ад іх варта чакаць чагось цалкам непрадказальнага.

# А. ЛУКАШЭНКА – ПАРТРЭТ УЛАДЫ І ЧАЛАВЕКА

**Алесь Анціпенка**
**Валер Булгакаў**

Яшчэ ня так даўно Беларусь была фарпостам савецкай сыстэмы. У тыя часы, калі савецкае было найлепшым у сьвеце, дык усё найлепшае з савецкага было ў нас: станкі, рэфрыжэратары, трактары, бульба і кілбасы. А зь беларускім калгасным салам магло супернічаць адно што сала ўкраінскае. Карацей, на нашай тэрыторыі з найвялікшай сілай заманіфэсталіся тады як эканамічныя, так і палітычныя “перавагі сацыялізму”. Таму ня дзіва, што напрыканцы пэрыяду брэжнеўскага застою, калі выявіліся першыя знакі пагаршэньня эканамічнага стану, беларусы ня толькі іх заўважылі, але і першымі адчулі будучую драму “выгнаньня” з савецкага “раю”, выказаўшы наперад сваё шкадаваньне словамі беларускага клясыка: “няма таго, што раньш было”. А канец “раю”, як вядома, пакладзе распад Савецкай імпэрыі і абвяшчэньне Незалежнасьці Беларусі.

Параўнаньне найноўшых гісторыяў незалежных дзяржаваў на прасторах былога СССР паказвае, што савецкая мінуўшчына нідзе, акрамя Беларусі, ня выявілася ў якасьці чыньніка, які да такой ступені здольны быў уплываць на сацыяльныя працэсы раз-

будовы дзяржавы, канфігурацыю палітычнай улады, эканамічнае жыцьцё і сьвядомасьць людзей. А савецкая й постсавецкая мэнтальнасьць, зрэанімаваная ў першыя гады беларускай незалежнасьці праз цэлы комплекс праблемаў эканамічнага, палітычнага й культурніцкага характару, сталася пазьней адным з галоўных чыньнікаў паўставаньня аўтарытарнай сыстэмы ўлады.

## Глядзіце, – хто прыйшоў!

Як і ў іншых рэспубліках былога СССР, на Беларусі разгортваньне стратэгій, скіраваных на сувэрэнізацыю і ўмацаваньне незалежнасьці, адбывалася на тле *працэсаў распаду і эканамічнага пагаршэньня жыцьця*. Аднак на Беларусі гэтыя працэсы выявіліся з вынікамі найбольш заўважнымі для беларускага насельніцтва і з прычынаў, якія былі найменш для яго відавочныя.

Як вядома, самыя моцныя памкненьні да нацыянальнага сувэрэнітэту, дэкамунізацыі грамадзтва і выхаду з СССР належалі ў тыя часы не Расеі ці Беларусі, а балцкім краінам. Беларусы на выбарах у ВС БССР 3 сакавіка 1990 г. абіраюць камуністаў, якія здабываюць амаль 90 працэнтаў месцаў, а на ўсесаюзным рэфэрэндуме 1991 г. выказваюцца за захаваньне СССР.

Гэткім чынам, неабходна прызнаць, што ўсё тое, што мела месца на Беларусі пасьля ўсесаюзнага рэфэрэндуму, адбывалася калі ня супраць волі большасьці беларускага насельніцтва, дык, прынамсі, не зь яго падтрымкі і не зь яго ўсьвядомленага выбару.

Рэакцыя значнай колькасьці беларусаў на абвяшчэньне Незалежнасьці ў хуткім часе выявілася ў вы-

глядзе нэгатыўнай рэакцыі на распад СССР, а пагаршэньне эканамічнага становішча было вытлумачана як “разрыў эканамічных сувязяў з былымі савецкімі рэспублікамі”.

“Разрыў эканамічных сувязяў” як лёгка зразумелая прычына пагаршэньня эканамічнага стану і была фактычна першай праявай маргінальнай постсавецкай сьвядомасьці на Беларусі. Далейшы яе развой будзе адбывацца ў зьвязку з стратэгіямі, скіраванымі на сацыяльныя пераўтварэньні і сувэрэнізацыю краіны.

Фактычна гэтых стратэгій было дзьве: адну зь іх можна зьвязаць з пастацьцю былога старшыні Вярхоўнага Савету С. Шушкевіча (лібэральна-дэмакратычная постсавецкага ўзору) і нацыянальна-адраджэнская з элемэнтамі ідэалёгіі клясычнага нацыяналізму, якая паступова трансфармавалася ў накірунку нацыянал-дэмакратызму і якая ўвасаблялася ў дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту (БНФ).

Першая стратэгія вырозьнівалася сваёй “памяркоўнасьцю” ў дасягненьні мэтаў сувэрэнізацыі, беларусізацыі і пераадоленьні “радзімых плямаў сацыялізму ды камунізму”. У якасьці сродку дасягненьня гэтых мэтаў разглядалася “згода”, якая, аднак, неўпрыкмет з сродку ператваралася ў мэту разьвіцьця беларускага грамадзтва. Кульмінацыі гэты працэс дасягнуў тады, калі на пытаньне аб сваёй палітычнай камандзе былы старшыня ВС адказаў, што камандай зьяўляецца ўвесь Вярхоўны Савет, які ў той час, як ужо адзначалася вышэй, амаль што на 90 працэнтаў складаўся з камуністаў, большасьць зь якіх была прафэсійнымі намэнклятурнікамі.

Між тым па-за сьценамі ВС узрастала незадавальненьне ростам цэнаў і пагаршэньнем жыцьця, а

ўнутры ВС намэнклятурныя камуністы настальгічна імкнуліся да аднаўленьня “кіруючай і накіроўваючай ролі КПСС”. У атмасфэры ўсеагульнай напружанасьці “хапіла” “адной скрыні цьвікоў, украдзенай для дачы сп. Шушкевіча”, каб той страціў сваю пасаду.

На справе скрыня зь цьвікамі аказалася ня скрадзенай скрыняй, а міталягізаваным сымболем карупцыі, які валодаў магутнай эўрыстычнай і тлумачальнай сілай для маргінальнай й дэзарыентаванай сьвядомасьці пэўнай часткі беларускага насельніцтва.

Другая стратэгія, што разгортвалася амаль па ўсіх канонах ідэалёгіі клясычнага нацыяналізму, у параўнаньні зь першай выглядала занадта радыкальнай. Але гэты радыкалізм, замешаны на антыкамунізьме, на пачатку меў безумоўны посьпех. Бо палітычны маразм часоў застою быў відавочны нават для неадукаваных групаў беларускага насельніцтва. На тыя часы і прыпадае пік папулярнасьці лідэра БНФ Зянона Пазьняка. Аднак па меры пагаршэньня эканамічнай сытуацыі “камунізм” у постсавецкай сьвядомасьці адзьдзяляецца ад палітычнага маразму часоў застою, сталінскіх рэпрэсій і ўвасабляецца ў шэрагу формулаў, якія маюць характар канстатацый спажывецкіх перавагаў пры сацыялізьме. Пасьля зьліквідаваньня путчу ў Маскве (1993 г.) антыкамунізм губляе ўсялякае значэньне дзеля палітычнага яднаньня, і маргінальная постсавецкая сьвядомасьць пачынае набываць устойлівую арыентацыю да ўжо страчаных стандартаў спажываньня пры сацыялізме.

Таму ў ідэалёгіі БНФ адбываецца заўважны перанос акцэнтаў на іншыя сымбалі яднаньня: сымбаль нацыянальнага болю (Курапаты і Чарнобыль), сым-

баль нацыянальнай славы і доблесьці (Аршанская бітва), сымбалі гістарычнасьці беларускай нацыі і дзяржавы. Амаль што ўва ўсіх гэтых сымбалях прысутныя канатацыі антырасейскасьці і антыімпэрскасьці.

Антырасейскасьць у спалучэньні зь беларусізацыяй (адраджэньне беларускай мовы і культуры) на гэты раз натыкаюцца на зрусіфікаваную сьвядомасьць асыміляваных беларусаў і той часткі гарадзкога насельніцтва, якая ў выніку інтэнсыўнай мадэрнізацыі пасьля Другой сусьветнай вайны перасялілася ў гарады і мела памежную вяскова-гарадзкую сьвядомасьць. Хаця для гэтых груповак матывы непрыняцьця запрапанаваных палітычных арыентацыяў былі рознымі, напрыклад, для апошняй – гэта яшчэ не пераадолены комплекс правінцыйнасьці, які якраз і зьвязваецца зь “вясковай” (беларускай) мовай, агульным, аднак, выяўлялася тое, што антырасейскасьць і антыімпэрскасьць успрымаліся гэтымі групоўкамі як радыкальна пазначаны комплекс варожасьці.

Адзначым, што антырасейскія і антыімпэрскія настроі з той ці іншай ступеньню інтэнсыўнасьці выявіліся практычна ўва ўсіх незалежных краінах былога СССР, аднак даволі хутка, да прыкладу, у балтаў, трансфармаваліся ў пазытыўныя цьверджаньні сваёй уласнай незалежнасьці і арыентацыі на агульнаэўрапейскія сыстэмы бясьпекі і супрацоўніцтва.

На Беларусі антырасейскія настроі пэўнай часткі беларускага грамадзтва выклікалі адваротную рэакцыю: у маргінальнай постсавецкай сьвядомасьці яны зрэанімавалі комплекс савецкасьці, а ў найбольш зрусіфікаванай часткі беларускага насельніцтва — ком-

плекс гістарычна-культурнага расейскага шавінізму.

З усяго гэтага яшчэ да першых прэзыдэнцкіх выбараў на Беларусі ўжо фактычна склалася новая структура грамадзтва з шэрагам маргінальных груповак, бальшыня якіх мела на той час выразна прасавецкія, пракамуністычныя й прарасейскія арыентацыі. Іх стаўленьне да практычна ўсіх вядомых тады палітыкаў было адмоўным і, у першую чаргу, да ўраду Кебіча, бо менавіта пры Кебічу падзеньне ўзроўню жыцьця набыло катастрафічны характар.

Аднак да саміх выбараў ні палітычны патэнцыял гэтых новых груповак, ні іхныя электаральныя магчымасьці не былі відавочнымі. Тое, што будучы прэзыдэнт Беларусі ў якасьці аб’екта свайго палітычнага ўплыву абраў менавіта іх, выявілася пазьней.

Хаця ягоны выбар, безумоўна, ня быў рацыянальна-ўсьвядомлены, аднак ключавыя словы ўзьдзеяньня (“карупцыя”, “круцялі”, “укралі ўсё”) былі падабраныя яшчэ да прэзыдэнцкай кампаніі. Тлумачальныя “мадэлі” кшталту “развалілі Саюз”, “парвалі ўсе сувязі” ў спалучэньні з абяцаньнямі “запусьціць заводы” і спыніць рост цэнаў ня толькі лёгка і даходліва тлумачылі “простым людзям” іхнае становішча, але і мабілізавалі маргінальную постсавецкую сьвядомасьць.

Вынікі першых прэзыдэнцкіх выбараў якраз і пацьвярджаюць той факт, што маргінальная постсавецкая сьвядомасьць аніякіх іншых тлумачэньняў і не чакала. Найбольшую актыўнасьць выбаршчыкі праявілі ўва ўсходніх рэгіёнах Беларусі і шэрагу раёнаў Берасьцейскай вобласьці, такіх як Ганцавіцкі, Драгічынскі, Камянецкі, Кобрынскі, Лунінецкі і Пінскі, і менавіта

ў гэтых раёнах Беларусі прэзыдэнт Лукашэнка набраў найбольшую колькасьць галасоў на сваю карысьць (адпаведна паміж 60% і 53,47%).

Названыя вынікі нельга растлумачыць толькі зямляцкімі пачуцьцямі, бо яны выявіліся ня толькі ў Магілёўскай вобласьці, а былі зафіксаваны таксама ў іншых усходніх абласьцёх Беларусі і на Берасьцейшчыне, а менавіта ў тых рэгіёнах краіны, дзе беларуская нацыянальная ідэнтычнасьць найбольш размытая (маргінальная беларуска-расейская сьвядомасьць ува ўсходніх абласьцёх і маргінальная беларуска-ўкраінская сьвядомасьць у названых раёнах Берасьцейскага краю).

У Менску найбольшы працэнт галасоў за Лукашэнку быў пададзены ў так званых прамысловых і “новых” раёнах, дзе асноўную колькасьць жыхароў складаюць рабочыя і службоўцы зь ліку вясковых мігрантаў, гэта значыць людзі з маргінальнай гарадзкой сьвядомасьцю.

Аналіз вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў па канфэсійнай альбо квазіканфэсійнай прыкмеце (квазіканфэсійнай, г.зн. калі людзі не зьяўляюцца вернікамі, але схіляюцца да той ці іншай канфэсіі) паказвае, што ў традыцыйна каталіцкіх раёнах Беларусі працэнт “за” Лукашэнку быў найменшы, а на так званай “кананічнай тэрыторыі Расейскай праваслаўнай царквы” — найбольшы і менавіта ня толькі сярод вернікаў, але і тых, хто мае праваслаўна-канфэсійную прыхільнасьць.

Да таго ж трэба дадаць, што ўсе гэтыя групоўкі мелі маргінальную савецкую альбо постсавецкую сьвядомасьць.

Гэткім чынам, тагачасны электарат *пераможцаў* можна аб'яднаць у дзьве катэгорыі — "савецкія беларусы" і "праваслаўныя атэісты". На першых прэзыдэнцкіх выбарах яны ўпершыню канстытуалізаваліся як самастойная палітычная сіла. А выказьнікам і кансалідантам гэтай сілы быў малады й малавядомы на той час дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

Парадаксальна, але ў выніку сапраўды дэмакратычных выбараў у Беларусі адбылася рэанімацыя савецкай мэнтальнасьці. Задавальненьне вынікамі выбараў з боку "народу" і прэзыдэнта было найвышэйшым. "Мяне абраў самы мудры народ на нашай плянэце", – заявіў Аляксандр Лукашэнка неўзабаве пасьля свайго абраньня.

## Back in the USSR

Кірунак руху краіны быў перадвызначаны: "назад у СССР". Адпаведным яму мусіла трансфармавацца й сыстэма палітычнай улады, шлях да якой быў пракладзены праз два агульнанацыянальныя рэфэрэндумы.

Рэфэрэндум 1995 г. быў сапраўдным трыюмфам савецкай і постімпэрскай (русыфікаванай) мэнтальнасьці: ненавісная беларуская мова ("самі яшчэ зусім нядаўна з калгасу: навошта яна нам?!"), ненавісны бел-чырвона-белы сьцяг ("фашысты і паліцыянты забівалі пад ім савецкіх патрыётаў") былі літаральна спляжаныя паўсталымі маргіналамі. "Трэба ўвесьці назад нашыя савецкія сымбалі" — такі быў практычны "наказ".

"Мы толькі і марым пра аднаўленьне СССР, а таму — за інтэграцыю з Расеяй" — такі быў другі рэ-

альны, і насьпелы яшчэ задоўга да самога рэфэрэндуму, адказ напытаньне аб інтэграцыі.

Кансультавацца наконт датэрміновага прыпыненьня прэзыдэнтам паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету не было патрэбы. — “А навошта? Мы і без кансультацый супраць гэтых дзярмакратаў!”

Другі рэфэрэндум быў працягам першага. З прычыны сфальсыфікаванасьці ягоных вынікаў мы ня будзем апэраваць лічбамі, а перадамо толькі агульны сэнс некаторых запраграмаваных адказаў.

Адказ на першае пытаньне рэфэрэндуму 1996 г. аб пераносе Дню дзяржаўнай Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь на 47 год раней (на дзень вызваленьня Менску ад нямецкіх захопнікаў) ад даты яе сапраўднага абвяшчэньня (25 жніўня 1991 г.) быў для маргінальнай сьвядомасьці актам сакральнага ўваскрашэньня савецкага мінуляга і рытуальна-сымбалічнага ўваходжаньня “праваслаўных атэістаў” у страчаны рай.

Спраўджваньне гэтага акту адбывалася праз трэцяе пытаньне аб куплі-продажу зямлі: для жадаючых набыць яе проста так дзьверы з “савецкага раю” нашчыльна зачыняліся (большасьць удзельнікаў рэфэрэндуму выказалася супраць куплі-продажу).

Астатнія адказы на пытаньні сьцьвярджалі традыцыйны характар “савецкага раю” — дыктатарскі і аўтарытарны. У выніку другога рэфэрэндуму была зьменена Канстытуцыя РБ, якая падоўжыла тэрмін прэзыдэнцтва А. Лукашэнкі й надала яму практычна неабмежаваныя паўнамоцтвы.

“Я свой народ за цывілізаваным сьветам не павяду”, – упэўнена заявіў А. Лукашэнка, падсумоўваючы свае перамогі. Адзіным заставаўся шлях у Расею.

**Алесь Анціпенка**
**Валер Булгакаў**

# Посткаляніяльныя гульні, альбо Беларуска-расейская інтэграцыя

Неабходна прызнаць, што абодва агульнанацыянальныя рэфэрэндумы мелі для новых беларускіх уладаў ня толькі сымбалічны, але й выразна прагматычны сэнс. Па-першае, яны адкладвалі на нявызначаны тэрмін правядзеньне сыстэмных дэмакратычных рэформаў у краіне. Па-другое, нэўтралізоўвалі празаходнюю дэмакратычную апазыцыю ў краіне. І, па-трэцяе, зьяўляліся для траўматызаванай і дэзарыентаванай распадам СССР грамадзкай сьвядомасьці своеасаблівым антыдотам ці тэрапэўтычным сродкам, што супакойваў настальгічныя пачуцьці значнай часткі беларускага насельніцтва.

Зьяўленьне Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў якасьці інтэгратара на расейскай палітычнай сцэне ў хуткім часе прынесла дадатковыя дывідэнды, а менавіта – адкрыла шлях да танных расейскіх энэргарэсурсаў, сыравіны і рынкаў збыту беларускіх тавараў. І ўжо ў 1996 г. беларускія ўлады пачынаюць гаварыць пра “беларускі эканамічны цуд”. “Цуд”, сапраўды, меў месца, але ягоная прырода была не эканамічная, а постімпэрская й посткаляніяльная. Бо танны газ і нафту беларускі бок фактычна атрымліваў у абмен на інтэграцыйныя пацалункі і абдымкі.

Дасягненьні тагачаснай інтэграцыйнай палітыкі А. Лукашэнкі напраўду ўражваюць. Першым яе посьпехам сталася сьпісаньне расейскім бокам беларускага доўгу ў памеры 1,6 млрд даляраў ЗША. А штогадовыя датацыі беларускай эканоміцы за кошт танных газу й нафты складалі, паводле ацэнак расейскіх эканамістаў, ад 500 млн да 2 млрд даляраў ЗША.

Тое не было б мажлівым, калі б інтэграцыйныя ініцыятывы беларускага боку не супалі з падобнымі ж (як і ў Беларусі) працэсамі, што адбываліся ў расейскім грамадзтве, якое перажывала на той час крызыс сваёй уласнай ідэнтычнасьці. Узмоцнены фактычнай паразай Расеі ў першай чачэнскай вайне й ельцынаўскай дэцэнтралізацыяй шматнацыянальнай краіны (“няхай кожны суб'ект фэдэрацыі бярэ ўлады столькі, колькі зможа”), гэты крызыс выявіўся ў вострай і балючай форме постімпэрскага сындрому. А таму заклікі беларускага прэзыдэнта да аднаўленьня “Саюзу” фактычна інтэрпрэтаваліся  як заклікі да аднаўленьня імпэрыі і добра “клаліся” на настроі значнай часткі расейскага грамадзтва.

Даволі хутка Аляксандар Лукашэнка здабывае палітычную папулярнасьць у Расеі і фактычна становіцца нефармальным лідэрам пэўных рэгіянальных расейскіх элітаў. Заўважнымі робяцца і ягоныя прэтэнзіі на “крамлёўскі прастол”: на гэтую пару якраз і прыпадае найбольшая інтэграцыйная актыўнасьць беларускага прэзыдэнта. На фоне “нямогляга” Ельцына фігура маладога й энэргічнага беларускага палітыка ў вачох пэўнай часткі расейскага грамадзтва выглядала вельмі прывабна. Адным словам, Лукашэнка, як ні дзіўна, аказаўся запатрабаваным ня толькі ў Беларусі, але і ў Расеі.

Між тым, гэтая парадаксальная й фактычна неверагодная сытуацыя добра “ўпісваецца” ў клясычную (гегелеўскую) мадэль стасункаў “гаспадара-раба”, якая ў посткаляніяльнай сытуацыі як бы перакульваецца ці інвэрсуецца.  Па меры таго, як улада сюзэрэна пачынае слабець, той са зьдзіўленьнем адкрывае для сябе, што мае ня меншую патрэбу ў былым васалу, чым былы васал у сваім гаспадару. Толькі цяпер незгаворлівы

васал, адчуваючы слабасьць былога сюзэрэна і сваю запатрабаванасьць, пачынае навязваць яму ўласную гульню. Інтэграцыйныя ініцыятывы А. Лукашэнкі якраз і разыгрываліся па гэтым сцэнары.

Працэс адзьдзяленьня “мух ад катлет”, распачаты расейскім прэзыдэнтам Ул. Пуціным, кладзе канец інтэграцыйным гульням на карысьць выключна беларускага боку. Дзеля дасягненьня сваіх далёкасяжных мэтаў Расея адназна пачынае спрабаваць паставіць г.зв. інтэграцыю пад свой кантроль. Гэта, аднак, ужо іншая, не посткаляніяльная, а постімпэрская гісторыя. Таму далей мы зьвернемся непасрэдна да неардынарнай асобы першага беларускага прэзыдэнта.

## Геній Лукашэнкі, альбо Фэномэн беларускай улады

Біяграфія Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, можна сказаць, – тыповая й добра вядомая, а таму выкладаць яе тут ня мае сэнсу. Шмат напісана пра Аляксандра Лукашэнку і як палітыка, энэргічнага, амбітнага й экспрэсіўнага, здольнага трымаць у драматычнай напружанасьці аўдыторыі сваіх прыхільнікаў ці падначаленых яму дзяржаўных службоўцаў.

Адметны аратар, Аляксандр Лукашэнка мае безумоўны артыстычны талент, які ня раз прымушаў ягоных слухачоў выціраць сьлёзы замілаваньня й гонару за “нашу” ўладу й краіну. Выбуховы й экстравагантны палітык, ён не аднойчы “зрэзваў” сваіх апанэнтаў аргумэнтамі, пасьля якіх самыя розныя аўдыторыі пляскалі яму ў ладкі.

Але ў рэальным, пабытовым жыцьці Лукашэнка значна больш просты і спакойны: ён як бы адзін

з тых беларусаў, якія без залішніх мітрэнгаў і ў першы, і ў другі, і ў трэці раз абралі яго прэзыдэнтам краіны. Іншымі словамі, Лукашэнка — своеасаблівы беларускі фэномен, выштурхнуты на паверхню самімі насельнікамі гэтай зямлі. А таму тую заўважную велічыню, якая ўтвараецца ў выніку неадпаведнасьці паміж “пабытовым” Лукашэнкам і Лукашэнкам на палітычнай сцэне, экспрэсіўным і няўрымсьлівым, мы будзем называць *геніем* Лукашэнкі.

Такім чынам, “зьнікае” Лукашэнка як “просты вясковы хлопец”, як “дырэктар саўгасу” ці нават як “першы прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь” і зьяўляецца “лукашэнка” як ананім, імя агульнае, як сукупнае ўвасабленьне шэрагу ідэалягічных практык, міталягічных уяўленьняў, карацей, як міт, што займеў сваё ўласнае жыцьцё.

Каб ясна здаваць сабе справу з таго, што спраўдзілася ў гэтым фэномэне, трэба яшчэ раз кінуць позірк назад.

Тое, што гістарычна ляжыць ззаду ад нас, зазвычай называюць “вялікім сацыяльным экспэрымэнтам”, а тое, што ляжыць яшчэ далей, – каляніяльным досьведам існаваньня ў імпэрыі. Для насельнікаў нашай зямлі вялікі сацыяльны экспэрымэнт, акрамя ўсяго іншага, азначаў яшчэ й далейшую траўматызацыю калектыўнай сьвядомасьці. Праявы гэтага былі самыя розныя: ад дэсакралізацыі тутэйшай (беларускай) культуры да прымусовага насаджэньня новай нацыянальнай сьвядомасьці. А таму за ананімам “лукашэнка” ў аддаленай рэтраспэктыве стаіць проста чалавек на зямлі. І гэтаму “чалавеку на зямлі” давялося прайсьці складаную эвалюцыю, каб у рэшце рэшт з яго і выйшаў “лукашэнка”.

Дык што ж выпала перажыць зразуметаму так чалавеку на зямлі? Перадусім, гэта – досьвед быцьця-ў-прасторы-калянізацыі альбо досьвед культурнай агрэсіі, якую захоўвае калектыўная памяць беларусаў. А відавочнай пэрспэктывай усялякіх калянізацыйных захадаў былі і застаюцца рознага роду культурныя гібрыды. Загэтым, гаворачы пра “лукашэнку” як пра ананіма, угрунтаванага ў калектыўна сьвядомае й калектыўна падсьвядомае, мы маем на ўвазе ня толькі яго калянізацыйныя практыкі, але і прычыны, якія робяць магчымай вернасьць ім.

Ідэалягічная машына вялікай імпэрыі працавала для таго, каб пазбавіць “лукашэнку” яго імя, зьнішчыць любыя сьляды “чалавека на зямлі”, які стаяў у яго за сьпінай, міталягізаваць ягоную сьвядомасьць.

Такім чынам, “лукашэнка” – плод карпатлівай гістарычнай сэлекцыі. Урэшце сэлекцыянеры стварылі дасканалы тып з дасканалымі рэакцыямі на вонкавыя раздражняльнікі. А таму адмоўная рэакцыя “лукашэнкі”, да прыкладу, на рост беларускага нацыяналізму падчас развалу Савецкага Саюзу і набыцьцё Беларусяй незалежнасьці была заканамернай.

Трагедыя ананіма “лукашэнкі” і аднachасова яго істотнае дасягненьне ў тым, што “беларус” для яго нават не нацыянальнасьць, а тэрытарыяльная прыналежнасьць, несумяшчальная з доўгай, і да таго ж пераважна эўрапейскай палітычнай, юрыдычнай і культурнай традыцыяй. Гэтая супярэчнасьць будзе заўсёды праяўляцца ў сытуацыі выбару й блытаць самыя розныя пэрспэктывы. Адсюль – добравядомыя вынікі розных сацыялягічных апытаньняў, калі беларусы аднachасова хочуць і захаваць незалежнасьць краіны, і “ўвайсьці” ў Расею.

“Лукашэнка”, такім чынам, – гэта толькі вяршыня айсбэргу, імя якому “беларускі народ”. Сама веда пра гэты народ доўгі час была манапольнай уласнасьцю імпэрыі, якая дэмагічна выступала ад яго імя і адзінаасобна прэтэндавала на тлумачэньне і выражэньне ягоных законных інтарэсаў.

Паняцьце “народ” мае тут, як мы бачым, сваю спэцыфіку. У пляне зьместу яно не адпавядае ні паняцьцю “нацыя”, ні паняцьцю “грамадзянская супольнасьць”. “Народ” тут – гэта ўзьніклы на дадзенай тэрыторыі цягам пэўнага часу канглямэрат людзей, аб'яднаных пэўным узроўнем спажываньня і ідэалягічнай індактрынацыі. Да таго ж далёка ня кожная сацыяльная група ці праслойка можа быць аднесеная да “народу”. Як засьведчыў досьвед эпохі Лукашэнкі, да “народу” ні ў якім разе ня можа быць залічаная тая частка беларускай інтэлігенцыі, якая не пайшла на калябарацыю з рэжымам (“бо яна бясконца далёкая ад народу”), або непадкантрольная лукашэнкаўскай адміністрацыі бізнэс-эліта (“вашывыя блохі” ў тэрміналёгіі Лукашэнкі). Карацей, “народ” – гэта не незалежныя журналісты і актывісты апазыцыйных партый, а сталявары, матальшчыцы і прадзільшчыцы, людзі рабочых прафэсіяў, працаўнікі сяла, міліцыянэры і памежнікі, вайскоўцы беларускага войска.

Гэтае вульгарнае, ужыванае з мэтай палітычных маніпуляцыяў паняцьце “народ” распаўсюджваецца і на той сэгмэнт беларускага грамадзтва, які беспасярэдне залежыць ад дзяржавы. “Народ” – гэта работнікі адміністрацыйнага апарату, дзяржаўнага сэктару прамысловасьці, бюджэтных арганізацый – усіх тых сфэраў, якія былі сыстэмаўтваральнымі для таталітарнай савецкай дзяржавы. Такі “народ” не ва-

лодае ні супольнай культурнай, ні канфэсійнай, ні пагатоў нацыянальнай ідэнтычнасьцю. Яго лучыць у адно кантроль аўтарытарнай дзяржавы, зь якой ён зьвязвае надзеі на дабрабыт.

І ўсё ж народ здолеў абраць сабе лідэра. І ў гэтым ёсьць найвялікшая ягоная заслуга, бо за савецкім часам ці раней ён ня толькі ня мог выбраць кагосьці “свайго”, але нават і ня меў самой магчымасьці такога выбару.

А таму было б вялікай аблудай сказаць, што “лукашэнка” сымбалізуе шлях у нікуды. Якраз, наадварот, ён азначае шлях да іншай Беларусі. Больш таго, ужо нейкі час існуюць некалькі Беларусяў. Адна з іх намагаецца быць эўрапейскай краінай. Другая рада застацца “ўнутранай калёніяй” Расеі, каб разам з апошняй зьдзяйсьняць сваю вялікую славянскую місію.

Разам з тым ён уяўляе сабой вяршыню недаўстаноўленасьці: ён увасабляе сабой яшчэ недааформленыя зьместы і недаакрэсьленыя значэньні.

Геній Лукашэнкі выявіў усю праблематычнасьць і беларускай нацыі, і беларускага грамадзтва, і беларускіх элітаў. Яго абраньне на прэзыдэнта ў пэўных колах тлумачылі прыкрай выпадковасьцю, фатальным зьбегам абставінаў, непамыснай палітычнай кан'юнктурай. За нейкі час, аднак, стала ясна, што іншага проста не было дадзена.

Таксама ў гэтых колах мянялася й стаўленьне да асобы Лукашэнкі. Ад страху і адкрытай непрыязнасьці яно пачало хінуцца ў бок асьцярожнага зацікаўленьня яго асобай. У гэтых колах пачалі справядліва адзьдзяляць сэнс палітычнай дзейнасьці Лукашэнкі ад яго яскравай, маляўнічай індывідуальнасьці.

Сваім зьяўленьнем Лукашэнка абавязаны гістарычнай мэтамарфозе. Раней такія, як ён, былі ды-

рэктарамі саўгасаў, нізавымі актывістамі, сакратарамі пярвічных партыйных арганізацый, настаўнікамі ў школах, участковымі міліцыянэрамі, пажарнымі, лекарамі, вясковымі фэльчарамі. Ніколі іх не дапускалі на пасады, на якіх у іх зьявіліся б рэальныя інструмэнты палітычнага ціску на рэчаіснасьць.

Адчуваючы сваю непаўнавартасьць і, часткова, увесь камізм свайго палажэньня як вышэйшага кіраўніка дзяржавы, Лукашэнка, асабліва на пачатку сваёй прэзыдэнцкай кар’еры, мусіў штодня і штачасіны пацьвярджаць свой высокі статус перадусім самому сабе. Для гэтага ён выкарыстоўвае моцна пашыраны ў нашых краёх стэрэатып носьбіта ўлады і ўладных паўнамоцтваў. Згодна з гэтым стэрэатыпам, першакрыніцай улады ёсьць найперш сіла, а не выкананьне літары закону. Быць валадаром азначае выпраменьваць гэтую сілу на сваіх падданьнікаў, усьцяж трымаць іх у стане жорсткага падпарадкаваньня. Добрым начальнікам будзе толькі той, ад якога дранцьвее ўсё навокал.

У такім грамадзтве менавіта ўлада дае ўсё. Ні сумленная шматгадовая праца, ні прарыў на навуковай ніве, ні геройскі вайсковы чын ня здольныя прынесьці таго, чаго дае найвышэйшая ўлада. І каб зрабіць гэтую ўладу сакральнай, яе носьбіт прымушае ўсё грамадзтва лічыць іншых прэтэндэнтаў на ўладу “экстрэмістамі” і “адмарозкамі”. Зрэшты, так думае ня толькі ён, але і маса грамадзян, у якіх наіўныя палітычныя пагляды шчасьліва спалучаюцца з рабскай псыхалёгіяй.

Засяродзіўшы ўладу ў сваіх руках, зрабіўшы гэтую ўладу, наколькі гэта магчыма ў дадзеных варунках, абсалютнай, Лукашэнка тым самым абцяжарыў сябе абсалютнай адказнасьцю за ўсё, што дзеецца наўкола. Ён стаецца адказным практычна за ўсё – майскія

замаразкі, зьнішчэньне флёры і фаўны, прайгранку беларускай зборнай на чэмпіянаце сьвету па хакеі і г.д.

Нарэшце, сваім зьяўленьнем Лукашэнка выявіў ня толькі праблематычнасьць беларускага грамадзтва, але й беларускай інтэлігенцыі. Можна сказаць нават больш: беларуская інтэлігенцыя (чытай: мясцовая савецкая й зрусыфікаваная), як ніхто іншы, усяляк рыхтавала прыход Лукашэнкі да ўлады.

## Канец посткаляніяльных гульняў і "новы" Лукашэнка

Нягледзячы на ўсе афіцыйныя заявы і запэўніваньні, інтэграцыя Расеі і Беларусі ніколі не была "ўсебаковай". Яна заўсёды абмяжоўвалася выразна прамаркаванымі сфэрамі – эканамічнай і вайсковай. Гаварыць усур'ёз пра інтэграцыю ў абсягу культурнай, адукацыйнай, інфармацыйнай і іншай палітыкі не даводзіцца. Гэтаму можна прапанаваць некалькі тлумачэньняў.

Па-першае, паняцьце "Расея" мае для прэзыдэнта Лукашэнкі пэўны адметны сымбалічны зьмест. Гэта ня толькі і ня столькі рэальная краіна з сваімі рэальнымі праблемамі, колькі традыцыя дэспатычнай улады. Іншымі словамі, выбар Лукашэнкі на карысьць "Расеі" азначае выбар на карысьць дэспатыі. Лукашэнку падабаецца акурат такая "Расея", якая асацыюецца з грубымі валадарамі, "Расея", у якой палітычная воля кіраўніка, што ўвасабляе сабой дзяржаву і яе інтарэсы, азначае ўсё, а воля асобнага індывіда – нішто. Вобраз такой "Расеі" можа існаваць толькі на ўзроўні ўяўленьня. Аднак праявы такой Расіі час ад часу маюць месца

ў сучаснай палітычнай рэчаіснасьці і дазваляюць Лукашэнку жывіць спадзяваньні на тое, што яго ўява і аб'ектыўная рэальнасьць некалі-такі скрыжуюцца.

Па-другое, галоўная мэта сучаснага беларускага рэжыму – у сваім палітычным выжываньні, а не ў далучэньні на правах суб'екта да Расейскай Фэдэрацыі. Афіцыйны Менск інтэгруецца з афіцыйнай Масквой выбарачна, толькі ў тых сфэрах, якія забясьпечваюць адносную стабільнасьць яго існаваньня і надалей.

Па-трэцяе, моцны ўдар па “ўсебаковай” інтэграцыі паміж дзьвюма краінамі аб’ектыўна нанёс рэактываваны Ўладзімерам Пуціным і працягнуты Дзьмітрыем Мядзьведзевым курс на рэцэнтралізацыю Расеі. Узмацненьне магутнасьці цэнтру і аслабленьне ўлады рэгіёнаў, у тым ліку пераразьмеркаваньне структуры падатковых плацяжоў, іншых фінансавых струмянёў на карысьць цэнтру робіць праблематычнай палітычную інтэграцыю паміж дзьвюма дзяржавамі. Бо калі раней, пры гіпатэтычным уваходзе Беларусі ў Расею, беларускі лідэр мог мець бліскучыя пэрспэктывы зрабіць крамлёўскую кар'еру, то цяпер, у лепшым выпадку, ён можа разьлічваць толькі на пасаду правінцыйнага губэрнатара, уладныя паўнамоцтвы якога пастаянна кантралююцца “прэзыдэнцкімі намесьнікамі”. Ня трэба забывацца, што Лукашэнка даўно адчуў смак улады, ён прызвычаіўся рабіць замежныя візыты і сустракаць замежных гасьцей, быць “вярхоўным галоўнакамандуючым” і прасьціраць сваю магуту на сельскую гаспадарку, цяжкую прамысловасьць і горадабудаўніцтва. Пераход у новую якасьць пагражаў бы Лукашэнку моцнай псыхічнай траўмай.

З новымі рэаліямі ў так званай беларуска-расейскай інтэграцыі больш відавочным робіцца й новы вобраз А. Лукашэнкі, дзяржаўніка й незалежніка. Аднак каб

пазьбегнуць усялякага непаразуменьня зазначым, што і першае, і другое маюць сэнс толькі ў зьвязку з паняцьцем улады, зьяўляюцца толькі інструмэнтамі яе захаваньня на тэрыторыі пад назвай Рэспубліка Беларусь. А парадаксальнасьць сытуацыі палягае ў тым, што інтэграцыйныя гульні, цяпер ужо не па сцэнары беларускага прэзыдэнта, а паводле крамлёўскага, ставяць пад пагрозу незалежнасьць беларускай дзяржавы, якую некаторыя ўплывовыя расейскія палітыкі ўжо абвесьцілі “недарэчнай”.

Новая фаза інтэграцыі выявіла й тое, што можна назваць “беларускім фундамэнталізмам” А. Лукашэнкі. Яго нельга блытаць з усходнеэўрапейскімі нацыяналізмамі, бо гэтая дакрына цураецца выпрацаванай нацыянальнай ідэнтычнасьці.

Лукашэнка інтэграваўся з досыць структураванай часткаю Расейскай Фэдэрацыі, а менавіта з часткаю яшчэ былёга савецкага ВПК. Пасьля таго, як інтэграцыя перастала быць манаполіяй гэтага савецка-постсавецкага ВПК і яго палітычных лябістаў, а зрабіліася прадметам палітычнай гульні з боку расейскай алігархіі, беларускі рэжым пачаў губляць да яе цікавасьць. Аляксандар Лукашэнка перастаў бачыць у Крамлі палітычныя і эканамічныя гарантыі свайго працьвітаньня.

Сапраўды, пры Ельцыну схема адносінаў Лукашэнкі з расейскай элітаю была да болю простая: апора на левых, якія заўсёды мелі перавагу ў Думе, праклёны дэмакратам – ворагам інтэграцыі і дзермакратам, паводле выразу кіраўніка Беларусі, гульні з вышэйшай расейскай уладаю з умелым выкарыстаньнем белавескага комплексу дзядулі-Ельцына і антызаходніцкіх комплексаў расейскай эліты ўвогуле. Пасьля прыходу Пуціна гэтая тактыка перастала спрацоўваць.

Лукашэнка – носьбіт этатызму, які ў расейскай мове атрымаў назоў “государственничества”. Яго галоўнай інсьпірацыяй трэба ўважаць “гордасьць” за “государство”, якое неабходна разумець вельмі шырока – як тэрыторыю і як разбудаваны дзяржаўны апарат, які яе кантралюе, як надзвычай магутную вайсковую сілу, што ўключае ў сябе гіпэртрафавана баяздольную армію і флёт, як сыстэму сацыяльных гарантыяў, што забясьпечваюць бязьбеднае існаваньне, як, нарэшце, міжнацыянальны мір і парадак. Лішне казаць, што прататыпам такога “государства” была ў сапраўднасьці значна менш прывабная савецкая імпэрыя.

## Росквіт і крах дзяржаўнай ідэалёгіі

Пасьля другіх прэзыдэнцкіх выбараў у іміджы А. Лукашэнкі адбываюцца й некаторыя іншыя зьмены. Ён робіцца калі ня больш упэўненым у сваіх сілах палітыкам, дык, прынамсі, больш спакойным. З тэлеэкранаў зьнікаюць доўгія эмацыйныя прамовы, у якіх А. Лукашэнка зазвычай апэляваў наўпрост да народу. Вобраз кіраўніка краіны паступова эвалюцыянуе ў бок руплівага гаспадара, ініцыятара новых стваральных праектаў і моцнага дзяржаўніка. Пры кожнай новай крызе ў беларуска-расейскіх адносінах ён нязьменна заяўляе пра непарушнасьць і сьвятасьць беларускага сувэрэнітэту.

А чарговым этапам трансфармацыі беларускага рэжыму можна назваць зьяўленьне дзяржаўнай ідэалёгіі. Хаця спробы фармулёўкі ідэалягічных асноваў беларускага рэжыму рабіліся й значна раней, аднак, у “цэльным” выглядзе яны былі рэпрэзэнтаваны ў прамове прэзыдэнта РБ А. Лукашэнкі ў сакавіку 2003 г. Прыз-

начэньне ідэалёгіі тут – быць фундамэнтам разьвіцьця дзяржавы.

У гэтай прамове Лукашэнка пастаянна згадваў сваю асноўную амбіцыю, свайго роду вянок сваёй палітычнай кар’еры: ён хоча быць ня проста выбраным на пару ці хай сабе на дзесяць тэрмінаў прэзыдэнтам. Яму рупіць разглядаць сваё прэзыдэнцтва ўсяго толькі як спосаб закласьці доўгатрывалыя палітычныя традыцыі, якія перажывуць яго палітычны або фізычны канец. А каб увекавечыць сваё імя на стагодзьдзі, трэба даць неперасягальныя ўзоры рэальнай палітыкі і палітычнага мысьленьня.

Калі рэальная палітыка ў духу Лукашэнкі давяла сваю адносную эфэктыўнасьць, то каэфіцыент карыснага дзеяньня яго палітычнага мысьленьня ўсё яшчэ застаецца пад пытаньнем. Відаць, каб разьвеяць у дзяржаўнага апарату апошнія сумневы ў сваёй тэарэтычнай кампэтэнтнасьці, Лукашэнка і прачытаў гэтую прамову.

У ёй Лукашэнка дыягнаставаў слабасьць і бездапаможнасьць афіцыйнай ідэалёгіі і афіцыйных ідэолягаў ня толькі зь дзяржапарату, але й з адукацыйнай сфэры, шаблённасьць і прадказальнасьць іх дзейнасьці. Цытуючы Янку Купалу і беларускую Канстытуцыю, Лукашэнка патрабаваў, каб былі выпрацаваныя аўтэнтычна беларускія ідэалягічныя формулы, “народжаныя і выпакутаваныя нашым народам”, не прымаючы цьверджаньні як тых, хто заклікае, паводле ягоных слоў, “давайце зробім як на Захадзе”, так і тых, хто хацеў бы “вярнуцца да савецкай практыкі”. Шукаючы “ідэалягічныя асновы сувэрэннай незалежнай дзяржавы”, ён зрабіў экскурс у гісторыю, да Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі і, нарэшце, да БССР, ад якой, па словах Лукашэнкі, і

пачынаецца традыцыя нашай дзяржаўнасьці. Ён доўга і падрабязна крытыкаваў беларускі нацыяналізм і беларускіх нацыяналістаў (за тое, што яны праводзілі падзелы ў грамадзтве паводле этнічнай і моўнай прыкметы), каб пасьля перайсьці да сусьветнага маштабу й разгледзець тры глябальныя ідэалёгіі — марксізм, кансэрватызм і лібэралізм (марксізм і кансэрватызм у ягоным разуменьні досыць блізкія беларускай душы, а лібэралізм — бясконца далёкі). Нацыяналізм як асобную ідэалёгію Лукашэнка не вылучыў, відаць, з той прычыны, што да канца ня вызначыўся наконт ступені яго блізіні да беларускай душы.

Як падлічылі журналісты, слова “Захад” у ягонай прамове сустракаўся часьцей, чым слова “Расея”. Гэта быў знак таго, што Расея перастае быць культурным і духоўным узорам, а таксама прыкладам у тэхналягічным і эканамічным пляне. Вінаватай у гэтым прызнаецца эканамічная трансфармацыя гэтай краіны апошняга дзясятка гадоў, калі зьявіліся сыравінавыя алігархі і несправядліва выкарысталі нацыянальныя расейскія багацьці.

Паводле свайго зьместу “ідэалёгія незалежнай беларускай дзяржаўнасьці” спалучала ў сабе фрагмэнты неспалучальных ідэалёгіяў, такіх як лібэралізм, кансэрватызм і камунізм, а праваслаўнай царкве адводзіцца роля духоўнай падваліны беларускага грамадзтва. Утрымлівае яна таксама й выразны элемэнт мэсыянізму: “Часам, лёсам, сытуацыяй Беларусь высунулася на... вялікую ролю духоўнага лідэра ўсходнеэўрапейскай цывілізацыі” (О состоянии идеологии и мерах по её совершенствованию. Мн., 2003. С. 21).

Такую ідэалёгію можна было б ахарактарызаваць як эклектычную, аднак сутнасьць справы зусім ня

зводзіцца да такой характарыстыкі, паколькі гэтая ідэалёгія зьяўляецца своеасаблівым “замяшчэньнем” былога харызматычнага ўплыву А. Лукашэнкі на значную частку беларускага грамадзтва і сьведчыць пра вычарпаньне папулісцкага рэсурсу кіраўніка краіны.

Такая ідэалёгія апэлюе ўжо не да “народу”, а разьлічана на розныя сацыяльныя групоўкі беларускага грамадзтва, як пралукашэнкаўскія, так і апазыцыйныя. Таму зусім не выпадкова ў некаторых беларускіх апазыцыйных колах яна была праінтэрпрэтавана як сыгнал таго, што А. Лукашэнка зрабіў канчатковы выбар на карысьць беларускай незалежнасьці.

Сам факт узьнікненьня дзяржаўнай ідэалёгіі недвухсэнсоўна паказваў, што нарэшце на самым палітычным версе зразумелі, што толькі заснаваная на эгалітарысцкіх лёзунгах ідэалёгія сацыяльнага папулізму, пад сьцягам якой Лукашэнка прамаршаваў першую пяцігодку сваёй прэзыдэнтуры, ніяк ня можа служыць асновай для кансалідацыі ўсяго грамадзтва. Але на зьмену сацыяльнаму папулізму рэжымам была прапанаваная ідэалёгія, жыцьцяздольнасьць якой будзіла ня меншыя пытаньні. Яна была збудаваная з крутой сумесі асобных элемэнтаў савецкай ідэалягічнай спадчыны, яўных пазычаньняў зь беларускай нацыяналістычнай дактрыны, каляніяльных культурных комплексаў.

Курс на дзяржаўную ідэалёгію даваў ясна зразумець, што Лукашэнка ні з кім не зьбіраўся дзяліцца сваёй уладай, як і не зьбіраўся перадаваць яе свайму дэмакратычна абранаму пераемніку. Цяпер, з пэрспэктывы 2008 г., можна сьмела сьцьвердзіць, што праект дзяржаўнай ідэалёгіі Рэспублікі Беларусь пацярпеў крах, да чаго, магчыма, спрычыніліся і беларускія інтэлектуалы. Але яшчэ пару гадоў таму назад здава-

лася, што гэтая ідэалёгія разьлічана таксама на пэўную нэўтралізацыю патэнцыйнага росту апазыцыйных настрояў ва ўсіх непралукашэнкаўскіх сацыяльных групоўках.

Прычын, чаму дзяржаўная ідэалёгіі Рэспублікі Беларусі не адбылася, шмат. Перш за ўсё ў спробе ідэалягічнай рацыяналізацыі хавалася пэўная небясьпека. Па меры таго, як ідэалягічныя аргумэнты “легатымізаваліся” і ўспрымаліся як сапраўдныя й дапушчальныя, сапраўднымі й дапушчальнымі рабіліся таксама й рацыянальныя контраргумэнты.

Да таго ж названы ідэалягічны праект ня быў зрэалізаваны і таму, што гэта запатрабавала б больш эфэктыўнага рэпрэсіўнага апарату і поўнай “зачысткі” прасторы недзяржаўных мас-мэдыяў, няўрадавых арганізацыяў і апазыцыйных палітычных партыяў.

## Замест эпілёгу

Аляксандар Лукашэнка – чалавек, “зараджаны” на ўладу. Таму ня так проста, а, можа быць, і зусім немагчыма ўявіць яго прыватнай асобай ці нават парлямэнтаром пасьля заканчэньня чарговага прэзыдэнцкага тэрміну.

І хаця для значнай колькасьці беларусаў Лукашэнка ўсё ж стаўся доўгім расстаньнем зь мінуўшчынай, палітычнай фігурай, якая ўвасобіла надзвычай супярэчлівы шлях існаваньня й разьвіцьця беларускай дзяржавы, канцовая мэта гэтага шляху, ды й фундамэнтальныя геапалітычныя інтарэсы краіны, застаюцца, аднак, дагэтуль нявызначанымі.

# МЫ І РАСЕЯ

## Валянцін Акудовіч

Сказаць, што для Беларусі “праблема Расеі” сягае ў сівую даўніну – значыць, нічога не сказаць. Верагодна, мы зь ёю і нарадзіліся, як, бывае, нараджаецца чалавек зь нейкай генэтычна абумоўленай апрычонасьцю, якая ў такім выпадку становіцца лічы ягонай нормай. І трэба ясна ўсьведамляць, што выдаліць зь сябе гэтую праблему цалкам у нас ніколі не атрымаецца, нават калі знадворку Расея перастане адыгрываць хоць-якую ролю ў нашым лёсе. Бо Расея – гэта не краіна, што ляжыць на ўсход ад Беларусі, Расея – *усход* Беларусі. Гэта значыць, што Расея пэўным сваім контурам (як і Эўропа) *натуральна* знаходзіцца ўнутры нашай уласнай самасьці.

Але было б вялікай памылкай лічыць, што з гэтага мы часткова “Расея”, а часткова “Эўропа” (ці хай сабе нават сума папярэдніх складнікаў)... Ні першае, ні другое, ні трэцяе...

Мы – беларусы. Іншымі словамі, у нечым надзвычай істотным мы рашуча адрозныя ад усіх астатніх (як і ўсе астатнія міжсобку). І складнік “Расеі” ў самасьці беларусаў ёсьць якраз адным з чыньнікаў нашай адрознасьці. Дарэчы, непасрэдна ад Расеі як такой у першую чаргу.

Апошняе зусім ня ёсьць парадоксам. Гэтаксама “Азія”, “азійства” у целе Расеі не набліжае Расею да

ўласна Азіі, а перадусім адсланяе ад яе празь непераадольны мэнтальны антаганізм і сутыкненьне двух супраціўных “экспансіянізмаў”.

Хапала і ў нас гэтага “непераадольнага антаганізму і экспансіянізму”. Ні з кім нашыя продкі столькі, так доўга і так крывава не ваявалі, як з тымі, каго сёньня мы называем расейцамі. Дастаткова сказаць, што толькі ў сярэдзіне XVII ст. падчас “крывавага патопу”, распачатага “маскалямі”, загінуў *кожны другі* жыхар нашага краю – было 4,9 мільёна, засталося 2,5. (Між іншым, цягам вайны зь нямецкім фашызмам, якая чамусьці лічыцца самай крывавай у нашай гісторыі, загінуў *кожны чацьвёрты* беларус)...

* * *

...Тады і пагасла сонца над Вялікай Літвой і ўзышло над Вялікай Расеяй.

Вядома, і да гэтай падзеі ў расейцаў (маскоўцаў) ужо была ідэя Трэцяга Рыма і Града Божага на зямлі, але канчатковае замацаваньне ў расейскай сьвядомасьці сваёй месіянскай ролі адбылося не раней, чым Георгій Пераможца на ўздыбленым кані працяў дзідай сэрца Рэчы Паспалітай, і двухгаловы арол распасцёр крылы над усёй Усходняй Эўропай.

“Я памятник себе воздвиг нерукотворный...”, і далей самы вялікі паэт тады маладой і яшчэ вясёлай імпэрыі пералічвае пабраныя народы, што прыйдуць схіліцца перад ягоным помнікам за тыя добрыя пачуцьці, якія ён лірай абуджаў у сэрцах людзей.

“Я не паэта. Крый мяне Божа...”, і далей пра тое, што паколькі беларусы нікога ня маюць, то хай будзе хаця б Янка Купала.

У гэтых "помніках" двух нацыянальных геніяў куды больш выразна, чым у лічбах ды фактах, прачытваецца адказ на пытаньне: каму якімі здабыткамі ды стратамі (матэрыяльнымі і культурнымі) адгукнулася эпоха тых апакаліптычных войнаў.

Гэта надзвычай істотны момант, на які ніколі ня варта забывацца, бо менавіта на памянёных "здабытках" (расейцы) і "стратах" (беларусы) далей будуць фармавацца (у супрацьлеглых вектарах) сьветапогляды рускага і беларускага чалавека.

Верагодна, тут нехта заўважыць, што не зусім слушна (а можа, і зусім ня слушна) зьвязваць высьпяваньне этнічнага сьветапогляду з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі. Я і сам гэтак мяркую, але ў дадзеным выпадку мне падаецца досыць верагодным, што катастрафічны вынік супрацьстаяньня Рэчы Паспалітай з Расеяй шмат у чым паспрыяў замацаваньню ў сьвядомасьці беларусаў філязофіі стыхійнага фаталізму.

Фаталізм – глыбока індывідуалістычны сьветапогляд, ён вымагае ня толькі добраахвотнага падпарадкаваньня фатуму (кону), даверлівай згоды з тым, што ёсьць і якім яно ёсьць, але і тоеснасьці чалавека з самім сабой. На апошняе трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, паколькі сэнсавы цэнтр беларускага варыянту фатальных стасункаў з рэальнасьцю менавіта тут. Імкненьне да тоеснасьці з самім сабой, да нявыхаду за межы гэтай тоеснасьці ў зьнешні, духоўна іншы кантэкст, сталася асноўным у сьветапоглядзе беларусаў.

Але, вызнаючы першасную ролю "крывавага патопу" ў рассыпаньні беларусаў на адзінкавыя саматоеснасьці, пагодзімся, што гэтаму спрыяла і *ўся папярэдняя гісторыя* краю. Беларусь ужо ў пару фармаваньня

Вялікага Княства Літоўскага была шматрэлігійнай і шматканфэсійнай краінай. Які агульны сабор (і якая саборнасьць) можа быць у праваслаўных, уніятаў, каталікоў, пратэстантаў, іудзеяў, мусульманаў, паганцаў?.. І якую “абшчыну” зь іх можна скласьці, калі яны і працуюць і сьвяткуюць у розныя дні, да таго ж робяць усё гэта кожны па-свойму.

Істотна паўплываў на дэкалектывізацыю і такі сацыяльны феномен, як беларуская шляхта. Па некаторых ацэнках навукоўцаў, яе колькасьць дасягала 15 адсоткаў ад агульнага складу насельніцтва. Натуральна, у сваёй абсалютнай бальшыні шляхта была “дробнай”, зьбяднелай і матэрыяльна часам амаль ня розьнілася ад сялянаў, аднак пры гэтым радыкальна асобілася і ад простага люду, і паміж сабой.

Дарэчы, знакамітуя беларуская “талака”, якую даволі часта трактуюць як праяву калектывізму, сьведчыць якраз не за калектывізм, а зусім наадварот. Разбэрсаныя рэлігійна і сацыяльна людзі сыходзіліся разам на дзень-другі, каб зладзіць непад’ёмную для кагосьці аднаго справу, і зноў разбрыдаліся кожны ў сваю паасобкавасьць. Гэтую сытуацыю не зьмяніла і прымусовая калектывізацыя, якая толькі фармальна згуртавала натуральна раз’яднаных паміж сабой беларусаў.

Таму Беларусь для беларусаў і па сёньня задзіночваецца ў кансалідаванае цэлае толькі (і выключна) праз інстынкт тэрыторыі, а не празь ідэю калектыўнага “я”. Між іншым, менавіта адсюль паходзіць і своеасаблівы беларускі “этнонім” – *тутэйшы*, якім наш чалавек вызначаў сваю сутнасьць адно праз каардынаты ў прасторы.

Усё радыкальна інакш у расейцаў...

Расейцы ніколі ня ведалі (і не шукалі) сваіх “этнаграфічных межаў”, ды і ўвогуле не былі прывязаныя да хоць якога пэўнага месца на зямлі (не лічыць жа такім неабсяжную і амаль умоўную прастору “ад Брэста да Камчаткі”). Наўрад ці хоць у які пэрыяд Расейскай імпэрыі расейскі шараговец больш-менш дакладна ўяўляў яе геаграфічную фігуру. Праблема ўласнай геаграфічнай прасторы паўставала перад ім толькі ў момант чарговага ваеннага канфлікту, зьвязанага з абаронай ці пашырэньнем межаў імпэрыі. (“Расея, як вядома, вяла ў XVIII – XIX стст. трыццаць тры вайны, галоўным чынам захопніцкіх”, Генры Мілер). А ў астатнюю пару яму дастаткова было веданьня пра цэнтр улады і яе пэрсаналізаванае імя (месца імпэрыі знаходзіцца не ў прасторы геаграфіі, а ў прасторы ўлады). Зрэшты, у іншым выпадку (лякалізаваная канкрэтным топасам) “руская ідэя” ніколі б не набрыняла месіянізмам, і “сабор” не ператварыўся б са звычайнай культавай забудовы на пагорку ў “саборнасьць” як патэнцыйную (віртуальную) тэрыторыю для Града Божага на зямлі.

З усяго гэтага якраз і вынікае, што ў анталягічным сэнсе паміж беларусамі і расейцамі – мэнтальная бездань.

“Да д’ябла ўсе! Расея апрычоны сьвет” – гэтая версіфікацыя Пагодзіна на тэму чаадаеўскага азарэньня засьведчыла, што ў расейскім грамадзтве сакральная ідэя месіянства ўжо на пачатку XIX ст. скалянізавала і тэрыторыю прафаннага. Таму далей на яе аднолькава будуць абапірацца ў сваім адбываньні быцьця што звычайны шараговец, што апрычоны

інтэлектуал: “Расея – адметная краіна, не падобная ні на якую краіну сьвету” (Бярдзяеў).

Расея не Азія, Расея – не Эўропа, Расея – сёмы мацярык, адным словам – “адметны” ад усіх астатніх сьвет.

Падазраваць місію Расеі як вызначальную для лёсу ўсяго чалавецтва пакрысе сталася натуральна і нават “обыденно” для рускай сьвядомасьці. “Мала таго – за ёю (Расеяй. – *В.А.)* прытоена нейкая боская задума, ад якой мы ня маем права адмовіцца і ад якой мы ня здолелі б адмовіцца, нават калі б гэтага захацелі...” (І. Ільін).

Ужо ж напэўна, ні Ільін, ні мноства іншых расейскіх мысьляроў, што выказвалася падобным чынам, пад “боскай задумай” аніяк ня мелі на ўвазе ідэю “сусьветнай камуністычнай рэвалюцыі”, якую Расея ў XX ст. падахвоцілася рэалізоўваць на практыцы. Але камуністычная ідэя, безумоўна, была “боскім” дарункам Расеі ў яе месіянскім рушэньні, якому распад у 1917 г. дынастычнай (манархічнай) дзяржавы пагражаў у лепшым выпадку доўгім перапынкам, у горшым – фатальным заняпадам. Болей за тое, яна (камуністычная ідэя) надала новай энэргіі і паскоранай дынамікі гэтаму рушэньню.

Натуральна, у месіянскі рух да “сьветлай будучыні” апынулася татальна ўцягнутай і Беларусь. Аднак тое, што ўнёсак беларусаў у інтэрвенцыі расейскага камунізму выявіўся досыць заўважным, зусім не азначае, што яны ў гэтай падзеі выконвалі *сваю* ролю (самі ў сабе беларусы a priori ня могуць мець месіянскага інстынкту). Праз прылучэньне да экспансіі камунізму на ўсю зямную кулю беларусы ўсяго толькі кампэнсавалі для сябе адсутнасьць Вялікай Літвы, якой

пазбавіў іх неміласэрны лёс (дакладней – расейскі імпэрыялізм). Якраз апошняе і штурхала беларусаў у авангард расейскага (камуністычнага) месіянізму. Грамыка на верхатурах Крамля, Шастаковіч на музычным алімпе, Кавалёнак на касьмічнай арбіце (усіх ніколі не пералічыш) – гэта пэрсанальная патрэба вышыні, якую ў адсутнасьці *ўласнай* Айчыны не было дзе яшчэ дасягнуць...

* * *

Беларусы як сучасная нацыя цалкам сфармаваліся ва ўлоньні беларускай вёскі, якая знаходзілася тады пад Расеяй і, адпаведна, – пад расейскім чынавенствам. З гэтага доўгі час ні ў адной са сфэраў улады беларусы ня мелі ня толькі ўласных элітаў, але нават легітымных (замацаваных непасрэдна за імі) каналаў, па якіх яны маглі патрапіць у хоць якія ўладныя структуры імпэрыі. Гэтую сытуацыю і зафіксаваў Францішак Багушэвіч, стварыўшы сваю Беларусь паводле формы паэтычнага міту, цалкам закааптаванага ў самы ніз сацыяльнага быцьця.

А далей заўважым, што прыдуманая паэтам краіна гнілых хатак і дурных, як варона, мужыкоў займела дзіўны – фантастычны лёс. Усе наступныя генэрацыі і пакаленьні беларускіх паэтаў, краязнаўцаў ды публіцыстаў, якія і сфармавалі ідэалягему нацыі, пачыналі і завершвалі афармленьне свайго відзежа Беларусі ў фармаце таго паэтычнага міту, які распавёў напрыканцы XIX ст. Францішак Багушэвіч.

Гэта зь ягонай прыдумкі зьявіліся і зьняможаныя беларускія мужыкі, што нясуць на худых плячах сваю гаротную долю (Янка Купала), і “пяць лыжак зацíркі”

ў прыклад самай вялікай мары тутэйшага чалавека (Зьмітрок Бядуля), і *лапаць* дзеда Талаша як адзіная аўтэнтычная зброя гераізаванага беларуса (Якуб Колас), і каўтун на галаве палешука як найвялікшая нацыянальная адметнасьць, і гнілое балота як конгеніяльны жабрацкаму ладу пейзаж…

Першым паўстаў супраць татальнай экспансіі "нізавога" міту Вацлаў Ластоўскі, стварыўшы насупраціў Францішку Багушэвічу міталягему магутнай "крыўскай цывілізацыі" як папярэдніцы і крыніцы ня толькі народа беларусаў, але і ўсяго антычнага сьвету (ні больш ні менш!). Міт Ластоўскага займеў досыць шырокі розгалас і папулярнасьць (асабліва ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі ў трыццатыя-пяцідзясятыя гады XX ст.), аднак так і ня здолеў заняць цэнтрапалегляга месца ў сьвядомасьці беларускага грамадзтва. Былі і іншыя спробы супраціву, згадаем хаця б знакамітае эсэ Ігната Абдзіраловіча (Канчэўскага) "Адвечным шляхам", дзе філёзаф запрапанаваў сінтэтычна складаны, але інтэлектуальна вельмі адметны і прывабны вобраз Беларусі.

Толькі ўсё было марна. Міналі дзесяцігодзьдзі і дзесяцігодзьдзі, Беларусь зрабілася індустрыяльнай краінай, прыдбала сабе міжнародны імідж нязломнага змагара з фашызмам, патрапіла ў заснавальнікі ААН, пачала экспартаваць свае тавары па ўсёй зямной кулі (да прыкладу, толькі трактары – у восемдзесят краінаў), цалкам мадэрнізавала лад свайго жыцьця па максіму тэхнакратычных магчымасьцяў адной з дзвюх супердзяржаваў сьвету, але да 70-х гадоў XX ст. (да літаратуры Уладзіміра Караткевіча) гэты міт пра адвечна занядбаную, змарнелую і нішчымную Бела-

русь, які апанаваў нацыянальную сьвядомасьць, ніхто нават і не спрабаваў пераадолець.

Чаму, з чаго гэткая трывучасьць аднойчы *паныла* вымаўленага слова “Беларусь”? Адказаў на гэтае запытаньне ўжо ж, напэўна, можа і павінна быць шмат. Мы тут зьвернем увагу толькі вось на што: міт Багушэвіча апынуўся ўнівэрсальна прыдатным для самых розных ідэалягічных і палітычных сытуацыяў ад прыканца XIX і наўсьцяж усяго XX ст.

Спачатку прыдумка Багушэвіча ў самую дакладную меру прыклалася да ідэалягічных інавацыяў дэмакратаў (і стыхійных, і сыстэмных) канца XIX – пачатку XX ст., якія заангажаваліся “маленькім чалавекам” у стане сацыяльнай няроўнасьці; затым казка пра згалелы край і прыгнечаны народ як найлепей дапасавалася да аргумэнтацыі бальшавікоў (і ўсіх “левых” увогуле) на карысьць рэвалюцыйных пераменаў. Але найбольш цікавае пачалося потым, калі бальшавікі перамаглі і з гэтага ім спатрэбілася дэманстрацыя плёну сваёй перамогі на прыкладзе канцэптуальных пераменаў да лепшага на Беларусі. Пра тое, як Беларусь за камуністамі адужала, расквітнела, збагацела, сьпявалася штодня з ранку да вечара, толькі нейкім цудам атрымлівалася, што гэтыя хваласьпевы аніяк не кранalі Багушэвічавага міту. Як лёг, так непарушным і ляжаў на ўсе шыркі сьвядомасьці.

Насамрэч прычыны гэтага дзіўнага феномену ня лішне складана вылічыць. Ужо з канца дваццатых гадоў (XX ст.) расейскі нацыяналізм пакрысе, як іржа, пачынае выядаць сарцавіну камунізму (неўзабаве ад апошняга застанецца толькі маска) і неўпрыкмет вяртаць свае пазіцыі і ў самой Расеі, і ў “нацыяналь-

ных акраінах”. Зразумела, што новаму расейскаму нацыяналізму (гэтаксама як і ранейшаму) зусім не патрэбная была Беларусь, выяўленая ў высокіх парываньнях, учынках ды мэтах. З гэтага ўсё *высокае і значнае*, што тут было раней і адбывалася цяпер, альбо выкрэсьлівалася да пустога знака, альбо залічвалася на супольны рахунак камуністычнай імпэрыі, каб потым быць прыўлашчаным Расеяй як сваё ўласнае. Таму ў астачы беларусам заставаўся ўсё той жа “нізавы” Багушэвічавы міт з адзіным, хіба, дадаткам – рэвалюцыйнай постацьцю Кастуся Каліноўскага.

Вось чаму зусім іншы міт, а менавіта міт пра *высокую* Беларусь, які яшчэ да Францішка Багушэвіча стварыў Адам Міцкевіч, застаўся беларусамі незапатрабаваным. Праўда, Міцкевіч сваю краіну называў не Беларуссю, а Літвой і пісаў па-польску. Але, па сутнасьці, ён усё жыцьцё толькі і рабіў, што перакладаў Беларусь на польскую мову...

І *як* радзіма Адама Міцкевіча не падобная да той, якую намаляваў нам Францішак Багушэвіч!

Беларусь Міцкевіча – гэта краіна прыгожых жанчын і гераічных мужчын, высакародных шляхцічаў і самаахвярных сьвятароў, вялікіх паэтаў і апантаных містыкаў... Тут пануюць высокі дух і чыстыя парываньні, шляхецкі гонар і сармацкая годнасьць...

А яшчэ тут памятаюць дэмакратызм і вольнасьці Рэчы Паспалітай, і таму за шаблю хапаюцца часьцей, чым у Расеі за бізун. Бо воля для герояў Міцкевіча зусім не абстрактны панятак, як тое будзе ў герояў Багушэвіча.

Натуральна, праблема ня толькі і ня столькі ў Міцкевічы... Мы яго геніяльнай постацьцю скары-

сталіся адно дзеля больш выразнага адлюстраваньня той дзіўнай сытуацыі, у якой нават глыбока мадэрнізаваная Беларусь заставалася (у нацыянальным вымеры) замкнутай на архаіку “нізавога”, “плебейскага” міту…

* * *

Першы “высокі” нацыянальны міт беларусы прыдбалі сабе адно падчас Другой сусьветнай вайны. З той пары мы ня толькі “балотны народ”, а яшчэ і народ-партызан, а нашая краіна – краіна-партызанка…

Другая сусьветная вайна для Беларусі выявілася ня толькі самай трагічнай, але, бадай, і самай істотнай (за выняткам стварэньня дзяржавы) падзеяй у вымеры ўсяго XX ст. З аднаго боку – загінуў кожны чацьвёрты беларус (ёсьць вэрсіі і пра кожнага трэцяга), былі разбураныя гарады, селішчы, заводы ды фабрыкі, раскалолася на драбкі ўся сацыяльная інфраструктура, на доўгія гады заняпала эканоміка, інтэлектуальнае і культурнае жыцьцё. А з другога – і праз гэтыя страты, а яшчэ ў большай меры праз збройны партызанскі чын адбылася легітымацыя Беларусі як праўнага суб’екта сусьветнай супольнасьці, фармальным пацьверджаньнем чаго сталася сяброўства ў ААН – ды яшчэ ў статусе аднаго з заснавальнікаў (абмінем тут праблему палітычнай кан’юнктуры, зь якой мы і займелі гэты “статус”).

Аналізуючы гэтую падзею, перадусім будзем зважаць, што для Беларусі, у адрозненьне ад Расеі, Другая сусьветная вайна абярнулася некалькімі войнамі. Пачнем з таго, што Беларусь (Заходняя) патрапіла

ў Другую сусьветную вайну на паўтары гады раней за Расею – супольна з Польшчай 1 верасня 1939 г. Затым была вайна, якую Савецкі Саюз вёў з Германіяй і ў якой беларусы (звыш мільёна чалавек) у складзе савецкіх войскаў ваявалі па законах татальнай мабілізацыі, аднолькавай для ўсяго савецкага грамадзтва. Аднак для нас галоўнай сталася ня гэтая, лёсавызначальная для ўсяго чалавецтва, а іншая вайна, якая табарылася на ўласнай, акупаванай немцамі тэрыторыі. Якраз гэтая, партызанская вайна (па афіцыйных зьвестках – звыш 440 тысячаў партызанаў і падпольшчыкаў) і зрабіла Беларусь вядомай у сьвеце. І, што ня менш істотна, суб’ектызавала і міталягізавала беларусаў для саміх сябе.

Але як яно зазвычай бывае з мітамі, яны ня столькі выяўляюць рэальнасьць, колькі ўтойваюць яе. Таму ў праблеме “савецкай партызанкі” апынуліся глыбока прыхаванымі самыя прынцыповыя пытаньні гэтай падзеі, і найперш наступнае: масавы партызанскі рух на Беларусі – штучна створаны прэцэдэнт ці натуральна абумоўлены факт?

Іншымі словамі, нашыя вясковыя дзядзькі самахоць пацягнуліся ў лясы, ці наўмысна створаная сытуацыя справакавала іх хавацца ў гушчары і часам хапацца за стрэльбы? І яшчэ больш радыкальна: партызанская вайна была нязмушаным памкненьнем вальналюбных і мужных беларусаў да вызваленьня ад акупацыі ці такі выраз ёй надалі бальшавіцкія агітатары і прапагандысты з пэўных ідэалягічных патрэбаў?

На пачатак паспрабуем давесьці, што ідэя змаганьня з нямецка-фашыстоўскімі акупантамі ўвогуле *небеларускага* паходжаньня, бо ў праекцыі на беларусаў яна

ня мае гістарычна пацьверджанага генэзісу, прынамсі, ужо ня мела яе на той час, паколькі традыцыя вайны з іншаземцамі была перапыненая для беларусаў у апакаліптычных войнах з Масковіяй другой паловы XVII ст. (“крывавы патоп”).

Яшчэ да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай вынішчаная войнамі з Масковіяй Беларусь была ўжо ў нейкай ступені “акупаваная” Польшчай. (Канстытуцыя Рэчы Паспалітай ад 3 мая 1791 г. супольную з ВКЛ дзяржаву называе толькі Польшчаю, і ніводзін народ, акрамя палякаў, там ня згадваецца). А далей пацягнулася эра перманентнай акупацыі: шведы, французы, немцы, палякі, зноў немцы, а на пачатку, у прамежку і потым – расейцы, расейцы, расейцы. Паднявольны стан, стан акупацыі зрабіўся натуральным для беларусаў, і з цягам часу яны прызвычаіліся да чужыннага гнёту, як да ціску атмасфэры.

Зьвернем увагу на тое, як факт татальнай залежнасьці ад чуземцаў адбіўся ў мове. Вызначаючы час той ці іншай падзеі, беларусы звычайна кажуць: гэта было *за* палякамі, *за* немцамі, *за* саветамі. Мова народа ўжо ня ўтрымлівала катэгорый самастойнага бытаваньня на сваёй зямлі.

Дык адкуль тады феномен збройнага супраціву апошняй нямецкай акупацыі? З чаго раптам гэтая ідэя апанавала ўсім народам, які даволі абыякава трываў папярэднія прышэсьці чужынцаў. Дарэчы, ніхто нават не спрабаваў даўмецца, чаму ў Першую сусьветную вайну амаль не было фактаў беларускага супраціву нямецкай акупацыі, а праз нейкія там дваццаць гадоў, ужо падчас Другой сусьветнай вайны, невядома зь якой трасцы ўсе беларусы раптам паўсталі супраць тых жа самых немцаў?

Адказ навідавоку: мадэль жорсткага супраціву акупацыі была навязаная беларусам Расеяй. Для расейцаў, якія ад захопу польска-беларускімі войскамі Масквы на самым пачатку XVII ст. зьведалі толькі паспешлівы “візіт” Напалеона, чужынец са зброяй у руках сапраўды быў нечым нязвыклым, дысгарманічным, варожым у той апошняй меры, якая вымагала змаганьня да скону (свайго ці ворага). Тут яшчэ трэба адзначыць, што падобнае стаўленьне да акупацыі вынікала ня толькі з мэнтальнасьці расейскага чалавека, але і зь ягонага ўсьведамленьня моцы сваёй дзяржавы, якая здольная і мусіць перамагчы кожнага ворага. А з адваротнага боку – з адмаўленьня расейскай імпэрыяй якой-кольвек каштоўнасьці за жыцьцём асобнага чалавека.

Вось гэткае разуменьне акупацыі і было “вменено” паноўнай расейскай мэнтальнасьцю пабраным Расеяй народам, і беларускаму таксама. Адсюль і збройны супраціў, адсюль і акцэнт на вынішчэньне ворага, а не на ратаваньне чалавека, адсюль – “перамога альбо сьмерць”.

Аднак тое, што для Расеі было Вялікай Айчыннай вайной, для нас – самавынішчэньнем. Інспіраваная “Масквой” партызанка, з аднаго боку, правакавала немцаў на дадатковую, “пазаплянавую” жорсткасьць, а з другога – што, можа, яшчэ горш, саміх беларусаў да ненатуральнага ім, непатрэбнага і ўрэшце згубнага змаганьня з акупацыяй.

Рана ці позна, але нам давядзецца ўсьвядоміць, што для нас і для Расеі гэта былі дзьве зусім розныя вайны. Аб чым сьведчыць і той факт, што, нягледзячы на магутны ўціск расейска-савецкай прапаганды, беларускі

*народ* (падкрэсьлім яшчэ раз – *народ,* а ня пэўныя зпалітызаваныя групоўкі насельніцтва) не прыняў партызанку. І хай нас ня ўводзяць у зман усе лічбы і факты ідэолягаў і “сацыёлягаў”, успаміны ветэранаў і безьліч твораў у мастацкай ды публіцыстычнай літаратуры, якія як бы адлюстроўвалі рэальную барацьбу з акупацыяй.

Ні з сацыяльна-палітычнага гледзішча (якое-такое вялікае шчасьце яны мелі за саветамі), ні з натуральнага памкненьня зьберагчы сябе, сям’ю, род – ідэя змаганьня з акупацыяй не магла быць успрынята беларускім народам як жыцьцёвая неабходнасьць. І яшчэ. У масавай народнай сьвядомасьці воля – не абстрактная катэгорыя, яна мае выразна акрэсьлены духоўна-сацыяльны абрыс. Калі мае... На той час беларусы так доўга не карысталіся воляй, што наўрад ці ведалі яе сэнс. А гераічна змагацца ні за што, толькі сабе на згубу, ня будзе ні адзін народ.

Але тут мне хто заўгодна можа заўважыць, што калі беларускі народ быў спрэс не гераічным, то скуль тады “вогненныя вёскі”, “рэйкавыя войны”, партызанскія атрады па ўсёй Беларусі, “мінскае падпольле”, цэлыя партызанскія раёны, адваяваныя ў немцаў, і да таго падобнае?..

Сапраўды, шмат чаго было. Толькі савецкую партызанку зладзілі ня самі беларусы з уласнае волі, а пакінутыя ў тыле савецкія функцыянеры, падпольныя райкамы, гаркамы, абкамы, дыверсійныя групы, рэйдавыя брыгады, акружэнцы, больш за дзьвесце атрадаў НКУС... І ўтрымлівалася яна ідэалягічна, арганізацыйна і матэрыяльна коштам “Масквы”. А для самога беларускага народа партызанка была чужарод-

най, марнай і пераважна варожай справай. Яна несла небясьпеку сьмерці ў значна большай ступені, чым сама акупацыя, бо гэтая небясьпека была не гіпатэтычнай, а непасрэднай і вынікала як з карных апэрацыяў пасьля партызанскіх актаў, так і з гвалтоўнай сутнасьці самой партызанкі.

Фактаў варожасьці шараговага насельніцтва да партызанкі, ня кажучы ўжо пра абыякавасьць да яе, дакумэнтамі, успамінамі, літаратурай назапашана таксама даволі. Проста раней іх “не пажадана” было акцэнтаваць, а цяпер – сыстэматызаваць. Толькі для нашых “дасьледзінаў” гэта і не істотна, бо мы зьвернем увагу на іншае, а менавіта на скептычную і нават зьдзеклівую афарбоўку слова “партызан” у жывым маўленьні. І на захадзе Беларусі (Гарадзеншчына), і на ўсходзе (Віцебшчына – партызанскі край) у непасрэднай, незаідэалягізаванай гаворцы ў слове “партызан” гучыць што заўгодна, ад зьедлівага скепсісу да панылай абыякавасьці, толькі не “беларускія сыны”.

Разам з тым, нельга абмінуць увагай той факт, што “партызанка” ў падобных формах і ня зь меншай актыўнасьцю ладзілася “Масквою” і на Ўкраіне, і ў Прыбалтыцы, і ў Крыме, і на Каўказе, і ў акупаванай частцы самой Расеі, але ніводны з гэтых рэгіёнаў ня стаўся “партызанскім краем” і ніводны з тых народаў не атрымаў мянушку “народ-партызан”. Адсюль напрошваецца выснова, што сама беларуская зямля і яе людзі былі ўжо наперад падрыхтаваныя да той ролі, якую ім навязала мілітарная расейская ідэалёгія падчас “вайны народаў”.

Так яно і было насамрэч, але беларуская партызанка ва ўсялякую пару ініцыявалася не супрацівам як такім,

а прагай жыцьця. Цягам стагодзьдзяў Беларусь, якую не абыходзілі ўсе вялікія эўрапейскія канфлікты, рабавалася і гвалтавалася захопнікамі з усіх бакоў сьвету. Каб у гэткім становішчы выжыць і працягваць свой род, нашым людзям, бадай, і не ставала іншага выйсьця, акрамя як партызанскі лад жыцьця зрабіць штодзённай нормай, незалежна ад таго, ці хаваліся яны ў лясах, ці – на вачах чужаніцы – у саміх сабе.

Калі заўгодна, беларус – адпрыродны партызан як у прыватным жыцьці, так і ў пражываньні гісторыі...

“Хвала” расейска-савецкім ідэолягам, што яны адчулі *партызанскую сутнасьць* Беларусі і ў патрэбны для сябе момант скарысталіся ёю напоўніцу. Шкада толькі (і ганебна), што яны скарысталіся ёю гэтак вычварна, кінуўшы ў ненажэрную пашчу молаха *сваёй* партызанскай вайны сотні тысяч беларусаў. І пасьля яшчэ змусілі іх называць тую вайну Вялікай Айчыннай.

* * *

Беларусы і сёньня ня маюць сваёй Айчыны – адно *бацькаўшчыну*. Гэта значыць, што іх яднае толькі агульная прастора, а ня хоць якая кансалідаваная ідэя. Таму зусім неверагодна, каб беларусы запрапанавалі (як габрэі), а тым болей спрабавалі рэалізаваць (як расейцы) агульную для ўсяго чалавецтва канструкцыю сьветабудовы. Яны такое і прысьніць не змаглі б – ня тое, што прыдумаць на ясную галаву. Шчыра кажучы, беларусам увогуле няма ніякай справы да ўсяго астатняга сьвету. Хай ён сабе хоць ляснецца, абы ў нас не было вайны. Пачуцьцё індывідуальнай самадастатковасьці (і самазавершанасьці) у беларусаў, бадай, нават гіпер-

трафаванае. Верагодна, адсюль і вечная нядробленасьць той краіны, у якой яны жывуць. Бо да яе беларусам таксама няма асаблівай справы...

А вось што ў беларусаў заўсёды добра атрымлівалася, дык гэта здаваць прастору свайго бытаваньня ў арэнду пад розныя месіянскія, проста глябалісцкія, канцэпты ды праекты. Паганства, хрысьціянства (ва ўсіх ягоных версіях), мусульманства, іудаізм, рэнесанс, рэфармацыя і контррэфармацыя, сацыялізм, інтэрнацыяналізм, камунізм, глябалізм... Усё, што мела жаданьне і волю займець месца на гэтых абшарах, знаходзіла тут сабе ўтульнае месца. Талерантнасьць беларусаў, безумоўна, мацнейшая за інстынкт самазахаваньня, з чаго так і карціць яе звузіць. Але, здаецца, апошняе якраз і немагчыма. На немагчымасьці звузіцца ў талеранцыі тут заўсёды будзе спатыкацца кожная татальная ідэалёгія – і нацыяналістычная таксама. Ідэя сябе ў нацыі, а не нацыі ў сабе, ідэя гамагеннай нацыі, адгароджанай ад іншых нацыянальнай дзяржаўнасьцю, наўрад ці калі пераадолее ўстаялую мэнтальнасьць беларусаў, зарыентаваную фатальным сьветапоглядам на паасобкавыя, але пры гэтым спавітыя талерантнасьцю, саматоеснасьці.

Мы – Францішак Скарына, а не Сімяон Полацкі, хаця Сімяон Полацкі – гэта таксама мы. Дзьве велічныя постаці зямлі беларускай – гэта два нашыя шляхі, аднак ня трэба быць асабліва відушчым, каб зразумець, куды вёў нашых продкаў першы шлях і чым абярнуўся для нас другі.

Францішак Скарына выбраў Эўропу, Сімяон Полацкі – Расею. Ён ехаў у Маскву з намерам хоць трохі ўмілажаліць візантыйскую дыспатыю эўрапейскай

культурай. Натуральна, у Сімяона Полацкага нічога не атрымалася, бо ён тады яшчэ ня мог ведаць, што мілажальнасьць культуры – гэта казка для дарослых. Культуры больш агрэсіўныя, чым іх носьбіты – народы. Калі ў войнах паміж народамі хоць зрэдзьчас здараюцца перапынкі, то ў войнах культураў перапынкаў не бывае. І таму ў войнах культураў – культураў загінула болей, чым у збройных войнах загінула народаў.

Не заўсёды і зусім неабавязкова чужая культура прыносіцца на штыках і штыкамі ўсталёўваецца. Расейская культура з уласнай волі да панаваньня зьнішчыла столькі культураў, што іх нават ніхто ня можа падлічыць. Замест тых зьніклых культураў засталася адно цьмяная канстатацыя: *на прасторах нашай краіны (Расеі, – рэд.) жыве больш за сто народаў і народнасьцяў*. І для ўсіх гэтых *больш за сто народаў і народнасьцяў* дамінуючай, а пераважна і адзінай культурай зьяўляецца расейская.

Дык вось, калі запытацца: чаму сёньня большасьць беларусаў не ідэнтыфікуе сябе зь беларускай культураю, то адказ будзе наступным: таму што на нашых землях ужо безьліч гадоў ні на хвіліну не спыняецца вайна расейскай і беларускай культураў, у выніку якой апошняя апынулася амаль усьцяж пераможанай. І, бадай, найтрагічным у гэтай паразе была параза беларускай мовы.

Мова – той азонавы слой, які дазваляе больш-менш устойліва функцыянаваць, разьвівацца і нарошчваць свой патэнцыял усім астатнім чыньнікам культуры нават у неспрыяльных для яе ўмовах. Вядома, у гэтым азонавым слаі кожнай культуры сёньня шмат дзірак, але ў нас ён зьнішчаны амаль цалкам, ад яго засталіся

адно лахманы, якія ўжо не засланяюць цела нацыянальнай культуры як ад сьцюдзёных вятроў культуры расейскай, так і ад касьмічнага холаду мэтакультуры камунікатыўна адкрытага грамадзтва.

Адсюль, з перамогі расейскай культуры (на штыках і без штыкоў) і была зманіпуляваная прыдумка, што беларусы вельмі падобныя да рускіх – ну амаль што блізьнюкі... Падабенстваў з расейцамі, найперш праз агульную прыналежнасьць да славянства, у нас, відавочна, даволі. Да таго ж істотную ролю ў прыпадабненьні народаў адыграла і праваслаўе – апошнія некалькі стагодзьдзяў дамінаваньня "рускай" царквы на нашых землях добра прыкладаліся да "русіфікацыі" беларусаў... Але ўсё гэта разам (і шмат чаго іншага) не дае нам права забывацца, што мы два зусім розныя народы з апрычонымі шляхамі і адметнымі гістарычнымі лёсамі – і будзем такімі да таго часу, пакуль будзем. (Чамусьці ніхто ня лічыць "братамі" французаў і немцаў толькі таму, што яны належаць да аднаго раманскага сьвету?!).

У сувязі з навуковымі і ня надта навуковымі тэарэтызаваньнямі апошняга часу на тэму аб'яднаньня двух братніх народаў (мне гэта нагадвае аб'яднаньне ўдава з кролікам) успомнім колькі словаў старэйшага з братоў Кірэеўскіх: "Некаторыя думаюць, што пазьнейшае засваеньне іншаземнай адукацыі можа з часам перастварыць усяго рускага чалавека... Ці патрэбна абвяргаць падобныя меркаваньні. Зьніштожыць адметнасьці разумовага жыцьця народа гэтак жа немагчыма, як немагчыма зьніштожыць яго гісторыю. Падмяніць літаратурнымі тэрмінамі пераканаьні народа не прасьцей, чым адцягненай думкай перасунуць косьці маладога арганізму".

Тое самае можна сказаць і пра беларусаў у праекцыі на вайну культураў. Толькі тут яшчэ трэба дадаць, што немагчыма і “перасунуць” беларусаў з Эўропы на сёмы мацярык – у Расею. Можна было на нейкі час адлучыць іх ад “гістарычнай бацькаўшчыны”, аднак рана ці позна мусіў настаць час вяртаньня. І тут ня лішне будзе падкрэсьліць, што вяртаньне да эўрапейскіх сацыяльных, інтэлектуальных ды культурных каштоўнасьцяў ня ёсьць для беларусаў модай, геапалітычным свавольствам ці часовай прыхамацьцю. І збочваць у бок Эўропы беларусы будуць не таму, што там вальней і абаранкі задарма даюць, а таму, што там “карэнныя перакананьні народа”, нават калі сам народ “у сілу гістарычных абставінаў” забыўся на гэта.

Вяртаньне Беларусі ў Эўропу – гэта шлях, ад якога “мы ня маем права адмовіцца” і ад якога “мы ня здолелі б адмовіцца, нават каб гэтага захацелі”.

Расея наш фатум, але ня наш кон. Пра фатальную ролю Расеі ў лёсе Беларусі ўжо даволі казалася вышэй. Аднак Расеяй мы толькі спутаныя, а зацугляныя Эўропай. Усім сваім целам мы ўпісаныя ў прасторавую фігуру Эўропы, больш за тое, у сваю пару (Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая) продкі беларусаў былі не апошнім ствaральным чыньнікам гэтай фігуры і яе цывілізатарскім фарпостам у славянскім сьвеце. І хаця пазьней гэты “фарпост” лязом расейскай экспансіі на Захад быў адсечаны ад свайго вялікага цэляга, яго натуральнае месца заўсёды застаецца за ім. І менавіта згаданым фактарам найперш абумоўлена тое, што нават больш чым два стагодзьдзі каланізацыі, русіфікацыі і мэтаскіраванай асіміляцыі не далі рады з гэтай зачараванай на ўласную ролю прасторай, якая сёньня зноў патрабуе сабе статуса суб’екта эўрапейскай гісторыі.

Мы – эўрапейцы. Гэта нам дадзена a priori. І якія б выкрунтасы не рабіла палітычная гісторыя Эўропы, мы ніколі нікім іншым ня будзем.

Разам з тым нам ніяк не выпадае забывацца, што “расейскі” (усходні) фактар адвеку ёсьць часткай нас саміх, а апошнія два стагодзьдзі Беларусь і ўвогуле цалкам была ў складзе Расейскай імпэрыі (і яе пераемніка – Савецкага Саюзу), што з Расеяй мы павязаныя суседствам, славянствам, праваслаўем, шматлікімі крэўнымі, эканамічнымі ды вайсковымі сувязямі... А як да ўсяго гэтага дадамо панаваньне расейскай мовы і культуры на Беларусі, то ня цяжка будзе зразумець, чаму Расея ёсьць і яшчэ на немалы час застанецца дамінуючым фактарам і ў эканоміцы, і ў палітыцы, і ў культурным жыцьці краіны.

* * *

Геапалітычная амбівалентнасьць Беларусі ва ўсю ранейшую пару была для нас самай трагічнай праблемай. Кожная радыкальная спроба вырашыць яе на карысьць “Эўропы” ці “Расеі” аплочвалася вялікай крывёй і адразу наноў паўставала ва ўсёй сваёй праблематычнасьці. Так яно будзе і далей, калі мы не ўсьвядомім нашу геапалітычную рознавымернасьць як натуральную для нас і да таго ж патэнцыйна куды больш багатую за хоць якую аднамернасьць.

Урэшце, нам трэба зразумець нашу разнамоўнасьць, рознакультурнасьць, рознарэлігійнасьць не як загану, якую неабходна пераадолець на карысьць гамагеннай Беларусі (замкнутай у нейкім адным геапалітычным вымеры), а як вялікую каштоўнасьць. Бо тая шматаблічнасьць, якую мы зь сябе ўяўляем –

гэта ня зьбег выпадковых абставінаў, а плён безьлічы падзеяў, што разгортваліся на нашых землях цягам як найменей тысячагодзьдзя. Углядаючыся ў самыя істотныя зь іх, мы бачым там і Расею, якой знайшлося даволі месца на разлёгах нашай гісторыі.

Аднак і ня трэба перабольшваць “расейскі фактар” у лёсе нашай Бацькаўшчыны. Прынамсі, у “вялікім часе” (М. Бахцін) Расея ўсяго толькі адзін з эпізодаў Беларусі на яе “адвечным шляху” (І. Абдзіраловіч) з прамінулага ў будучае.

# МЫ І ПОЛЬШЧА

## Алесь Смалянчук

Адным з найбольш моцных уражаньняў 2004 г. сталі для мяне вынікі экспэдыцыі па вывучэньні гістарычнай памяці жыхароў беларуска-расейскага паўзьмежжа. Экспэдыцыя працавала ў Горацкім раёне Магілёўскай вобл., а галоўным прадметам дасьледаваньняў зьяўлялася апошняя вайна. Сярод таго, што цікавіла дасьледчыкаў, было пытаньне пра баявыя дзеяньні польскай дывізіі імя Т. Касьцюшкі. У кастрычніку 1943 г. гэтая дывізія ў баях пад вёскай Леніна панесла адчувальныя страты. Дасьледчая група, якой давялося кіраваць, выявіла некалькі пашыраных "народных" версій тлумачэньня гэтых стратаў. Найчасьцей людзі казалі, што палякі быццам бы спрабавалі перайсьці на бок немцаў. Пры гэтым яны трапілі пад нямецкі і пад савецкі абстрэл. Некаторыя суразмоўцы нават абвінавачвалі палякаў у зьнішчэньні сваёй вёскі (маўляў, польская "здрада" прывяла да таго, што немцы спынілі наступленьне "нашых"). На пытаньне, чаму ж палякам пастаўлены помнікі і створаны музэй іх памяці, людзі альбо не адказвалі наогул, альбо казалі, "бо іх шмат пабілі". Таксама фігуравалі вэрсіі, што палякі ваявалі на баку немцаў; што палякі здаліся ў палон і іх немцы расстралялі; што палякаў пабілі "рускія" ў сумятні бою; што палякаў падставілі "нашыя" (не далі

зброі і кінулі пад зьнішчальны нямецкі агонь) і, нарэшце, вэрсія польскага гераізму – разам з “нашымі” мужна біліся зь немцамі. Апошняя вэрсія была самай рэдкай. Большасьць суразмоўцаў не магла прыняць факту ўдзелу палякаў у вайне на баку Чырвонай арміі. У сьвядомасьці гэтых людзей палякі фігуравалі як “чужыя” і супрацьпастаўляліся “нашым”. Фактычна, вусная гісторыя баёў пад Леніна выявіла выразны антыпольскі комплекс. Пазьней, калі праслухоўваў аўдыёкасэты з запісамі размоваў, яшчэ раз падумалася пра ролю гістарычнай традыцыі ў стварэньні вобразу бліжэйшага заходняга суседа Беларусі.

***

На працягу многіх стагодзьдзяў “польская прысутнасьць” была істотным фактарам беларускай гісторыі. Геаграфічнае суседзтва беларусаў і палякаў абумовіла перапляценьне гістарычных лёсаў двух народаў і ўзаемныя ўплывы, ацэнка якіх звычайна выходзіць далёка за межы гістарычнай навукі. Аднак менавіта гістарыяграфіі належыць рашаючае слова ў фармаваньні вобразу суседа. У г. зв. “эпоху нацыяналізмаў” гістарычная сьвядомасьць як спалучэньне ведаў пра мінуўшчыну з пэўнай сыстэмай каштоўнасьцяў і ацэнак ператварылася ў важны элемэнт палітычнага і нацыянальна-культурнага жыцьця.

Які ж вобраз паляка стваралі беларускія гісторыкі ды іншыя прадстаўнікі нацыянальна-культурнай эліты ў пэрыяд, калі менавіта нацыянальнае рабілася адным з галоўных крытэраў разьмежаваньня паміж “нашымі” ды “іншымі”?

Пачнем з **Вікенція Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага** (1838 – 1864), асоба якога яшчэ не належала да эпохі нацыяналізмаў, але зьяўлялася прадвесьніцай яе наступленьня. У публіцыстыцы К. Каліноўскага галоўным ворагам Літвы-Беларусі абвяшчаліся "маскалі", якія несьлі адказнасьць практычна за ўсе беды і няшчасьці краю. Ацэнка палякаў або іх характарыстыка на старонках *Мужыцкай праўды* і іншых выданьняў, якімі кіраваў Каліноўскі, адсутнічала. Нягледзячы на ўсе складанасьці ва ўзаемаадносінах Літоўскага правінцыяльнага камітэту і самога Каліноўскага з варшаўскім кіраўніцтвам, палякі заставаліся "сваімі". Падобна на тое, што Каліноўскі наогул не ўсьведамляў прынцыповай розьніцы паміж палякам і ліцьвінам. Напрыклад, у Маніфэсце ад 3 траўня 1863 г. жыхары Беларусі называліся сынамі "адзінай Польскай Бацькаўшчыны". "Яська-гаспадар з-пад Вільні" ніколі не выступаў супраць польскай традыцыі змаганьня. У вядомых *Лістах з-пад шыбеніцы* Каліноўскі заклікаў беларусаў падтрымаць барацьбу "варшаўскіх братоў" супраць царызму:

> "Для таго, народзе, як толькі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но, ухапіўшы за што сможаш, за касу, сякеру цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную".

Своеасаблівым адказам ліцьвіну В. К. Каліноўскаму сталі ***Разсказы на белорусском наречіи***, якія былі

надрукаваныя ў Вільні ў 1863 г. Аўтар* *Разсказаў* выразна ўсьведамляў адметнасьць палякаў і супрацьстаўляў іх “літвінам”, якія “жилы з Билоруссамы в вэликой згоди”. З палякамі зьвязвалася страта незалежнасьці, апалячваньне і акаталічваньне:

> “Много панув польських почало пэрэизжаты в русськи и литовски стороны; так же много панув билорусcько-литовських, коб заняты крисло в польском сэнати, одрикалыся од руднэи виры и руднэи мовы; почалы будоваты косцёлы на русських и литовських зэмлях; римсько-католицкэи духовенсьтво стало працёваты, коб всих Литвинув и Билоруссув зробыты католикамы. Началыся вэльмы цяжкіи часы для Литовських и Билорусських зэмэль».

Ліцьвінскую традыцыю ў гістарыяграфіі працягваў **Адам Кіркор** (1818 – 1886). Менавіта ён быў аўтарам гістарычнай часткі “беларуска-літоўскага” тома *Живописной России* (1882). А. Кіркор, у прыватнасьці, згадаў пра барацьбу, якую вялі польскія палітыкі на чале з кракаўскім біскупам З. Алясьніцкім супраць імкненьня Вітаўта “ўтварыць моцную незалежную дзяржаву і стаць каралём Літвы і Русі”. Люблінскую ўнію аўтар ацаніў як палітычную сьмерць Вялікага Княства. Тым ня менш ён не выказваў ніякага асуджэньня дзейнасьці польскіх палітыкаў. Наадварот, у адносінах да таго ж З. Алясьніцкага і ягоных паплечнікаў А. Кіркор заўважыў, што яны былі “людзьмі разумнымі, глыбокімі палітыкамі і сапраўднымі патрыётамі”

* Алег Латышонак верагодным аўтарам лічыць гісторыка і літаратара Ігната Кулакоўскага (1800–1870). Упершыню “Разсказы” былі апублікаваныя на старонках часопіса *Дзеяслоў* (2004. № 9).

сваёй Айчыны (Польшчы). Аналягічна дасьледчык паставіўся да польскага культурнага дамінаваньня на беларускіх і літоўскіх землях у XVII – XVIII стст.

> “Нельга не пагадзіцца, што як у адукацыі, так і ў грамадзянскіх правах і ўстановах і, нарэшце, у сьвядомым пачуцьці патрыятызму, палякі мелі значную перавагу над літоўцамі і беларусамі. Гэтым і тлумачыцца, што па закону прыроды вышэйшая і мацнейшая цывілізацыя праглынула слабейшую і малодшую”.

Цалкам іншую характарыстыку атрымаў вобраз паляка ў публіцыстыцы **беларускіх народнікаў**, якія напачатку 80-х гг. XIX ст. паспрабавалі тэарэтычна абгрунтаваць існаваньне беларускай нацыі. У *Пісьме Данілы Баравіка* (1882) адзначалася, што да XV ст. беларускі народ жыў самастойным жыцьцём, меў уласную дзяржаву (“Літву”) і сам вызначаў свой лёс. Усё зьмянілася, калі ўзмацніліся культурна-рэлігійныя і палітычныя ўплывы Польшчы. Іх вынікам, паводле меркаваньня аўтара, стала палянізацыя “вышэйшай клясы беларускага народа” і страта дзяржаўнасьці. Аналягічных поглядаў на беларускую гісторыю прытрымліваліся выдаўцы народніцкага часопіса *Гомон* (1884). Яны сьцьвярджалі, што бліжэйшыя заходні і ўсходні суседзі звычайна глядзелі на беларусаў як на матэрыял для асіміляцыі і імкнуліся растварыць іх у “вялікарускім або польскім моры”:

> “Палітыка гвалту працягвалася цэлыя стагодзьдзі. Яна пачалася ўладарніцтвам Польшчы і завяршаецца панаваньнем маскоўскага абсалютызму”.

Наступным крокам на шляху станаўленьня беларускай гістарыяграфічнай традыцыі стаўся перанос публіцыстычнага варыянту нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі на навуковую глебу. Першым гэта паспрабаваў зрабіць **Мітрафан Доўнар-Запольскі** (1867 – 1934). У 1888 г. гісторык выступіў на старонках газеты *Минский листок* з шэрагам артыкулаў пад назвай "Белорусское прошлое". Ён не сумняваўся ў існаваньні беларускай нацыі, гісторыя якой захоўвала моцныя традыцыі "народаўладзьдзя" і дзяржаўнай самастойнасьці. Аднак, на яго думку, пашырэньне рэлігійных і палітычных уплываў Польшчы нанесла моцны ўдар па самастойнасьці і дэмакратычных традыцыях. Дзейнасьць польскіх палітыкаў М. Доўнар-Запольскі характарызаваў як імкненьне "насадзіць" шляхецкую арыстакратычную рэспубліку і падагнаць пад польска-каталіцкі ўзор усе народы краю. Гэтая палітыка абярнулася для Беларусі ўстанаўленьнем "польска-каталіцкага іга", што прымусіла беларусаў шукаць дапамогі ў Маскве, адносіны якой да культурнай адметнасьці беларусаў нічым не адрозьніваліся ад польскіх.

> "Польшча навязвала Беларусі шляхецкую арыстакратычную рэспубліку, Масква – баярскую алігархію. І першая, і другая дзяржавы цалкам выключалі з палітычнага жыцьця дэмас, тады як беларускі народ па сваіх гістарычных і народна-бытавых традыцыях быў у вышэйшай ступені дэмакратычны".

У працах М. Доўнар-Запольскага народніцкі тэзіс "дзвюх бедаў" беларускай гісторыі ("расейскай" і

"польскай") атрымаў навуковае абгрунтаваньне, і вага яго нязьмерна вырасла. Палякі ўсё больш і больш ператвараліся ў аднаго з галоўных ворагаў Беларусі.

Шмат месца палякі займалі на старонках *Кароткай гісторыі Беларусі* (1910) **Вацлава Ластоўскага** (1883 – 1938), якая была першай беларускай спробай навукова-публіцыстычнага абагульненьня гісторыі ўласнай дзяржаўнасьці. Гісторыю ВКЛ В. Ластоўскі тлумачыў пры дапамозе знаёмай канцэпцыі "дзвюх бедаў". Ён даводзіў, што Польшча і Масква, заўсёды варожыя паміж сабой, у адносінах да Беларуска-Літоўскай дзяржавы сышліся на агульнай платформе яе зьнішчэньня. Агрэсія Масквы, на яго погляд, спрыяла экспансіяністцкім мэтам польскіх палітыкаў: "Іоан III быццам заганяў Літву і Беларусь у рукі палякоў". Менавіта з гэтай агрэсіяй В. Ластоўскі зьвязваў заключэньне Люблінскай уніі (1569), якую ўсьлед за А. Кіркорам ацаніў як палітычную сьмерць Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Гэтай "палітычнай сьмерці", на думку палітыка і гісторыка, моцна паспрыяла "апалячваньне" вышэйшых колаў беларускага этнасу ў XVI – XVIII стст. Зрэшты, у гэтым працэсе В. Ластоўскі бачыў хутчэй самапалянізацыю, чым вынік польскай палітыкі нацыянальнага ціску. Ён з асуджэньнем пісаў пра шляхту, якая "пакідае ўсё роднае, беларускае, забывае аб справе нацыональной, месцо якой займае справа шляхоцтва".

Шляхце і магнатэрыі В. Ластоўскі супрацьпаставіў народ, які "ставаўся для іх чужым з усімі сваімі бедамі і нядолямі", але "патрапіў зберагчы старую сваю мову,

звычаі”. Прычыны сялянска-казацкага руху ў Беларусі ў 1648 – 1651 гг. ён бачыў пераважна ў нацыянальна-рэлігійнай палітыцы вярхоў Рэчы Паспалітай. Войска гетмана Януша Радзівіла, якое змагалася супраць паўстанцаў, ён назваў “польскім” і згадаў радкі зь песьні пінчукоў, ацалелых пасьля зьнішчэньня Пінска ў 1648 г.:

> “Дзень і ноч буду маліці, // Дзень і ноч буду прасіці, // Каб загінулі ляхі”.

Рэч Паспалітую XVII – XVIII стст. В. Ластоўскі называў “польскай Рэччу Паспалітай”. Яе кіраўнікі, на яго думку, несьлі поўную адказнасьць за зьнішчэньне свабоды веравызнаньня. Якраз палітыка рэлігійнага прыціску некаталікоў, якую праводзіла шляхта разам з каталіцкім духавенствам, прымушала праваслаўных шукаць падтрымку ў Маскве, а пратэстантаў – у Нямеччыне. Умяшальніцтва суседзяў і прывяло да падзелаў краіны.

У *Кароткай гісторыі* дамінавала тоеснасьць негатыўнай ролі палякаў і “маскалёў” (расейцаў) у беларускай гісторыі. Калі “польская бяда” пераважала ў аўтарскай трактоўцы гісторыі XV – XVIII стст., то “маскоўская” – у гісторыі XIX ст.

Такім чынам, на стадыі фармаваньня падмуркаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі адбываўся паступовы пераход ад трактоўкі палякаў як “нашых” (“сваіх”) да іх успрыняцця ў якасьці адной з галоўных (разам з расейцамі) бедаў айчыннай гісторыі. У вобразе паляка выразна дамінавалі нэгатыўныя рысы. Сярод галоўных прэтэнзіяў беларускай эліты да заходняга суседа фігуравала зьнішчэньне дзяржаўнай

незалежнасьці і самастойнасьці Беларуска-Літоўскага краю (гістарычнай Літвы), “апалячваньне і акаталічваньне” вышэйшых колаў беларускай супольнасьці, ліквідацыя традыцыі “народаўладзьдзя”, усталяваньне прыгону. Пазытыўныя рысы (змаганьне супраць царызму, патрыятызм, высокі культурны ўзровень) сустракаліся толькі ў тэкстах В. К. Каліноўскага і А. Кіркора, якія належалі яшчэ да ліцьвінскай традыцыі. Напачатку XX ст. гэтыя пазытыўныя рысы ў вобразе паляка цалкам зьніклі. Пачалося дамінаваньне канцэпцыі “дзвюх бедаў” беларускай гісторыі, якая ўсе няўдачы беларускага гістарычнага лёсу тлумачыла або польскімі, або “маскоўскімі” (расейскімі) уплывамі. Адзінае, што рабіла “польскі вобраз” трохі лагаднейшым за “маскоўскі” (расейскі), дык гэта неадназначныя ацэнкі палянізацыі, у якой некаторыя аўтары (“Разсказы на белорусском наречіи”, В. Ластоўскі) заўважылі элементы самапалянізацыі.

Эвалюцыя вобразу паляка была вынікам пераменаў у нацыянальна-культурнай сытуацыі. І для ідэолягаў беларускай нацыі важным было захаваньне і развіцьцё этнічных і культурных адметнасьцяў беларусаў. Пэўную ролю адыграў тут таксама сацыяльны канфлікт у беларускай вёсцы, які часта набываў форму нацыянальнай барацьбы “беларускага мужыка” супраць “польскага пана”. З пачаткам палітычнага этапу беларускага Адраджэньня гэты канфлікт мог яшчэ больш абвастрыцца. Аднак доўгі час гэтага абвастрэньня не назіралася. “Краёвая” пазыцыя большасьці беларускіх палякаў, сутнасьцю якой зьяўлялася

ўспрыняцьце Беларуска-Літоўскага краю (гістарычнай Літвы) у якасьці Айчыны, была выдатнай глебай для супрацоўніцтва. Польскія краёўцы, як і беларускія дзеячы, успрымалі Беларуска-Літоўскі край як суб’ект гісторыі і марылі пра яго пераўтварэньне ў суб’ект палітыкі.

У міжрэвалюцыйны пэрыяд (1907 – 1917) краёвую ідэалёгію падзялялі кіраўнікі беларускага руху браты Луцкевічы ды Вацлаў Ластоўскі. Але іх стаўленьне да краёвай канцэпцыі было выключна прагматычным. Беларускія дзеячы імкнуліся выкарыстаць краёвасьць дзеля ўмацаваньня пазыцый беларускага руху. Яны заставаліся “беларускімі краёўцамі” і выразна ўсьведамлялі адметнасьць нацыянальных інтарэсаў нават мясцовых беларускіх палякаў. Адначасна трэба адзначыць амаль поўную адсутнасьць антыпольскіх выпадаў на старонках *Нашай Нівы*. Выключэньнем былі толькі адказы на антыбеларускія заявы сяброў польскай Партыі нацыянальных дэмакратаў. Больш таго, *Наша Ніва* нават прапагандавала дасягненьні польскай культуры, у першую чаргу, літаратуры.

## Тлумачэньне гісторыка

*Краёўцы пачатку XX ст. прапанавалі альтэрнатыўны варыянт бачаньня ролі палякаў у гісторыі Беларуска-Літоўскага краю. Большасьць зь іх належала да культурна апалячанай шляхты былога ВКЛ. Аднак пачуцьцё прыналежнасьці да польскай нацыі спалучалася з усьведамленьнем Літвы-Беларусі ў якасьці Радзімы. Апошняе звычайна адыгрывала рашаючую ролю пры прыняцьці палітычных рашэньняў. Ядром*

*краёвай ідэалёгіі была ідэя палітычнай (грамадзянскай) нацыі ("нацыі ліцьвінаў"). Ідэолягі краёвасьці (Раман Скірмунт, Міхал Ромэр) галоўным крытэрам нацыянальнай прыналежнасьці абвясьцілі пачуцьцё краёвага патрыятызму. Этнакультурныя адметнасьці розных народаў лічыліся другараднай справай. Адпаведна, сутнасьцю краёвай гістарыяграфіі стала ідэя нацыянальнага адзінства палякаў, літоўцаў і беларусаў, абумоўленага агульным гістарычным лёсам гэтых народаў на тэрыторыі былога ВКЛ. У якасьці "іншых" або "чужых" фігуравалі толькі расейцы і габраі.*

*У 1917 – 1918 гг. Літва-Беларусь стала арэнай вострага палітычнага і нацыянальнага змаганьня. Распачалася барацьба за стварэньне нацыянальных дзяржаваў. У гэтых умовах краёўцы як зьява рэгіянальная страцілі свае пазіцыі.*

Беларускі незалежніцкі праект 1918 г. (Беларуская Народная Рэспубліка) пацярпеў няўдачу. Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла адмоўнае стаўленьне да беларускай дзяржаўнасьці з боку польскіх палітыкаў. Антон Луцкевіч у 1920 г. у брашуры *Польская акупацыя ў Беларусі* пісаў:

> "Уся буржуазная Польшча адкрыта пачала барацьбу зь беларускім народам".

Брашура А. Луцкевіча была перапоўненая фактамі зьдзеку і гвалту польскіх вайсковых уладаў зь беларускіх сялянаў і інтэлігенцыі. Празьмерная эмацыйнасьць гэтай працы, магчыма, тлумачыцца тым, што ня спраўдзіліся надзеі беларусаў на таго, хто яшчэ зусім нядаўна ўспрымаўся як "свой". Бліжэйшым на-

ступствам гэтага канфлікту сталася савецка-польская Рыжская дамова (1921) і падзел Беларусі, які зруйнаваў ідэю незалежнай беларускай дзяржавы і паспрыяў далейшаму пагаршэньню польска-беларускіх адносінаў.

Міжваенная Польшча была нацыянальнай польскай дзяржавай, якая праводзіла палітыку дзяржаўнай (нацыянальнай) асіміляцыі няпольскіх народаў, у т. л. беларусаў. Гэта адчувалася ўжо на самым пачатку яе гісторыі. У 1921 г. **Ігнат Абдзіраловіч** у вядомым эсэ *Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветагляду* адзначаў:

> "...арганічна зразумелай і прыемнай польскаму сэрцу засталася "idea jagiełłońska" <...> Тут справа не ідзе аб усім сьвеце, аб усіх славянах, не – Польшча хоча быць "od morza do morza". І вось ідзе гвалт над нашымі душамі, бо мы прыпадкова апынуліся таксама паміж абодвума морамі. Тут Захад ідзе з усёй жорсткасьцю Ўсходу: гвалт, прымус, зьдзек, вырываньне душы беларуса ідзе разам з усімі атрыбутамі прыемнага заходняга твару".

Цалкам зразумела, чаму беларуская нацыянальная гістарыяграфія першай паловы 20-х гг. XX ст. у пытаньні аб ролі палякаў у айчыннай гісторыі не выходзіла за межы канфрантацыйнага разуменьня польска-беларускіх адносінаў. Напрыклад, **М. Доўнар-Запольскі** ў *Гісторыі Беларусі* (1924) шмат пісаў пра тыя страты, якія панесла Беларусь у выніку палянізацыі першай траціны XIX ст.:

> "Гэтая эпоха вырвала зь Беларусі шмат яе выдатнейшых сыноў, якія забыліся пра сваю нацыя-

> нальнасьць <...> і аддалі свой розум і здольнасьці польскай культуры і нацыянальнасьці”.

У пераліку гэтых стратаў фігуравалі Адам Міцкевіч і “яго школа”, Юзаф Крашэўскі, Уладзіслаў Сыракомля, гісторыкі Адам Кіркор, Тэадор Нарбут ды інш. Пры гэтым палянізацыя трактавалася як сьвядомы курс на культурную асіміляцыю, што праводзілі польскія магнаты, якіх прадстаўляў Адам Чартарыскі, і польская інтэлігенцыя ў асобе рэктара ўнівэрсітэту Яна Сьнядэцкага. Гісторык даў нэгатыўную ацэнку польскаму руху пачатку ХХ ст.:

> “Разьвіцьцё польскай культуры ўяўляла сабой небясьпеку для беларускай нацыянальнай справы”, бо польскі рух “натуральна мог уцягваць і карэнных беларусаў”.

У разьдзеле, прысьвечаным гісторыі барацьбы за дзяржаўнасьць Беларусі, М. Доўнар-Запольскі адзначыў захопніцкія імкненьні палякаў, якія параўнаў з палітыкай гвалту з боку бальшавіцкага ўраду. Такім чынам, на старонках *Гісторыі Беларусі* палякі засталіся адназначна варожай сілай у адносінах да беларускасьці.

* * *

Становішча нацыянальнага прыціску, у якім апынулася беларускае насельніцтва на тэрыторыях, што былі далучаныя да Польшчы ў 1921 г., аказала моцны ўплыў на трактоўку гістарычнай ролі палякаў у працах беларускіх савецкіх гісторыкаў. Адным з найбольш яркіх прадстаўнікоў гэтай гістарыяграфіі быў акадэмік **Усевалад Ігнатоўскі** (1881 – 1931), аўтар першага са-

вецкага падручніка па гісторыі Беларусі (*Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*, 1921).

Роля палякаў у мінулым Айчыны тлумачылася У. Ігнатоўскім выключна ў межах канцэпцыі "дзвюх бедаў". Напрыклад, Люблінскую ўнію аўтар лічыў адмоўнай падзеяй і характарызаваў як "інкарпарацыю Літвы і Беларусі ў арганізм Польшчы", пры якой была страчаная "асобнасьць і незалежнасьць Літвы і Беларусі". У выніку ўстанавілася палітычнае і культурнае панаваньне Польшчы, якое абярнулася тым, што "літвіны і беларусы вышэйшых станаў апалячваліся, адыходзілі ад бацькаўшчыны сваёй, ад свайго народу". Польскі бок абвінавачваўся ў зьнішчэньні "самабытнага палітычнага твару" ВКЛ і спробах ліквідацыі культурнай і нацыянальнай самабытнасьці княства. Апошняе не атрымалася толькі дзякуючы таму, што "ніжэйшыя клясы" захавалі беларускую мову і культуру, трапіўшы пры гэтым у паднявольны стан. У. Ігнатоўскі заўважыў, што беларускі народ:

> "Забіты і загнаны, пастаўлены ў стан "быдла" <…> забыў нават, якую мову і якую нацыянальнасьць ён захаваў. У яго цёмным розуме ўсё перапуталася і зьлілося. Пан, каталік і паляк – з аднаго боку; мужык і "тутэйшы" – з другога боку, сталі для яго розуму сынонімамі".

Сытуацыя Беларусі не палепшылася і пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай. Гісторык заўважыў, што краіна "трапіла з агню ды ў полымя". Абыякавасьць расейскіх уладаў да таго, што ў Беларусі на працягу большай часткі XIX ст. працягвалася палітыка апалячваньня, пасьля паражэньня паўстаньня 1863 г.

зьмянілася курсам на русіфікацыю. Беларуская культура і мова ў другой палове XIX ст. трапіла пад ціск “феадальна-бюракратычнай імпэрыі”.

У 20-я гг. XX ст. у якасьці асноўных прэтэнзій да польскага суседа па-ранейшаму фігуравалі паланізацыя, ліквідацыя ўласнай дзяржаўнасьці і незалежнасьці, а таксама прыгон і рабскі стан беларускага сялянства. Пры гэтым у пэрыяд своеасаблівага савецкага плюралізму вобраз “польскага ворага” ў пэўным сэнсе ўраўнаважваўся вобразам “імпэрскага русіфікатара”. Аднак палітычныя перамены ў СССР канца 20-х гг., сутнасьцю якіх стала ўсталяваньне камуністычнай дыктатуры, цалкам зьмянілі ўмовы разьвіцьця гістарычнай навукі. Наступіў час поўнага ідэалягічнага кантролю. Гісторыя як навука была рэпрэсаваная. На зьмену канцэпцыі “дзвюх бедаў” прыйшоў тэзіс “ворага №1”, якім сталі г. зв. “польскія паны”. Сакратар ЦК КПБ Цімафей Гарбуноў, які прэтэндаваў на ролю “першага” беларускага гісторыка, адзін з разьдзелаў сваёй працы *Год пад сьцягам Саветаў. Да гадавіны вызваленьня Заходняй Беларусі ад панскай Польшчы* (Мінск, 1940) так і назваў: “Польскія паны – векавечныя ворагі беларускага народу”.

## Тлумачэньне гісторыка

*Ад дзяржаўнай падтрымкі да рэпрэсій – такім быў лёс польскай супольнасьці БССР у 20-30-я гг. XX ст. Паводле перапісу 1926 г., у рэспубліцы пражывала 97,5 тыс. (2,0%) палякаў. Яны зьяўляліся адной з асноўных нацыянальных групаў БССР. У пэрыяд г. зв. “палітыкі беларусізацыі” іх этнакультурныя*

*асаблівасьці не былі праігнараваныя. У 1921 г. спэцыяльным рашэньнем ураду за польскай мовай замацаваўся статус дзяржаўнай разам зь беларускай, ідыш і рускай мовамі. У 1924 г. існавалі 136 польскіх школ і 7 польскіх дзіцячых дамоў. У 1927 г. было створана Польскае аддзяленьне Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменьнікаў. У месцах кампактнага пражываньня польскага насельніцтва арганізоўваліся польскія нацыянальныя сельсаветы. Усяго быў утвораны 41 польскі сельсавет. У выніку палітычных рэпрэсій другой паловы 30-х гг. польскія нацыянальна-адміністратыўныя адзінкі былі скасаваныя. Ліквідаваліся польскія школы. Апагей антыпольскіх перасьледаў наступіў у 1937 – 1938 гг. Пачаліся масавыя дэпартацыі і фізычнае вынішчэньне польскага насельніцтва. Аналіз статыстычных матэрыялаў сьведчыць, што колькасьць палякаў БССР паміж 1937 і 1939 гг. зьменшылася на 61,5 тыс. Частка з іх была забітая ў Курапатах і іншых месцах масавых расстрэлаў, частка – дэпартаваная ў Казахстан і Сібір.*

У 30-я гг. XX ст. улады БССР цалкам ператварылі гістарычную навуку ў служку дамінуючай ідэалёгіі. Яна павінна была ідэалягічна падмацаваць праўдзеньне масавых рэпрэсій у адносінах да польскай супольнасьці. У тагачасных працах гісторыя беларусаў звычайна зводзілася да гісторыі барацьбы супраць “польскай панскай” экспансіі. Прычым апошняя суправаджалася гвалтоўным “апалячэньнем” і дэнацыяналізацыяй. У якасьці асноўных вешак барацьбы адзначаліся войны Галіцка-Валынскага княства супраць Польскага каралеўства; народны супраціў Берасьцейскай уніі; вызваленчая барацьба

разам з украінскім народам у XVII – XVIII стст.; падзеі 1863 г. (апошнія трактаваліся як паўстаньне супраць (?!) “польскіх паноў”). Цяжкая доля беларускага селяніна ў дасавецкі час трактавалася выключна як вынік польскага панаваньня на беларускіх землях. Напрыканцы гістарычнага агляду характарызавалася жыцьцё беларусаў у II Рэчы Паспалітай. Звычайна карціна малявалася жахлівая. Якія рабіліся з усяго гэтага высновы? Уладзімер Пічэта:

> «Існаваньне беларусаў і ўкраінцаў пад уладай панскай Польшчы ў канчатковым выніку прывяло б народныя масы да поўнага фізычнага выраджэньня».

Гістарычныя працы 30-х гг., у якіх фігуравалі палякі, таксама служылі справе ідэалягічнага абгрунтаваньня будучай агрэсіі СССР супраць Польшчы. У 1939 г. СССР разам з гітлераўскай Нямеччынай зьдзейсніў гэтую агрэсію, якую камуністычныя ідэолягі назвалі “вызваленчым паходам”. Падзеі 1939 г. і пазьней заставаліся фактарам, які цалкам вызначаў ацэнкі ролі і месца палякаў у беларускай гісторыі.

## Тлумачэньне гісторыка

*“Вызваленчы паход”, як вядома, быў толькі рэалізацыяй сталінска-гітлераўскага пляну падзелу Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы, які быў аформлены сакрэтным пратаколам пакту “Молатаў-Рыбентроп” ад 23 жніўня 1939 г. Усталяваньне савецкай улады ў Заходняй Беларусі суправаджалася масавымі рэпрэсіямі. На падставе дакумэнтаў НКУС-КДБ Беларусі гісторык Аляксандр Хацкевіч сьцьвердзіў, што за пэрыяд 1939 – 1941 гг. з заходніх абласьцей рэспублікі на ўсход было*

*дэпартавана больш за 120 тыс. чал. Асноўную частку рэпрэсаваных складалі палякі. Досыць часта яны лічылі беларусаў галоўнымі віноўнікамі расправаў, хоць беларусы і самі зьяўляліся аб’ектам палітычных рэпрэсій.*

*Далейшаму росту напружанасьці ў польска-беларускіх адносінах спрыяла палітыка нямецкіх акупацыйных уладаў пасьля чэрвеня 1941 г., якую ў адносінах да беларусаў і палякаў можна ахарактарызаваць вядомай формулай divide et impera. У лютым 1942 г. узьнікла Армія Краёва (АК), якой суджана было стаць галоўнай сілай польскага руху супраціўленьня. Галоўная мэта дзейнасьці АК на тэрыторыі Заходняй Беларусі (аднаўленьне польскай дзяржаўнасьці) разыходзілася з мэтамі і савецкіх, і беларускіх партызанаў. Адназначна ацаніць дзейнасьць польскагу руху супраціўленьня на беларускіх землях немагчыма. Вядома, што ў АК змагаліся ня толькі палякі, але і беларусы, што яе дзейнасьць спрыяла вызваленьню Беларусі ад германскай акупацыі. Але існуе шмат фактаў, якія сьведчаць, што беларускае насельніцтва таксама зьяўлялася ахвярай дзеяньняў АК. Камандзір Стаўбцоўскай групоўкі АК капітан Адольф Пільх адзначаў, што са сьнежня 1943 па чэрвень 1944 г. ягоныя вайскоўцы забілі каля 6 тыс. “бальшавікоў”. На думку гісторыка Юрыя Туронка, пераважную частку ахвяраў складалі беларусы, якія падазраваліся ў сувязях з партызанамі.*

*Надыход савецкай арміі прынёс новыя шматлікія ахвяры. Перасьледам былі ахопленыя ня толькі тыя асобы, якія супрацоўнічалі зь нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Шмат беларусаў і палякаў было абвінавачана ў нацыяналізме і рэпрэсавана. Пачалася новая хваля*

*дэпартацыяў. Паводле падлікаў польскага дэмографа Пятра Эбэрхардта, было дэпартавана яшчэ каля 80 тыс. чал.*

Для беларускай савецкай гістарыяграфіі пасьляваеннага пэрыяду было характэрным выключна канфрантацыйнае бачаньне мінулага беларускага народу. Трагічныя гістарычныя падзеі звычайна тлумачыліся пры дапамозе вобразу ворага, які ў залежнасьці ад канкрэтнага эпізоду набываў адпаведнае сацыяльнае, нацыянальнае або рэлігійнае аблічча. Асабліва часта гэты “вораг” апранаўся ў вопратку “польскага пана”. Найбольш прыкметным прадстаўніком такой “гістарыяграфіі” быў акадэмік **Лаўрэнці Абэцадарскі**. У вядомай брашуры *У святле неабвержных фактаў* (Мінск, 1969) ён пісаў:

> “У жорсткіх умовах каталіцкай рэакцыі (беларускі народ – *А.С.*) знайшоў сілы захаваць сваю мову, сваю культуру”.

Цікава, што ў брашуры не ўжываўся тэрмін “палянізацыя”. Аўтар таксама пазьбягаў дэталізацыі тэзісу пра “нацыянальны прыгнёт” з боку палякаў. Магчыма, гэтая асьцярожнасьць напрыканцы 60-х гг. XX ст. была абумоўлена прысьпешанай палітыкай русіфікацыі. Многія беларускія савецкія гісторыкі ў гэтых умовах імкнуліся наогул пазьбягаць аналізу асіміляцыйных працэсаў.

## Тлумачэньне гісторыка

*Свабода нацыянальна-культурнага разьвіцьця ў пасьляваеннай БССР адсутнічала. У рэспубліцы ажыцьцяўлялася палітыка русіфікацыі, ахвярай якой таксама*

*была мясцовая польская супольнасьць. Пасьля Другой сусьветнай вайны руская мова сталася адзінай урадавай мовай. У 1947 г. у Гародні была зачынена апошняя польская школа ў Беларусі. Мясцовых палякаў ізалявалі ад польскай культуры. Перапісы, якія праводзіліся ў БССР, сьведчаць, што доля палякаў сярод усяго насельніцтва рэспублікі няўхільна зьмяншалася: 1959 г. – 538,9 тыс. (6,7%), 1970 г. – 382,6 тыс. (4,3%), 1979 г. – 403,2 тыс. (4,2%), 1989 г. – 417,7 тыс. (4,1%).*

*Перамены адбыліся толькі ў другой палове 80-х гг. з пачаткам "гарбачоўскай перабудовы". У 1988 г. быў створаны Саюз палякаў Беларусі, пачалі ўзьнікаць шматлікія польскія суполкі, распачалося факультатыўнае вывучэньне польскай мовы ў школах, зьявілася польская газета Głos z-nad Niemna (1989). Сытуацыя яшчэ больш зьмянілася разам з распадам СССР, які адкрыў шлях да стварэньня незалежнай Беларускай дзяржавы. 27 сьнежня 1991 г. Польшча прызнала незалежнасьць Рэспублікі Беларусь. Значная частка мясцовай польскай грамадзкасьці выступіла з заявамі, у якіх адназначна зьвязвала ўласны лёс зь незалежнай і дэмакратычнай Беларусяй. Аднак у сярэдзіне 90-х гадоў пасьля перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнкі ў нацыянальнай палітыцы кіраўніцтва краіны адбыўся паварот у кірунку аднаўленьня палітыкі русіфікацыі і саветызацыі насельніцтва.*

Ці паўплывалі перамены канца 80 – 90-х гг. XX ст. на вобраз паляка ў беларускай гістарыяграфіі? Чым адрозьніваецца ён ад папярэдніх?

Сытуацыя ў сучаснай гістарычнай навуцы ў нашай краіне дастаткова складаная, і, на жаль, гэтая склада-

насьць абумоўлена ня толькі праблемамі ўнутранага разьвіцьця навукі. Дзяржава спрабуе вярнуць ранейшы кантроль над разьвіцьцём гуманітарных дысцыплінаў, у т. л. гісторыі Беларусі. Пад "дзяржаўным дахам" мадэрнізуюцца былыя канцэпцыі савецкай гістарыяграфіі. Прыкладам можа служыць *История Беларуси. Досоветский период. Часть 1* (Могилев, 2003) выкладчыка Магілёўскага педунівэрсітэту **Якава Трашчанка**. Знаёмства зь ёй дазваляе казаць пра шавіністычна-расейскі і праваслаўна абмежаваны падыход да беларускай гісторыі і яе сьвядомае абкраданьне. Сваю жывучасьць дэманструе таксама былы вобраз ворага. Яго ролю адыгрываюць між іншым "польские помещики" і каталіцкае духавенства. У прыватнасьці, Люблінскую ўнію Я. Трашчанок ацаніў як "завершение процесса фактического поглощения Литвы польским королевством". Аднак сапраўдным фіналам апэрацыі па зьнішчэньні беларускага народу, на яго думку, зьяўлялася Берасьцейская ўнія як праява каталіцкай экспансіі. Ацэнкі гэтай "экспансіі" носяць вельмі эмацыйны характар. Вось што сьцьвярджае магілёўскі выкладчык:

> «С католической экспансией история связывает порабощение и физическое истребление целых народов, религиозные войны, поражавшие своей жестокостью даже ко всему привыкших современников, ужасы инквизиции и духовное растление иезуитизма, беспощадное преследование всякого свободомыслия. Всё это в полной мере довелось испытать нашим предкам... Окатоличивание означало полонизацию».

Пры гэтым “польские помещики” нібыта настолькі жорстка прыгняталі беларускіх сялян, што тыя апынуліся на мяжы фізычнага выраджэньня. Выжыць беларусам дапамагалі толькі “экономические, церковные и культурные связи с Россией”. Але нават “воссоединение с Россией” (тэрмін Я. Трашчанка) не зьмяніла сытуацыі беларускага сялянства да лепшага, бо “польские помещики сохраняли здесь свои экономические и социальные позиции”.

Паўстаньне 1863 г. у Беларусі і Літве разглядаецца як выключна польскае паўстаньне, у падаўленьні якога актыўна ўдзельнічалі беларускія сяляне, якія пры гэтым кіраваліся “веками накопленной ненавистью к польскому пану”. Беларусь наогул трактуецца аўтарам як “яблоко спора в вечном российско-польском противостоянии”. Аўтар сьцьвярджае, што ў гэтае супрацьстаяньне “польские шовинисты” (тэрмін Я. Трашчанка) нібыта паспрабавалі ўцягнуць усе па-антырасейску настроеныя эўрапейскія колы, якія заўсёды несправядліва ставіліся да Расеі і зусім ня ведалі яе. Фактычна Я. Трашчанок імкнецца захаваць і мадэрнізаваць вобраз “польскага ворага” як аднаго з галоўных у беларускай гісторыі. Пры гэтым варта задумацца, чаму гісторыка, погляды якога вагаюцца паміж “заходнерусізмам” і вялікадзяржаўным шавінізмам, наогул хвалюе праблема палянізацыі. Зразумела, не таму, што ў яго баліць душа за лёс беларускай культуры. Хутчэй мы маем справу з асуджэньнем палякаў і палітыкі палянізацыі ў Беларусі толькі таму, што яны “сапсавалі” частку адзінага “рускага народу”, вынікам чаго і стала зьяўленьне беларусаў. Здаецца, апошні тэзіс, які нарадзіўся яшчэ ў XIX ст.

падчас актыўных намаганьняў расейскіх ідэолягаў даказаць легітымнасьць расейскага валоданьня беларускай зямлёй, і сёньня зьяўляецца ідэйным падмуркам разважаньняў аўтараў тыпу Трашчанка. У іх працах савецкасьць мадэрнізуецца з дапамогай “заходнерусізму” і праваслаўнага фанатызму.

* * *

Гісторыкі, якія служаць прэзыдэнту і ягонай ідэалягічнай дактрыне, выдаюць падручнікі, праводзяць прапагандысцкую працу, маюць моцныя пазыцыі ў галіне адукацыі. Але навуковай дзейнасьцю яны не займаюцца. Навука належыць да прадстаўнікоў нацыянальнай гістарыяграфіі. Як жа выглядаюць палякі ў сучаснай нацыянальнай гістарыяграфіі?

Паспрабуем адказаць на гэтае пытаньне з дапамогай кніг **Генадзя Сагановіча** *Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII ст.* (Мінск, 2001) і **Захара Шыбекі** *Нарыс гісторыі Беларусі. 1795-2002* (Мінск, 2003). Адразу заўважым, што азначаныя працы адрозьніваюцца імкненьнем разглядаць беларусаў у якасьці суб’екта ўласнай гісторыі. У першую чаргу гэтая заўвага датычыць кнігі Г. Сагановіча. Выразна прысутнічае жаданьне зразумець заходняга суседа. Напр., Г. Сагановіч пазытыўна ацэньвае вынікі Люблінскай уніі:

> “Унія, заключаная добраахвотна, стала вялікім гістарычным актам. Супольная дзяржава, створаная прадстаўнікамі беларускага, літоўскага, польскага і ўкраінскага народаў у Любліне, найперш намаганьнямі шляхты ў яе барацьбе за дэ-

> макратыю, праіснавала чатыры стагодзьдзі і не мела сабе роўных у эўрапейскай гісторыі".

Гаворачы пра палянізацыю і пашырэньне каталіцызму на беларускіх землях, гісторык не стварае ворагаў, а спрабуе зразумець прычыны гэтых працэсаў. У прыватнасьці, ён адзначыў тую велізарную перавагу ў адукацыі, якую ў другой палове XVII ст. мелі каталіцкія ордэны, і найперш езуіцкі, што стварыў найлепшыя навучальныя ўстановы.

> "Менавіта іх (езуітаў – *А.С.*) праца ў школах забясьпечвала ўніфікацыю шляхецкай культуры па польскай мадэлі ў межах цэлай Рэчы Паспалітай".

Захар Шыбека ў большай ступені прытрымліваецца канцэпцыі "дзвюх бедаў" беларускай гісторыі – польскай і расейскай. Палякі, на яго думку, моцна прычыніліся да працэсаў дэнацыяналізацыі Беларусі. Гісторык адзначыў палянізацыю, якая адбывалася напачатку XIX ст. у школах Віленскай навучальнай акругі. У выніку беларуская культура "губляла лепшыя таленты, якія пад уздымам усеагульнага ўплыву паланізацыі цураліся беларускасці і аддавалі свой розум і здольнасці іншай культуры".

Наступны пэрыяд палянізацыі праз сыстэму адукацыі ён заўважыў падчас нямецкай акупацыі часоў Першай сусьветнай вайны. Дазвол акупацыйных уладаў разьвіваць адукацыю на родных мовах найлепей выкарысталі палякі. Іх перавага ў інтэлектуальных і матэрыяльных сілах, адзначыў З. Шыбека, з непазьбежнасьцю вяла да палянізацыі беларусаў ва ўмовах, калі "рускае супрацьстаянне здымалася". Палянізацыя працягвалася і падчас г. зв. "савецка-польскай вай-

ны” 1919 – 1920 гг. на той тэрыторыі Беларусі, дзе быў устаноўлены “акупацыйны рэжым”. Беларускія школы маглі працаваць толькі ў Менскай акрузе. Паводле З. Шыбекі, “заходнія беларускія землі палянізаваліся, а ўсходнія рабаваліся. Палякі паўтаралі манэўр папярэдніх акупантаў – немцаў”.

Непрыхільнасьць палякаў да беларускай дзяржаўнасьці найбольш выразна праявілася падчас мірных перамоваў у Рызе. Гэтым падзеям прысьвечаны раздзел *Як Расія з Польшчай дзялілі Беларусь*. Аднак, крытыкуючы польскую палітыку ў адносінах да беларускага нацыянальнага руху ў першай трэці XX ст., аўтар фактычна прызнаў, што без незалежнай польскай дзяржавы 1918 г. не было б і БССР. Ён таксама адзначыў факт антыпольскіх рэпрэсій у БССР, падкрэсьліў геаічны супраціў палякаў войскам Нямеччыны і СССР у 1939 г. З. Шыбека адкінуў канцэпцыю “вызваленчага паходу”. Падзеі верасьня 1939 г. у Заходняй Беларусі ён ацаніў як сумесную савецка-германскую агрэсію супраць незалежнай краіны, якой распачалася Другая сусьветная вайна.

Аднак у нацыянальнай гістарыяграфіі прысутнічае і іншая тэндэнцыя. Упершыню яна праявілася на старонках выданьня *Сто пытаньняў і адказаў па гісторыі Беларусі*”. Ганна Сурмач, адказваючы на пытаньне *Як на Беларусі з’явіліся палякі?*, падкрэсьліла розьніцу паміж этнічнымі палякамі і абсалютнай большасьцю прадстаўнікоў мясцовай (беларускай) польскай грамадзкасьці. Апошнія, на яе думку, зьяўляюцца “беларусамі па паходжанні” або “апалячанымі беларусамі”. У беларускай гістарыяграфіі пачала распаўсюджвацца ідэя, што мяс-

цовыя палякі гэта не хто іншы, як польскамоўныя этнічныя беларусы. Зьявілася адпаведная тэрміналёгія: “беларускія памешчыкі-каталікі” і “польска-беларускія памешчыкі”, “польска-беларускія пісьменнікі”. Леанід Лыч характарызаваў Яна Баршчэўскага, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлю як “беларусаў па нацыянальнасьці, што служылі на карысьць польскай літаратуры”. Некаторыя дасьледчыкі пачалі ўжываць тэрміны “палякі” і “польскія дваране” толькі ў двукосьсі, падкрэсьліваючы тым самым іх адносласьць у дачыненьні да мясцовых палякаў. Яшчэ далей пайшоў Кастусь Цвірка, які ахарактарызаваў Яна Чачота як “сапраўднага беларускага нацыянальнага паэта”. Такі падыход, як падаецца, перакрэсьлівае гістарычную адметнасьць беларускіх палякаў, пазбаўляе іх права на ўласнае месца ў беларускай гісторыі.

## Тлумачэньне гісторыка

*Беларускія і літоўскія палякі зьяўляюцца спэцыфічнай этнакультурнай супольнасьцю, адметнасьць якой калісьці падкрэсьліў яшчэ Міхал Ромэр:*

*“Катэгарычна адкідаю трактаваньне літоўскіх палякаў як “адгалінаваньня польскай нацыі, якое жыве ў Літве” (размова ідзе пра гістарычную Літву – А.С.). Калі ў адносінах да нас, літоўскіх палякаў, і можна казаць пра нейкае “адгалінаваньне” ад чаго-небудзь ці ад каго-небудзь, то гістарычная дакладнасьць патрабуе адзначыць, што мы не зьяўляемся часткай польскай нацыі, якая прыйшла ў Літву, а ўяўляем сабой частку карэннага краёвага насельніцтва, якое сёньня стала польскім. Мы не імпартаваны экзатычны тавар, а пра-*

*дукт непасрэднай гістарычнай эвалюцыі, якая адбывалася ў нашым краі ў выніку пэўных падзеяў палітычнай гісторыі”.*

*Найбольш аўтарытэтныя сучасныя дасьледчыкі Польшчы, Беларусі і Літвы згодныя, што ў сваёй абсалютнай большасьці беларускія і літоўскія палякі зьяўляліся нашчадкамі палянізаваных аўтахтонаў беларускіх і літоўскіх земляў. Этнакультурная адметнасьць беларускіх і літоўскіх палякаў ад палякаў з этнічных польскіх тэрыторый праяўлялася ва ўяўленьнях пра ўласнае мясцовае паходжаньне, ва ўсьведамленьні непарыўнай сувязі з роднай зямлёй, у тым, што прыхільнасьць да польскай культуры спалучалася з шанаваньнем мясцовых культурных традыцый, у пачуцьці непадзельнасьці лёсу гістарычнай Літвы і Польшчы. Усё гэта дазваляе разглядаць беларускіх палякаў не як “адвечных ворагаў беларускага народу”, а як адзін з карэнных народаў Беларусі, які мае поўнае права на разьвіцьцё польскай мовы і культуры. Таксама заўважым, што гэтае разьвіцьцё ня толькі не нясе пагрозы для беларускай культуры, а, наадварот, узбагачае яе.*

*Перапіс 1999 г. засьведчыў, што ў Беларусі пражывала болей за 396 тыс. палякаў (3,9%). Пры гэтым 57,6% польскага насельніцтва заявілі, што звычайна размаўляюць па-беларуску. Палякі Беларусі аказаліся самым беларускамоўным народам краіны.*

Асобнай увагі заслугоўваюць сучасныя ацэнкі фэномэну палянізацыі. Сярод працаў апошняга часу зьвяртаюць на сябе ўвагу тэксты Л. Лыча. Палянізацыя трактуецца гэтым гісторыкам амаль выключна як пры-

мусовая асыміляцыя. У прыватнасьці, ён сьцьвярджае, што “ідэолягі каралеўскай улады і каталіцкай царквы (у Рэчы Паспалітай – **А.С.**) імкнуліся ўсімі сродкамі хутчэй апалячыць беларускі народ, падарваць яго веру ў самабытнасьць”. Прычым адным з галоўных сродкаў апалячваньня зьяўляўся “каталіцызм”. На старонках *Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі* Л. Лыч вызначыў палянізацыю як “сыстэму мерапрыемстваў дзяржаўных органаў, культурных установаў і каталіцкага духавенства па асіміляцыі беларускага народу”. Першыя сымптомы палянізацыі ён заўважыў ужо пасьля Крэўскай уніі. Галоўная прычына страты часткай беларусаў сваёй культурна-моўнай адметнасьці ў пэрыяд Рэчы Паспалітай, паводле Л. Лыча, заключалася ў сьвядомай дзейнасьці сьвецкай і духоўнай уладаў гэтай дзяржавы. Ён катэгарычна адвергнуў шлях добраахвотнага перайманьня беларусамі ўзораў польскай культуры і польскай мовы. Л. Лыч лічыў, што палянізацыя працягвалася і пасьля далучэньня беларускіх земляў да Расіі. Па меркаваньні дасьледчыка, яна аслабела толькі пасьля разгрому паўстаньня 1863 – 1864 гг.

Варта заўважыць, што некаторыя беларускія дасьледчыкі для разуменьня гістарычных працэсаў часоў сярэднявечча часта карыстаюцца тэрміналёгіяй, якая зьяўляецца толькі ў пэрыяд новай і найноўшай гісторыі, калі, зрэшты, і адбываўся працэс фармаваньня нацыяў. Але вядома, што Рэч Паспалітая была феадальна-саслоўнай шляхецкай дзяржавай і не зьяўлялася мэханізмам для рэалізацыі нацыянальных інтарэсаў. Трэба адзначыць і тое, што палітычныя прывілеі для каталікоў нельга лічыць прыкметай палітыкі нацыянальнай асіміляцыі, бо канфэсія ня роўная

этнічнасьці або нацыянальнасьці. Тэрмін “паляк” на працягу большай часткі існаваньня Рэчы Паспалітай быў тэрмінам не нацыянальным, а палітычным і саслоўным. І толькі ў такім сэнсе гэтую краіну можна лічыць “польскай дзяржавай”. Спроба ахарактарызаваць працэсы палянізацыі часоў Рэчы Паспалітай у катэгорыях палітыкі нацыянальнай асіміляцыі ўладаў міжваеннай Польшчы (1921 – 1939) толькі заблытвае сытуацыю. Характэрнае для многіх дасьледчыкаў атаясамленьне каталіцызму і польскасьці не дазваляе растлумачыць факт прыналежнасьці да каталіцкага касьцёлу шматлікіх дзеячаў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня пачатку XX ст.

Вячаслаў Вярэніч і Міхаіл Піліпенка зьвярнулі ўвагу на ўзаемнасьць культурных уплываў. В. Вярэніч лічыць, што палянізацыя “рускага і літоўскага баярства” ў XVI – XVIII стст. была амаль роўнай па этнічных маштабах працэсу асіміляцыі (“беларусізацыі”) польскіх каланістаў зь ніжэйшых колаў грамадзтва (XII–XIV стст.). На яго думку, якраз уплыў беларускай мовы вызначыў фармаваньне адметнай “пальшчызны літоўскай”. М. Піліпенка зьвязаў з “польскасьцю” зьяўленьне новых формаў адміністратыўнага падзелу, гарадзкога самакіраваньня, новага календара, пранікненьне каталіцызму і пэўныя ўплывы на беларускую мову (узбагачэньне слоўнікавага складу ды інш.). В. Вярэніч адзначыў спантанную самапалянізацыю вясковага насельніцтва Віленшчыны і Гарадзеншчыны ў другой палове XIX ст. Ён жа сьцьвярджаў, што атаясамленьне каталіцызму і польскасьці прыйшло ў Беларусь ужо пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай і было зьвязана з

палітыкай царскіх уладаў. Менавіта апошнія навязвалі грамадзтву тэрміны “руская вера” і “польская вера”, што спрыяла русіфікацыі праваслаўных і палянізацыі каталікоў.

Уласнае дасьледаваньне польскага руху на беларускіх і літоўскіх землях у апошняе 50-годзьдзе Расейскай імпэрыі (1864 – 1918) пераканала ў мэтазгоднасьці карыстацца ня толькі тэрмінам “палянізацыя”, але і тэрмінам “самапалянізацыя” або “спантанная палянізацыя”, якая, напрыклад, адбывалася ў беларускай каталіцкай вёсцы ў апошнюю чвэрць XIX ст. Пры гэтым палянізаваныя колы насельніцтва ня страцілі сувязі з Айчынай. Звычайна яны лічылі сябе ня часткай іншаземнай нацыі, а “мясцовым элемэнтам”, неад’емнай складовай этнакультурнага і грамадзка-палітычнага краягляду гістарычнай Літвы. Яны нечым падобныя на бельгійскіх валонаў, якія сумяшчалі прыналежнасьць да францускай культуры з пачуцьцём этнічнай адметнасьці і патрыятызму грамадзяніна Бельгіі. Толькі, у адрозьненьне ад валонаў, беларускія і літоўскія палякі ня мелі свайго арыгінальнага этноніма.

У сучаснай беларускай гістарыяграфіі ў ацэнках ролі палякаў у айчыннай гісторыі праяўляюцца супярэчлівыя тэндэнцыі. “Гісторыкі-прапагандысты”, якія адкрыта служаць сучаснаму палітычнаму рэжыму, імкнуцца захаваць былыя савецкія ацэнкі і нават узмацніць іх элемэнтамі ідэалёгіі “заходнерусізму”. Пры гэтым, аднак, іх абвінавачаньні па адрасе палякаў у правядзеньні палітыкі нацыянальнай асіміляцыі, у палітычных антыбеларускіх інтрыгах выглядаюць

як перапевы мэлёдый вялікарускіх шавіністаў XIX – XX стст. Апошнія клялі палякаў фактычна за тое, што іх прысутнасьць перашкодзіла Расеі на 100 – 200 гадоў раней захапіць беларускія землі як "ісконна рускія" і завяршыць працэс русіфікацыі яшчэ ў XIX ст. Апроч таго, крыкі пра жахі колішняй (і сучаснай!) палянізацыі павінны адцягнуць увагу ад паскоранай русіфікацыі краіны, якая адбываецца зараз.

У нацыянальнай гістарыяграфіі таксама прысутнічае па-ранейшаму негатыўны вобраз паляка. Вельмі цяжка пераадольваюцца стэрэатыпы расейскіх і савецкіх часоў. Набор асноўных прэтэнзій да польскага суседа выглядае традыцыйна: палянізацыя сацыяльных вярхоў беларускай супольнасьці, аслабленьне Беларуска-Літоўскай дзяржавы (ВКЛ), палітыка нацыянальнай асіміляцыі 20 – 30-х гг. XX ст. на тэрыторыі Заходняй Беларусі ды інш. Але відавочная эвалюцыя поглядаў гісторыкаў "нацыянальнага лягеру". У прыватнасьці, яна праяўляецца ў сьвядомым жаданьні зразумець суседа і разглядаць многія палітычныя падзеі мінулага як элемэнты сумеснай польска-беларуска-літоўскай гісторыі, у якой асноўныя дзейныя асобы былі ня толькі палітычнымі канкурэнтамі, але і партнёрамі. Перамены таксама праяўляюцца ў больш глыбокім разуменьні працэсаў палянізацыі (самапалянізацыі). Адбываецца паступовае пераадольваньне вобразу польскага ворага, хоць застаюцца досыць сур'ёзныя прэтэнзіі да польскага ўнёску ў айчынную гісторыю.

Пашыраецца разуменьне, што канструяваньне з палякаў (і расейцаў) вобразу ворага сродкамі гістарычнага дасьледаваньня наносіць вялікую шкоду

разьвіцьцю нацыянальнай сьвядомасьці. Яно спрыяе распаўсюджаньню пачуцьця ўласнага гістарычнага бясьсільля. Беларусы не ўспрымаюць сябе ў якасьці суб’екта ўласнай гісторыі. Гістарычная традыцыя моцна спрычынілася да фармаваньня той жабрацкай псыхалёгіі, пра якую пісаў у вершы *Перад будучыняй* (1922) Янка Купала:

*З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,*
*Брыдзем, паўзем у сьвет –– скрозь неўпапад*
*І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,*
***Што мы – не мы, што нехта вінават.***

***

У жніўні 2004 г. падчас экспэдыцыі па “скірмунтаўскім Палесьсі” (Піншчына) я зноў наведаў магілу Рамана Скірмунта, які пахаваны ў старым парку на ўскрайку вёскі Парэчча. Імя гэтага палітыка вярнулася зь небыцьця толькі ў 90-я гг. А ў 1999 г. намаганьнямі дзеячаў польскіх арганізацый Пінска была адноўленая яго магіла і пастаўлены крыж з надпісам на польскай мове. Праўда, мясцовыя жыхары сьцьвярджалі, што крыж пастаўлены не на месцы сапраўднага пахаваньня. У апошні прыезд у Парэчча ў метрах дваццаці ад “польскага” крыжа я ўбачыў яшчэ адзін крыж з надпісам па-беларуску: *Раман Скірмунт (1868 – 1939)*. Такім чынам, колішні прэм’ер-міністр БНР (красавік – травень 1918 г.) і сенатар міжваеннай Польшчы (1930 – 1935) праз паўстагодзьдзе пасьля трагічнай сьмерці і працяглага замоўчваньня савецкімі гісторыкамі ягонай асобы займеў нават дзьве магілы – “польскую” і “беларускую”.

Дасьледаваньне жыцьця і дзейнасьці Р. Скірмунта пераконвае ў тым, што гэта быў чалавек польска-беларускага паўзьмежжа, у сьвядомасьці якога беларускасьць не пярэчыла польскасьці і наадварот. У сваёй палітычнай дзейнасьці ён імкнуўся да паразуменьня і згоды паміж палякамі і беларусамі, бо бачыў у гэтым пэўны шанс для незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Не атрымалася. Сучасныя магілы (?!) Рамана Скірмунта нагадваюць пра тыя палітычныя і культурныя межы, якія ў XX ст. падзялілі палякаў і беларусаў. Выглядае гэта, між іншым, і як знак колішняга нежаданьня зразумець адно аднаго. Але наўрад ці адпавядае гэта сёньня нацыянальным інтарэсам абодвух народаў.

# ЭЎРОПА ТУТ УЖО БЫЛА

## Ігар Вуглік

Эўрапейскаму сьвету землі сёньняшняй Беларусі былі вядомыя яшчэ з антычных часоў. У прыклад найчасьцей цытуем Гэрадота, хаця ён у тую пару быў далёка не адзіным, хто пад рознымі найменьнямі згадваў наш край.

Але да прыняцьця хрысьціянства беларускія землі знаходзіліся па-за межамі актыўнага эўрапейскага ўплыву, прынамсі, нават раманізацыя іх не закранула, а сувязі з тагачаснай "Эўропай" былі рэдкімі і несыстэмнымі. І толькі хрысьціянства (візантыйскага канону) прылучыла Беларусь да арэалу эўрапейскай цывілізацыі. Разам з тым, візантыйскае праваслаўе было досыць далёкім ад рымскага дагмату (каталіцызму), які імкнуўся спалучыць веру і розум, і дзе з XIII ст. арыстотэлеўскі рацыяналізм афіцыйна ўвайшоў у тэалёгію. Таму маюць пэўную рацыю і тыя, хто сьцьвярджае, што візантыйскае праваслаўе было своеасаблівай антытэзай уласна эўрапейскасьці, як яго, дарэчы, і ўспрымалі ўдзельнікі крыжовых паходаў, якія не лічылі "праваслаўе" за хрысьціянства.

Больш актыўна заходнеэўрапейскія ўплывы пачынаюць выяўляцца ў час паўставаньня Вялікага Княства Літоўскага (XIII ст.) Між іншым, "эўрапеізацыі" беларусаў у немалой ступені "паспрыяла" вайско-

вая экспансія Захаду, перадусім пастаянныя набегі нямецкіх тэўтонскіх рыцараў, якія ня толькі рабавалі мясцовае насельніцтва, але і прылучалі яго да хрысьціянскай веры паводле каталіцкага дагмату. Гэта быў складаны і супярэчлівы працэс. З аднаго боку, гінулі людзі і нішчыліся селішчы, а з другога – на пабраных беларускіх землях засвойваліся ад захопнікаў новыя тэхналёгіі і лепшыя здабыткі эўрапейскай культуры (у тым ліку – і збройнай)...

Гэткім чынам, менавіта з пары "рыцарскіх войнаў" і пачалося паступовае пранікненьне каталіцызму на беларускія землі ды паступовае ўсталяваньне прававога суіснаваньня яго з праваслаўем.

* * *

Ад стагодзьдзя да стагодзьдзя стасункі з рознымі эўрапейскімі краінамі рабіліся ўсё больш інтэнсіўнымі і трывалымі. А канчатковае прылучэньне нашага краю да эўрапейскай прасторы засьведчыла магдэбургскае права – сыстэма гарадзкога самакіраваньня, якая панавала ў Эўропе. Магдэбургскае права зьявілася ў гарадах ВКЛ ужо напрыканцы XIV ст. – затым яго атрымалі і многія мястэчкі.

XVI ст. ("Залаты век") – найбольш плённая пара ў старадаўняй беларускай гісторыі, што ў значнай ступені было абумоўлена арганічным сінтэзам эўрапейскай цывілізацыі і мясцовых культурных традыцый. Менавіта тады канчаткова афарміліся ў Статуце 1588 г. заканадаўчая і прававая сыстэмы ВКЛ. Мяркуючы па вялізнай колькасьці судовых актаў, суд

быў асноўным месцам вырашэньня канфліктаў, што зьяўляецца адметнай рысай эўрапейскай сыстэмы ўлады. У той час канчаткова аформілася і пануючае саслоўе – шляхта (10–14% ад усяго насельніцтва). Гэта значыць, што колькасьць людзей, якія непасрэдна бралі ўдзел у кіраваньні дзяржавай і яе інстытутамі, ня шмат саступала іншым краінам Эўропы.

Перамены глябальнага маштабу адбыліся і ў эканоміцы. Яны наблізілі становішча беларускага сялянства да эўрапейскага. Тут перадусім маецца на ўвазе валочная рэформа 1557 г., якая надзяліла сялян зямлёй (валокамі), што замацоўваліся за гаспадаркамі ў якасьці падатковай адзінкі. Гэтая рэформа падарвала эканамічную ролю сялянскай абшчыны (грамады), спрыяла разьвіцьцю прыватнаўласьніцкіх настрояў і, фактычна, зрабіла тое, што ў Расеі праз трыста зь лішкам гадоў зробіць рэформа Сталыпіна.

Істотныя зьмены мы назіраем і ў рэлігійнай сытуацыі – з паўночнай Эўропы прыйшоў да нас пратэстантызм, які хутка завабіў пануючыя слаі грамадзтва. Дзякуючы якраз пратэстантызму ў краіне ўмацаваліся прынцыпы рэлігійнай талеранцыі. Вось чаму ў ВКЛ знаходзілі прытулак усе тыя, каго перасьледавалі за ідэйныя перакананьні і на ўсходзе, і на захадзе (згадаем хаця б Андрэя Курбскага ці сацыніянаў).

У гэтую пару канчаткова ўсталяваўся звычай атрымліваць адукацыю за мяжой (такую магчымасьць мелі маладыя людзі з самым розным сацыяльным статусам), ва ўнівэрсытэтах Польшчы, Чэхіі, Італіі, Германіі, Францыі... А прадстаўнікі знатнейшых

родаў дзяржавы (Радзівілы, Сапегі, Тышкевічы, Храптовічы, іншыя...) былі амаль спрэс па-эўрапейску адукаванымі.

Культурнае жыцьцё Беларусі XVI ст. праходзіла пад істотным уплывам эўрапейскага рэнесансу. На Беларусі шырока распаўсюдзіліся ідэі гуманізму, чаму найлепшым сьведчаньнем 22 кнігі Бібліі, выдадзеныя Францыскам Скарынам (1517 г.) на зразумелай народу мове. Гэты асьветніцкі акт знаходзіцца ў кантэксьце аналягічных падзеяў у Германіі, Чэхіі, іншых эўрапейскіх краінах, што адбыліся пад уплывам пратэстанцкай тэалёгіі. (Дарэчы, зазначым, што на Беларусі пакінулі свой сьлед практычна ўсе вялікія эўрапейскія гісторыка-культурныя стылі, за выключэньнем антычнасьці, – візантыйскі, раманскі, гатычны, рэнесанс, барока, Асьветніцтва, клясыцызм, рамантызм і да т.п.).

У XVI ст. Беларусь (ВКЛ) трывала замацавалася ў ролі передавога фарпоста Эўропы на ўсходзе (А. Тойнбі).

* * *

На той час Беларусь мела адносна высокі ўзровень урбанізацыі. У сярэдзіне XVII ст. тут налічвалася 39 гарадоў і прыблізна 350 мястэчкаў, дзе жыло амаль 250 тысяч чалавек (каля 11% усяго насельніцтва). І хаця па гэтых параметрах яна саступала шэрагу краінаў, але як і ў Эўропе ў нас была багатая гарадзкая культура, шанаванае саслоўе гараджан, моцнае купецтва, якія адыгрывалі істотную цывілізацыйную ролю для ўсяго краю.

Урбаністычная сыстэма была поліцэнтрычнай, гэта значыць, што тут важную сацыяльную і культурную ролю адыгрывалі невялікія гарады і мястэчкі. Тагачасная Беларусь пазьбегла асноўнай хібы новай эўрапейскай цывілізацыі – татальнай урбанізацыі і вынішчэньня монстрамі-гарадамі культуры правінцыі, аб чым значна пазьней пісаў Освальд Шпенглер.

Вышэй мы ўжо згадвалі магдэбургскае права, якое атрымалі ўсе гарады і шматлікія мястэчкі. Праўда, у гарадах і мястэчках, якія мелі прыватнага ўласьніка, магдэбургскае права было ў нейкай меры абмежаванае прысутнасьцю прадстаўніка ўласьніка ў кіраўніцтве горада – войта і прэтэнзіямі магнатаў на зямельную і маёмасную ўласнасьць месьцічаў. Тым ня менш, гарады на нашых землях інтэнсіўна разьвіваліся паводле тагачасных эўрапейскіх стандартаў – як у формах гарадзкога жыцьця (балі, канцэрты, рэдуты, салоны), так і архітэктуры.

Між іншым, досыць часта асобныя гарады выступалі ў якасьці самастойных суб’ектаў вялікай палітыкі (скажам, у Гародні мусіў праводзіцца кожны трэці сойм Рэчы Паспалітай) і нават, здаралася, бралі на сябе ролю арганізатара вайсковых кампаній...

Беларускія гарады захоўвалі сваю самастойнасьць да канца існаваньня Рэчы Паспалітай. Калі нашыя землі былі інкарпараваны ў склад Расейскай імпэрыі, магдэбургскае права было скасаванае, і вельмі хутка ад былой велічы і раскошы гарадоў не засталося і знаку.

Яшчэ адна прыкмета эўрапейскай цывілізацыі – няспыннае аднаўленьне тэхналёгій вытворчасьці.

Тут старабеларуская культура можа ганарыцца кнігадрукаваньнем, дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, што паўплывала на культуру Расеі (паліхромная кафля, аб'ёмная разьба), будаўніцтвам буйных мануфактур у другой палове XVIII ст. Беларускі посуд з Налібок і Урэчча, знакамітыя слуцкія паясы (ды шмат чаго яшчэ) карысталіся попытам па ўсёй Эўропе.

Прынцыпам заходняй цывілізацыі адпавядала і палітычная сыстэма тагачаснай Беларусі. Зразумела, у шляхецкай краіне казаць аб дэмакратыі ў сучасным сэнсе слова немагчыма – выбіралі і былі абранцамі адно шляхцічы. Але шляхта і гараджане з іх магдэбургскім правам, праз палітычныя формы, блізкія да парлямэнтарызму, адстойвалі сваю аўтаномію ад караля ці феадальных прэтэнзій. Ідэі палітычнай, грамадзянскай свабоды, культурнага плюралізму былі характэрныя тагачаснай грамадзкай думцы і псыхалёгіі.

У заходнім тыпе цывілізацыі прыватная ўласнасьць дамінуе над агульна-дзяржаўнай маёмасьцю. Зусім ня так у цывілізацыі ўсходняга тыпу, дзе зямля і сродкі вытворчасьці належаць цару, які ўвасабляе дзяржаву і раздае яе багацьці сваім падданым па ўласным жаданьні (ці забірае назад).

У гэтым сэнсе прававая маёмасная сыстэма Беларусі адпавядала эўрапейскім стандартам. Статут 1588 г. ахоўваў прыватную маёмасьць, забараняючы адбіраць яе з хоць якой нагоды – акрамя здрады радзіме.

Па зьвестках самых розных аўтараў, палова зямельнага фонду Беларусі знаходзілася ў прыватным

уладаньні. Гэта значыць дзяржаўная, каралеўская маёмасьць не была дамінуючай і, адсюль, дзяржава і кароль не маглі навязваць грамадзтву тыя палітычныя ўмовы, які яны палічылі б слушнымі.

* * *

Для эўрапейскай мэнтальнасьці характэрныя плюралізм думак, індывідуалізм, рацыяналізм, прагматызм, гуманізм – адным словам, такая этычная сыстэма, якая, паводле Макса Вэбэра, упісваецца ў паняцьце пратэстанцкай этыкі.

З XVI ст. на Беларусі ўсё большае значэньне пачынае набываць каталіцызм. Менавіта ён згуртаваў вакол сябе шматлікія колы грамадзтва і стаўся істотным фактарам як палітычнага, так і сацыяльнага, культурнага жыцьця краю. Беларускай спэцыфікай касьцёла быў яго элітарны, саслоўны характар. Цікава, што, нягледзячы на колькасную перавагу ўніяцкіх кляштараў і плябаній, у гарадах – эпіцэнтрах цывілізацыі – пераважалі каталіцкія кляштары. Па дадзеных за 1790 г. (прыведзеныя Я. Марашам), у гарадах было 345 каталіцкіх плябаній (а ўніяцкіх – 201).

Адной з істотных адметнасьцяў касьцёла было тое, што ён не сінтэзаваўся з паганствам, а выцясьняў яго на пэрыфэрыю духоўнага жыцьця ці ўвогуле зьнішчаў. Там, дзе быў касьцёл, ужо не заставалася месца народным паганскім звычаям і традыцыям. У гэтым сэнсе каталіцызм рэзка адрозьніваўся ад праваслаўя і ўніяцтва, што былі распаўсюджаныя пераважна сярод вясковага насельніцтва, якое ніколі не парывала з

паганскімі традыцыямі. Зрэшты, шчыльную лучнасьць праваслаўя (і паўсталага на ім уніяцтва) з паганствам можна патлумачыць як слабой матэрыяльнай, так і нішчымнай арганізацыйна-інтэлектуальнай базай гэтых канфэсій.

Такім чынам, даводзіцца канстатаваць, што каталіцызм, па сутнасьці, падзяліў тагачаснае беларускае грамадзтва на ўласна хрысьціянаў (каталікоў) і на спажыўцоў сінкрэтычнай хрысьціянска-паганскай тэалягічнай культуры. Заслугоўвае ўвагі той факт, што гэты падзел меў сацыяльны характар – каталікамі былі пераважна шляхцічы, уніятамі – сяляне і плебейскае насельніцтва горада.

Праз гэты падзел на Беларусі пакрысе фактычна ўсталяваўся саслоўна-канфэсійны плюралізм. Тут побач, у адным сацыяльным кантэксьце, суіснавалі чатыры хрысьціянскія канфэсіі, а да таго ж яшчэ паганства, іслам ды іудаізм. Фэномэн рэлігійных войнаў, гугенотаў і Ля-Рашэлі (ці дыскрымінацыі старавераў у Расеі) на Беларусі быў немагчымы па азначэньні. Рэлігійная афарбоўка войнаў XVII ст. была прыўнесеная на нашыя землі звонку ўкраінскімі казакамі, Масковіяй і палітыкай Кароны.

З каталіцызмам на Беларусь прыйшла тыповая раманская набожнасьць.  У выніку чаго ўсталявалася эўрапейская мадэль стасункаў дзяржавы і царквы, калі царква, будучы фармальна незалежнай ад дзяржавы, актыўна ўдзельнічае ў грамадзкім жыцьці і тым самым дасягае сваіх мэтаў. (Асобна адзначым, што на Беларусі так і не прыжылася візантыйская – расейская

– мадэль узаемаадносінаў паміж царквой і дзяржавай, калі царква выступае ў ролі аднаго з інстытутаў дзяржавы).

Каталіцкі касьцёл у Беларусі адрозьніваўся ад праваслаўя большай скіраванасьцю на канкрэтнае жыцьцё і яго праблемы, а таксама актыўнай практычнай дзейнасьцю – прапаведніцкай, адукацыйнай, выдавецкай і г. д. Калі праваслаўе пераважна было скіраванае на роздум аб вечным, дык каталіцызм імкнуўся быць побач з чалавекам і яго канкрэтнымі праблемамі.

Сваёй практычнай скіраванасьцю, асабістым прыкладам сьвятароў ды манахаў каталіцызм фармаваў сьветапогляд, зарыентаваны на дзейнасьць у імя Бога і дзеля чалавека. Актыўны тып шляхціча, які дамінаваў у падзеях той эпохі, сваім масавым зьяўленьнем не ў апошнюю чаргу абавязаны рупнасьці касьцёла.

З канца XVI ст. у Вялікае Княства Літоўскае прыйшла касмапалітычная, шырока распаўсюджаная ў раманскіх краінах езуіцкая адукацыйная сыстэма, фарпостамі якой сталіся Віленская езуіцкая акадэмія і некалькі калегіюмаў. У падмурку адукацыі езуітаў ляжала эўрапейская “гуманітарная” сыстэма, якая палягала на лёгіцы Арыстотэля (мадэрнізаванай Дэкартам) і навучала ляціне, грэцкай ды сямі вольным мастацтвам. У адукацыйных установах езуітаў звычайна былі бібліятэкі, спэцыяльна аздобленыя навучальныя кабінэты, абсэрваторыя, батанічны сад, выпускалася свая газэта ці часопіс.

У Беларусі досыць хутка бралі на ўзбраеньне апошнія дасягненьні эўрапейскай навукі, тут чыталі

Дэкарта, Бэкана, Канта, Гегеля, Русо, Вальтэра... Ніколі болей у нашай гісторыі адукацыя не была так максімальна наблізжаная да эўрапейскіх стандартаў, як у XVII–XVIII стст.

* * *

Яшчэ адна рыса эўрапейскага мэнталітэту – рацыяналізм (прагматызм). Нягледзячы на разнастайныя прымхі і забабоны (вера ў чарадзейства, д'ябла), можна сьцьвярджаць, што мысьленьне чалавека той эпохі было пераважна рацыяналістычным, а ўчынкі абумоўліваліся найперш прагматыкай жыцьця.

Здаецца, што беларускую шляхту той пары вельмі цяжка залічыць да прагматыкаў. Устойлівая традыцыя шляхетнага шыкаваньня і гіпэртрафаванай гасьціннасьці была досыць далёкай ад хоць якога меркантылізму, да таго ж шляхце было забаронена займацца рамяством і гандлем. Тым ня менш, менавіта ў шляхецкіх маёнтках былі адчыненыя ў другой палове XVIII ст. першыя мануфактуры (Урэчча, Налібокі, Слуцк). Ды і ўся культура эўрапейскага Асьветніцтва, зь яго рацыяналістычнай дамінантай, прыйшла на нашы землі пры актыўным удзеле шляхты, хаця больш лягічным было б яе пашырэньне праз гарадзкую купецка-буржуазную праслойку. І не хто іншы, а шляхта стварыла буржуазную Канстытуцыю 3 мая 1791 г., яна ж пачала рыхтаваць рэформу па вызваленьні сялян ад прыгону, і калі б не далучэньне да Расеі, прыгонніцтва на беларускіх землях магло быць скасавана значна раней за 1863 г.

Прагматызм беларусаў, прынамсі шляхты, па эўрапейскіх мерках можа і зусім не прагматызм, а вось што да індывідуалізму, дык тут мы ўжо ж напэўна былі “паперадзе Эўропы ўсёй”. Калі заўгодна, індывідуалізм у нас быў нават добра гіпэртрафаваны, і зусім ня выключана, што менавіта ён урэшце загубіў нашу дзяржаву.

Культура Вялікага Княства Літоўскага, у прававым падмурку якой ляжалі артыкулы Статута, грунтавалася на прыярытэце правоў асобы, абароне яе недатыкальнасьці – у першую чаргу маёмаснай, а таксама на свабодзе сумленьня і вольнага перараху ў прасторы Эўропы (ды і па ўсёй зямной кулі).

Традыцыйны шляхецкі індывідуалізм у XVII–XVIII стст. набыў новыя формы, зрабіўшыся тым, што мы можам назваць барочным індывідуалізмам, маючы на ўвазе, што барока – стыль вычварны, гіпэртрафаваны. Гэты барочны індывідуалізм праявіўся перш-наперш у палітычным жыцьці – правіла “ліберум вета” і сыстэматычныя зрывы працы сейма, бясконцыя канфэдэрацыі, барацьба палітычных партый і магнацкіх груповак (асабліва Радзівілаў з Сапегамі), франдзіраваньне каралю, наезды (самастойнае выкананьне прыватнымі асобамі судовых загадаў праз напад на маёнтак). Увогуле тагачасная шляхта паказала сваю поўную няздольнасьць згрупавацца вакол ідэі дзяржавы, наступствам чаго быў яе распад.

Разам з тым не забудземся, што шляхецкія ідэалы вольнасьці і роўнасьці, служэньня Айчыне і Богу перайшлі ў наступную эпоху і сталіся важнымі ідэйнымі падмуркамі вызваленчай барацьбы канца XVIII – XIX стст. (паўстаньні 1794, 1831 і 1863 гг.).

Што да індывідуалізму сярод людзей паспалітых, дык трэба адзначыць яго нарастаньне ў сялянскім саслоўі пасьля валочнай рэформы 1577 г., калі вялікія патрыярхальныя сем’і пачалі драбніцца. Пазьней (XIX ст.) рускія этнографы пісалі аб беларускім вяскоўцы як аб найвялікшым аднаасобніку (да прыкладу, У. Шэйн).

Асобна адзначым жаночы індывідуалізм. Статут гарантаваў жанчыне пэўныя правы і яе становішча як у вёсцы, так і ў горадзе было досыць незалежным. Вядомы храніст XVI ст. М. Літвін нават пісаў аб залішняй свабодзе жанчын у Літве.

Мастацкае жыцьцё, культура Беларусі таго часу існавала ў рэчышчы асноўных эўрапейскіх стыляў: позьняга рэнесансу, барока, ракако, клясыцызму, культуры Асьветніцтва. Асноўнае месца займала барока. Напэўна, не адзін гісторыка-культурны стыль не ахопліваў беларускую культуру так шырока і поўна – ад архітэктуры да побыту. У архітэктуры беларусы ня толькі засвоілі лепшыя эўрапейскія ўзоры, але і стварылі і свае арыгінальныя інтэрпрэтацыі, што надавала адметнасьць тагачаснай беларускай культуры. Тое ж можна сказаць пра скульптуру і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. З другой паловы XVIII ст. (пад уплывамі клясыцызму і барока) у культуру шляхты і гараджан шырока ўвайшла музыка – музычны тэатар на Беларусі быў адным зь лепшых у Рэчы Паспалітай.

* * *

Пасьля падзелу Рэчы Паспалітай і інкарпарацыі беларускіх земляў у склад Расейскай імпэрыі Бела-

русь апынулася надоўга адлучанай ад эўрапейскай цывілізацыі. Гэтак атрымалася з шэрагу вайсковых і адміністрацыйных мерапрыемстваў расейскага ўраду, асноўны зьмест якіх – уніфікацыя мясцовага жыцьця з палітычнай, эканамічнай і культурнай сыстэмай Расеі. Былі скасаваныя магдэбургскае права ў гарадах, соймы, Статут, мясцовая судовая сыстэма, уведзеныя цэнзура, рэкрутчына... Асноўная апазыцыйная сіла – шляхта – татальна рэпрэсавалася: арышты, канфіскацыі маёмасьці і перадача яго расейскім панам, дэпартацыя цэлых сем'яў у Сібір сталіся звычайнай справай.

Зьмянілася і канфэсійная сытуацыя: уніяцтва было скасаванае, а яго вернікі прымусова пераводзіліся ў праваслаўе (частка зь іх перайшла ў каталіцызм). Заняпала інтэлектуальнае жыцьцё краю. Расейскія ўлады закрылі Віленскі ўнівэрсытэт (акрамя аддзяленьня мастацтваў), Полацкую езуіцкую акадэмію, калегіюмы, а да таго ж было забаронена атрымліваць унівэрсытэцкую адукацыю за мяжой. Нягледзячы на шматлікія просьбы мясцовай грамадзкасьці, край застаўся без вышэйшай школы, што выклікала міграцыю інтэлектуалаў і прадстаўнікоў творчых прафэсій у Маскву і Санкт-Пецярбург.

Дзеля канчатковай уніфікацыі было нават забаронена ўжываць старажытныя назвы краю (Літва, Беларусь) і друкаваць газеты і кнігі на беларускай мове.

Разам з тым, нельга не зьвярнуць увагу і на адваротны бок новай сытуацыі. Расея і яе культура таго часу знаходзіліся пад значным эўрапейскім уплывам, а Санкт-Пецярбург і Масква былі гарадамі, дзе пана-

вала мода на ўсе эўрапейскае. А значыць, і Беларусь пэўным чынам заставалася задзіночанай з Эўропай, толькі ўжо не наўпрост, а апасродкавана. Натуральна, зьмяніліся і каналы атрыманьня эўрапейскай культурнай і тэхнічнай інфармацыі – цяпер яна ішла зь "дзьвюх сталіцаў" Расеі, вышэйшых расейскіх навучальных установў, іншых мастацкіх, культурных і тэхналягічных цэнтраў, куды патраплялі выхадцы зь Беларусі.

* * *

Падсумуем...

Гісторыя Беларусі – гэта чаргаваньне ўсходняга (расейскага) і заходняга (эўрапейскага) уплываў. Пачатак першага цыклу зьвязаны з прыняцьцем хрысьціянства (візантыйскага праваслаўя), калі на нашых землях пераважалі ўсходнія ўплывы. Потым наступіла пара пэўнай раўнавагі ўсходу і захаду (XIII–XV стст.), якая паступова перайшла ў дамінаваньне на Беларусі эўрапейскай цывілізацыйнай мадэлі. Пасьля падзелу Рэчы Паспалітай Беларусь у складзе Расейскай імпэрыі была сыстэмна адлучанай ад Эўропы. І толькі некаторыя здабыткі эўрапейскай культуры і цывілізацыі апасродкаваным шляхам траплялі ў наш край. Пасьля кастрычніцкіх падзей 1917 г., Беларусь (разам з усім СССР) апынулася татальна ізаляванай ад заходняй цывілізацыі. І толькі напрыканцы XX ст., пасьля развалу камуністычнай імпэрыі, пачаўся новы цыкл вяртаньня Беларусі ў Эўропу.

# БЕЛАРУСЬ СЁНЬНЯ І ЗАЎТРА

## Андрэй Дынько

Гэта адбываецца ў Берасьці. Цягнікі з Варшавы й Бэрліну на Менск мінаюць Буг уначы — такі расклад, каб уранку пасажыр мог акунуцца ў вірлівае жыцьцё сталічнага мэгаполісу. Пасьля кароткага прыпынку на Варшаўскім баку берасьцейскага вакзалу састаў адпраўляецца назад, у бок мяжы, і затуманенай няспаньнем сьвядомасьці здаецца, што распачынаецца містычны абрад ініцыяцыі. Цягнік паволі заяжджае ў даўжэзны ангар, магутныя дамкраты ўзьнімаюць вагоны, і нябачныя работнікі недзе пад табой, ва ўладаньнях Гэфэста, з грукатам высаджваюць адно за адным шматтонныя колавыя пары і пачапляюць другія. Калі ты новенькі на гэтай мяжы, ты яшчэ можаш палічыць выпадковасьцю мятыя твары і ўніформы памежнікаў і мытнікаў, што абшукваюць кожнага інтэлігентнага пасажыра ня толькі на наяўнасьць зброі і валюты, але і друкаваных выданьняў і рукапісаў. (Гэта, дарэчы, навяло актывістаў беларускай дэмакратычнай апазыцыі на ідэю назюзюквацца да белых конікаў, што гарантавана выбаўляе ад зьняважлівай працэдуры асабістага нагляду: п’яных тут не чапаюць, ім спачуваюць, іх разумеюць). Тут пачынаецца іншая Эўропа. Пасьля рытуалу зьмены колаў кожнаму неабыякаваму пада-

рожнаму робіцца ясна: ён патрапіў у іншы сьвет, тут жывуць па іншых законах. Нешта падобнае мусілі адчуваць рускія князі, пад скавытаньне шаманаў праходзячы між агнёў у Ардзе. Шыльды “канец Эўропы” ў Берасьці, праўда, нідзе не вісіць. Ды ў ёй і патрэбы няма. І так усё ясна.

Чыгункі з шырэйшай за эўрапейскую каляінай зьявіліся ў Беларусі ў XIX ст., калі краіна была часткаю Расейскай імпэрыі. Гэта рабілася перадусім у абаронных мэтах, каб чыгуначныя шляхі нельга было выкарыстаць для наступу на Расею. Дый самі накірункі першых чыгунак тлумачыліся перадусім патрэбамі перакідкі войскаў да межаў імпэрыі. Гэтак раньні капіталізм прыйшоў у Беларусь перайначаным. Недакончаная, палавіністая мадэрнізацыя ішла ў Беларусь з Эўропы, але праз Расею. Амаль адначасова з пабудовай чыгунак было скасавана эўрапейскае права (Літоўскі статут), заходняя царква (уніяцтва), беларуская і польская мовы і культуры пазбаўлены правоў. Гэта тады Беларусь з проста Эўропы на паўтара стагодзьдзя стала “іншай Эўропай”. Дагэтуль беларускі цягнік едзе па шырокай каляіне, ва ўсіх сэнсах.

**1**

Паветраныя вароты краіны, аэрапорт “Менск-2” вітае гасьцей зь іншаземных абласьцей анітрохі не прыязьней. Яго неабагрэтыя, слаба асьветленыя калідоры са шматлікімі вузкімі лесьвіцамі-пераходамі ня ведаюць эскалятараў; яго парэпаныя дзьверы адчыняюцца толькі адной створкай; яго нясьпешныя аўтакары возяць чамаданы ў адзінаццаць разоў марудней, чым тое самае робяць іхныя франкфурцкія браты; яго

візавыя работнікі ня могуць прыняць ад цябе грошы ў эўра, але пасьля дзесяці хвілінаў пярэчаньня згодзяцца суправадзіць цябе за "лінію мытнага кантролю" ў абменьнік, у якім, на жаль, не акажацца дробных даляраў, тады як у візавых работнікаў няма рэшты, але неяк пытаньне вырашыцца, бо заўжды знойдзецца сардэчны збаўца, які за невялікую падзяку пойдзе на кампраміс з сваім сумленьнем — хіба ж ня здатнасьцю суперажываць і не гатовасьцю заўжды прыйсьці на дапамогу незнаёмаму чалавеку вылучаецца ўсходні славянін?

Неаглядныя пустэльныя холы аэрапорту, разьлічаныя на прыём дзясяткаў тысячаў пасажыраў у дзень, сустракаюць усяго дзясяткі; яго пошта-тэлеграф “працуе круглясутачна”, але абавязкова сустрэне цябе шыльдай “абед 13—14”; на яго аўтобусным прыпынку цябе чакае невылечна чырвоны дзядуля-“Ікарус”, падобны да расплаты ахвяраў 1956 г. з сваімі вызваліцелямі. Усё гэта ўпаўнаважана заяўляе: калі ласка, сардэчна запрашаем, ты патрапіў у цэнтар Эўропы.

“Ікарус” ад’яжджае, пакідаючы аэрапортаўскі двор з сугестыўна-самотным рэклямным шчытом “МАЗу”, і за акном лашчаць вока шырокія пералескі, дагледжаныя, нібы газон, палі, коціцца роўненькая шаша — і так усе паўгадзіны язды да самае зялёнае сталіцы эўрапейскага кантынэнту. На шчасьце, гэтая краіна лепшая, чым тое ўражаньне, якое яна стварае на першы погляд.

Ты ня знойдзеш другой такой краіны, якая “ў сваім цэлым” настолькі б розьнілася ў лепшы бок ад усіх раскіданых па яе пэрымэтры і ўнутры “ча-

стак”: дзяржаўных і паўдзяржаўных, вайсковых і парамілітарных установаў, установак, установачак, далучыўшы сюды і пункты пропуску на мяжы. Нібы ня гэты цярпімы і руплівы народ іх спарадзіў. Зрэшты, і сапраўды ня гэты. Нязьменнымі яны засталіся ад мінулага, савецкага часу, нярэдка разам са сваімі насельнікамі. Будзь ты замежнік, што наведвае гэтую лясную старонку ўпершыню, ці суайчыньнік, што вярнуўся на бацькаўшчыну пасьля доўгага перабыту за мяжой, ты заўжды дзівуешся, наколькі часта розныя дзяржаўныя канторы, важныя і няважныя, — ад Рэзыдэнцыі Прэзыдэнта (запомніце, гэтыя словы ў Беларусі пішуць зь вялікай літары) да вахтаў у інтэрнатахператварыліся, а мо й адпачатку былі спраектаваныя ананімнымі мысьлеархітэктарамі як... не, не катавальні, але выпрабавальні і перасьцерагальні. І ўсе самыя дробныя вахты самых малапавярховых інтэрнатаў, і вялізазны менскі аэрапорт зьявіліся ў тую савецкую пару. І самі яны, і іх функцыі, і спосабы функцыянаваньня — гэта фэномэны савецкага мадэрнізацыйнага пэрыяду, калі беларуская “іншая Эўропа” ператварылася ў перадавы палігон савецкага сацыяльнага экспэрымэнту... Ты пішаш: Беларусь у сутнасьці сваёй лепшая, чым выглядае. А чым жа?

**2**

Будынкі позьнесавецкага часу ўражваюць сваёй гігантаманіяй і нефункцыянальнасьцю. Як жа адрозьніваюцца ад іх нешматлікія грамадзкія будынкі, задуманыя і ўзьведзеныя ў постсавецкі час, нярэдка адштукаваныя ў стылі “эўрадызайну” — зь перайманьнем

эўрапейскіх архітэктурных прыёмаў. Часам іх дойлідаў падводзіць густ, затое функцыянальнасьць і эканамізм навідавоку.

Эўрапейскае ў Беларусі перажывае пэрыяд папулярнасьці. Народ ня толькі робіць“эўрарамонты” і ставіць “эўравокны”, але й купляе “эўраасьпірын” у “эўрааптэках”. У Магілёве, вотчыне прэзыдэнта, які неабдумана заявіў, што ён свой народ за цывілізаваным сьветам не павядзе, супрацоўнікі фірмы з характэрнай назвай “Апошні шлях” абвясьцілі: якасьць іхных дубовых трунаў з базавай камплектацыяй “адпавядае эўрастандартам”. Руплівы чытач газэты прыватных аб’яваў “З рук у рукі” знойдзе нават “катэдж, 100% гатовасьці, эўраляндшафт”. Маюцца на ўвазе ўзгоркі Менскага ўзвышша, такія звабныя беларусам, знуджаным бясконцымі, неабдымнымі абшарамі Ўсходнеэўрапейскай раўніны. Жыцьцё на гэтай роўнядзі, адкрытай усім вятрам і з Усходу, і з Захаду, адсутнасьць якіх-кольвек натуральных перашкодаў вызначае ня толькі характар краявідаў, але і звычкі жыхароў краіны, якая на мапе сваёй формай падобная да пяцікутніка. Або, калі памроіць, як тое зрабіў самы рамантычны беларускі пісьменьнік Уладзімер Караткевіч, — да зубра, што схіліў сваю магутную галаву на захад і сілкуецца… эўразуброўкай.

Кожны ў Беларусі ведае, што ягоная краіна знаходзіцца ў цэнтры Эўропы. Калі верыць газэтам і географам, цэнтар нашага Старога Сьвету спачывае ў водах невялікага возера зь ляпідарнай назвай Шо.

Таксама і ў Літве кожны знае, што цэнтар Эўропы зьмяшчаецца каля Алітусу, а ўкраінцы беспахібна

лякалізуюць гэты цэнтар у галавакружна харошых краявідах Рахава, у Закарпацьці. Незвычайная прыгажосьць гэтых цэнтраў выдае ўсю геаграфію з вантробамі як навуку ў вышэйшай ступені гуманітарную. Зьмяшчэньне сваёй краіны ў цэнтар Эўропы — адзін з нацыятворчых мітаў, які сустракаецца паўсюдна ва Ўсходняй Эўропе. Ступень гэтага настойлівага "цэнтрызму" прама прапарцыйная меры няўпэўненасьці нацыянальнага пачуцьця і раздвоенасьці памкненьняў маладых нацый, што паўсталі да дзяржаўнага існаваньня на захад ад Расеі. У Беларусі міт пра сябе як цэнтар Эўропы асабліва распаўсюджаны. Нібы сам факт знаходжаньня гэтай кропкі **C** на нашай тэрыторыі здольны магічным чынам зьменшыць смурод у публічнай прыбіральні глыбоцкага аўтавакзалу, якога не міне ніводзін шукальнік ледавіковага келіха беларускага Граалю, возера Шо.

Зьмяшчэньне сваёй краіны ў цэнтры Эўропы — яшчэ адна праява моды на эўрапейскае. Гэта таксама адбітак зьменаў у нацыянальнай ідэнтычнасьці беларусаў. Пры Савецкім Саюзе нікому ў галаву не прыходзіла лякалізаваць цэнтар Эўропы ў Беларускім Паазер'і. А калі каму і прыходзіла, дык сканчалася для яго настолькі кепска, што адбівала ўсякую ахвоту трымацца надалей такой думкі. Параўноўваць плошчу краіны з плошчай Бэльгіі ці Даніі было модна, бо ўрэшце гэта прыводзіла чытача да асэнсаваньня велічы "адной пятай часткі сушы", на якія прасьціраўся Савецкі Саюз. Эўрапейская ж прыналежнасьць Беларусі была табу. Толькі па 1991 г., растыражаваная нацыянальна-вызвольным рухам, думка пра эўрапейскасьць Беларусі ператварылася ў стэрэатып.

**3**

Сацыялягічныя дасьледаваньні замежнапалітычных прыхільнасьцяў беларусаў у 2003 г. выявілі: дзьве трацiны беларусаў хацелі б далучэньня краіны да Эўразьвязу, але толькі адна трацiна гатовая да эўраінтэграцыі нават коштам адмовы ад адзінае эканамічнае прасторы з Расеяй. Пры гэтым таксама дзьве трэція беларусаў хочуць захаваньня саюзных сувязяў з Расеяй, а яшчэ чатыры пятыя — пераканаьныя прыхільнікі незалежнасьці. Гэтыя лічбы найперш здаюцца шыфрам цяжкога дыягназу. Як толькі ні крытыкавалі такога неразборлівага і супярэчлівага грамадзянскага пачуцьця інтэлектуалы-маралісты. Беларусы хацелі б неспалучальнага — і ўваходжаньня ў Эўразьвяз, і поўнае незалежнасьці, і саюзу з Расеяй адначасова. Беларусы ня маюць палітычнага мысьленьня, яны гатовыя жыць міражамі і галасаваць за палітыкаў, што найлепш ствараюць міражы, — наракалі палітолягі. Спалучэньне незалежнасьці і саюзу з Расеяй успрымаецца ў народзе як зьдзейсьнены факт, і падазрэньні наконт яго рэальнасьці ўзьнікаюць толькі тады, калі ўсходні хаўрусьнік час ад часу перакрывае свайму заходняму хаўрусьніку газ. З Расеяй і незалежнасьцю ўсё больш-менш ясна. Нібы героі “Леапарда” Тамаза ды Лямпэдузы, беларусы хацелі б зьмяніць жыцьцё такім чынам, каб усё засталося па-старому. Можна зразумець, чаму мае суайчыньнікі “хочуць, каб было, як раней”, як гэта сфармуляваў Чэкман. Гэта становіцца асабліва зразумелым: варта праехацца ў пазачасавым жоўта-бурачковым менскім трамваі, сярод стрыманых, нават да панурасьці стрыманых, апранутых

у шэрае і чорнае беларусаў. Але чаму беларусы прагнуць далучыцца да Эўропы, увайсьці ў Эўразьвяз? Ад Эўразьвязу нас дагэтуль адзьдзяляе тысяча кілямэтраў калючага дроту: між вёскай Камароўкай, радзімай першага беларускага касманаўта Пятра Клімука, на поўдні, і возерам з швэдзкімі ноткамі ў назьве, Асьвеяй, на поўначы, усяго пара дзясяткаў пунктаў пропуску. І гэтая ўцялесьненая ў дроце супярэчнасьць усеагульнага (дзьве траціны народу) жаданьня і рэчаіснасьці, дадзенай нам у адчуваньні (мяжа на замку), спараджае пытаньне, што ж прыцягвае беларусаў да Эўропы, што выклікае эўрасымпатыі ў не спрыяльных таму палітычных умовах. Каб адказаць на гэтыя пытаньні, трэба зразумець, што супольнага ў насельнікаў “цэнтру Эўропы” і насельнікаў шчасьлівае эўрапейскае пэрыфэрыі. Гэта павінна падказаць нам таксама, у чым жа сукрытая дабрыня беларускай сутнасьці. Адказаўшы на гэтыя пытаньні, мы таксама зразумеем, што рэальна адрозьнівае Беларусь ад Расеі.

**4**

**Часткаю заходняй ці ўсходняй цывілізацыі ёсьць Беларусь? Пытаньне гэтае ставіцца адвеку, колькі існуе беларускі нацыяналізм. Лукашэнка дадаў новы нюанс — мы ня частка, мы цэнтар усходняй цывілізацыі, чацьверты Рым ці трэці Кіеў, хто як хоча. (А пятым, у такім разе, відаць, мае быць Астана).**

Адназначнага адказу няма. Беларусь мае чвэрць каталіцка-пратэстанцкага насельніцтва і шматгадовую традыцыю Уніі, памяць пра якую рэпрэсавала расейская гістарыяграфія.

Разам з тым высокая ступень русіфікацыі дазваляе аспрэчваць думку пра заходнюю прыналежнасьць беларусаў. Сэмюэл Гантынгтан адназначна аднёс Беларусь да праваслаўнай цывілізацыі, безь вялікага веданьня дэталяў правёўшы па савецка-польскай граніцы 1920 г. лінію цывілізацыйнага расколу, на якой, згодна зь ягонай тэорыяй, будуць адбывацца канфлікты ў XXI ст. Паводле Гантынгтана, “некаторыя вучоныя вылучаюць праваслаўную цывілізацыю, цэнтар якой — Расея. Ад заходняга хрысьціянства яе адрозьнівае бізантыйскае паходжаньне, адмысловая літургічная практыка, 200 гадоў татарскага панаваньня, бюракратычны дэспатызм і абмежаваны кантакт з Рэнэсансам, Рэфармацыяй, Асьветніцтвам ды іншымі зьявамі, надзвычай важнымі для Захаду”. Што да Беларусі, то напраўдзе яна і праз заходнюю літургію прайшла, дзе сьвятар стаіць тварам да людзей, а не да алтара, і Рэнэсанс зьведала (Скарына, Леў Сапега), і Рэфармацыю (Сымон Будны, Мікалай Радзівіл Чорны) і нават Асьветніцтва, нягледзячы на фатальны ў тую пару лёс краіны, заціснутай між фантастычна багатай Расеяй і ідыятычна свавольнай шляхтай.

Лідэр беларускага інтэлектуальнага асяродку ў Польшчы Алег Латышонак называе Гантынгтанаву карту баламутнаю. Канфэсійнае, г.зн. у Гантынгтанавым разуменьні цывілізацыйнае “расшчапленьне здаўна было праблемай для фармаваньня беларускае нацыі, — піша Латышонак. — Дзеля гэтага яе браліся аб’яднаць праз пратэстантызм (першы вядомы гісторыі чалавек, які сам назваў сябе беларусам, Салямон Рысінскі, быў пратэстантам), уніяцтва ці атэізм. Жыцьцяздольнасьць беларускага нацыяна-

лізму, якому больш за два стагодзьдзі чужыя палітыкі ды заходнія і ўсходнія вучоныя вяшчуюць хуткі скон, праўдападобна, вынікае ня толькі зь любові да роднай мовы і культуры, але й з патрэбы чыньніка, што яднае канфэсійна разрозьненае грамадзтва". Вось жа, прыналежнасьць беларусаў да заходняе цывілізацыі, на думку Латышонка, абумоўленая не канфэсійным крытэрам, а беларускім нацыяналізмам, нацыятворчай ідэалёгіяй эўрапейскага гарту. Беларускае грамадзтва ня ўпісваецца ў прапанаваную Гантынгтанам праваслаўную цывілізацыю. Таму Беларусь, якая, паводле Гантынгтана, ужо ў 1995 г. уяўлялася "фактычна часткай Расеі", гэтай часткай так і ня стала.

Цывілізацыйная дваістасьць у Беларусі сапраўды мае месца, але, як мне падаецца, яна выяўляецца ня столькі ў прысутнасьці дзьвюх канфэсійных традыцый ці моваў, колькі ў наяўнасьці процілеглых палітычных культураў, формаў спраўваньня ўлады. Постсавецкія канфлікты, па-над канфэсійнымі ці ідэалягічнымі падзеламі, выразна сутыкнулі прыхільнікаў дэспатычнай і дэмакратычнай канцэпцый улады. Сымптаматычна, што Лукашэнка, кіраўнік дэспатычнае партыі, нарадзіўся на самым усходзе Беларусі, у Копысі, у зямлі, слаўнай унікальнай папуляцыяй чорных зайцоў, і ягоны кар'ерны ўзьлёт зьвязаны з усходам краіны, землямі, за якія Брачыслаў і Ўсяслаў Полацкія доўга змагаліся з кіеўскімі Яраславічамі. Тады як яркія лідэры празаходняе партыі (Пазьняк, Домаш) суцэльна паходзілі з заходніх раёнаў, з былых літоўскіх зямель, і нават майстар кампрамісу Ганчарык нарадзіўся на Лагойшчыне, з тае мяжы, дзе Ягайла пабудаваў першыя касьцёлы (Гайна).

**5**

Першае тлумачэньне эўрасымпатый — жаданьне беларусаў падзяліць матэрыяльны дабрабыт, якім цешацца ўсе краіны аб'яднанае Эўропы. Эўропа сёньня — гэта ўвасоблены цуд, які выклікае захапленьне і на ўсход ад Буга, і за Атлянтыкай, і за Баспорам. Каб у Эўразьвяз увайсьці магла любая краіна, як у ААН, напрыклад, на наступны ж дзень у Эўропу “ўступілі б” усе краіны Афрыкі з Дэмакратычнай і Народнай Рэспублікамі Конга ўключна. На шчасьце, мудрыя эўрапейцы самі выбіраюць для сябе саюзьнікаў.

Аднак ня толькі матэрыяльны дабрабыт складае эўрапейскі цуд, але і новае палітычнае мысьленьне, атмасфэра добрасуседзтва і талерантнасьці, якой характарызуюцца міждзяржаўныя адносіны ў Эўропе. У сёньняшняй Эўропе ўвасобілася даўняя мроя пра спыненьне этнічных канфліктаў і войнаў, вайсковага суперніцтва і гонкі ўзбраеньняў, пра адмову ад вырашэньня канфліктаў ваеннымі сродкамі — прынамсі, у межах Эўропы. Сіла можа разглядацца як нешта патрэбнае для стрымліваньня вонкавых ворагаў, але не для непасрэднага ўжытку і, вядома, не ў самой Эўропе. Вайна паміж эўрапейскімі супэрдзяржавамі немагчымая. Аточаная зонамі пэрманэнтных канфліктаў новая Эўропа выглядае сярод іх сапраўдным раем. Босьнія таму й шакавала, што была да неймавернасьці балючым выключэньнем. Новая культура міру і талерантнасьці, якая пануе ў Эўропе, — гэта настолькі ашаламляльна, быццам новая сацыяльная фантасмагорыя.

Эўропа выглядае дзівам ня толькі ў параўнаньні з канфліктнымі зонамі, якія яе атачаюць, але і ў праекцыі

на стагодзьдзі кровапраліцьцяў, якія папярэднічалі нашаму часу. Тое, што эўрапейцам здаецца цяпер непарушнымі прынцыпамі фундамэнтальнае культуры, насамрэч зусім новая зьява. Старая культура войнаў была канчаткова зжытая толькі пасьля Другой сусьветнай вайны. А да таго вякамі ў Эўропе рабілася тое самае, што цяпер назіраем між Эрытрэяй і Этыёпіяй або ў Інданэзіі. Карані сёньняшняга сьветапогляду можна адшукаць у часах Асьветніцтва, але прыйшла Эўропа да яго перадусім у выніку асэнсаваньня трагедыі Другой сусьветнай вайны. Культура міру — новая зьява ў Эўропе.

Квітнеючая Эўропа доўгі час выклікала ўсё ж вялікі сумнеў у беларуса. Для сярэдняга беларуса да апошняга часу mission civilisatrice Эўропы асацыявалася перадусім з плякатамі "Гітлер-асвабадзіцель", шчодра разьвешанымі на вуліцах вызваленых ад бальшавізму гарадоў за некалькі дзён да ператварэньня іх у гета. Чалавеку, які ў Асьвенціме быў падвопытным для апэрацый па ампутацыі органаў без анэстэзіі, цяжка пагадзіцца, што эўрапейскасьць – гэта цывілізацыя. Навука — можа быць, але не цывілізацыя.

Другая сусьветная вайна была для Беларусі — ад Налібоцкай пушчы да крычаўскіх лясоў — апакаліпсысам, выпаленьнем сьвету. У сьвядомасьці многіх, калі ня большасьці беларусаў не адна Нямеччына, але ўся Эўропа несла адказнасьць за тую вайну. Па-першае, празь мюнхенскае згодніцтва, па-другое, праз капітулянцтва 1940 г., па-трэцяе, праз саўдзел у гвалце. Нямецкіх эсэсманаў у лютасьці пераўзыходзілі вугорцы, літоўцы і латышы, а ўкраінцы спалілі Ха-

тынь. Як для многіх ізраільцянаў Эўропа застаецца вучаніцай д’ябла, антысэміцкай па сваёй натуры, так і многія старэйшыя беларусы праз доўгі час хавалі ў сваёй душы крыўду на ўсю Эўропу за тую вайну.

Мір разглядаецца беларусамі як найвышэйшая каштоўнасьць. Знакамітае “абы вайны не было” зьяўляецца асноваю палітычных паводзінаў. У 1950—1980-я гг. беларуская культура стварыла багатую пацыфісцкую традыцыю, якая ўключала творы літаратуры, дэкаратыўнага мастацтва, творы музычныя ды іншыя. Гуманістычнае і антываеннае пасланьне несьлі такія шэдэўры жывапісу, як “Партызанская Мадона” Міхася Савіцкага. Нават масавая культура ня ўнікла антываеннае тэматыкі: было створана нямала песень, зьмест якіх можна вызначыць як адкрыта ці сукрыта пацыфісцкі (“Было ў салдата два полі”). “Мы хочем, чтоб мирное небо // Не знало пожаров войны... Мы дружбы народам желаем // И братской сердечной любви”, — пяялася ў нефармальным гімне беларусаў “Отчизна моя дорогая”, мэлёдыя якога служыць пазыўнымі Беларускага радыё, а цяпер яшчэ й маршам для ўрачыстае варты падчас дзяржаўных цырымоній. Вядома, цэнтральную ролю ў тварэньні пацыфісцкага дыскурсу адыгрывала літаратура, месца якой у грамадзтве было надзвычай важным у тыя часы; вызначаліся эсэістыка Алеся Адамовіча і Янкі Брыля, раманы Івана Шамякіна ды Васіля Быкава зь іх дэрамантызацыяй вайны. Пацыфізм і талерантнасьць не аспрэчваліся ніводным з больш ці менш значных аўтараў тае эпохі. Прысутнасьць гэтае тэматыкі ў творах была нават навязьлівай. Улада талеравала гэты пацыфізм. У бе-

ларускай савецкай культуры ён быў адною з праяваў канфармізму, заменьнікам адкрытага дысыдэнцтва, на якое зь першаплянавых дзеячаў беларускай культуры ніхто не наважыўся, і гэты пацыфізм быў настолькі масавы і пасьлядоўны, што стаў часткаю культурнага і палітычнага канону іператварыўся ў зьяву сьвядомасьці, літаральна прасякнуўшы мэнтальнасьць нацыі. Падаецца, што гэтае пранікненьне адбылося таму, што пацыфізм натуральным чынам клаўся на гістарычную памяць людзей і вынікаў з ранейшае беларускае культурнае традыцыі. (Дарэчы, уплыў беларускае масавае культуры і, у прыватнасьці, літаратуры на фармаваньне сьвядомасьці беларусаў у савецкі пэрыяд часта недаацэньваецца, перш за ўсё пад уплывам зьменаў у спосабах масавае камунікацыі, калі даўней важныя яе формы цяпер маргіналізавала тэлебачаньне й радыё).

У любым разе, пацыфізм і пропаведзь цярпімасьці ў беларускай культуры савецкага пэрыяду заслугоўваюць пільнае ўвагі гісторыі ідэяў. Зьмена першых радкоў дзяржаўнага гімну, ажыцьцёўленая Аляксандрам Лукашэнкам, з “Мы, беларусы, з братняю Русьсю” на “Мы, беларусы, мірныя людзі”, на першы погляд здавалася пошукам варыянту, які б нікога не пакрыўдзіў. На самай справе ў гэтым выбары ёсьць глыбейшае, глыбіннае пачуцьце і апартунізм, “граничащий” з дачасьніцтвам, такі характэрны для палітычнага стылю Аляксандра Лукашэнкі ўвогуле.

Беларускі пацыфізм сфармаваўся ў выніку эвалюцыі сьвядомасьці, вельмі падобнай да тае, што мела месца ў паваеннай Эўропе. Там яна таксама пачалася ў часы халоднай вайны, калі быў створа-

ны пацыфісцкі канон, які меў на мэце не дапусьціць паўтарэньня жахаў Другой сусьветнай. “Сучасная эўрапейская культура, — піша Робэрт Каган, — гэта сьвядомае адпрэчваньне мінулага, адпрэчваньне зла былое эўрапейскае Machtpolitik”. Гэта зразумелы выраз палкага жаданьня, каб мінулае ніколі больш не вярнулася. Бо хто лепш за эўрапейцаў ведае пагрозы, што вынікаюць з апантанасьці панаваньнем, з празьмернага ўверваньня ў вайсковую сілу, ды нават з ідэяў раўнавагі сілаў і raison d'état? Як гэта выказаў у сваім выступе ва ўнівэрсытэце Гумбальдта 12 траўня 2000 г. міністар замежных справаў Нямеччыны Ёшка Фішэр, “сутнасьцю эўрапейскай ідэі пасьля 1945 году было і ёсьць непрыманьне прынцыпу раўнавагі сілаў і гегеманістычных амбіцый дзяржаваў, якія ўзьніклі па Вэстфальскім міры 1648 году”. “Сам Эўрапейскі зьвяз — гэта плод страшнага стагодзьдзя войнаў у Эўропе. Эўразьвяз мог бы ператварыцца ў глябальную супэрдзяржаву, супрацьвагу Злучаным Штатам, але Эўропа ня хоча быць дужаю, — робіць выснову Каган, — Эўропа “з Вэнэры”. А ЗША — супэрсучасная вайсковая магутнасьць, “з Марсу”.

У антываеннай культуры эўрапейцаў, якую яны вынесьлі як адкравеньне “з вогненнай вёскі”, з Галакосту й разбомбленага Дрэздэну, мне бачыцца тое супольнае, што закладае трывалы грунт адзінае эўрапейскае прасторы. У Эўропе канчатковае афармленьне новага антываеннага ідэалізму адбылося пасьля зьнікненьня вонкавай пагрозы, якой быў СССР. А ў Беларусі каталізатарам такога разьвіцьця паслужыў кантраст эўрапейскага дабрабыту з расейскімі войнамі 90-х гг.

Нават маё пакаленьне, ня кажучы пра старэйшых, сьведкаў сталінскае і гітлерскае акупацый, жыло ў 90-х з адчуваньнем небясьпекі дрэннага развароту падзеяў. Павярніся гісторыя хоць трохі йнакш, выйдзі на менскія маніфэстацыі ў 1996 г. на пару тысячаў меней народу ці пару тысячаў болей народу, перабяры Ельцын норму на дваццаць грамаў, і я, як той хлопец з "Крамбамбулі", быў бы цяпер на Каўказе, пад Бамутам, дзе мой стрыечны брат Антон, расейскі грамадзянін, выконвае свой пракляты сьвяшчэнны абавязак у спэцназе ўнутраных войскаў. Або іншы варыянт: у Дом ураду ўвайшоў бы Пазьняк, незразумелы Ўсходу й Захаду, і Расея рабіла б зь Беларусяй тое, што яна робіць з Чачэніяй. Няясна, які з гэтых двух варыянтаў горшы для цябе асабіста. Абодва яны былі рэальныя! І, перафразоўваючы Габсбаўма, скажам: гісторыя не заплакала б па разьлітым малацэ.

**6**

Беларусы — гэта адназначна пацьвярджаюць сацыялягічныя дасьледаваньні — не прымаюць вайны ў ніякім выглядзе. Адпраўка беларускіх вайскоўцаў у гарачыя кропкі Расеі, найперш Чачэнію, разглядалася мільёнамі людзей як кашмарная імавернасьць увесь час, пакуль доўжылася беларуска-расейская інтэграцыя.

Ельцынская раньнекапіталістычная Расея была вялікім полем цудаў, дзе ішла гульня ў капіталізм бяз правілаў. Пуцінская Расея дасягнула эканамічнай стабільнасьці і спрабуе адрадзіцца ў якасьці вялікае дзяржавы з усімі непазьбежнымі, як ёй здаецца, для

таго выдаткамі — кіраванай дэмакратыяй і вяртаньнем да савецкіх сымбаляў. Дзьве гэтыя такія непадобныя Расеі паяднаў кашмар дзьвюх чачэнскіх войнаў і тэрарызму, які іх суправаджае. Расея ня мае такой сучаснай арміі, як ЗША, а стан яе эканомікі выклікае жаль, але па сваёй сьвядомасьці Расея, як і Амэрыка, — з Марсу. Як паказалі дзьве чачэнскія кампаніі, вайна для Расеі застаецца працягам палітыкі іншымі сродкамі. “Культура міру”, адмова да насільля неўласьцівыя расейскаму палітычнаму мысьленьню.

Такое адрозьненьне між сьветапоглядамі беларусаў і расейцаў можа быць абумоўленае толькі розрасьцю гістарычных досьведаў. Не заглыбляючыся ў даўнюю гісторыю, хачу адзначыць рознасьць гістарычнае памяці пра Другую сусьветную вайну. Для Расеі вайна 1941–1945 гг. стала чарговай Айчыннай вайной. Яна запатрабавала ад яе мабілізацыі ўсіх нутраных рэзэрваў, вялізнага напружаньня сілаў і мільённых ахвяраў, але скончылася і запомнілася перадусім як вайна, у якой перамог “русский солдат”, як яшчэ адзін трыюмф расейскае зброі. Яна разгортвалася на тысячах квадратных кілямэтраў, але закранула хіба што 5% нацыянальнае тэрыторыі Расеі.

Для Беларусі вайна 1939–1945 гг. азначала нашмат большую трагедыю, бо яна не абмінула практычна ніводную сям’ю, раскалола грамадзтва на савецкіх патрыётаў і пранямецкіх калябарантаў, на фоне галоўнага процістаяньня суправаджалася лякальнымі міні-войнамі, як польска-беларуская, радыкальна зьмяніла этнічны склад насельніцтва. Для беларусаў памяць пра вайну — гэта Хатынь, успамін не пра герой-

ствы, а пра пакуты. Сымбалічны адпаведнік Хатыні — Асьвенцім. Тады як для расейцаў Мамаеў курган — гэта чарговае Барадзіно, успамін пра стойкасьць і выключнасьць расейскага характару. Сымбалічны адпаведнік магілы невядомага салдата — такая ж магіла пад Трыюмфальнай аркай у Парыжы. Не выключаю, што могуць знайсьціся гістарычныя дзеячы, якія былі б ня супраць, каб іх краіна выйграла яшчэ парачку бітваў маштабу Сталінградзкай, але сумняюся, каб на вяршыню ўлады нейкі народ вынес чалавека, які зычыў бы сваім суайчыньнікам паўтарэньня Хатыні ці Асьвенціму. Наважуся сьцьвярджаць, што менавіта розная гістарычная памяць пра Другую сусьветную вайну ёсьць адною з прычынаў таго, чаму, нягледзячы на значную ступень моўнае і культурнае русіфікацыі беларусаў, так розьніцца мэнтальнасьць двух народаў. Тое, што ў схемах савецкіх ідэолягаў мусіла стаць цэмэнтам, які навечна зьяднае новую гістарычную супольнасьць — савецкі народ, насамрэч сёньня іх падзяляе.

Праз наяўнасьць супольнае інфармацыйнае прасторы чачэнскую вайну можна было назіраць амаль ужывую. Можна было, пакуль у Расеі было адносна свабоднае ці безадказнае — as you like it — тэлебачаньне. Падзеі ў Чачэніі для ўсходнеэўрапейцаў — беларусаў, украінцаў ці літоўцаў — тым больш вусьцішныя, што адбываюцца на знаёмай, пазнавальнай прасторы, да якой назіральнікі нядаўна належалі самі, часта ў месцах, дзе яны асабіста бывалі. Беларусы жывуць у адной культурнай прасторы з 65-гадовай пэнсіянэркай з Хабараўску, якую згвалціў і забіў 22-гадовы інвалід ча-

чэнскае вайны. З тым самым азьвярэньнем сутыкаліся самі беларусы ў часе Другой сусьветнай, калі брат даносіў на брата і сусед забіваў суседа. Гэты эфэкт прысутнасьці і пазнавальнасьці стварае поле крытычнага пераасэнсаваньня. Апошнія гады грозьненскіх руінаў на расейскіх экранах я ўжо ня бачыў. Але гэта ня значыць, што страх аказацца на месцы чачэнцаў або на месцы расейскіх салдатаў у Чачэніі — і тое, і тое для беларусаў прынамсі “вообразимо” — паменшаў. Ён захоўваецца ў падсьвядомасьці, накладаючыся на пераказы, трансьляваныя ў публічным дыскурсе школьнымі падручнікамі, рознымі культурнымі прадуктамі, і на прыватнай, сямейнай памяці пра апошнюю вайну, празь якую, як па краі канца сьвету, прайшла Беларусь.

Не адкрыю Амэрыкі, сказаўшы, што Расеі цяжка разьлічваць на рост сымпатый ва Ўсходняй Эўропе, пакуль будуць войны кшталту чачэнскай. Ня ведаю, ці разаўецца ўрэшце ў Расеі стойкае непрыманьне любых войнаў, як гэта адбылося ў Эўропе. Пакуль гэтага не назіраецца — магчыма, вірус у малой канцэнтрацыі толькі ўзмацняе імунітэт. Нават мой родны дзядзька, бацька згаданага Антона, ухваляе чачэнскую вайну. Мне тут няма чаго дадаць.

## 7

Адчуваньне сваёй прыналежнасьці да Эўропы ў сёньняшняй Беларусі меншае, чым у часы “Апісаньня эўрапейскай Сарматыі”. Гэта праўда, што беларусы больш шукаюць у Эўропе прытулку і пратэкцыі, чым бачаць у ёй сваю натуральную айчыну і мэту. Чаго мы

хочам ад Эўропы? Каб там не было Расеі. “Беларусь — у Эўропу” азначае для многіх адэптаў гэтага лёзунгу перадусім “Прэч ад Расеі”. Эўропа in se невялікая мэта для іх. Тым ня менш, беларусы – я, ты, мы, яны – падзяляюць з эўрапейцамі адну “культуру міру”. Вайна, дыктат, гонка ўзбраеньняў, сілавое вырашэньне міждзяржаўных канфліктаў для людзей гэтай культуры непрымальныя. І гэта зусім ня вынік таго, што мы, карыстаючыся “въевшимся” тэрмінам квазінавуковае тэорыі Гумілёва, страцілі пасіянарнасьць. Мы з Вэнэры, а ня з Марсу, бо мы прайшлі праз супольныя для ўсіх эўрапейцаў выпрабаваньні і асэнсаваньні: праз нарманскае рабаваньне, праз хрышчэньне агнём і мячом, ганзейскі гандаль, габрэйскую канкурэнцыю, басурманскую пагрозу, бунты галоты і казацтва, рэнэсансавае пераадкрыцьцё чалавека і адначасова каранёў сваёй культуры, рэфармацыйнае ачышчэньне, праз барочную надмернасьць, асьветніцкі рацыяналізм і загартоўку капіталізмам, каб молат Другой сусьветнай выкаваў нарэшце цяперашнюю культуру міру і цярпімасьці.

У цэнтральнаэўрапейскай любові да Эўропы сапраўды шмат страху перад Расеяй, памяці пра крыўды мінулага і боязі будучыні. Нельга папракаць беларусаў, што яны шукаюць у Эўропе паратунку ад пагрозы, якая многім назіральнікам здаецца надуманаю. Нельга тлумачыць гэтае пачуцьцё толькі ўнутранай русафобіяй беларусаў. Не бяз гэтага, вядома (мы ўсё ж суседзі!). Тым ня менш, памылкова зводзіць нашы пачуцьці да гэтага стэрэатыпу, да нашага *комплексу малодшых братоў*. Памылковая і схема пра

дзьве Беларусі, адна зь якіх – большая – прарасейская і пераважна расейскамоўная, а другая – меншая – Расею ненавідзіць і таму рвецца ў Эўропу. Гэта тое самае "падзяляй", за якім нязьменна знойдзецца "ўладар".

Не, мы ня хочам, каб Эўропа вырвала з нас частку нас, якой зьяўляецца расейская культура. Гэта і неймаверна, гэта залежыць ад нашага выбару, а не ад Эўропы. Беларусы, як і іншыя ўсходнеэўрапейцы, ідуць упрочкі не ад Расеі як такой, не ад культуры Салтыкова-Шчадрына і Чайкоўскага, яны бягуць ад эўразійскага бязладзьдзя, культу сілы, права моцнага, ад усяго таго, што разьвілася і замацавалася пры асваеньні бясконцых прастораў Азіі і Сібіры і што ня трапіла пад кантроль дагэтуль.

Памкненьнем да інтэграцыі ў Эўропу кіруе ня толькі страх. Яго дыктуе і цывілізацыйная повязь, памяць пра былое адзінства, ад нарманскіх часоў да Напалеона. Да інтэграцыі схіляе і эканамічны прагматызм.

## 8

Практычную задачу далучэньня краіны да эўрапейскіх структураў будзе выконваць, мусіць, ужо першае наступнае за лукашэнкаўскім пакаленьне палітыкаў, не абцяжаранае культурнымі комплексамі лукашэнкаўцаў. Перадумовы для таго сьпеюць. Ня толькі Беларусь усё лепш пераймае эўрапейскі досьвед, але і Беларусь усё лепш спазнаюць на Захадзе. Гэта сталася не адразу. Для Захаду (не для славянскага сьвету, дзе Беларусь добра ведалі і раней) яна была яшчэ ў большай ступені, чым Украіна, "нацыяй зьніадкуль". І ўсё ж, хоць і не безь некаторых

цяжкасьцяў, эўрапейцы ў простым і пераносным сэнсах засвоілі назву новае краіны, што сядзіць на вытоках Дняпра, Дзьвіны й Нёмана. (Пры нагодзе расказваю анэкдот. У 1992 г. французы вырашалі, якога роду будзе новае слова “Belarus” у адпаведнасьці з законамі французскае мовы. Пасольства Францыі ў Менску даслала запыт у Французскую акадэмію. Праз паўгоду прыйшоў афіцыйны адказ: мужчынскага).

На пачатку 1990-х гг. шмат хто лічыў Беларусь геапалітычным кур’ёзам, акадэмік Французскай акадэміі Элен Карэр д’Анкос у чыста гальскай манеры заклікала да выдаленьня яе з палітычнай мапы сьвету на карысьць Расеі і Польшчы. Цяпер такога больш не пачуеш, гэта – некарэктна. Нягледзячы на асобныя прыкрасьці — напрыклад, візыт Лукашэнкі да Шырака ў 1996 г., пасьля першага з ганебных рэфэрэндумаў і перад другім — Эўропа заслужыла вялікую пашану беларускага дэмакратычнага руху дзякуючы свайму паважліваму стаўленьню да беларускае незалежнасьці і далікатнаму жаданьню не зрабіць нічога, што магло б узмацніць пагрозу зьнікненьня Беларусі з палітычнай мапы сьвету. Карацей, дзякуючы адвольным і міжвольным намаганьням абодвух бакоў далучэньне Беларусі да Эўразьвязу больш не здаецца толькі гучным лёзунгам (“Беларусь — в Европу...”), а пакрысе будзе рабіцца заўтрашнім днём практычнае палітыкі.

Калі ж Беларусь “пяройдзе на вузкую каляіну”? У транспартным сэнсе, мусіць, не раней, чым чыгуначныя шляхі адамруць. А вось у сэнсе далучэньня да эўраструктураў можна сьмела прагназаваць, што гэта адбудзецца неўзабаве пасьля пераходу Беларусі

ад аўтарытарызму да дэмакратыі. Супольная культура міру і цярпімасьці — толькі перадумова для паўнавартаснага ўключэньня Беларусі ў кантынэнтальны палітычны і гаспадарчы мэханізм. Акрамя міру і ненасільля, Эўразьвяз базуецца на другой фундамэнтальнай каштоўнасьці — павазе да ўласнасьці і яе працягу, павазе да палітычнае свабоды чалавека й супольнасьці. Гэтая каштоўнасьць яшчэ не ўмацавалася ў Беларусі. Нацыянальная ці палітычная свабода, у адрозьненьне ад рэлігійнай, дагэтуль аспрэчваюцца ў Беларусі. Сярод беларусаў пакуль не замацавалася разуменьне таго, што кіраўнік краіны мусіць быць падсправаздачны свайму народу, гэтаксама як народ падсправаздачны свайму кіраўніку. Гэта, бадай, наймацней адрозьнівае нашу краіну ад “стопрацэнтова эўрапейскіх”. Апошняе ёсьць наступствам таталітарызму, які, як казаў Уінстан Чэрчыль, забараняў усё, а ўсё дазволенае рабіў абавязковым.

Тым ня менш, і каштоўнасьць свабоды палітычнай пранікае ў Беларусь праз калючы дрот мяжы, дзякуючы нікім больш не аспрэчванай свабодзе перамяшчэньня. У адрозьненьне ад прэзыдэнта, які перад выбарамі 2001 г., што прадвызначылі ягоны другі тэрмін, заявіў: “Это моя страна! Я здесь родился, вырос и я здесь умру, чего бы мне это ни стоило!” — тысячы маладых беларусаў так ня думаюць. Яны зьбіраюць парэчкі ў Нарвэгіі, тынкуюць дамы ў Польшчы, пішуць кампутарныя праграмы для нямецкіх чыгунак, ганяюць машыны зь Нідэрляндаў у Расею і нават прысутнічаюць на амэрыканскім рынку парнаграфіі. Свабода перамяшчэньня зьбліжае культуры. (Праўда, рух пакуль

пераважна аднабаковы. Нават ня верыцца, што некалі людзі будуць міграваць ня толькі зь Беларусі ў Нямеччыну, але і зь Нямеччыны ў Беларусь, як гэта было 500 гадоў таму). Зь міграцый людзі выносяць таксама павагу да такой каштоўнасьці, як палітычная свабода.

Дэмакратыя, як паказвае досьвед Гішпаніі і Партугаліі, прыжываецца за некалькі гадоў. Узорам для яе ў Беларусі магла б стаць рэлігійная свабода. Спробы навязаць чалавеку "дзяржаўную ідэалёгію" часам ужо цяпер успрымаюцца настолькі ж непрыхільна, як успрымаліся б спробы сілаю пахрысьціць чалавека ў адзіна правільную царкву.

Гэты працэс высьпявае сам сабой, няслушна было б яго штучна прысьпешваць. Скорае тут можа быць ворагам добрага, а лекі — больш небясьпечнымі за хваробу. Я маю на ўвазе жаданьне абы хутчэй прынесьці ў Беларусь дэмакратыю праз Расею, як многія на Захадзе хацелі б. Але дзякаваць Богу, утапізм гэтай ідэі, як выглядае, мусіць усё ж стацца відавочным у нейкай ня надта аддалёкай пэрспэктыве.

**9**

У працэсе эўраінтэграцыі беларускай супольнасьці асаблівае месца магло б належаць беларусам Беласточчыны і Віленшчыны, якія ўжо сёньня бачаць сябе беларускім П'емонтам і хочуць адыграць галоўную ролю ў перамене беларускай ідэнтычнасьці. У далучэньні Беларусі да Эўразьвязу яны бачаць таксама і магчымасьць узьяднаньня з радзімай безь зьмя-

неньня межаў. Бо іхныя рэгіёны моцна пакутуюць ад бар'ераў для перамяшчэньня тавараў, паслугаў і людзей. Усё гэта робіць іх натуральнымі лякаматывамі эўрапейскай інтэграцыі. Прывілеі нацменшасьцям, гарантаваныя эўразьвязаўскім заканадаўствам, натхняюць тамтэйшыя Таварыствы на дзейнасьць, даўней для гэтых нацыянальных асяродкаў не характэрную. Яны даюць прытулак эмігрантам зь Беларусі, арганізоўваюць навучаньне выбарчым тэхналёгіям, ствараюць сродкі масавай інфармацыі, разлічаныя на аўдыторыі ў Рэспубліцы Беларусь.

З улікам таго, што беларуская нацыя ў сваім разьвіцьці мае яшчэ прайсьці пэўны шлях, уліцьцё яе ў складаны эўрапейскі мэханізм ня будзе бязбольным і запатрабуе выпрацоўкі асаблівых мэханізмаў абароны культурнае ідэнтычнасьці. Дыпляматыя, цярплівыя перамовы, структурная перабудова эканомікі, будзённая праца інтэлектуалаў па стварэньні эўрапейскае ідэнтычнасьці беларусаў — усё гэта ня так проста ажыцьцяўляць пасьля стагодзьдзяў разьдзеленасьці і каланізацыі.

**10**

У 90-х гг. мінулага стагодзьдзя беларусы перанесьлі шэраг удараў, якія па сваёй сіле ня так ужо й розьніліся ад таго, што адбылося зь немцамі пасьля Першай сусьветнай вайны. Інфляцыя, якой суправаджаўся постсавецкі эканамічны крызыс, зьнішчыла фундамэнтальную беларускую ідэю асобы, якая палягала ў тым, што, калі чалавек цяжка працуе і ашчаджае грошы, дык яму гарантаваная забясьпечаная старасьць.

Верагодна, Лукашэнка так і не прыйшоў бы да ўлады празь дзесяць гадоў, каб ня тая нястрымная інфляцыя і не Чарнобыль. Аднак раны 90-х паціху забываюцца, і зьяўляюцца знакі таго, што, можа быць, і табе пашчасьціць дажыць да тае пары, калі тысячы людзей будуць так жа свабодна аддаваць перавагу Беларусі перад Нямеччынай, як 500 гадоў таму, і што сярод іх будуць продкі новых беларускіх Шагалаў, Міцкевічаў і Вольскіх. Хай цяпер ты жывеш у сьвеце безь вялікага культурніцкага наратыву, без палітычна значэннага праекту сацыяльнай справядлівасьці, бо гэтыя ідэі і гэтыя праекты надоўга здыскрэдытаваў камуністычны экспэрымэнт, але, як і эўрапейскія інтэлектуалы-рацыяналісты часоў Асьветніцтва, ты верыш, што дасканалы сьвет магчымы, а калі дасканалы сьвет пакуль немагчымы на ўсёй плянэце, дык прынамсі магчымы ў межах адзінае Эўропы, кантынэнту бяз войнаў, без насільля, без дыскрымінацыі, дзе ёсьць месца і тваёй нацыі, і табе.

# ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНІЯ ГУБЭРНІ РАСЕІ ЦІ WSCHODNIE KRESY POLSKIE?

**Андрэй Акара**

Спэцыфічнай адметнасьцю Беларусі ад блізкіх ёй Расеі, Украіны і Польшчы, ёсьць адсутнасьць у нацыянальнай культуры і ідэалёгіі эсхаталягічна арыентаванага тыпу мысьленьня ды спароджаных ім дыскурсаў – геапалітыкі, самадастатковай палітычнай культуры, суб'ектнага пазыцыянаваньня ў міжнародных стасунках, ідэалягічных канцэптаў месіянскага тыпу ў мастацтве і літаратуры.

Адсюль і нязвыклае (з гледзішча суседзяў Беларусі) разуменьне беларусамі свайго гістарычнага кону – "застацца ў жывых". Пошукі беларускай нацыянальнай і цывілізацыйнай ідэнтычнасьці амаль заўсёды прыводзяць да думкі аб малой актуальнасьці візантыйскага дыскурсу для Беларусі – гэта тычыцца як эўрацэнтрычнага, так і масквацэнтрычнага яе разуменьня. Зрэшты, адсюль зусім не вынікае, што сучасная Беларусь не зьяўляецца ці ня можа разглядацца часткай "поствізантыйскага" дыскурсу – хаця б таму, што існуе Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай

Царквы, ды і бальшыня беларусаў лічыць сябе ўсё-такі праваслаўнымі.

Для вызначэньня месца Беларусі ў "сакральнай прасторы" ўсходнехрысьціянскай цывілізацыі дастаткова паказальным можа быць параўнаньне беларускага гістарычнага і мэтафізычнага досьведу з украінскім.

Наўрад ці можна знайсьці тыпалягічна больш блізкія славянскія культуры, чым украінская і беларуская – і гэта пры дастаткова выразных і адчувальных этнічных разрозьненьнях паміж украінцамі і беларусамі. Абедзьве культуры ў XIV–XVII стст. мелі агульны арэал існаваньня: Вялікае Княства Літоўскае (дарэчы, гэтая культура досыць выразна адрозьнівалася ад культуры Маскоўскай Русі). Да гэтай пары бальшыня пісьменьнікаў і царкоўных дзеячаў той эпохі залічваюцца да сваіх беларусамі і ўкраінцамі. А афіцыйная кніжная мова таго часу вызнаецца дасьледчыкамі як "беларуска-ўкраінская" ці "заходнеруская" – разрозьненьні паміж яе беларускімі і ўкраінскімі вэрсіямі ня вельмі значныя, затое вельмі заўважна адрозьніваецца ад мовы вялікарускіх кніжнікаў.

У XIX ст. амаль аднолькавымі шляхамі адбываецца станаўленьне нацыянальнай сьвядомасьці абодвух народаў – праз стварэньне пісьменьнікамі-рамантыкамі "кансалідуючага" міту (аўтарамі ўкраінскага, "казацкага" міту лічацца Іван Катлярэўскі, Кандрат Рылееў, Мікалай Гогаль, Тарас Шаўчэнка, Панцеляймон Куліш; беларускага, дакладней, беларуска-польска-літоўскага – Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, часткова Адам Міцкевіч).

Расейская імпэрыя рашуча змагалася з фармаваньнем нацыянальнай сьвядомасьці і доўгі час не прызнавала ні ўкраінскую, ні беларускую культуру, навязваючы ім агульнаімпэрскую ідэнтычнасьць і “агульнарускую” мову; абмежаваньні (часткова) былі скасаваныя толькі на пачатку XX ст. Досыць часта афіцыйны Санкт-Пецярбург у сваёй антыбеларускай і антыўкраінскай палітыцы (асабліва пры Екацярыне II, Аляксандры I і, у меншай меры, пры Мікалаі I) абапіраўся на польскіх магнатаў і каталіцкае духавенства.

Абодва народы, пазбаўленыя дзяржаўнасьці і паўнавартаснай этнакультурнай легалізацыі, стварылі дзьве тыпалягічна падобныя мастацкія літаратуры, ад пачатку зарыентаваныя на “хатні ўжытак”, дзе функцыянавалі мовы, якія маглі выкарыстоўвацца адно ў досыць абмежаваных сфэрах.

Але ў сваім развоі ўкраінская культура па часе ды інтэнсіўнасьці апярэджвала беларускую, таму беларускія “адраджэнцы” пачатку XX ст. (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, газэта “Наша Ніва”), разумеючы прыдатнасьць для сябе ўкраінскай культурнай мадэлі, перадусім пераймалі ўкраінскі, а ня рускі ці польскі культурабудаўнічы досьвед. “Фактар Украіны” быў і застаецца па сёньня магутным стымулам развою Беларусі. Пасьля рэвалюцыі 1917 г. буржуазная БНР была створаная па аналёгіі з УНР, а сацыялістычная БССР – па аналёгіі з УССР.

Аднак пры тыпалягічным падабенстве культурнага развою Ўкраіны і Беларусі ёсьць і даволі прынцыповых адрозьненьняў, якія тычацца найперш візантыйскай ідэнтычнасьці гэтых народаў і краінаў.

Беларусы – адзіны ўсходнеславянскі народ, які мае ўласную нацыянальную вэрсію рыма-каталіцтва. Калі ўся Украіна вызнае ўсходні царкоўны абрад (хай і ў фармаце грэка-каталіцтва), дык значная частка беларусаў – "гістарычныя" рыма-каталікі. Для беларусаў, да прыкладу, традыцыйнымі зьяўляюцца імёны як з праваслаўных, так і каталіцкіх сьвятцаў: па імені заўсёды можна вызначыць і канфэсійную прыналежнасьць, і нават цывілізацыйныя схільнасьці яго носьбіта. У сярэдзіне 1990-х па колькасьці абшчынаў праваслаўныя ў Беларусі страцілі сваю абсалютную вершнасьць (упершыню пасьля 1883 г.). Па стану на пачатак 2005 г. у Беларусі зарэгістравана 1315 праваслаўных абшчын, пратэстантскіх – 983, рыма-каталіцкіх — 433, аднак пратэстанты вырозьніваюцца высокай мерай "воцерквленности" і місіянерскай актыўнасьці, а ў праваслаўных асяродках наадварот – шмат "невоцерквленных", "праваслаўных атэістаў" і г.д.

Адпаведнае разыходжаньне паміж украінскай і беларускай культурамі назіраецца і ў філязофска-багаслоўскай сфэры ў XVI–XVII стст. Калі ў асяродку ўкраінскіх інтэлектуалаў арыстотэлеўскія інтуіцыі, характэрныя для "другой" контррэвалюцыйнай каталіцкай схаластыкі, змагаюцца з больш адпаведнымі духу праваслаўя неаплятанічным і патрыстычным дыскурсамі, дык у Беларусі арыстотэлізм дамінуе.

Досыць паказальная розьніца і ў мітах "Залатога веку" (як іх трактавалі гісторыкі і мітатворцы пэрыяду нацыянальнага адраджэньня). "Залаты век"

для ўкраінскай сьвядомасьці – гэта эпоха рэлігійных войнаў запарожскіх казакаў супраць Польшчы, Турцыі і Крыма. Для беларускай сьвядомасьці такім "Залатым векам" зьяўляецца эпоха Вялікага Княства Літоўскага – эпоха Міколы Гусоўскага, Францішка Скарыны, Льва Сапегі, Статута ВКЛ і бесьперапыннага супрацьстаяньня праваслаўнаму Вялікаму Княству Маскоўскаму.

Літоўскае княства ўсьведамляла сябе шматканфэсійнай дзяржавай, але "дзяржаўнай рэлігіяй" з пэўнага часу зрабіўся менавіта каталіцызм, а праваслаўнае насельніцтва рознымі спосабамі прыніжалася. Найлепшай формай сацыяльнай легалізацыі (асабліва для шляхціча) лічыўся пераход з праваслаўя ў каталіцызм ці пратэстанцтва. Акрамя таго, Літоўскае Княства было прытулкам шматлікіх ерасяў, рэфармацыйных і пратэстанцкіх рухаў. Аб'яднаньне Літвы і Польшчы ў выніку Люблінскай уніі (1569) мела вынікам царкоўную Брэсцкую ўнію (1596), якая прынесла фатальныя наступствы для культурнага і палітычнага візантызма і праваслаўя ўвогуле. Ужо напрыканцы XVIII ст. ўніяты складалі каля 70% насельніцтва Беларусі, рыма-каталікі – 15%, праваслаўныя – 6%.

Зрэшты, ёсьць і больш значныя для разуменьня візантыйскіх патэнцый Беларусі прыкметы – гэта *сакральная геаграфія і антыэлітарызм*.

Для праваслаўнай сьвядомасьці заўсёды актуальнае прасторава-геаграфічнае вымярэньне – геапалітыка і сакральная геаграфія, паколькі праваслаўе ня можа паўнавартасна існаваць знадворку праваслаўнай дзяржавы (з гэтага ў праваслаўным сьвеце паўстала ўяўленьне аб якаснай разнароднасьці зямной прасто-

ры). Кожная праваслаўная краіна ня можа не лічыць сябе містычным “цэнтрам сьвету” – Новым Рымам, Новым Іерусалімам.

Беларусь жа ніколі не ўсьведамляла сябе “цэнтрам сьвету”, а толькі і заўсёды “перадавым краем”: у складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай – перадавым краем Захаду на ўсходнім накірунку, у складзе Расейскай імпэрыі, СССР, СНД ці Расейска-беларускага саюза – “абаронным эшалонам” вялікай прасторы за сваёй сьпінай. Беларусь – гэта “калідор”, “транзіт”, “мост” паміж цывілізацыямі, краіна, якая знаходзіцца на “стратэгічным скрыжаваньні”, “культурнае пагранічча”, урэшце “зборачны цэх” савецкай індустрыі. Усе тэмы, знакавыя для беларускай літаратуры, кіно, грамадзкай сьвядомасьці – Вялікай Айчыннай вайны, Брэсцкай крэпасьці, партызанскага супраціву (а ў апошнія гады – Чарнобыльскай катастрофы) – працуюць на архетып Беларусі як “пярэдняга краю”.

Украіна мае сакральныя цэнтры – Кіеў, Пачаеў, запароскую Хорціцу, магілы і курганы прычарнамор’я, Херсанес-Севастопаль, які ёсьць знакам Канстанцінопаля і Візантыі. А сымбалічныя цэнтры беларускай гісторыі – Полацак, Наваградак, Вільня, Менск (дакладней “Менск” ці “Меньск”) – пазбаўленыя сакральнай харызмы. Хіба што сабор Сьв. Сафіі ў Полацку некаторым чынам паказвае на магчымае, але гістарычна так і не рэалізаванае наканаваньне старажытнай дзяржавы крывічоў-беларусаў.

У свой час, у XIV—XV стст., візантыйскія імпэратары і патрыярхі, прадбачачы непазьбежны канец імпэрыі, выбіралі паміж Русьсю Літоўскай і Маскоўскай шлях

“адступленьня” Канстанцінопаля – накірунак для *tranlatio impria* дзеля перадачы місіі *“Катэхона”*. Была выбраная Масква перш за ўсё праз адсутнасьць у ёй каталіцкай альтэрнатывы – захапіўшыя Масковію татары палохалі візантыйцаў меней, чым лацінскія “цывілізатары” Літоўскай Русі. Менавіта тады Вялікае Княства Літоўскае пакінула візантыйскую арбіту, і візантыйская тэма ўжо ніколі ня будзе актуальнай для беларускай сьвядомасьці. Нават сучасныя беларускія панславісты і прамаскоўскі арыентаваныя інтэлектуалы не апелююць да вобразу гістарычнай Візантыі, да візантыйскіх каштоўнасьцяў, да мадэлі “Візантыі-пасьля-Візантыі”.

Антыэлітарызм ці адсутнасьць паўнавартаснай нацыянальнай эліты вылучаецца ўсімі дасьледчыкамі ў якасьці нацыянальнай рысы беларусаў, якая прадвызначыла многія псыхалягічныя адметнасьці і гістарычныя пакручастасьці нацыянальнага паўставаньня гэтага народа.

Беларуская ідэнтычнасьць фармавалася выключна як вясковая ці вытворная ад вясковай, беларусаў называлі – ці з гонарам, ці з агідай – “мужыцкім народам”. Такая арыстакратафобія выявілася перадусім у мастацкай літаратуры, якая ў сваім развоі рушыла ня шляхам вытанчанага неаклясыка Максіма Багдановіча, а рустыкальных Якуба Коласа і Янкі Купалы. Папулярнасьць прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі ў значнай меры тлумачыцца адпаведнасьцю яго рыторыкі, паводзінаў і палітыкі беларускаму вясковаму архетыпу.

Нават вядомы расейскі манархіст і дзяржавазнаўца Іван Саланевіч, беларус з паходжаньня, разглядае Ра-

сейскую імпэрыю праз прызму сваёй нацыянальнай мэнтальнасьці: ён лічыць духоўную і інтэлектуальную эліту, ды і сам прынцып арыстакратызму, “адбору лепшых” абсалютным злом, а выбітнага ў якіхкольвек праявах манарха, “генія на троне” (перадусім Пятра I) – пагрозай для натуральнага развою дзяржавы і народа.

Між тым, толькі вялікая эсхаталягічная ідэя надае існаваньню народа нейкі вышэйшы ўніверсальны сэнс. А вясковае мысьленьне неэсхаталягічнае ў прынцыпе, яно арыентаванае на каляндарны год – на цыклічнасьць і паўторнасьць. З гэтага і антыэлітарызм беларускай культуры, якая па свайму тыпу належыць да “няпоўных” культураў і ня здольная, прынамсі на сучасным этапе разьвіцьця, запоўніць усе герархічныя ўзроўні запатрабаваньняў беларусаў, асабліва ўрбанізаваных, гарадзкіх жыхароў.

Носьбіт антыэлітарных культурных стэрэатыпаў нават размову ў горадзе па-беларуску ўспрымае як нешта цалкам незвычайнае: альбо як інтэлігенцкую маніфэстацыю нацыянальнай самасьвядомасьці, альбо як “правінцыялізм” заблукалага сярод хмарачосаў вясковага жыхара.

Менавіта антыэлітарызм тлумачыць адсутнасьць глябальнай беларускай нацыянальнай ідэі, якая сьцьвярджала б агульнасусьветную ўнікальнасьць беларусаў, іх месца ў містычнай гісторыі чалавецтва. Пэўна, антыэлітарызм добра спрычыніўся і да таго, што максімальна эзатырычная і эсхаталягічная візантыйская тэма не знайшла сабе месца ў беларускай сьвядомасьці. У рэшце рэшт менавіта антыэлітарызм выкрывае прычыну слабасьці этнакультурнай бе-

ларускай самасьвядомасьці. І справа тут зусім не ў малалікасьці беларусаў, а ў адсутнасьці “крытычнай масы” нацыянальнай інтэлігенцыі.

Беларуская нацыянальная ідэнтычнасьць склалася дастаткова позна, ужо ў рамках СССР – менавіта таму сучасная Беларусь зьяўляецца ці ня самай савецкай з усіх былых рэспублік СССР. Раней беларусы лічылі сябе альбо недапалякамі, альбо недарускімі – інакш кажучы, “тутэйшымі”, г. зн. усяго толькі мясцовымі людзьмі. “Тутэйшыя” – гэта этнічныя беларусы без “кансалідуючай” ідэі, зь нізкай нацыянальнай самасьвядомасьцю; калі раней гэта былі неадукаваныя беларускія вяскоўцы, дык у апошні час – дэнацыяналізаваныя жыхары гарадоў.

Янка Купала ў забароненай савецкай уладай трагікамедыі “Тутэйшыя” (1922) мэтафарычна паказвае Беларусь як бы разарванай паміж Расеяй і Польшчай. Для Расеі яна – “Паўночна-Заходні край”, для Польшчы – “Wschodnie kresy”. Беларуская інтэлігенцыя выпрацавала разуменьне Беларусі як не-Польшчы і не-Расеі, як нечага асобнага і самастойнага, але на наступную прыступку яна так і ня здолела ўзьняцца – сфармуляваць індывідуальную адметнасьць і нейкую агульназначную гістарычную місію.

Але ці магло быць інакш, калі рэлігійным ідэалам для большай часткі нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі застаецца ўніяцтва (пры тым што ўнія у Беларусі была ліквідаваная ў 1839 г.)? А для каталіцкай сьвядомасьці (хоць “грэцкай”, хоць “рымскай”) няма і ня можа быць іншага сакральнага цэнтра, акрамя горада апостала Пятра.

Аднак справа тут ня толькі ў інтэлігенцыі. Нацыянальная ідэя не прыдумляецца культурнай ці палітычнай элітай. Знайсьці нацыянальную ідэю – гэта значыць слушна зразумець “харызму” свайго народа і сваёй дзяржавы, гэта значыць рацыянальна ўсьвядоміць, інтуітыўна прачуць і духоўна ўвідушчыць уласную геапалітычную, гістарычную і містычную прадвызначанасьць.

Тут паўстае натуральнае пытаньне: а ці магчыма беларуская ідэя ўвогуле? А калі магчымая, дык якой яна мусіць быць?

Эсхаталягічная напятасьць, характэрная для расейскай культуры і ў меншай ступені – для ўкраінскай, надыктоўвае і адпаведную тыпалёгію нацыянальнай ідэі. “Руская ідэя” ня столькі апісвае рэальную Расею, колькі канструюе Расею ідэальную, якая існуе як бы ў сутоках Зямлі і Неба. Падобныя самапачуваньні і ўяўленьні прысутнічаюць і ва ўкраінскай культуры, хаця разьвітыя больш слаба.

Характэрная для беларускага самапачуваньня апэляцыя да “жыцьцёвай праўды” (у супраціў глябальным унівэрсаліcцкім памкненьням) і хтанічная ідэнтычнасьць “тутэйшых” – гэта своеасаблівая тэхналёгія выжываньня “тут і цяпер”. Сытуацыя, у якой Беларусь пэрыядычна станавілася арэнай сутыкненьня сваіх больш моцных суседзяў (пры гэтым сама ня будучы суб’ектам міжнароднай палітыкі), выпрацавала ўласную – несуб’ектную – палітычную культуру, “мінімалісцкія” стэрэатыпы паводзінаў і замацавала першынства інстынкту самазахаваньня.

Калі для расейскага і ўкраінскага гістарычнага досьведу рэлігійная ідэнтычнасьць часта была

апраўданьнем і сэнсам свайго існаваньня – уласна, Расея як дзяржава сфармавалася на ідэалягеме абароны "ісьціннай веры" – дык для беларусаў канфэсійная прынадлежнасьць была найперш адной з тэхналёгіяў выжываньня – чым і тлумачыцца колькіразовы пераход усяго народа ці яго вялікіх частак з адной канфэсіі ў другую.

У расейскай, часткова і ва ўкраінскай культурах, экзыстэнцыйныя перажываньні, зьвязаныя з экспансіяй, максімалізмам, з захаваньнем "ісьціннай веры", у беларускай – толькі з самазахаваньнем. Ва ўкраінскім фальклёры даволі экспансіяніцкіх і агрэсыўных казацкіх песьняў, у беларускім – мэлянхалічных і бязвольных.

Беларусь існуе як нацыянальная і практычна монаэтнічная дзяржава, а значныя іншаэтнічныя супольнасьці – палешукі Брэсцкай вобласьці і палякі Гродзенскай вобласьці – не ўспрымаюцца як чужародны элемэнт і цалкам упісваюцца ў агульнабеларускі соцыюм. І наўрад ці Беларусь магла адбыцца ў іншым фармаце – напрыклад, калі б у склад БССР увайшлі Вільня, Беласток і Калінінград, а такі варыянт пасьля вайны не выключаўся.

Украіна ўжо амаль сфармавалася як поліэтнічная дзяржава, гатовая "пераварыць" і Крым, і расейскамоўныя раёны Ўсходу і Поўдня, і неславянскія (венгерскія, румынскія) анклавы на Захадзе. А расейскія поліэтнічнасьць, шматканфэсійнасьць і экспансіянізм – гэта тыя прынцыпы, на якіх складвалася яшчэ Вялікае Княства Маскоўскае.

Таму на ўзроўні глябальных ідэалёгій беларусы – носьбіты ня ўласнай унікальнай ідэнтычнасьці,

а чужой – маскоўскай ці эўрапейскай. З гэтай прычыны найбольш аптымальнай культурнай праграмай для Беларусі, верагодна, можа лічыцца “*неазаходнерусізм*”.

“Заходнерусізм” паўстаў у беларускіх губэрнях Расейскай імпэрыі ў другой палове XIX ст. як беларускаарыентаваная культурна-ідэалягічная плынь, якая мела на мэце захаваць народную культуру, фальклёр, традыцыйны лад жыцьця, праваслаўныя этычныя каштоўнасьці. Ідэолягамі “заходнерусізму” былі найперш навукоўцы-гуманітарыі: філёляг Міхаіл Баброўскі, гісторык Міхаіл Каяловіч, этнограф Яфім Карскі; развою гэтага руху часткова спрыяў і Пётар Сталыпін, які цягам некалькіх год быў губэрнатарам Гродзенскай губэрні.

Супрацьстаяла “заходнерусізму” ідэалёгія “краёўцаў” віленскай школы, якая хоць і адмаўляла польскацэнтрычны погляд на Беларусь як на “Wschodnie kresy polskie”, але адстойвала ўнікальнасьць беларуска-польска-літоўскага шматвекавога культурна-палітычнага сінтэзу на падставе каталіцызму і польскамоўнай “высокай” культуры.

Беларускі “заходнерусізм”, як і аналягічнае яму ўкраінскае “маларасійства”, – гэта захаваньне сваёй культурнай і моўнай ідэнтычнасьці пры прызнаваньні дамінуючай цывілізацыйнай ролі Масквы (ці Санкт-Пецярбурга ў часы Расейскай імпэрыі) і на асноведзі расейскамоўнай “высокай культуры”. “Маларасійства” і “заходнерусізм” у прынцыпе неэсхаталягічныя і ня маюць арыентацыі на *Канец* – гэта культурніцкія зьявы, якія пашыраюць і разнастаяць расейскі агульнаімпэрскі ўнівэрсум.

А вось украінства, у адрозьненьне ад “малярасійства”, – гэта альтэрнатыўная ідэнтычнасьць, якая супрацьпастаўляе масквацэнтрызму ці пецярбургацэнтрызму іншае (і зусім не абавязкова варожае!) кіевацэнтрысцкае бачаньне гістарычнай пэрспэктывы, іншую славянскую вэрсію Апакаліпсісу. Украіна акрамя заходняга курсу (інтэграцыі у “цывілізаваную сусьветную супольнасьць”) і курсу прамаскоўскага (ад асьветніцкага “маларасійства” і аж да поўнай асыміляцыі ўкраінцаў) мае яшчэ і “*трэцюю альтэрнатыву*” – разуменьне ўласнай мегагістарычнай унікальнасьці, усьведамленьне Кіева ў якасьці сакральнага цэнтру поствізантыйскай культурнай прасторы і патэнцыяльнага геапалітычнага лідэра Ўсходняй Эўропы.

Незавершанасьць фармаваньня беларускай нацыі ўскладняецца параўнальна невысокім узроўнем пасыянарнасьці беларускага этнасу. Акрамя таго, у краіне мала сацыяльных нішаў для пасыянарыяў, таму яны “выціскаюцца” адтуль вонкі. Унікальнасьць для Беларусі фігуры Аляксандра Лукашэнкі бачыцца найперш у яго несумненнай пасыянарнасьці, якую можна патлумачыць цыганскімі каранямі і псыхалягічнымі адметнасьцямі асобы – сублімацыяй дзіцячых крыўдаў і комплексаў.

Ніякай правідэнцыйнай беларускай ідэі ня склалася ні ў мінулым, ні ў сучасным. Не бачна і падставаў для яе зьяўленьня ў будучым. Таму Беларусь можа гістарычна рэалізавацца, па-першае, як частка Захаду, інтэграваваная ў пратэстанцка-каталіцкую цывілізацыю – аж да ўступленьня ў НАТО. Па-другое, калі казаць пра Беларусь як пра частку

ўсходнеэўрапейска-візантыйскай Айкумены, дык яе чакае добраахвотнае злучэньне з праваслаўнай эсхаталягічнай ідэяй: відавочнай масквацэнтрычнай ці менш відавочнай на дадзены момант украінскай кіевацэнтрычнай ідэяй (гэта ўсё пры дамінаваньні ў культуры “заходнерусізму”).

Карацей кажучы, Беларусь – гэта альбо “Вялікая Эўропа” альбо частка “Вялікай эўраазійскай прасторы”, у якой захоўваюцца суверэнныя нацыянальныя дзяржавы, а лідуючыя пазыцыі займаюць Масква і Кіеў.

Трэцяга Беларусі ня дадзена.

# ВАЧЫМА СЭРЦА

## Аляксей Сіманаў

Сябрую з Беларусьсю даўно. Задоўга да таго, як зьмена ў напісаньні краіны сталася для яе лёсавызначальнай. Мая маці нарадзілася ў Шклове (Магілёўская губэрня). Бацька ваяваў прыкладна ў тых жа самых месцах. Там жа, на Буйніцкім полі, разьвеяны ягоны прах. Ды і сам я (у папярэдняй сваёй прафэсіі – кінарэжысэр) найвышэйшае прызнаньне здабыў у Менску, калі ў 1985 годзе на Ўсесаюзным кінафэстывалі, прысьвечаным саракагодзьдзю Перамогі, падзяліў з Сяргеем Герасімавым галоўную ўзнагароду. Яшчэ трохі, і можна будзе лічыць сябе беларусам.

Але колькі ня згадвай повязяў, што лучаць мяне з гэтай зямлёй, колькі не пералічвай беларускіх сяброў у кіно, журналістыцы, палітыцы, колькі не пераконвай сябе ды іншых, што ведаеш Беларусь наскрозь, усё роўна я бачу краіну, яе жыцьцё і праблемы знадворку, чужымі вачыма. Чужымі не ў значэньні чужасьці, а ў тым сэнсе, што карыстаюся досьведам сяброў, які прапускаю празь сябе, праз фільтр сваіх каштоўнасьцяў і поглядаў. Таму я і назваў гэтыя зацемкі “Вачыма сэрца”.

**1.**

Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі восеньню 2001 года, наколькі я памятаю, дэмакратычныя сілы спрабавалі кансалідавацца. Але пры гэтым

усе праграмы іх лідэраў, якія прэтэндавалі на вышэйшую дзяржаўную пасаду, пачыналіся прыблізна наступнымі словамі: "Вось ня будзе Лукашэнкі...". Галоўная праблема людзей, якія спрабуюць нешта зьмяніць у Беларусі, палягае ў тым, што яны лічаць свайго галоўнага апанента Аляксандра Лукашэнку *абсалютным злом*. Да той пары, пакуль паўставаньне новай Беларусі будзе зьвязвацца выключна з адсутнасьцю Лукашэнкі, шанцаў у гэтай Беларусі няма ніякіх. Краіна, лёс якой залежыць ад наяўнасьці (ці адсутнасьці) аднаго чалавека – ня мае будучыні. Народ, які ня можа існаваць асобна ад улады, непазьбежна сутыкнецца з новым Лукашэнкам ці да яго падобным.

Я дрэнны палітоляг. Я не памятаю пасьлядоўнасьці падзеяў. Усе яркія выступленьні Аляксандра Лукашэнкі зваленыя ўва мне да адной купы. Я не магу выбудаваць дакладную схему: вось учора ён казаў тое, а сёньня – гэтае. Я проста жыву з пастаянным адчуваньнем кручка ў чэраве, за які пэрыядычна торгаюць – і звыклы боль абвастраецца. Як Лукашэнка стаў прэзыдэнтам? Ён падмануў народ ці народ падмануўся сам? Лёгіка, што вяла яго – гэта лёгіка паводзінаў, якія мяняліся па меры знаёмства зь вялізнай гаспадаркай кіраўніка дзяржавы, ці гэта лёгіка зацятага ў самім сабе чалавека, які не прымае крытыкі і гатовы за яе бязьлітасна караць? У пэўным сэнсе і расіяне, і беларусы – мазахісты. Праўда, на мой суб'ектыўны погляд, беларусы ў гэтым сэнсе імкнуцца апярэдзіць расіян. Нам так падабаецца шкадаваць сябе. За тое, што ў нас (ці ў вас) самы рэпрэсыўны рэжым у Эўропе. Самая беспэрспэктыўная эканоміка. Самы дрэнны прэзыдэнт. Але такім чынам вы аб'ектыўна

ўмацоўваецe пазыцыі Лукашэнкі ў саміх сябе. Патэнцыял самаўдасканаленьня не павінен абапірацца на наяўнасьць ворага, які вечна замінае прыстойна жыць. Самае цікавае, што ўсё гэта дазваляе ворагу (у нашым канкрэтным выпадку – таму ж Лукашэнку) выглядаць больш значнай фігурай, чым ён ёсьць на самай справе.

Вельмі добра з падобнай нагоды ў свой час напісаў Барыс Слуцкі. Адзін яго верш канцуецца наступнымі словамі:

*...Провинция. Периферия. Тыл,*
*Который так замерз, так не оттаял.*
*Где до сих пор еще не умер Сталин.*
*Нет, умер. Но доселе не остыл.*

Неастылы Сталін, калі выслаўляцца вобразна, у расейскай і беларускай правінцыі, а таксама ў правінцыі розумаў нашых суайчыньнікаў утрымлівае ўсіх нас ад сустрэчы з будучыняй.

Не стварайце з Лукашэнкі новага Сталіна. Ён ім ну ніяк ня можа быць.

**2.**

Вам не пашанцавала, што "ўсенародна абраны" зьявіўся тады, калі Беларусь звыкалася са сваімі новымі маштабамі. Адна справа быць часткай вялікай нацыі, якая займае шостую частку ўсёй зямной кулі. І зусім іншая – адчуваць сябе асобнай дзяржавай з усімі наступствамі гэтага стану. У гэтым сэнсе Расеі, напэўна, пашанцавала болей. Яе маштаб ня значна паменеў адносна маштабу былога СССР. Хаця калі раней расіяне лічылі сябе вялікімі інтэрнацыяналі-

стамі, якія клапоцяцца аб разьвіцьці кожнай нацыі і народнасьці, што ўваходзяць у Савецкі Саюз, дык пасьля 1991 году яны са здзіўленьнем адкрылі ў сабе ня менш вялікіх імпэрыялістаў. Таму ў нас праблема аўтэнтычнасьці шмат у чым зьвязаная з утоенай настальгіяй па вялікадзяржаўнасьці, толькі часткова задаволенай Пуціным празь вяртаньне савецкага гімну і сьцягу (апошняга – часткова). А вашая мара – займець нешта ўжо ўласна "сваё". І яна здзейсьнілася. Зьявіўся свой ("наш") прэзыдэнт. "Наш", які гэтаксама дрэнна размаўляе па-беларуску, як і шараговы беларус... "Наш", які нязграбна выглядае ў прадстаўнічым гарнітуры, а ў праблемах эканомікі разумее ня болей за калгаснага брыгадзіра... Такі "наш" павінен быў спадабацца беларускаму народу, як падабаліся расіянам Гарбачоў, Ельцын і Пуцін. Але ў Расеі дзякуючы зьмене палітычных лідэраў сфармаваўся працэс (нармальны ці ненармальны – гэта як паглядзець) абнаўленьня ўлады. Тое, што падабалася на пачатку, раздражняе потым. А вы проста яшчэ не праходзілі гэтую фазу палітычнага жыцьця. Дакладней, апазыцыя ўсё яе чакае, а яна ну ніяк не надыходзіць.

**3.**

Дзеля справядлівасьці трэба зазначыць, што за апошні час сытуацыя зьмянілася, толькі ці да лепшага? На пачатку беларускай незалежнасьці я быў у Беларусі па запрашэньні ПЭН-цэнтра. Тады я даведаўся, што актывісты некаторых палітычна блізкіх мне партый ходзяць па кватэрах будучых выбарцаў і пытаюцца: "Няўжо вы жадаеце, каб вашыя дзеці вывучалі рускую мову?". Ня станем акцэнтаваць увагу на тым, што сама пастаноўка пытаньня была дурнотнай – болей ведаць

заўсёды лепей, чым меней. І нават зацятаму беларускаму нацыяналісту было б ня лішне нармальна валодаць рускай мовай. Хаця б дзеля таго, каб пашырыць сферу свайго ўплыву.

Дарэчы, той Кангрэс, арганізаваны ПЭН-цэнтрам, меў тры працоўныя мовы: беларускую, рускую і англійскую. Але неўзабаве засталіся толькі дзьве – беларуская і англійская. Першыя тры спавешчаньні на беларускай я яшчэ вытрываў, але потым не стрымаўся і зьвярнуўся да прысутных: “Ці не здаецца вам, што вы зацыкленыя на якой мове гаварыць, але празь нейкі час вам давядзецца ламаць галаву, на якой мове маўчаць?”. На жаль, праз гэтую рэпліку я стаўся калі не прарокам, дык трапным футуролягам. Цяпер, праўда, гэты этап вамі ўжо пройдзены. Сёньня Беларусь адэкватна ўспрымае сябе і ў гісторыі, і ў геаграфіі. Беларусы пачынаюць усьведамляць адметнасьць сваёй культуры і цаніць сваю дзяржаўнасьць без нацыяналістычнага шалу. Дзякаваць Богу. І не таму, што ў мяне ёсьць імпэрскія амбіцыі, а таму, што людзі, якія жывуць побач, павінны зразумець – лепей размаўляць на *адной мове*. І нічога страшнага, калі гэтай мовай будзе руская. Апошняе ніяк не пагражае вашай нацыянальнай сутнасьці ці аўтэнтычнасьці. Тое, што ў Індыі ўсе хоць троху, але размаўляюць па-ангійску, не адмаўляе ні нацыянальных дасягненьняў, ні нацыянальных праблемаў. У адной з п’есаў Шварца пра падобную сытуацыю казалася: цень, ведай сваё месца!

А потым у вас забівалі ліцэй, дзе вучылі на роднай мове, забівалі бязьлітасна і нахабна. І рабілі гэта, каб пераканаць усіх, што беларуская мова стала мовай апазыцыі. У роднай краіне?

І ў новай Расеі, і ў новай Беларусі асаблівае значэньне набывае расклад прыярытэтаў. У нас, ды, напэўна, і ў вас, яны выбудаваныя стыхійна. На ўзроўні інстынктаў. А інстынкты, як вядома, лёгка ператвараюць людзей у статак. Альбо яшчэ горш – у зграю.

**4.**

Нашым людзям цяпер вельмі важна разгледзець за прыгожымі фразамі сапраўдныя намеры тых, хто імкнецца кіраваць *сваім народам*. Па-ранейшаму ў многіх палітыкаў, асабліва ў Беларусі, карыстаецца папулярнасьцю выслоўе “Свабода! Роўнасьць! Братэрства!”. Вонкі прыгожа – пачварна знутры. Часта за гэтым выслоўем тоіцца банальнае жаданьне зраўняць усіх на адзін капыл, але разам з тым не забыцца на прывілеі для асобаў, набліжаных да гэтага гаваруна.

Братэрства – вельмі спэцыфічны панятак. Братэрства ўзьнікае альбо з адмысловай сытуацыі, альбо з адзінства крыві. Ні першае, ні другое не зьяўляецца ўнівэрсальным фактарам.

Свабода – вышэйшая форма ўзаемнай бясьпекі. Яе нельга блытаць з воляй (што часта здараецца ў нашых краінах). Калі свабода саступае волі, яна адразу робіцца супрацьлеглай сама сабе.

Роўнасьць – самая страшная пастка, у якую заманілі чалавецтва. Людзі ад пачатку не роўныя. Нехта нарадзіўся ў панядзелак, а хтосьці – у чацвер. Адзін умее зарабляць мільярды, а другі зь цяжкасьцю вытачвае прымітыўную гайку.

Гэта я да таго, што за справядлівымі лёзунгамі і заклікамі часта стаяць *ня тыя* людзі, *ня тыя*

памкненьні, *ня тая* будучыня, якой вартыя і беларусы, і расіяне. Асабіста ў мяне няма гатовага рэцэпта будучыні ні для Расеі, ні для Беларусі. Мы ўвесь час шукаем выратаваньня знадворку. Але на самай справе рэальная база для абнаўленьня знаходзіцца толькі ўнутры нас.

Па сутнасьці мы засталіся савецкімі рэспублікамі, завіслымі "паміж небам і зямлёй". Трэба прызнаць, карэннай зьмены ўлады ні ў адной былой рэспубліцы СССР, акрамя краінаў Балтыі, не адбылося.

З пачатку цараваньня Лукашэнкі на Беларусі прамінула шмат часу. І ўжо даўно зразумела, што дабрахоць ён ад улады не адмовіцца. Але яго апанентам наіўна разьлічваць на "рэвалюцыю" звонку. Расею абвінавачваюць у тым, што яна зрабіла з Лукашэнкі "свайго сукінага сына". Аднак пры гэтым забываюцца, што перадусім сам народ стварае "сваіх сукіных сыноў". Наракаць на тое, што Строеў і Селязнёў прыехалі перад рэферэндумам 1996 году ў Беларусь і зрабілі тут лічы канстытуцыйны пераварот – гэта грашыць супраць ісьціны. На той момант расейская эліта не была структураваная і ня надта сабе ўяўляла, чаго яна хоча ад Беларусі. Зручная пазыцыя – звальваць уласныя праблемы на "імпэрскую Расею" і пры гэтым не зазіраць у люстэрка, каб ня бачыць *сябе такім, які ты ёсьць*. Падобная пазыцыя асабіста ў мяне не выклікае сымпатыі.

Скажу болей. Лукашэнка са сваімі бясконцымі круцелямі – далёка не самы ідэальны варыянт для геапалітычных і іншых мэтаў Расеі. Так, не стану аспрэчваць – значная частка беларускага бізнэсу знаходзіцца сябе ў расейскім полі. Але наўрад ці хто стане сьцьвярджаць, што пры іншым, больш праг-

назуемым, больш "прасунутым", больш адкрытым лідэры Беларусі расейскія эканамічныя інтарэсы былі б меньш прадстаўленыя ў вашай краіне. Азербайджан, Арменія, Узбекістан змаглі адарвацца ад Расеі. Што замінае зрабіць тое самае і Беларусі? Тым болей, што вышэй згаданыя краіны эканамічна ўжо ніяк не мацнейшыя за Беларусь.

Навошта нам краіна, якая ня мае ўласнай пазыцыі па шэрагу важнейшых праблемаў і не ўяўляе мэханізмаў іх вырашэньня. Гэта ж нейкая мяшанка-боўтанка.

Куды больш зручна жыць з суседам, які вызначыўся і з сваёй пазыцыяй, і з сваімі паводзінамі. Дарэчы, на момант набыцьця незалежнасьці ў Латвіі расіянаў было болей, чым латышоў. Але гэта не перашкодзіла Латвіі пасьпяхова праводзіць у жыцьцё палітыку нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. У шэрагу выпадкаў нават залішне "пасьпяхова". З рускай мовай, на мой погляд, там ня ўсё добра.

Калі мне нагадваюць аб росьце антырасейскіх настрояў у Беларусі (ці ўвогуле аб іх наяўнасьці), я кажу, што гэта гульні лідэраў дзвюх нашых краінаў. Знакаміты газавы канфлікт у тым выглядзе, у якім ён цяпер існуе ў масавай сьвядомасьці, *дастаткова сумнеўны*. Інфармацыйныя сыстэмы, што ў Расеі, што ў Беларусі, далікатна кажучы, ня лішне дасканалыя. І абсалютная бальшыня насельніцтва ў РФ і РБ наўрад ці разумее, што напраўду стаіць за газавым канфліктам. Гэта я кажу як чалавек, які належыць да трохі інфармаваных грамадзянаў сваёй краіны.

Перакананы, расіяне і беларусы паразумеюцца і ў гэтым пытаньні. Магчыма, не адразу. Але пасварыць нас "на газе" ніхто ня зможа. Нават самы нахаб-

ны і цынічны палітык. Ці група падобных палітыкаў. Наколькі я ведаю, у беларускім грамадзтве існуе і другая парадыгма: *адкрыта і аддана прарасейская*. Многія ў Беларусі разьлічваюць на дапамогу расіянаў у правядзеньні рэформаў. Не адмаўляючы асобых дасягненьняў расейскай дэмакратыі ўвогуле, у прыватнасьці хачу зазначыць: якасьць сучасных расейскіх палітыкаў не выклікае даверу. Задарма яны цяпер ня робяць практычна ні-чо-га. І вы павінны гэта ясна ўсьведамляць.

**5.**

Верагодна, сваю кансалідуючую ролю ў вырашэньні многіх спрэчных пытаньняў паміж нашымі краінамі маглі б адыграць эліты Беларусі і Расеі. Але тут трэба абавязкова ўлічваць шэраг істотных момантаў. Па сутнасьці, навуковай і творчай эліты (у поўным сэнсе гэтага слова) ні ў вас, ні ў нас амаль не засталося. Тое, што раней лічылася інтэлігенцыяй, вельмі моцна дэфармавана. Нашыя інтэлігенты не зарыентаваны нават па ворагах. Ня кажучы ўжо пра нейкія іншыя пазыцыі і прынцыпы. Возьмем для прыкладу дактароў і настаўнікаў. Частка іх зрабілася непрыстойна заможнай і думае толькі пра грошы. Другая частка таксама думае пра грошы – але зь нішчымніцы. Трэцяя – пайшла ў палітыку, зрабілася палітычнай элітай, зь якой яшчэ невядома што атрымаецца.

Але як бы там ні было, аб'ядноўваць высілкі інтэлігентаў нашых краінаў для злагоджваньня двухбаковых стасункаў неабходна. Толькі напачатку пажадана зразумець, навошта мы патрэбныя адзін аднаму? І ці патрэбныя ўвогуле? Бо прыярытэты сацыяльных,

палітычных і эканамічных расейска-беларускіх ці беларуска-расейскіх (як каму падабаецца) стасункаў, калі добра да іх прыгледзецца, могуць цалкам адрозьнівацца ад тых, што сёньня прапаноўваюць нам палітыкі зь Беларусі і Расеі. Праўда, яшчэ да вылучэньня гэтых прыярытэтаў было б ня лішне агучыць дзьве рэчы.

Першая. Неабходнасьць у стасунках ёсьць. Сьвет ужо даўно ня дзеліцца на “мы” і “яны”. І ўжо іншая справа, ці ўтульна нам у гэтым сьвеце? Можа, варта было б патрудзіць глузды над стварэньнем нейкага мадэрнізаванага, эўрапеізаванага і інтэграванага ва ўсе базавыя сусьветныя структуры *славянскага братэрства*. А можа, ня варта...

Другая. Спроба стварыць нейкі *адзіны саюз дзвюх краінаў* скончыцца поўным правалам. Бо гэта спроба ўтрымацца над безданьню, стоячы на каленях.

Хопіць выказваць дурнотную радасьць з прычыны стварэньня чарговай саюзнай структуры. Ужо наетыя мы ад пуза гэтай бясконцай інтэграцыйнай кашай. Да пякучкі. Час перайсьці на мову плюсаў і мінусаў ад канкрэтных сумесных праектаў. Міталягізм у палітыцы ўжо ня толькі не актуальны, але і шкодны. Людзі ў Расеі і на Беларусі (ды і на Ўкраіне) чакаюць ад сваіх кіраўнікоў канкрэтных і эфэктыўных перамоваў. Калі яны ня змогуць дамовіцца, тады мы самі павінны пачаць сумоўе і працягваць яго, пакуль будзе патрэба. А паразмаўляць ёсьць аб чым.

**6.**

Але яшчэ да гэтага сумоўя нам неабходна вырашыць праблему дэфіцыту *адказных людзей*. Пустадомкаў разьвялося столькі, што нідзе няма ад іх паратун-

ку. Той, хто атрымлівае падтрымку (хоць адкуль), аўтаматычна лічыць яе за сваю ўласнасьць. Ніхто не адчувае ніякай адказнасьці за абраную справу. Усе толькі і здольныя раз-пораз разводзіць рукамі, маўляў, у нас зноў нічога не атрымалася... Рэжым дрэнны, народ нягеглы, час пераменаў яшчэ не настаў. А перамены ніколі і ня здарацца, калі мы ўсе ня будзем выконваць узятыя на сябе абавязкі. Вось і атрымліваецца, што наперад зноў выходзяць маральныя праблемы. Узяць хаця б гісторыю правалу нашых дзвюх правых партый (“Яблоко” і СПС) на выбарах у Думу. Сытуацыя банальная – іх гідкі імідж. Ня першых асобаў, а цэлых каманд паліттэхнолягаў, што болей думалі пра сваю карысьць, чым пра структуры, якія яны ўзяліся вывесьці на парлямэнцкую арбіту. Ні пра каго нічога не хачу казаць дрэннага. Але беларускім дэмакратам цяжка будзе давесьці, што ў Лукашэнкі “брудныя рукі”. Вось калі дэмакраты гэта зробяць, і большыня насельніцтва Беларусі ім паверыць, тады і пачнуцца перамены на Беларусі.

7.

І я, безумоўна, веру, што Беларусь пераменіцца. Але разам з тым мушу заўважыць, што асноўныя рэформы ў вашай краіне, з майго гледзішча, адбудуцца не раней, чым праз 20–30 год. Задача сёньняшніх палітыкаў – назапасіць карыснага ўгнаеньня, на якім вырасьце наступнае пакаленьне палітыкаў, якое напраўду захоча лепшага жыцьця і здолее зрабіць яго лепшым. Яно ня будзе ведаць кайданоў бальшавізму, калектывісцкіх звычак і традыцыйна безадказнага стаўленьня да свайго лёсу. Каб гэтае пакаленьне разгарнулася на поўную

моц, трэба памяняць цяперашніх палітыкаў і ўкласьці кожнаму грамадзяніну ў галаву, што перадусім Беларусь – гэта ён сам. “Што добра для дзяржавы, тое добра і для мяне” – гэта мы ўжо праходзілі. Цяпер актуальны супрацьлеглы лёзунг: “Што добра для мяне, тое добра і для дзяржавы”.

І яшчэ. Мне здаецца, у беларусаў, як і ва ўсіх постсавецкіх народаў, у вялізным дэфіцыце пачуцьцё ўласнага гонару. Трэба гадаваць яго ў сабе, вялічыць свае амбіцыі і перадаваць усё гэта сваім дзецям і ўнукам. І тады за іх будучыню можна будзе лішне не турбавацца.

# САЮЗ БЕЗ САЮЗА

## Аляксандар Фадзееў

Беларусь за гады кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі ператварылася ў дзяржаву, дзе неабмежаваная ўлада прэзыдэнта і яго ўласная воля стаяць вышэй за Канстытуцыю і законы, вышэй за волю нацыянальнага парлямэнта і суда.

Пасьля кастрычніцкага (2004 г.) рэферэндуму і парляменцкіх выбараў у Беларусі ўзмацніліся рэпрэсіі ўнутры краіны. Гэтаму аб'ектыўна спрыяе недзеяздольны Нацыянальны сход з абмежаванымі паўнамоцтвамі, залежнасьць судовых інстанцый ад адміністрацыі. Да ўзмацненьня рэпрэсій Лукашэнку штурхае і досьвед "памаранчовай рэвалюцыі" суседняй Украіны. Падзеі ў Кіеве, і ў гэтым няма сумневу, ужо пераканалі прэзыдэнта Беларусі, што нельга дапусьціць пашырэньня поля дзейнасьці нацыянальнай апазыцыі і, галоўнае, абраньня яе прыхільнікамі альтэрнатыўнай фігуры – адзінага дэмакратычнага кандыдата на пост прэзыдэнта. У бліжэйшы час трэба чакаць і канчатковай маргіналізацыі апазыцыйных партый у краіне. Тут маюцца на ўвазе не наўпроставыя і масавыя рэпрэсіі, арышты і да т.п. Нэўтралізацыя і маргіналізацыя апазыцыі, напэўна, будзе зьдзейсьнена "элегантнымі" фінансава-фіскальнымі і фармальна-прававымі мэтадамі.

Памылковым, не адпаведным нацыянальным інтарэсам трэба лічыць і зьнешнепалітычны курс кіраўніцтва Беларусі, які аб’ектыўна штурхае краіну да самаізаляцыі і можа скончыцца адносна яе санкцыямі ня толькі з боку ЗША ды Эўразьвязу, але і астатняй міжнароднай супольнасьці.

Здавалася б, ва ўмовах ціску Заходняга альянсу ў Менску мусіла б узрастаць патрэба рэалізацыі інтэграцыйных плянаў на Ўсходзе. Аднак паміж Менскам і Масквой да гэтай пары застаецца нявырашаным галоўнае пытаньне – прынцыпы і формы аб’яднаньня, што не дазваляе спадзявацца на хуткае выйсьце з крызысу двухбаковых стасункаў, які пачаўся ў 2002 г. Беларускі бок не выконвае добраахвотна ўзятых на сябе абавязкаў па рэалізацыі канкрэтных супольна з Расеяй праграмаў (якія фактычна былі дэзавуіраваны ) і, па вялікаму рахунку, увогуле адмаўляецца ствараць Саюзную дзяржаву. Аляксандар Лукашэнка, як уяўляецца, адкрыта дэманструе Крамлю, што ён бачыць беларуска-расейскае зьбліжэньне адно бяз хоць-якіх стратаў для сваёй асабістай улады і нацыянальнага суверэнітэту. Але гэткі падыход не адпавядае сутнасьці сапраўднага, а не дэкляраванага палітычнага і сацыяльна-эканамічнага саюза Расеі і Беларусі.

Усе апошнія гады прыярытэт на вышэйшым дзяржаўным узроўні аддаваўся пабудове агульнай эканамічнай прасторы, але эканамічныя, фінансавыя і фіскальныя мэты Масквы і Менску, па вялікім рахунку, застаюцца радыкальна супрацьлеглымі. Неназіраецца і новых сур’ёзных і глыбокіх працэсаў, якія сьведчылі

б, што эканамічная расейска-беларуская інтэграцыя сталася рэальнасьцю. Беларусь для гэтага ня мае, мяркуючы па ўсім, дастатковай матывацыі. А калі няма збліжэньня гаспадарчых інтарэсаў па самым шырокім сьпектры, дык і ня можа быць размовы аб стварэньні ў бліжэйшай пэрспэктыве адзінай эканомікі, якая мусіць быць пакладзенай у аснову расейска-беларускай дзяржавы.

Даводзіцца канстатаваць і тое, што асабістыя стасункі паміж прэзыдэнтам Уладзімірам Пуціным і яго беларускім калегам так і ня склаліся. Лідэры дзвюх краінаў *(рэд.—тут і далей маецца на ўвазе Ул. Пуцін)* пасьля дамовы 1999 г., якая не задавальняла ні Беларусь, ні (у яшчэ большай меры) Расею, не падпісалі ніводнага міждзяржаўнага акта, які мог бы разглядацца як новы кампрамісны варыянт, скіраваны на збліжэньне пазыцый. Уладзімір Пуцін даў ясна зразумець, што не зьбіраецца выконваць пункты саюзнай дамовы, падпісаныя Барысам Ельцыным.

Аляксандар Лукашэнка, са свайго боку, не хавае сваёй непрыязьні да палітыкі, якую праводзіць у суседняй Расеі яе прэзыдэнт. Адхіліўшы яшчэ ў 2002 г. усе без выключэньня інтэграцыйныя прапановы прэзыдэнта Расеі, Аляксандар Лукашэнка распачаў своеасаблівую палітычную гульню, мэтай якой было давесьці беларускаму грамадзтву непрыдатнасьць пуцінскіх варыянтаў інтэграцыі[1] дзвюх дзяржаваў і несучаснасьць вырашэньня праблемы аб'яднаньня. Ён фактычна паставіў пад пытаньне

[1] Пуцінскі варыянт інтэграцыі азначаў бы паглынаньне Беларусі (заўв. рэд.).

саму мэтазгоднасьць інтэграцыі з Расеяй. Прэзыдэнцкае атачэньне змагло абвергнуць перад Лукашэнкам тэзу аб “незаменнасьці” Расеі і аб непазбежнасьці для Беларусі аб’яднаньня зь ёю. Менск тлумачыць сваю пазыцыю нежаданьнем Масквы весьці раўнапраўны дыялёг, тым, што тая быццам імкнецца да рэалізацыі імпэрскіх плянаў паглынаньня Беларусі, што рэальна пагражае нацыянальным інтарэсам і суверэнітэту краіны.

Яшчэ болей заблытвае сытуацыю патрабаваньне Менску выканаць усе пункты Дамовы 1999 г. Гэты дакумэнт, калі абстрагавацца ад прававой мяшанкі і заканадаўчых супярэчнасьцяў, якіх у ім хапае, прадугледжвае інтэграцыю палітычных інстытутаў, аж да стварэньня наднацыянальных заканадаўчых, судовых і выканаўчых структур (паводле фэдэралісцкага прынцыпу). Але фэдэралізм магчымы адно пры аналягічных у абедзьвюх краінах нацыянальных палітычных і эканамічных мадэлях, пры падобным стаўленьні да ўласнасьці, аднолькавай стратэгіі ўнутранага разьвіцьця, сумесных дзеяньнях на міжнароднай арэне, падобнасьці дзяржаўнай улады і мэтадаў фармаваньня апарата кіраваньня. Тут, на жаль, зь сярэдзіны 90-х гг. мінулага стагодзьдзя вэктары палітыка-эканамічнага разьвіцьця Расеі і Беларусі разышліся ў супрацьлеглыя бакі, і няма, прынамсі пакуль, падставаў меркаваць пра іх аб’ектыўнае збліжэньне ў бачнай пэрспэктыве.

Прапарцыйны, роўны падзел паўнамоцтваў і ўладных функцыяў у падобнага роду федэрацыі,

улічваючы кардынальна адрозны рэсурсны ўзровень краінаў-партнёраў, розьніцу абароннага і рэзэрвовага патэнцыялаў – проста немагчымы. Ён супярэчыць ня толькі суб’ектыўным інтарэсам расейскага кіраўніцтва, але і аб’ектыўным інтарэсам расейскага насельніцтва, якое зацікаўлена ў пасьпяховым рэфармаваньні, а не ў рэанімаваньні сыстэмы савецкага тыпу пад соўсам “беларускай эканамічнай мадэлі”.

Між тым, магчымасьці для пад’ёму эканомікі Беларусі застаюцца абмежаванымі. Заплянаваны беларускім урадам рост у 1,5 раза ВУП да 2010 г. пры захаваньні існуючых фінансава-эканамічных рэалій наўрад ці будзе дасягнуты. Без буйных зьнешніх інвестыцый абнавіць асноўныя фонды ў прамысловасьці (іхні знос дасягае 80%), ліквідаваць адставаньне прадпрыемстваў АПК і засвоіць новыя тэхналёгіі ў розных галінах беларускай эканомікі да 2010 г. у Менску ніяк не атрымаецца. Да таго ж, гэтую праблему немагчыма вырашыць за кошт выключна ўнутраных інвестыцый, бо краіна мае параўнальна невялікія аб’ёмы фондаў суб’ектаў гаспадараньня, а таксама адносна слабую фінансава-эканамічную сыстэму: у цэнавым эквіваленце ВУП Беларусі ў 2003 г., напрыклад, ледзьве дасягнуў 17 млрд. даляраў.

Мадэрнізацыя вытворчасьці немагчымая бязь зьнешніх інвестыцый. Але рэальнасьцю нацыянальнай беларускай эканомікі застаецца ўнутранае інвэставаньне суб’ектаў гаспадараньня. Зьнешнія прамыя інвэстыцыі ў эканоміку Беларусі, па афіцыйных

дадзеных ураду РБ, склалі ў 2003 г. 2,6 млрд даляраў, расейскія прамыя і партфельныя інвестыцыі паступілі ў рэспубліку ў аб'ёме 243,4 млн даляраў. Аднак згодна зь лічбамі, атрыманымі зь незалежных крыніцаў інфармацыі, прамыя замежныя інвестыцыі ў асноўным капітале беларускіх суб'ектаў гаспадараньня склалі ўсяго 120 млн даляраў.

Папярэдні досьвед супрацоўніцтва засьведчыў, што беларускаму бізнэсу разьлічваць на эфэктыўную інвестыцыйную актыўнасьць міждзяржаўных фінансава-прамысловых групаў (МФПГ) у справе мадэрнізацыі прамысловай базы не даводзіцца. Падобныя фінансава-прамысловыя групы ў сваю пару ствараліся галоўным чынам дзеля захаваньня каапэрацыйных сувязяў суб'ектаў гаспадараньня дзьвюх краінаў (якія ім перайшлі ў спадчыну ад агульнага народнагаспадарчага комплексу СССР) у складаны пераходны пэрыяд. Яны дазволілі апэратыўна вырашыць пытаньні ўзнаўленьня каапэрацыйных сувязяў на прадпрыемствах Расеі і Беларусі, паяднаных адзіным тэхналягічным цыклам. Іх час прамінае. За гэта сьведчыць і мінімальная роля гэтых фінансава-прамысловых групаў у інвестыцыйным супрацоўніцтве дзвюх эканомік.

Яшчэ меней надзеяў на гэтак званыя саюзныя праграмы і саюзны бюджэт. Сам саюзны бюджэт па сваіх аб'ёмах мінімальны і кожны год скарачаецца. На 2005 г. ён заплянаваны ў аб'ёме ўсяго 2,3 млрд расейскіх рублёў. У першым паўгодзьдзі 2004 г. з саюзнага бюджэту па крэдытнай лініі было засвоена толькі 27%. Прадпрыемствы дзвюх краінаў з прычыны

нявыгадных умоваў крэдытаваньня з сродкаў саюзнага бюджэту і бюракратычных складанасьцяў шукаюць іншыя крыніцы інвестыцый. Усё гэта сталася падставай таго, што за пяць год фармальнага існаваньня Саюзнай дзяржавы ўласна саюзнай прадукцыі, здольнай канкураваць на сусьветным рынку, так і не зьявілася. Дасягненьні расейска-беларускай каапэрацыі ў асобных сферах таксама досыць сьціплыя. Нават шырока разрэкламаваны саюзнай і рэспубліканскай бюракратыяй новы супэркампутар “СКИФ К-100”, створаны расейскай кампаніяй “Т-плятформы” пры ўдзеле беларускіх партнёраў, змог заняць у сусьветным рэйтынгу толькі 98(!) пазыцыю.

У фінансава-эканамічным супрацоўніцтве з Расеяй з боку кіраўніцтва РБ бачны і палітычны падтэкст. Яго сутнасьць у фобіях, звязаных зь перасьцярогай рэалізацыі на тэрыторыі рэспублікі эканамічных і фінансавых схемаў, якія могуць пашкодзіць беларускаму суверэнітэту і стварыць пэўную базу для ціску на ўнутраную і зьнешнюю палітыку Беларусі. Вастрыня праблемы ў яе палітычным вымярэньні будзе толькі вялічыцца з набліжэньнем прэзыдэнцкіх выбараў летам 2006 г.

Што праўда, трэба адзначыць пэўную палітычную стабільнасьць і адсутнасьць выразных сацыяльных канфліктаў у Беларусі. Разрыў паміж даходамі розных групаў эканамічна актыўнага насельніцтва не вялікі, што спрыяе кансалідацыі грамадзтва. Разам з тым, прэзыдэнцкая адміністрацыя і ўрад РБ з мэтай мінімізацыі патэнцыйнай сацыяльнай напругі доўгі

час штучна стрымлівалі фармаваньне ў грамадзтве прагі пераўладкаваньня, хаця і разумелі неабходнасьць пераходу да рэформаў у эканоміцы. Вялікае значэньне набыла палітыка, скіраваная на сьцьвярджэньне ў грамадзкай сьвядомасьці ідэі большай эфэктыўнасьці беларускай мадэлі гаспадараньня, чым рынкавыя.

Насьпелую мадэрнізацыю беларускай эканомікі стрымлівае звышцэнтралізаваная і палітызаваная сыстэма кіраваньня. Уплыў прэзыдэнцкай адміністрацыі, абласных і мясцовых суб'ектаў улады на гаспадарчую дзейнасьць і гандлёва-фінансавую палітыку беларускіх прадпрыемстваў надзвычай моцны (вызначальны), а канкрэтныя рашэньні ўладных структураў на іх адрас маюць безальтэрнатыўны характар. Рэспубліканскае кіраўніцтва прытрымліваецца меркаваньня, што галоўнай гарантыяй абароны нацыянальнай эканомікі застаецца захаваньне ў руках чыноўнікаў правоў ўласнасьці на прадпрыемствы і зямлю. Наяўнасьць дзяржаўнага кантролю і пратэкцыянізму тлумачыцца неабходнасьцю абароны нацыянальнага вытворцы (ад зьнешняй канкурэнцыі, замежнай фінансавай экспансіі і менеджэрскага кіраваньня), выкананьня сацыяльных абавязкаў прэзыдэнта і ўраду, імкненьнем вырашыць ва ўмовах абмежаванага ўнутранага рынку працы і нізкай гаспадарчай актыўнасьці праблему занятасьці.

Беларусь зь яе аўтаркічнай мадэльлю эканомікі застаецца беднай краінай Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Нягледзячы на адсталасьць яе гаспадарчага комплексу, у рэспубліцы пакуль нічога ня робіцца

па стварэньні канцэпцыі сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця, якая палягала б на актывізацыі стасункаў (ці інтэграцыі) з найболей пасьпяховымі і багатымі краінамі сьвету. А між тым, гэта адзіны шлях, які мог бы даць Беларусі магутны імпульс для паскоранага разьвіцьця.

Мадэрнізацыі, пераадоленьню закрытасьці і недастатковай эфэктыўнасьці беларускай мадэлі эканомікі магла б паслужыць фінансава-эканамічная інтэграцыя з Расеяй. Аднак па ўсіх асноўных накірунках расейска-беларуская інтэграцыя цяпер згорнутая. Усе раней прызначаныя тэрміны для пераходу на расейскі рубель у якасьці агульнай валюты Саюзнай дзяржавы былі заблякаваныя беларускім бокам. Урадавыя чыноўнікі РБ не стамляюцца сьцьвярджаць, што валютны саюз павінен завяршаць пабудову саюзнай дзяржавы, а пераход на адзіную (не расейскую, заўважым, а “саюзную”) валюту магчымы толькі на апошнім этапе інтэграцыі. Яму мусіць папярэднічаць стварэньне зоны свабоднага гандлю ў межах адзінай мытнай прасторы, агульны рынак тавараў, паслугаў, рабочай сілы і капіталу, аб’яднаньне двух гаспадарчых комплексаў і пераход на адзіную эканамічную палітыку.

Высілкамі прэзыдэнта і ўраду ды залежных ад іх урадавых СМІ атрымалася пасеяць недавер да расейскага рубля ў беларускім грамадзтве. Таму сёньня 2\3 беларусаў выступае супраць пераходу на расейскій рубель і толькі адзін працэнт мае да яго давер.

Менск увогуле не спяшаецца ўдакладняць, якой будзе адзінная валюта Саюзнай дзяржавы. І па-ранейшаму

настойвае на неабходнасьці пераходу на трохэлемэнтную эмісійную сыстэму з гэтак званай міжбанкаўскай валютнай радай на чале. Але на самай справе ідзецца ўвогуле аб стварэньні надзвычай складанай чатырохэлемэнтнай структуры вызначэньня эмісійнай палітыкі. Такая схема цалкам не задавальняе Расею, якая справядліва лічыць, што эмісійны цэнтр мусіць быць адзін, а валютай саюзнай дзяржавы ў агляднай пэрспэктыве можа быць толькі расейскі рубель.

У патэнцыйным эканамічным і валютным збліжэньні з Расеяй Менск бачыць небясьпеку для свайго суверэнітэту і незалежнасьці, пагрозу нацыянальнай гаспадарчай мадэлі, а таксама тэндэнцыю да "захопу" расейцамі прадпрыемстваў і нават ліквідаваньня самога палітычнага рэжыму. У кіруючай клясе Беларусі сфармавалася гледзішча на расейскія эканамічныя інтарэсы як на выключна супрацьлеглыя (калі не варожыя) нацыянальным патрэбам Беларусі. Крытычнага пераасэнсаваньня гэтых стэрэатыпаў, якое магло б дапамагчы ў разьвіцьці інтэграцыі, пакуль няма. Галоўным героем беларускай палітыкі сёньня зьяўляецца эканамічны эгаізм, што сур'ёзна ўскладняе пэрспэктыву супрацоўніцтва ня толькі з Расеяй, але і зь іншымі патэнцыйнымі партнёрамі.

У сучаснай Беларусі фактычна няма падзелу паміж уладай і ўласнасьцю. Вышэйшы эшалон улады абапіраецца на дзяржаўную маёмасьць, што робіць беларускую бюракратыю палітычнай сілай, не падлеглай ніякаму сацыяльнаму кантролю. Усё гэта аб'ектыўна вядзе да звышманапалізацыі ў эканоміцы,

абсалютызацыі палітычных функцый і адзінаўладдзя, якое паступова трансфармуецца ў дыктатуру і імкнецца падначаліць канкурэнтныя групы і структуры, як у рамках палітычнага, гэтак і ў рамках гаспадарчага спектра. Такая моцна цэнтралізаваная мадэль улады азначае дамінаваньне дзяржавы над усім, што непазьбежна прыводзіць да пазбаўленьня грамадзяніна дэмакратычнага права ўдзелу ў кіраваньні дзяржавай, перадусім праз выбары.

# ЧАЛАВЕЧАЕ І НАЦЫЯНАЛЬНАЕ

## Валянцін Гефтэр

*Як захаваць нацыянальную самабытнасьць, сувэрэнітэт, і не сасьлізгнуць на другі краень - загану нацыянальнай вершнасьці?*

Аўтар

Няпроста складваецца размова аб набалелым, асабліва калі гэта размова зь сябрамі.

Аднойчы, і не з уласнай ініцыятывы, я спрабаваў напісаць нешта падобнае перад прэзыдэнцкімі выбарамі 2001 года, разважаць пра якія тым летам здавалася натуральным – у тым ліку пра расейскі фактар і пра тое, што будзе далей, пра апазыцыю і яе праблемы, віртуальна адзіную дзяржаву і суіснаваньне розных моваў. Усяго на пяці старонках звычайнага кніжнага фармату...

А неўзабаве я правёў у Менску і яго ваколіцах ціхі і журботны верасьнёвы тыдзень – да і падчас выбараў. Сёе-тое пабачыў: ад парада любові «ўсенароднага» хурала ў заблякаваным аховай Палацы Рэспублікі і контрлукашэнкаўскага мітынгу (усё на адной і той самай Кастрычніцкай плошчы) да жодзінскіх шматпавярховікаў і не затлумленых палітыкай вёсак, дзе ў адных шукалі сьляды зьніклых бюлетэняў, а ў другіх выбаркамаўцы налівалі нам па чарцы ў даўно і правільна прагаласаваўшых вясковых дамах культуры.

І вось сёньня, праз колькі год – адчуваньне тыпу «дэжа вю»: тыя ж героі практычна ў тых жа абставінах, нават сюжэты «замарожаныя» ў ранейшым выглядзе. Таму натуральна будзе зірнуць на тыя ж «праклятыя» пытаньні зь сёньняшняга расейскага далёка – каб зразумець, ці не разыходзімся мы зь беларусамі па розных сьцежках (пры ўсёй як бы «паралельнасьці» траекторый) з таго знакавага верасьня 2001-га, якім насамрэч і распачалося трэцяе тысячагодзьдзе. Ня ў нас, праўда… Таму рушым наперад, адштурхнуўшыся ад эпіграфа, у якім сфармуляваная аснова многіх нашых спрэчак і непаразуменьняў. Што такое самабытнасьць і сувэрэнітэт – паняткі, якія апісваюць натуральна існуючую «асобнасьць» жывога арганізму (ці нейкага біясоцыуму) і замацаванага ў пісаным законе, гістарычна ці адміністрацыйна абумоўленым? Ці гэта сапраўды каштоўнасьць альбо нават ідэал, якім клянуцца і за які гатовыя змагацца да апошняга яго носьбіта?..

Згадаю па сутнасьці блізкую вышэй выдзеленым словам фразу з Дэклярацыі міжнароднай акцыі антыфашыстаў (Гамбург, 30.01.1993): «Суверэннасьць, самабытнасьць, незалежнасьць рэаліі сучаснасьці. Да неадрознасьці зьліліся глыбінныя патрабаваньні народаў і пакліч продкаў. Праваобраз дэмакратычнай плянэтарнай *альтэрнатывы* апынуўся абцяжараны забабонамі, якія амаль паўсюдна дэманструюць эгаістычны і агрэсыўны характар».

Я цытую гэты тэкст зусім не таму, што яго аўтарам быў мой бацька, Міхаіл Гефтэр, які прагаласіў: «Сусь-

вет чалавечых СЬВЕТАЎ: сьветаў-народаў, сьветаў-асобаў» і які выразна бачыў у адказ рэакцыю адпрэчаньня, спароджаную інтэрвенцыяй глябалізацыі. Як гісторыку яму была добра вядомая з «элінскіх» часоў тэндэнцыя, зьвязаная са стратай гармоніі паміж адзінкай і множнасьцю (рознагалосьсем думак і сэрцаў), ці падмененую *«множнасьць, якую лёгка гуртуюць у легіёны, здольныя надаць прасторавасьць абсалюту роўнасьці»*.

Калі паспрабаваць патлумачыць гэты пасаж, дык з агрэсыўным эгаізмам зьвязваецца Сусьвет «прасторавых» сьветаў-дзяржаваў (легіёнаў), якія і сёньня будуюцца на поклічы продкаў і этнічных забабонах, у кантэксьце якіх будзе рытарычным запыт «А што больш абсалютнае ў роўнасьці, чым пазбаўленьне жыцьця іншага?». Цалкам верагодна, што гэткая крайнасьць тоесьніцца з другой – нацыянальнай вершнасьцю, якая родам зь месца, якое аўтар гэтага тэксту аднойчы назваў «фашызмам унутры кожнага з нас».

Няўжо ўсё тое, што адбылося з чалавецтвам, нічога ў ім не зьмяніла? І яно (мы) нічому не навучылася? І мы па-ранейшаму імкнемся захаваць нашую калектыўную самасьць новымі мурамі, пашпартамі, часам нават А-бомбамі і ракетамі. Тыя ж, каму не пашанцавала ў такога роду дзяржавах, гатовыя (болей на словах, чым на справе) пайсьці ў партызаны ці тэрарысты; у скрайнім выпадку – у папулісцкія «народныя прарокі» ці прэзыдэнты г. зв. непрызнаных дзяржаваў.

Зразумела, тут можна паразважаць у кантэксьце эпох і цывілізацый: што сталася з Эўропай нацыя-

нальных дзяржаваў, лігітымна зафіксаваных яшчэ «вестфальскай» мірнай дамовай 1648 года, якая перажыла некалькі імпэрый і рэвалюцый, мноства войн і перадзелаў. Пагодзімся: асновай падобнага сьветаўладкаваньня быў ня толькі агрэсыўны эгаізм, пра які ішла гаворка вышэй. Бо многія лічаць, што гэта ня проста дзяржаўная фаза разьвіцьця цывілізацыі, а Богам заведзены інстытут сацыяльнага жыцьця – на ўсе часы і ва ўсіх месцах зямной кулі.

Спашлюся тут на меркаваньне старшыні Канстытуцыйнага суда РФ Валерыя Зоркіна, якое ён выказаў у часопісе «Расея і глябальная палітыка». Аўтар вядомы ня толькі сваім месцам і роляй у канстытуцыйным крызысе 1993 года, але і стаўшай крылатай фразай з газэтнай палемікі таго лета: «Шэрагі абаронцаў Расейскай дзяржавы павінны зьяднаць, зьліць разам у сваім сінергіуме два пачаткі – дзяржаўнасьць і праваабарончасьць». Вось аб гэтым задзіночаньні ў адну правадзяржаўнасьць і ідзе размова ў працытаванай амаль акадэмічнай працы судзьдзі-канстытуцыяналіста.

*«Дзяржаўны сувэрэнітэт застаецца асновай канстытуцыйнага ладу большыні краінаў... Сёньня аб'ём сувэрэнітэту дэмакратычных прававых дзяржаваў істотна абмежаваны ўнутранымі і зьнешнімі фактарамі, а таксама прававымі нормамі. Аднак высновы, замацаваныя Вестфальскімі мірнымі дамовамі, застаюцца непарушнымі, у тым ліку і ў Расейскай Фэдэрацыі: вяршынасьць, незалежнасьць і самастойнасьць дзяржаўнай улады*

*на тэрыторыі дзяржавы, незалежнасьць у міжнародных стасунках, забесьпячэньне цэласнасьці і недатыкальнасьці тэрыторыі».*

(Заўважым, што асновай усяго тут зьяўляецца дзяржава – паводле Зоркіна, нават ААН была створана дзяржавамі, а не народамі-грамадзянамі, якія, прынамсі ў сучасных дэмакратыях, зьяўляюцца сапраўднымі сувэрэнамі, аб чым трохі ніжэй).

*«І вось цяпер, на пачатку XXI стагодзьдзя... узьнікла самая сур'ёзная і самая верагодная пагроза існаваньню Вестфальскай сыстэмы, а значыць, і саміх асноваў канстытуцыйнага ладу суверэнных дзяржаваў. Адмова ад Вестфальскай сыстэмы сьветаўладкаваньня, акрамя ўсяго іншага, станецца падставай таго, што палітыка, якая патрабуе мэханізмаў шматбаковых пагадненьняў, будзе выцесьненая (і ўжо выцясьняецца пасьля 11 верасьня 2001 году) аднабаковай эгаістычнай палітыкай. У неправавым сусьветным хаосе дзейнічае толькі адно права – права моцных і агрэсыўных: тут і звышдзяржавы, і дыктатары, і лідэры мафіёзных і тэрарыстычных супольнасьцяў».*

(Цікавая мэтамарфоза: ранейшая сыстэма міжнародна-прававых стасункаў супрацьпастаўляецца сусьветнаму хаосу бяспраўя і права сілы, а не пачаткам і праектам новага правапарадку, заснаванага, магчыма, на новай шматстайнасьці. Прынамсі, не на эгаізме асобных дзяржаваў ці хай сабе іх кангламератаў!).

*«Вестфальскую сыстэму атакуюць па двух накірунках. Па-першае, правы чалавека і правы нацыі на самавызначэньне супрацьпастаўляюцца прын-*

*цыпам дзяржаўнага сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці. ... Вельмі небясьпечная тэндэнцыя, якая ставіць пад пытаньне прынцып сувэрэнітэту і здольная, у прыватнасьці, зьнішчыць расейскую дзяржаўнасьць...».*

(Ня ведаю, да чаго тут згаданыя правы нацый, мабыць, не дзяржаваствaральных, паколькі расейская дзяржаўнасьць ад гэтага квазіправа ня мае праблемаў. А вось правы чалавека відавочна замінаюць сувэрэнітэту дзяржавы і цэласнасьці яе тэрыторыі. Ці не таму, што абараняць іх – і правы, і цэласнасьць, – паводле Зоркіна, павінна толькі дзяржава?).

*«Па-другое, нацыянальную дзяржаву папікаюць у няздольнасьці забясьпечыць эфэктыўнае кіраваньне ва ўмовах глябалізацыі. У сувязі з гэтым высоўваецца ідэя кіраваньня па сеткаваму прынцыпу і пабудовы па гэтаму ж прынцыпу арганізацый, пакліканых вырашаць глябальныя праблемы. <...> З гледзішча ідэалёгіі сеткавых структураў «пад знос» пойдзе ўсё: Вэстфальская сыстэма, дзяржаўныя сувэрэнітэты, тэрытарыяльная цэласнасьць і, натуральна, традыцыйная сыстэма міжнароднага права».*

Вось і амаль галоўнае ў правадзяржаўнай схеме ацэнак. Гэта самы найноўшы вораг – глябальныя сеці, амаль што тэрарысты. А калі іх яшчэ злучыць па прынцыпу абароны правоў асобы, а не дзяржавы ці якога іншага саборнага інстытута, – дык тэрытарыяльна цэласнаму дзяржарганізму дакладна не ўтрымацца...

Так і цягне згадаць ненавісных «дзяржаўнікам» сучаснай фармацыі Маркса-Энгельса з іхняй ідэяй «адміраньня дзяржавы» ці Ісуса з Назарэта з ягонай

тэзай «ні эліна, ні іудзея», якая цалкам адмаўляе нацыянальна арганізаваныя цэрквы і этнанацыянальныя канфлікты нашага часу.

Тут да месца будзе згадаць яшчэ адзін урывак з тэксту майго бацькі: «Што прасьцей, чым «палюбі блізкага свайго, як самога сябе»? Пачуў, усьвядоміў, выканаў... Загадка ў тым – хто блізкі? І дзе мяжа блізкасьці? А калі яе няма – мяжы? Калі гэтая прыпавесьць і сапраўды «большая за ўсе максымумы і ахвяры»? Недарэчна меркаваць, што ў прапаведніка з Галілеі быў у руках глёбус. Але, пераадолеўшы этнас унутры сябе, ён адкрыў сабою Сусьвет. Не аб'яўляючы чалавецтва, прадвесьціў яго...».

Пара ў чарговы раз вызначыцца з тэрмінамі. Калегі зь Беларусі (зрэшты, гэтаксама, як і прэзыдэнт Лукашэнка) мяне ўдакладняць: размова ідзе не аб этнічнасьці – а пра грамадзянаў любой нацыянальнасьці і канфэсіі ў той ці іншай краіне, для якой істотны сувэрэнітэт не сам па сабе, а дзеля абароны ад імпэрскіх ці якіх іншых зьнешніх пагроз. Не ваенных – яны ў наш час выцесьненыя небясьпекай страты рынкаў капіталу, тавараў, інвэстыцый, рабочай сілы. Проста мы (як гэта бывае менавіта з намі) спазьняемся па фазе: Эўропа пяцьдзясят год як аб'ядноўваецца з агульнай канстытуцыяй і Шэнгенам, а мы за адзін сьнежаньскі дзянёчак у Белавежскай пушчы пазбаўляемся ня толькі былога імпэрскага дыктату, але і перавагаў адзінай эканамічнай, прававой і чалавечай прасторы.

Зразумела, мае апаненты падмацоўваюць сваю пазыцыю тым самым спазьненьнем – заходнеэўрапейцы,

маўляў, ужо прамінулі пэрыяд нацыянальнага станаўленьня, а для нас гэта актуальна і, лічы, яшчэ наперадзе (!). І эўразаконы нам пакуль быццам толькі замінаюць, ды і ўвогуле гэта новы марксізм-ленінізм, які зноў дыктуе, як жыць у сваёй (?) краіне...

Тут, здаецца, будуць да месца развагі нямецкіх мысьляроў (якія прагучалі адразу пасьля нацызму) аб тым, што нацыя (у грамадзянскім сэнсе) не арганізуецца-ствараецца, а толькі ў вырашэньні супольных задачаў набывае нейкую цэласнасьць і парадак (о, немцы), заснаваную на ідэі справядлівасьці. І гэтыя задачы ставіць перад намі будучае, а ня страчанае мінулае, адначасна патрабуючы пераасэнсаваньня такіх родавых паняткаў, як «чалавек», «народ», «дзяржава». Ці ня з гэтых развагаў за паўстагодзьдзя вырасла сучасная Германія – цэнтар і рухавік аб'яднанай Эўропы?...

Дарэчы, што да праблемы сувэрэнітэту. А чый ён? Народны – ня ёсьць дзяржаўны, тым болей, што першы ўзьнік як супрацьлегласьць сувэрэннасьці абсалютысцкага валадара (крыніцы ўсёй дзяржаўнай улады). Але тады народ як «сувэрэн, што навучаецца», гэта значыць дэмакратычная супольнасьць актыўных грамадзянаў (а не вернападданых ці этнічна прыналежных), можа выбраць правы асобнага чалавека кутным камянём фундамэнту той сыстэмы, у якой яму больш падабаецца жыць. І паколькі размова ідзе аб навучаньні, адкрытасьці новай інфармацыы аб сьвеце, дык зусім не абавязковы выбар назаўсёды жорстка абранай (ці навязанай звонку – папярэдняй гісторыяй альбо ялцінска-патсдамскімі пагадненьнямі

аб перадзеле сьвету пераможцамі ў сусьветнай вайне) мадэлі Эўропы як сыстэмы менавіта дзяржаўных утварэньняў.

Зьнешне ўсё гэта выглядае як старая спрэчка на новы лад: калектыўная самабытнасьць ці сваволя, абарона «сваіх» супраць экспансіі звонку быццам агульнапрынятых правілаў. І тады каму якая розьніца, скуль яны паходзяць – з Бруселя ці Масквы, Страсбурга ці Гаагскага суда. І чаму рускае горшае за ангельскае – будзе гэта мова ці валюта; да таго ж у першым варыянце яны больш звыклыя.

І што нам да таго, выбіраем мы парлямэнтарыяў ці судзьдзяў у тыя альбо іншыя наднацыянальныя структуры, дзе яны па азначэньні ў меншыні, – бо даверу ўсё роўна болей «сваім», якімі б яны прымітыўнымі ці карысьлівымі не былі.

Такое непрыняцьце «вялікага» сьвету ў параўнаньні зь цесным, але родным нацыянальна-дзяржаўным, тлумачыцца гісторыяй апошніх стагодзьдзяў і асабліва імпэрскім пэрыядам Расеі, адшліфаваным да татальнай аднастайнасьці савецкім этапам, – гэта для тых, каму здаецца, што мы прайгралі болей за іншых, быццам «выйграўшых». Адным словам, усё гэта зразумела, але не даравальна, бо ў лякальным сьвеце больш выразна паўстае пытаньне: сувэрэнітэт, як і свабода – дзеля чаго? Зразумела, і аб'яднаньне з кім і дзеля чаго – гэтаксама патрабуе ўзважанага адказу. Тады пагодзімся: і тое, і другое – не самакаштоўнае; гэта з шэрагу ісьцінаў, якія падлягаюць перагляду, дасягаюцца ня мэтадам спробаў і памылак, а тым жа гістарычным навучаньнем, зьвернутым у будучае, а не ў свавольна прачытанае мінулае.

І толькі ў такім сьвеце чалавек з сваімі правамі ды інтарэсамі зможа вольна выбіраць тую айкумену, дзе яму сувымерна (і ня толькі прасторава) жыць. У кантэксьце разнароўных сьветаў эўрапейскага кшталту; імпэрыі з чалавечым тварам, калі такая ўвогуле магчымая; аднароднай па многіх сацыяльна-эканамічных параметрах дзяржаве звыклага тыпу ці мікрасупольнасьці, амаль цалкам кіруемая яе адказнымі (без гэтага не атрымаецца!) сябрамі.

І тады ў гэтым выбары будуць прысутнічаць многія мовы і культуры. Інакш кажучы, значыць альбо перавага жыцьця ў адной, адслоненай ад іншых, цывілізацыі зь яе магчымым спорам-канфліктам з другімі ці ўключэньне «ў сябе» гэтых другіх як зьмякчэньне віртуальнай барацьбы з імі за кошт нязручнасьцяў сумеснага жыцьця пад адным дахам.

Як гэта будзе называцца: глябалізацыя ці інтэграцыя, суверэнітэт ці сепаратызм – пытаньне пустое. Куды больш істотна іншае: на чым палягае наш выбар, якім коштам ён зроблены і што мы атрымаем у выніку.

* * *

Тут самы час перайсьці да размовы аб тым, што «трымае за горла» ўсе гэтыя гады вольную і маральную Беларусь, ды і не яе адну. А менавіта – да феномена Аляксандра Лукашэнкі.

«На всех стихиях человек – тиран, предатель или узник...» – два стагодзьдзі назад было сказана, а мы ўсё чытаем гэта як вырак лёсу праз выбар адной з гэтых трох пазыцый. А ці ня меў Пушкін на

ўвазе іманэнтнага злучэньня ўсіх элемэнтаў трыяды? Не ў парадку чаргі – у залежнасьці ад жыцьцёвых абставінаў, а «паралельна» і неабавязкова каб ва ўзаемнай спрэчве.

Відавочна, Лукашэнка і ўлада – блізьнюкі. Гэта пра такіх, як ён, адзін крэмлявед сказаў: *«Сапраўдны ўладар не адзінотны датуль, пакуль ён мае адчуваньне ўлады. Улада – яго каханка, сястра, сябар. Яна для яго ўсё. Гэта тое, за што ён змагаецца ўсё сваё жыцьцё, тое, чаму ён ня здраджвае ніколі, і калі ў яго адымаюць уладу, ён зноў і зноў спрабуе вярнуцца да яе, каб памерці зь ёй разам у адзін дзень».*

Тут размова ня столькі аб чалавечай адзіноце гэткіх уладароў, колькі аб тым, што для іх адзіная сапраўдная мэта – набыцьцё і ўтрыманьне ўлады любым коштам.

Ці азначае гэта, што «бацька» – аднамерны, прымітыўны ды неадукаваны тыран. І нічога болей. Ня думаю. Мне бліжэй клясычная тэза: «жыцьцяздольнасьць аўтарытарных рэжымаў абумоўленая ня гвалтам, а папулізмам». Зразумела, у арсенал сродкаў падобных лідэраў уваходзіць ня толькі мабілізацыя чалавечых пачуцьцяў, улучна з адкрытым нацыяналізмам і ксэнафобіяй, але і запалохваньне як форма гвалту.

Гэта азначае, што рэжым лукашэнкаўскага тыпу адмаўляе вяршнасьць права, замяняе яго палітычнай мэтазгоднасьцю і хлусьнёй, апэляцыя да якіх насельніцтву больш зразумелая, чым прававыя дзеяньні. Ён выкарыстоўвае інструмэнты калі не ліберальнай, дык гэтак званай пратэкцыяністцкай ці кіруемай дэмакратыі для дасягненьня заўсёды адной і той самай мэты – улады.

Нездарма адна з заяваў Лукашэнкі (21 ліпеня 2004 г.) гучыць наступным чынам: *«Если бы выборы были сейчас, я уверен, что мне удалось бы победить абсолютно демократическим образом, абсолютно не напрягаясь». «Если народ разрешит»*, дык будзе зьменена Канстытуцыя. *«Обещаю, все будет по Конституции, красиво будет».*

*«Мы живем по своим законам. Своя власть, народ избирает эту власть. Вот будут парламентские выборы – народ выскажется. Референдум если будет – мы их два в последнее время провели – народ определится. Президентские выборы были – народ высказался. Это и есть демократия».*

Але нездарма сьпелыя дэмакратыі практычна адмовіліся ад усенародных рэферэндумаў ці датэрміновых выбараў з мэтай працягнуць пару кіраваньня наяўнага лідэра. Менавіта з гэтай прычыны Лукашэнка кажа: «Я свое государство за цивилизованным светом не поведу».

Пры гэтым беларускі папуліст №1 добра разумее, і магчыма нават без асаблівага цынізму, што сентэнцыі кшталту «Каля карыта, імя якому ўлада, усе рохкаюць аднолькава: і чырвоныя, і белыя» цалкам супадаюць з народнымі ўяўленьнямі.

І таму Аляксандар Рыгоравіч шчыры, калі заяўляе: «Ради сохранения спокойствия в стране я готов пожертвовать собственным разумом!».

Рацыянальнасьць, як бачым, – ня самая абавязковая якасьць у яго стылі (стыль – гэта чалавек) кіраўніцтва краінай. Вось і афіцыйны сайт прэзыдэнта Беларусі сьцьвярджае, што «гэта адзіны палітык у

Эўропе, які ўспрымае ісьціну як катэгорыю сумленьня і пастаянна патрабуе ад палітыкаў трымацца маральных катэгорый у тых рашэньнях, якія яны прымаюць». Гэта вам не галоўны менеджэр нават такой карпарацыі, як «Агульнанародная дзяржава», гэта – народны лідэр, для якога (з таго ж сайта): «Адказнасьць за ўсіх – сутнасьць яго характару. Здараецца, праўда, што спрабуюць эксплюатаваць ягоны давер да людзей. З гэтага прэзыдэнт атрымаў ужо не адну глыбокую рану».

Што можна супрацьпаставіць такім рэжымам і іх лідэрам. Наўрад ці змовы, ціск звонку альбо дэманстрацыі і мітынгі, якімі апаненты рэжыму спрабуюць расхістаць ягоную стабільнасьць.

Нават выбары наўрад ці могуць зьмяніць сытуацыю, у аснове якой страх і захапленьне падданых, дамінаваньне карысьлівых мэтаў і звыклая пасыўнасьць адносна мэтадаў кіраваньня гаспадара.

Да таго ж, уладам зручна, каб было ўражаньне, быццам у краіне акрамя апалітычнага насельніцтва і вэртыкальнай структуры з «бацькам» на яе вяршыні болей нічога няма. А апазыцыя (палітычныя партыі і грамадзянскія арганізацыі), калі і аб'яўляецца, дык абавязкова ў кантэксьце канфрантацыі.

Я ня веру ў народнае паўстаньне. Працэс пераменаў у постсавецкім грамадзтве доўгі і складаны; у магчымых падставах іх рэалізацыі палягае цэлы комплекс фактараў.

Таму ўлада і ціснe па ўсіх накірунках, што бачыць небясьпеку ня толькі ў некалькіх малалікіх партыях і іх лідэрах. Але ў гэтым і яе слабіна, паколькі пры такім

татальным прэсінгу рэжым ня можа быць эфэктыўным на ўсіх накірунках.

Што можа нечакана спрацаваць – для мяне загадка. Але зразумела, што надзеі на Ўсход (у адных) ці на Захад (у другіх) ня маюць пад сабой дастатковых падставаў. Не выключаю, што для Захаду тут пераважае стэрэатып югаслаўскай мадэлі, а з гэтага ў яго няма стратэгіі працы з такім цяжкім супраціўнікам, як Лукашэнка. Не бамбаваць жа яго як Мілошавіча ці Кадафі, хаця ён да іх і падобны...

Нават самыя жорсткія злачынствы яго рэжыму ня могуць быць пераканаўчым аргумэнтам для такіх кардынальных мэтадаў барацьбы, на што гатовыя падштурхнуць урады тых самых цывілізаваных краінаў некаторыя гарачыя галовы ў Беларусі.

На мой погляд, гэта тычыцца і пытаньня аб гэтак званых зьнікненьнях палітычных апанентаў Лукашэнкі. Тут істотна прытрымлівацца прынцыпу прэзумпцыі невінаватасьці, у першую чаргу акцэнтуючы, што ўлада не забясьпечвае эфэктыўнае дасьледаваньне гэтых крымінальных справаў. І таму неабходна задзейнічаць усе магчымыя міжнародныя мэханізмы прававой ацэнкі таго, што было зроблена ці, часьцей за ўсё, ня зроблена вышэйшымі ўрадавымі асобамі Беларусі і іх падначаленымі. Канкрэтна і індывідуальна, без перабольшаньняў і паклёпаў, але не абмінаючы ніводнага самага дробнага доказу іх прыналежнасьці – неабавязкова да самага гэтага злачынства, але і да працэсу дасьледаваньня. І друкаваць усе сьведчаньні, нават і тыя, што “не працуюць”, скажам, на ўжо гатовыя вэрсіі.

Зразумелае сувэрэннае права людзей жыць па-за зонай бяды, якой усё больш робіцца Расея зь яе ўнутрыімпэрскімі хваробамі.

І на гэтым Лукашэнка набярэ столькі "ачкоў", колькі і ня сьнілася народным франтам рубяжу 90-х у барацьбе з ненавісным Цэнтрам на Старой плошчы. Ды яшчэ прыдбае новых прыхільнікаў арыентацыі на Захад – навошта беларусам езьдзіць у выбуховую Маскву ці ахоўваць расейскія газаправоды ад міжнародных тэрарыстаў...

Атрымліваецца, што ідэя суверэнітэту мацнее і перамагае – у асобнай і цалкам самадастатковай эўрапейскай краіне зь нязьменным "вождем" з далёкага і ня вельмі далёкага мінулага? Што гэта – чарговы выкрунтас Гісторыі, якая ўсё яшчэ ня ходнік Неўскага праспэкту... Ці перамога "правільнай" ідэі некамунальнага суіснаваньня народаў, у "манастыр" да якіх не заходзь са сваімі законамі, правамі чалавека і іншым імпэрыялістычным шалупіньнем, якое прыпарушвае варожыя змыслы "чужаніц".

Зноў жа адкрытае пытаньне. І адказ на яго прадбачыцца яшчэ вельмі ня хутка. Але адно турбуе – каму дадзена ўлічыць і прадбачыць, з кім жыць будзе горш: з быццам чужым, але найбліжэйшым суседам зь яго хваробамі і канвульсіямі разьвітаньня зь мінулым, ці са сваім "гаспадаром", які забясьпечыць табе глухую цішыню і мёртвы парадак.

Якой цаной аплоцяць людзі свой выбар і доўгае знаходжаньне ў ім?

Ці няхай чалавек нарэшце будзе сам для сябе і сваіх блізкіх вырашаць "праклятыя пытаньні" там,

дзе яму падабаецца, не зважаючы на межы і пашпарты, нацсымболіку і гонар за перамогі, ваенныя – продкаў ці спартовыя – сучасьнікаў. А потым ужо, калі атрымаецца выбудаваць нешта сувымернае маштабу чалавека, думаць аб тым, ці патрэбны і дзеля чаго яшчэ адзін рубеж абароны ад іншага. Ад Расеі, Эўропы, монапалярнага сьвету, ісламскай ці кітайскай цывілізацыі, іншаплянэцянаў – і, нарэшце ці напачатку, ад дбаючага пра ўсіх Бацьку роднага, які ёсьць ні чым іншым, як намі самімі ў люстэрку "самасьційнасьці".

І чую ўсё тое ж гогалеўскае: няма адказу...

# МАЁ БАЧАНЬНЕ БЕЛАРУСІ

**Эльжбета Смулкова**

Пра Беларусь цяжка пісаць аб’ектыўна. Надта ж вялікая разнароднасьць часта супрацьлеглых каштоўнасьцяў, якія там вызнаюцца, а таксама тэндэнцыяў, што выяўляюцца ў грамадзкіх настроях, як адносна ўнутранай сытуацыі ў краіне, гэтак і замежнай палітыкі. Чытач атрымае зусім рознае ўяўленьне пра гэтую краіну ў залежнасьці ад таго, чаму аддасьць перавагу аўтар чарговага артыкулу, што пабачыць перадусім (уладу, апазыцыю, актыўную ці пасыўную частку супольнасьці і да т.п.). Трэба сур’ёзна ўдумвацца ў гістарычныя і сучасныя прычыны актуальнага стану краіны, каб яго зразумець, і тым самым пазьбегнуць занадта спрошчаных, часта міталягізаваных ды аднабаковых поглядаў на Беларусь і яе грамадзянаў. А падобную спрошчанасьць можна яшчэ спаткаць ня толькі ў інфармацыі мас-мэдыя, але і ў некаторых тэкстах з прэтэнзіямі на навуковасьць.

Шмат фактараў, што вырозьніваюць Беларусь, вынікаюць зь яе геапалітычнага становішча паміж Усходам і Захадам, з памежнага месца краіны, якое кіруецца адмысловымі правіламі, а таксама з гістарычнага досьведу шматвекавога існаваньня ў межах вялікіх

дзяржаўных структураў: Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай і Расейскай імпэрыі. А пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі й няўдалай (у выніку неспрыяльных палітычных умоваў ды слабой падтрымкі з боку саміх беларусаў) спробы стварэньня самастойнай дзяржавы Беларускай Народнай Рэспублікі (абвешчанай 25 сакавіка 1918 году) Беларусь патрапіла ў СССР і была падпарадкаваная агульнай палітыцы Савецкага Зьвязу. Жыхары заходняй часткі цяперашняй Беларусі ў выніку Рыскага міру (18.III.21) на кароткі тэрмін (міжваеннае дваццацігодзьдзе) апынуліся ў польскай дзяржаве. Падзяленьне народу на дзьве часткі – савецкую й польскую – нацыянальна сьвядомымі беларусамі ўспрымалася нэгатыўна. Беларускі нацыянальны рух у Польшчы, збольшага левы й моцна падтрыманы звонку (савецкімі эмісарамі), успрымаўся як камуністычная пагроза. У сувязі з гэтым пасьлядоўна абмяжоўвалася беларускае школьніцтва і хутка разьвеяліся спадзяваньні на беларускую культурную аўтаномію. У Польшчы, краіне якая толькі выбіралася з амаль паўтаравекавой няволі, перамаглі палітычныя погляды, накіраваныя на пабудову аднанацыянальнай дзяржавы, што прадугледжвала й палянізацыю беларускай меншасьці. Акрамя групы актывістаў, беларусы ў Польшчы ўспрымаліся ня столькі ў нацыянальных катэгорыях, колькі ў грамадзкіх і рэлігійных (праваслаўныя сяляне). Многае ўказвае на тое, што ў міжваенным дваццацігодзьдзі не былі адэкватна ацэненыя ані значнасьць нацыянальных памкненьняў

беларусаў (іх патрабаваньні ў галіне асьветы й культуры), ані пагроза нарастаньня пачуцьця грамадзкай крыўды. Ня трэба дадаваць, што цяпер (а такія галасы чуліся і тады) мы ацэньваем тыя мэтады як недальнабачнасьць палітыкаў і памылкі палёнацэнтрызму.

Тымчасам на ўсходнім баку, у першыя гады пасьля ўтварэньня Беларускай Савецкай Рэспублікі, клапаціліся пра інстытуцыянальнае разьвіцьцё беларускай навукі й культуры. Зьявіўся Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, быў утвораны Інстытут беларускай культуры, аснова будучай Акадэміі навук, разьвіваўся беларускамоўны выдавецкі рух. Але гэта ўсё трывала нядоўга й пасьля зьмены нацыянальнай палітыкі ў СССР скончылася трагічнымі рэпрэсіямі трыццатых гадоў, у выніку якіх былі фізычна зьнішчаныя ці пазбаўленыя свабоды й магчымасьці працаваць у сваёй рэспубліцы большасьць творцаў навукі й культуры. У той “чыстцы” загінула ці была вывезена ў Сібір і шмат простых людзей, да якіх паставіліся як да “кулакоў”, “шпіёнаў” і “ворагаў народу” – часта праз іх польскае паходжаньне ці хоць які кантакт (часам прыдуманы) з Польшчай. Польскасьць успрымалася ўладамі выключна варожа. А афіцыйная беларускасьць была зьведзеная да назоваў, фасадавых шыльдаў і вузкага поля культурнай (адзіны беларускі тэатар у Менску) і дасьледніцкай (перадусім фальклёр і народныя дыялекты) дзейнасьці. Уся ідэалёгія выхаваньня й працы, магчымасьці атрыманьня адукацыі й навуковых ступеняў, арганізацыя адпачынку й да таго падобнае былі накіраваныя на пабудаваньне ў СССР маналітнага савецкага народу, які размаўляе расейскаю

моваю й адрозьніваецца адно вонкавымі атрыбутамі. Трэба прызнаць, што савецкая мадэль з сацыяльных прычынаў апынулася на Беларусі ў спрыяльнай сытуацыі. Грамада, пераважна сялянская, у выніку бесцырымонных акцыяў па ўтварэньні калгасаў і актыўнай індустрыялізацыі (асабліва пасьля Другой сусьветнай вайны) масава перасялялася ў гарады і ўспрымала сваю міграцыю як несумненнае падвышэньне сацыяльнага статусу. Гэты працэс ня быў просты, ён патрабаваў ня толькі іншага стылю жыцьця, але й пераходу з роднай на расейскую мову. Бо ў гарадах Беларусі ўжо даўно размаўлялі пераважна расейскаю (а яшчэ польскаю й ідыш) моваю і, паводле словаў маіх суразмоўцаў, непрыязна ставіліся да "дзеравеншчыны" – менавіта так успрымалася маўленьне па-беларуску. Доступ да асьветы, сацыяльная апека, недахоп нацыяналізаванасьці ў сучасным разуменьні й несфармаваная гістарычная памяць пры самаідэнтыфікацыі сябе як "тутэйшых", а перадусім усюдыісная савецкая прапаганда, якая ўмела падтрымлівала пачуцьцё гонару ад таго, што чалавек – грамадзянін Беларускай Савецкай Рэспублікі, – засланялі ўсьведамленьне перажываных крыўдаў. Да таго ж страх змушаў маўчаць тых, каго перасьледавалі. Я ведаю пра выпадак з адным чалавекам, які толькі пасьля распаду СССР з апублікаванага ў газэце сьпісу рэабілітаваных грамадзянаў Беларусі дазнаўся пра сапраўдны лёс бацькі. Маці ўсе гэтыя гады казала сыну, што бацька памёр сваёй сьмерцю. Хаваючы праўду, людзі спрабавалі прыстасавацца і выжыць у існуючай сытуацыі. Трагічны досьвед,

у тым ліку й Другой сусьветнай вайны, выпрацаваў у беларусах (асабліва вясковых) зьмірэньне зь цяжкімі варункамі жыцьця і перакананьне, якое ўжо зрабілася прыслоўямі, што галоўнае – “каб адно не было горш” ці “абы не было вайны”.

Сёньняшняя настальгія беларусаў па часах Савецкага Саюза (як і тэндэнцыя да эміграцыі з краіны) перадусім вынікае з развалу цэнтралізавана кіраванай савецкай эканомікі, якую ня здолелі замяніць ні адпаведныя рэформы, ні арганізацыя партнэрскага супрацоўніцтва новага тыпу ў рамах Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў. Гэта прывяло да росту сацыяльных праблемаў і зьбядненьня большасьці насельніцтва. Ня варта таксама абмінаць і псыхалягічныя падставы гэтай настальгіі, якія ў рэшце рэшт маюць розную матывацыю. Напрыклад, сярод партыйнай вярхушкі й кляну дырэктароў вялікіх савецкіх прамысловых прадпрыемстваў незадаволенасьць вынікае са страты прывілеяванага становішча, а ў асяродку вэтэранаў Другой сусьветнай вайны пануе настальгія па вялікай, на іх перакананьне, айчыне, перамогу якой над гітлерызмам яны маюць права перажываць як уласную.

Цяпер на пэсымістычныя настроі многіх жыхароў Беларусі накладаецца ўсьведамленьне эканамічнай і палітычный залежнасьці ад Расеі, а таксама адсутнасьць веры ва ўласныя сілы (комплекс беларускай непаўнавартасьці, пра што пойдзе гаворка далей), як вынік шматгадовага выхоўваньня ў паслушэнстве паноўнай уладзе і да нядаўна адсутнасьці сва-

ёй дзяржавы, а таксама бясьсільле што да наяўнай у краіне аўтарытарнай улады, якая жорстка рэпрэсуе вольналюбівыя памкненьні грамадзянаў.

Адсутнасьць традыцыі дзяржаўнай незалежнасьці сур'ёзна паўплывала на стаўленьне грамадзтва да ўзьніклай пасьля распаду Савецкага Саюза самастойнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь, якая на іх “звалілася” быццам бы сама сабою й таму большасьцю жыхароў не ўспрынялася як каштоўнасьць, пра якую мараць, якую чакаюць і падтрымцы якой гатовыя аддаць усе сілы. Адначасова зазначым, што колькігадовы палітычны пэрыяд беларускай дзяржаўнасьці ўжо выпрацаваў як уласны кляс палітыкаў, дыпляматаў і дзяржаўных функцыянэраў, так і пэўны гонар за ўласную дзяржаву, асабліва сярод інтэлігенцыі й моладзі.

Зьяўленьне дзяржавы як неаспрэчнай каштоўнасьці для беларускай нацыі перадусім здолела ацаніць засяроджаная вакол Беларускага Народнага Фронту і ягонага лідэра Зянона Пазьняка апазыцыя, якая вярталася да традыцыяў Беларускай Народнай Рэспублікі, ды некаторыя з прадстаўнікоў цэнтральнай і рэгіянальнай улады на чале зь лідэрам парлямэнту Станіславам Шушкевічам. Дзякуючы гэтай групе парлямэнтарыяў была прынятая назва дзяржавы й нацыянальная сымболіка (герб Пагоня й бел-чырвона-белы сьцяг), а таксама прававы статус беларускай мовы як дзяржаўнай. Быў таксама падрыхтаваны праект рэформы самакіраваньня, які аднак не атрымалася “правесьці” праз парлямэнт.

Выразным паказьнікам тармажэньня ініцыятываў беларускай дэмакратычнай апазыцыі ў Вярхоўным Савеце РБ было недапушчэньне ў 1992 годзе рэфэрэндуму па пытаньні пра датэрміновыя выбары ў парлямэнт, нягледзячы на тое, што адпаведныя ўмовы (збор Беларускім Народным Фронтам заканадаўча патрабаванай колькасьці подпісаў) былі выкананыя. Адкліканьне Станіслава Шушкевіча з пасады кіраўніка парлямэнту (студзень 1994) – далейшы крок у тым самым кірунку. Прэзыдэнцкія выбары, прыняцьце Канстытуцыі (15.03.1994), якая давала прэзыдэнту паўнамоцтвы кіраўніка дзяржавы, былі падрыхтаваныя пад заплянаваную перамогу тагачаснага прэм'ера Вячаслава Кебіча, прыхільніка шчыльнага эканамічнага саюзу з Расеяй. Перамога ў выбарах Аляксандра Лукашэнкі (10.07.1994) сталася вынікам супадзеньня разнародных фактараў, але яна можа разглядацца як праява супраціву выбарцаў карумпаванай постсавецкай намэнклятуры і яе палітыцы. Тое, што выбарчая кампанія дэпутата Аляксандра Лукашэнкі абапіралася толькі на папулісцкія антыкарупцыйныя лёзунгі, а не праводзілася з пазыцыяў якой-небудзь партыі, было прыкметаю слабасьці палітычных партыяў, якія паўсталі пасьля развалу КПБ.

Аўтарка артыкулу ня мае намеру пераказваць хроніку ўсіх падзеяў і палітычных поглядаў, нават тых, якія істотна ўплываюць на сучасную сытуацыю ў краіне і яе самаізаляцыю. Прычыны неадназначнасьці грамадзкай думкі (вострая крытыка амаль на роўных з падкрэсьленьнем заслугаў) адно-

на больш чым дзесяцігадовага праўленьня прэзыдэнта Лукашэнкі, факты, зьвязаныя зь яго аўтарытарным стылем кіраваньня, інтэрпрэтацыі й экспэртызы, як беларускіх, так і замежных аўтараў, зацікаўленым вядомыя.

***

Я зь вялікай зацікаўленасьцю сачу за амбітнай маладой беларускай публіцыстыкай і эсэістыкай, пераважна гуманітарнай. Рэгулярна намагаюся чытаць "Нашу Ніву" (рэд. Андрэй Дынько) і "ARCHE" (рэд. Валер Булгакаў). Раней (пакуль выходзілі) – таксама "Фрагмэнты" (рэд. Ігар Бабкоў). Цікава задуманы Ігарам Бабковым і Паўлам Церашковічам расейскамоўны часопіс "Перекрёстки" (№1–2 за 2004 г.). Менш рэгулярна трапляюць да мяне іншыя часопісы й кніжныя выданьні, але знаёмства з усімі імі разам пераконвае мяне, што, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы і адток за мяжу актыўных і творчых, нацыянальна сьвядомых асобаў (палітычная й навуковая эміграцыя), у інтэлектуальнай сфэры ў Беларусі адбываецца шмат цікавага[1]. Сродкам выразу палітычнай, грамадзкай, навуковай і мастацкай думкі зьяўляецца пераважна добрая беларуская літаратурная мова, чаго было цяжка чакаць, паколькі ў Рэспубліцы Беларусь яна амаль выціснутая расейскаю мовай з штодзённага жыцьця й

[1] Гэта не азначае, што асобныя артыкулы не правакуюць да палемікі, выказваньня іншых меркаваньняў, на якія, можа, забыліся (ці сьвядома абмінулі) аўтары. Нягледзячы на адвагу й самастойнасьць думкі, у некаторых іх выказваньнях глыбока праяўляюцца стэрэатыпы савецкай мэнтальнасьці.

афіцыйнага карыстаньня. Існуе досыць вялікі працэнт людзей з паглыбленай, а ня толькі намінальнай альбо тэрытарыяльнай, беларускай нацыянальнай сьвядомасьцю. Але большая частка грамадзянаў (і ня толькі сяляне) яшчэ далёкая ад поўнай нацыяналізацыі, а сваю самаідэнтыфікацыю зьвязвае з назвай краіны й тэрыторыяй, дзе жыве, зь любоўю да зямлі, да сваёй вёскі зь яе краявідамі і ладам жыцьця. Звычайна яны абыякава ставяцца да любой улады (за выключэньнем, можа, калгаснай), як зьявы ад іх далёкай, уплыву на якую яны ня маюць.

Маё шматгадовае знаёмства зь Беларусьсю абапіраецца на розныя шляхі яе пазнаваньня, якія добра дапаўняюць адзін аднаго: ад навуковых стажыровак у Менску й шматразовых дыялекталягічных і соцыялінгвістычных дасьледаваньняў беларускай вёскі да пасады генэральнага консула й амбасадара Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь у знакавых 1991–1995 гадах; ад ўдзелу ў культурным жыцьці краіны (музыка, тэатар, гаспадарчыя й мастацкія выставы) да штодзённых сустрэч зь беларускімі знаёмымі і сябрамі. Усё гэта разам высьпеліла ў мяне сапраўдную сымпатыю й павагу да тых, хто ў нялёгкіх умовах эканамічных цяжкасьцяў і палітычнага прэсынгу здолелі захаваць беларускую ідэнтычнасьць, радасьць жыцьця, узаемную зычлівасьць і творчы патэнцыял.

З гэтых пазыцыяў тым выразьней я ўспрымаю час беларускай дзяржаўнасьці як гады, у значнай ступені змарнаваныя. Замест далейшага ўмацаваньня сучаснай грамадзкай дзяржавы, правядзеньня гаспадарчых

рэформ і структурных пераменаў, якія разьвівалі б нацыянальную культуру ды адначасна адкрывалі б Беларусь сьвету (асабліва суседзям) і тым самым фармавалі станоўчы міжнародны імідж Рэспублікі Беларусь, улады адмовіліся ад дэмакратычных рэформаў і ізалявалі краіну, з чаго яе вобраз сёньня выяўляецца для іншых як нэгатыўны і з гэтага не адпаведны аб’ектыўным вартасьцям грамадзтва.

Ці маглі справы пайсьці цалкам іначай? Баюся, што не, і праблема тут ня толькі ў адным прэзыдэнце. У Беларусі, Расеі і ў іншых постсавецкіх дзяржавах шок, выкліканы распадам Савецкага Саюза, быў залішне глыбокім, а сілы супраціву, што жадалі захаваць status quo ante, апынуліся яшчэ занадта моцнымі, каб можна было разьлічваць на неабходныя рэформы й паўнавартасную арганізацыю незалежнай дзяржавы. Наколькі цяжкай справай ёсьць дзяржаўная трансфармацыя, мы ведаем на прыкладзе Польшчы, і гэта нягледзячы на тое, што воля да поўнай незалежнасьці выяўлялася ў палякаў амаль паўсюдна і праз усе палітычныя сілы.

***

Пакінем ацэнку ступені залежнасьці Рэспублікі Беларусь ад Расеі палітолягам і эканамістам. Як гуманітар і дасьледнік культуры я спынюся на гістарычным і псыхалягічным аспэктах беларуска-расейскіх сувязяў, якія, як я мяркую, не заўсёды адпаведна інтэрпрэтуюцца, асабліва па-за межамі Беларусі. Паўсюдным ёсьць перакананьне ў вельмі моцнай

русіфікацыі беларусаў, і на гэта абапіраюцца скрайнія выказваньні некаторых заходніх палітолягаў, якія таясамяць Беларусь непасрэдна з Расеяй, ігнаруючы беларускую адметнасьць. Ступень русіфікацыі й насамрэч значная. Занадта вялікі быў пэрыяд узьдзеяньня расейскай адміністрацыі й культуры (царская й камуністычная імпэрыі), і да таго ж высокі прэстыж гэтай культуры, каб не пакінуць выразных сьлядоў. Але гаворка тут павінна весьціся ня толькі пра г. зв. русіфікацыю. Як я разумею, асноўная праблема ў тым, што ў Беларусі аднначасова суіснуюць дзьве супрацьлеглыя канцэптуальныя каштоўнасьці. З аднаго боку, важнае для беларускай самаідэнтыфікацыі пачуцьцё супольнасьці з рускай культурнай сфэрай[2] (усходнеславянская моўная блізкасьць, праваслаўе, звычайна акрэсьленае як руская вера, аднолькавыя пасьлярэвалюцыйныя савецкія эканамічныя й адміністратыўныя структуры, вынікам якіх стаў падобны лад жыцьця – ён даваў пачуцьцё большай свойскасьці з расейцамі, чым зь іншымі народамі, напрыклад, Заходняй Эўропы), але з другога – прысутнасьць выразнага культурнага й мэнтальнага, а далей і самаідэнтыфікацыйнага адрозьненьня ад расейцаў. Я ўжо ў нейкім з сваіх артыкулаў цытавала адно з шматлікіх (тыпалягічна падобных) выказваньняў маіх беларускіх суразмоўцаў на тэму іх ідэнтыфікацыі. Там быў знакавы сказ, эма-

[2] Я зьвяртаю ўвагу на тое, што ў польскай мове слова "рускі" ня значыць "расейскі". Ён часьцей ужываецца ў значэньні "ўсходнеславянскі", ці нават як сынонім "заходнерускі". У мовазнаўстве словазлучэньне "рускія гаворкі" кажа пра гаворкі ўсходнеславянскага тыпу (украінскія і беларускія), а таксама пра пераходныя паміж імі.

цыйна і з моцным перакананьнем выказаны сталым мужчынам: “*Да, няхай рускій мой брат, но мой брат, гэта ж не я!*” Беларусы не таясамяць сябе з расейцамі. Але ёсьць шмат прыкладаў, як цяжка расейцам прызнаць адрознасьць і самастойнасьць Беларусі. Міт “Паўночна-Заходняга краю Расеі” занадта глыбока захрас у гістарычным мысьленьні, каб яго не пераносілі на цяперашнія часы, а сучасная Беларусь, нягледзячы на тое, што часам стварае расейцам праблемы, – надта ж каштоўная стратэгічная тэрыторыя, каб ад яе адмаўляцца.

Культурнае адрозьненьне беларусаў і расейцаў назіраецца ў розных галінах. Мы выразна бачым яго як у сакральнай архітэктуры, гэтак і ў вясковым будаўніцтве – у форме й памерах хатаў, элемэнтах аздабленьня, брамах і агароджах, разьмяшчэньні гаспадарчых пабудоваў і г.д. Царкоўны стыль XVI ст. (напр., Сынкавічы, Мажэйкава, Наваградак) вельмі адрозьніваецца ад царкоўнага стылю таго пэрыяду Расейскай імпэрыі (“мураўёўкі”) і сучаснага царкоўнага будаўніцтва, якое бярэ ўзорам вялікароскі стыль. Тое ж самае можна сказаць і пра абарончыя касьцёлы ў Беларусі (напр., у вёсцы Камаі). Гісторыкі мастацтва лічаць гэты стыль “сынтэзам заходнеэўрапейскай формы і ўсходняга зьместу”, які ўзьнік на абшарах Вялікага Княства Літоўскага. Варта працытаваць даслоўна: “На вялікіх абшарах дзяржавы, складзенай зь земляў польскіх, рускіх і літоўскіх, адбывалася няспыннае й свабоднае перацяканьне людзей і ідэяў, прыводзячы да таго, што, нягледзячы на нацыянальнасьць і

веравызнаньне яе насельнікаў, пераймаліся адныя й тыя ж элемэнты, ствараючы ў выніку новую якасьць. Значнае месца тут занялі ідэі, прынесеныя з захаду Эўропы, якія несумнена задавалі тон у галіне плястычнага мастацтва, асабліва ў архітэктуры й скульптуры" (М. Каламайска-Саід).

***

Узьнікненьне новага культурнага рэгіёну ў межах Вялікага Княства Літоўскага й Рэчы Паспалітай (іх спадчына адчуваецца і ў цяперашнія часы) датычыцца розных галінаў культуры, але перадусім мовы й пісьменьніцтва. Не ўваходзячы ў падрабязнасьці, згадаю, што ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзяржаўны арганізм якога складаўся з розных этнасаў, стварылася эфэктыўная камунікатыўная супольнасьць людзей, якія дома размаўлялі рознымі мовамі. З панятку камунікатыўнай супольнасьці, уведзенага Л.Заброцкім і ахвотна выкарыстоўванага лінгвістамі, вынікаюць дзьве магчымасьці, якія не выключаюць адна адной. З аднаго боку, зблізжэньне этналектаў, якія ўзьдзейнічаюць адзін на адзін, у выніку чаго робяцца ўзаемна больш зразумелымі й могуць паралельна выкарыстоўвацца ў адной і той жа размове, а з другога – выбар адной з суіснуючых у межах дзяржаўнай структуры моваў як галоўнага сродку афіцыйнай камунікацыі. Другі аспэкт ёсьць больш істотным у нашым выпадку, паколькі далей нас будзе цікавіць мова пісьменьніцтва і вышэйшых сацыяльных слаёў.

Як вядома, функцыі пісьмовай мовы, у тым ліку й канцылярыйнай, у Вялікім Княстве Літоўскім прыкладна да сярэдзіны XVII ст. выконвала мова, што паходзіла з традыцыяў царкоўнаславянскага пісьменства, выкарыстоўвала кірылічны альфабэт і ў значнай меры царкоўнаславянскія прынцыпы правапісу. У традыцыйнае царкоўнаславянскае пісьменства ў заходнерускай рэдакцыі паступова трапіла так шмат элемэнтаў мясцовай штодзённай мовы, і мова гэтая, рэпрэзэнтаваная ў розных стылях пісьменства, настолькі адышла ад паўднёваславянскага першаўзору, што была названая дасьледнікамі як заходнеруская ці старабеларуская. Ужо на гэтым гістарычным этапе мы бачым выразную розьніцу ў моўнай сытуацыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай – з аднаго боку, і Маскоўскай Русі – з другога. Згодна з выказваньнем расейскага вучонага Б. Усьпенскага, у ВКЛ існавалі паралельна дзьве адрозныя мовы пісьменства: царкоўнаславянская (называная сучасьнікамі – славянская) і старабеларуская мова (называная рускай, альбо простай мовай), набліжаная да размоўнага варыянту. У Маскоўскай жа Русі царкоўнаславянская мова – гэта мова высокая, кніжная, якая да часоў Ламаносава абслугоўвала ўсе стылі пісьменства, знаходзячыся ў дыглясійным стасунку адносна расейскае мовы (дыглясія – гэта разнавіднасьць дзьвюхмоўя з пасьлядоўным, грамадзка сфармаваным падзелам функцыяў кожнай з моваў). Розьніца моўнай сытуацыі ў Заходняй Русі й

Маскоўскай Русі не абмяжоўваецца толькі стасункамі паміж моваю краю й царкоўнаславянскаю, то бок дзьвюхмоўнасьці й дыглясіі, а вынікае ў значнай ступені з таго, што заходнерускія тэрыторыі, асабліва паўночна-заходнерускія, якія ёсьць прадметам нашай зацікаўленасьці, былі прынамсі ад XIII ст. шматмоўнымі (заходнеруская-беларуская і ўкраінская ў сёньняшняй тэрміналёгіі, царкоўнаславянская, літоўская, польская, лаціна, ідыш, мовы аседлых татараў). Маскоўская Русь такой шматмоўнасьці ў тыя часы ня ведала.

Вядомы факт паступовай моўнай палянізацыі пісьменства на беларускіх землях і доўгатрывалага суіснаваньня ў межах польскай камунікатыўнай супольнасьці паўплываў на шматлікія запазычаньні з польскай у беларускую, а таксама на ўтварэньне пэўных супольных моўных інавацыяў, невядомых вялікаросам. Да сёньняшніх часоў гэта праяўляецца ў адносна лёгкім моўным паразуменьні беларусаў і ўкраінцаў з палякамі, у той час калі нават добра адукаваныя расейцы падкрэсьліваюць свае цяжкасьці ў разуменьні гэтых моваў.

Прыклады культурнага адрозьненьня паміж беларусамі й расейцамі можна множыць. Несумнеўна, варта было б выкарыстаць досьвед фальклярыстаў, што адзначаюць глыбіню й архаічнасьць аўтэнтычнага беларускага фальклёру, яго спэцыфіку й разнастайнасьць; заняцца абрадавасьцю й сканцэнтраваць увагу на розьніцы, што вынікае зь мірнага суіснаваньня

некалькіх веравызнаньняў у Беларусі. Але цалкам разгледзець гэтую праблему ў адным артыкуле немагчыма. Спынімся яшчэ толькі на двух адрозьненьнях, што кідаюцца ў вочы: на расейскім усьведамленьні сваёй вялікасьці й грамадзкай кансалідацыі вакол ідэі Вялікай Русі (“единой и неделимой”) і беларускім пачуцьці прыніжанасьці й адсутнасьці агульнай нацыянальнай ідэі, што яднала б беларусаў, а таксама (акрамя некаторых выключэньняў, якія робяцца ўсё большымі) – абыякавасьці да таго, што выходзіць па-за індывідуальныя запатрабаваньні і ўласны лякальны сьвет. Такую думку выказвае В. Акудовіч у эсэ, прызначаным да гэтай кнігі, калі гаворыць: “Шчыра кажучы, беларусам увогуле няма ніякай справы да ўсяго астатняга сьвету. Хай ён сабе хоць лясьнецца, абы ў нас не было б вайны. Пачуцьцё індывідуальнай самадастатковасьці (і самазавершанасьці) у беларусаў, бадай, нават гіпэртрафаванае. Верагодна, адсюль і вечная недазавершанасьць той краіны, у якой яны жывуць. Бо да яе беларусам (як і да астатняга сьвету) таксама няма асаблівай справы”.

Першае з згаданых мною мэнтальных адрозьненьняў выдатна ілюструюць супастаўленыя В. Акудовічам выказваньні пра сябе двух нацыянальных паэтаў – Аляксандра Пушкіна і Янкі Купалы. Пушкін кажа: “Я памятник себе воздвиг нерукотворный…” і далей пералічвае народы, што падпарадкоўваюцца Расейскай імпэрыі, якія прыйдуць пакланіцца гэтаму помніку ў падзяку за добрыя пачуцьці, што выклікаў сваёй лірай

паэт. А вось словы Янкі Купалы: “Я не паэта, о крый мяне Божа...”, і далей пра тое, што беларусы нікога ня маюць, дык няхай будзе хоць Янка Купала. Нядаўна я чула гэтыя словы ў зварушлівым выкананьні беларускай сьпявачкі Касі Камоцкай.

Адсутнасьць пачуцьця каштоўнасьці ўсяго таго, што ёсьць беларускае (такая пазыцыя не абмяжоўваецца толькі нэгатыўным стаўленьнем да роднай культуры), застаецца цяжкім комплексам беларусаў, сфармаваным за апошнія стагодзьдзі. А ў выніку сёньняшняй сытуацыі ў краіне, дзе да нацыянальнага ставяцца як да апазыцыйнага (напр., кур’ёзнае закрыцьцё ліцэю зь беларускай мовай навучаньня ў Менску), перамагчы гэты комплекс робіцца яшчэ цяжэй.

Замежніка, які любуецца прыгажосьцю беларускай прыроды, захапляецца сьпевам й музыкай, з прыемнасьцю ходзіць у тэатры й чытае найцікавейшыя беларускія кнігі, бянтэжыць абыякавае стаўленьне беларускага грамадзтва да ўласнай культуры. Некалі, пад уражаньнем нанова перачытаных навэлаў Васіля Быкава, я хацела паразмаўляць пра іх з маладой беларускай, выпускніцай філялягічнага факультэту ў Менску. І, да свайго зьдзіўленьня, пачула ў адказ, што яна не чытае па-беларуску, бо яе не цікавіць беларуская літаратура. Ня ведаю, ці ўвогуле яна разумела, хто такі Васіль Быкаў?! Калі адной з знаёмых, засмучанай, што пасьля распаду СССР стала цяжэй выехаць на адпачынак у Крым, я парадзіла, каб яна зьезьдзіла, напрыклад, на Нарач альбо на вельмі прыгожыя

Браслаўскія азёры, дык даведалася, што “ў Беларусі ня можа быць нічога цікавага”. Гэтаксама, калі ў размовах з настаўнікамі я пыталася, куды яны арганізоўваюць школьныя краязнаўчыя экскурсіі, дык звычайна чула ў адказ пра Маскву ці балтыйскія краіны. Толькі ў першай палове 90-х гадоў узгадалі пра Нясьвіж, Наваградак, Мір, Віцебск і іншыя гістарычныя мясьціны...

Гэты небясьпечны па сваіх выніках комплекс непаўнавартасьці сфармаваўся з сацыяльных й палітычных прычынаў. У выніку пераходу найвышэйшых слаёў насельніцтва ў польскую ці расейскую культуры, у пэрыяд фармаваньня беларускага руху й беларускай ідэнтычнасьці родная культура існавала ў грамадзкай сьвядомасьці як народная культура. Таму людзі, якія толькі-толькі аселі ў гарадах, не жадаючы адрозьнівацца ад астатніх, пераходзілі з свайго дыялекту, які лічылі плебейскім, на расейскую мову, што мела большы прэстыж, і пра “вясковую” культуру намагаліся як найхутчэй забыцца. Да таго ж розныя аматарскія калектывы паказвалі ў гарадах вульгарызаваную народнасьць, якая хутчэй выклікала сьмех, чым захапленьне[3]. Калі сацыяльнае ўзвышэньне амаль два з паловай стагодзьдзі было зьвязанае з адыходам ад беларускай мовы й культуры, чаму спрыяла арганізацыя выкладаньня, тэндэнцыйнае навучаньне гісторыі й нават называньне вуліцаў, якое ня мела нічога суполь-

[3] Індывідуальныя аранжыроўкі і прэзэнтацыі аўтэнтычнага фальклёру досыць рэдкія. Да прыкладу, згадаю таленавіты і цікавы студэнцкі калектыў В. Берберава “Ліцьвіны”, які выступае ў аўтэнтычных строях і грае на народных інструмэнтах, сабраных у беларускіх вёсках, і ад мясцовых сьпевакоў запісвае тэксты і мэлёдыі. На жаль, ён не знаходзіць дзяржаўный падтрымкі.

нага з роднай гісторыяй і культурай, ня кажучы ўжо пра траўму, нанесеную беларускай культуры савецкаю ўладай, што рэпрэсавала ў трыццатыя гады XX ст. бальшыню беларускіх творцаў, дык няма чаго дзівіцца беларускаму комплексу непаўнавартасьці і недаверу да таго, што за апошнія часы вырасла арыгінальная беларуская высокая культура. Сёньня яе прадстаўляюць творцы, якімі можна й трэба ганарыцца перад сьветам: напрыклад, Сьвятлана Алексіевіч (піша па-расейску), Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Алесь Разанаў і іншыя, ня кажучы ўжо пра шматабяцальных маладых паэтаў і празаікаў. Я перакананая: беларуская літаратура амаль невядомая ў сьвеце (за выняткам Алексіевіч і Быкава) не таму, што няма твораў, якія б гэтага заслугоўвалі, а таму, што ніхто не паклапаціўся пра іх належную прэзэнтацыю. У сытуацыі, калі нават найцікавейшыя творы беларускай літаратуры з палітычных прычынаў змушаныя выдавацца ў краіне малымі накладамі і на грамадзкія сродкі (“Сьцяна” В. Быкава), нельга разьлічваць на шырокае знаёмства зь імі нават ва ўласным грамадзтве. Літаратуры гэтак званых “малых” народаў павінны клапаціцца пра добрыя пераклады на сусьветныя мовы, калі гэтыя літаратуры хочуць прысутнічаць у вялікім сьвеце.

***

Неаднаразова, калі на навуковых канфэрэнцыях і ў прыватных размовах я выказвала погляд, што ўзьніклыя з скрыжаваньня Ўсходу й Захаду поліканфэсійнасьць і сынтэз культураў на Беларусі –

гэта яе багацьце й каштоўная адметнасьць[4], дык чула з боку беларусаў, што рэлігійныя адрозьненьні абцяжарваюць нацыянальную кансалідацыю. Вам, палякам, добра, казалі, вас каталіцызм аб'ядноўвае. Палемісты ня бралі пад увагу польскіх пратэстантаў і вернікаў іншых веравызнаньняў, а таксама паступовай сэкулярызацыі грамадзтва. Мае ўласныя досьледы і досьледы калегаў-этнолягаў і сацыёлягаў, якія праводзіліся на тэрыторыі Беларусі, даводзяць, што падзел на “мы – яны” ўсё яшчэ адбываецца паводле рэлігійнай прыналежнасьці. Пакуль досыць распаўсюджана, асабліва ў вясковых супольнасьцях, стэрэатыпнае атаесамленьне каталіцызму з польскасьцю, а праваслаўя – з расейскасьцю. Падобныя рэчы былі неаднаразова апісаныя ў спэцыялізаваных выданьнях. Але я б хацела падкрэсьліць, што на народным узроўні ў рэлігійна перамяшаных вёсках гэтае “мы – яны” ніколі не перарастае ў “свой – чужы”, бо над усім узвышаецца салідарнае “мы мясцовыя”, “мы тутэйшыя”. У нас ёсьць дзясяткі запісаных размоваў, зь якіх вынікае прыязнае стаўленьне каталіка да праваслаўнага суседа й наадварот[5]. Суразмоўцы

[4] Пар. напр. “Ідэнтыфікацыя і талерантнасьць”, 1988; “Вакол праблемаў пачуцьця ідэнтычнасьці жыхароў Беларусі”, 1996; “Заўвагі пра беларускую культуру ў сувязі з эсэ Тымона Тэрлецкага “Эўрапейскасьць і адрознасьць польскай культуры”, 2000. Перадрук у кн.: Эльжбета Смулкова “Беларусь і памежжа. Дасьледаваньні пра мову і грамадзтва”. Варшава, 2002.

[5] Зь іншым поглядам я сутыкалася ў некаторых выключна праваслаўных вёсках на беларуска-расейскім памежжы на Магілёўшчыне, дзе суразмоўцы мелі нэгатыўнае стаўленьне да каталіцызму і каталікоў на падставе абсалютна нерэальных перадумоваў, крыніцы якіх я не спрабавала знаходзіць.

падкрэсьлівалі, што мы молімся таму самаму Богу, маем тыя самыя сьвяты, толькі каляндар і мова часам адрозьніваюцца. Каталікі апавядаюць, як хадзілі ў царкву, калі касьцёл быў зачынены. Праваслаўныя заходзяць на каталіцкія набажэнствы. Вядомы прыклад, які апісваўся ў прэсе, супольнага адбудоўваньня касьцёла ў Беліцы. Ня раз у беларускіх каталіцкіх касьцёлах я чула, як ксяндзы заклікалі вернікаў да ўстрыманьня ад працы і ўшанаваньня праваслаўных сьвятаў, якія прыпадаюць на іхны працоўны дзень. Неаднойчы бывала ў дамах, дзе рэлігійныя сьвяты адзначаюць падвойна, бо ў сям'і і каталікі, і праваслаўныя. Ужо перасталі быць праблемай мяшаныя сем'і, пра нэгатыўнае ўспрыняцьце якіх пісалі ўсяго на пакаленьне старэйшыя этнографы. Я магла б назваць месцы, дзе бацюшка й ксёндз супрацоўнічаюць і сябруюць адзін з адным.

Адкуль тады бярэцца гэтая пагалоска пра каталіцка-праваслаўны канфлікт? Каротка кажучы – звонку, з палітыкі. З боязі перад каталіцызмам як носьбітам каштоўнасьцяў заходняй культуры: перадусім значнасьці чалавечай асобы й важнасьці культурнай супольнасьці. Лепш за ўсё гэта тлумачыцца словамі Тымона Тэрлецкага: “Прызнаньне значнасьці чалавечай асобы знаходзіць выражэньне ў разьдзяленьні прыватнага й грамадзкага права, у разьмежаваньні правоў асобы й дзяржавы, у адсланеньні правоў сумленьня ад іншых справаў жыцьця, а пасьля ў поўным адзьдзяленьні духоўнае ўлады ад улады сьвецкай.

Прызнаньне важнасьці культурнай супольнасьці пачынае праяўляцца ў панятку нацыі і затым у панятку наднацыянальнай лучнасьці” (“Пошукі раўнавагі”, Польская Культурная Фундацыя. Лёндан, 1988).

Хрысьціянская поліканфэсійнасьць у Беларусі не абмяжоўваецца дыхатаміяй каталіцызм – праваслаўе. Пачалася спроба аднаўленьня грэка-каталіцкага абраду (уніяты), што перадусім задавальняе моладзь, якая спадзяецца тым самым нацыяналізаваць беларускі касьцёл і адысьці ад стэрэатыпнай апазыцыі “польскі – рускі”. Досыць актыўнымі становяцца розныя адгалінаваньні пратэстантызму, асабліва на Палесьсі. У той жа час улады адназначна прадстаўляюць Беларусь як праваслаўную краіну. Складаецца ўражаньне, што праваслаўе зьяўляецца дзяржаўнай рэлігіяй Рэспублікі Беларусь.

У эсэ В. Акудовіча, якое ўжо згадвалася вышэй, я з прыемнасьцю знайшла такі сказ: “Урэшце, нам трэба зразумець нашу разнамоўнасьць, рознакультурнасьць, рознарэлігійнасьць ня як загану, якую неабходна пераадолець на карысьць гамагеннай Беларусі (замкнутай у нейкім адным геапалітычным вымярэньні), а як вялікую каштоўнасьць”. Я рада, што мой погляд на Беларусь перастаў быць там выключэньнем. Менавіта разнастайнасьць яе выдзяляе, адсюль у значнай ступені паходзіць беларуская талерантнасьць, культура й мэнтальнасьць як гістарычна сфармаваная на памежжы, з сынтэзу Хрысьціянскага Ўсходу й Захаду. Уніфікацыя можа толькі зьнішчыць адметнасьць Беларусі.

***

Алесь Разанаў “Слова пра спадчыну” (фрагмэнт паэмы)

*Мы вяртаем спадчыну. [...]*
*Разам зь ёй мы*
*Вяртаем сябе, і можа, якраз у справе вяртаньня*
*Спадчына найбольш голасна нагадвае нам*
*Пра тое, што яна ня толькі яна, але і мы,*
*І што яна тады яна, калі мы – мы.*

Працытаваны пачатак філязафічнай паэмы беларускага паэта Алеся Разанава тлумачыць чытачу істотную сувязь паміж гістарычнай спадчынай ды памяцьцю пра яе і кожным чалавекам, грамадой, народам – мы. Вось чаму розныя “ідэёлягі” ўкладаюць столькі намаганьняў у фальсыфікацыю гісторыі. І менавіта таму важна ведаць найбольш блізкую да праўды вэрсію сваёй гісторыі і не дазваляць тую праўду пэцкаць.

*Перадайце пра гэта дзецям вашым;*
*А дзеці вашыя хай скажуць сваім дзецям,*
*А іхныя дзеці наступнаму роду.*
(з Кнігі Ёіля)

Тут я перадусім маю на ўвазе лёс Курапатаў пад Менскам (510 супольных магілаў у лесе) і захаваньне ў гістарычнай памяці масавых забойстваў грамадзянскага насельніцтва, што зьдзяйсьняла НКУС у 1937–1941 гадах (да нападзеньня Германіі на Савецкі Саюз). Ад 1939 году ахвярамі там былі пераважна палякі і польскія грамадзяне, жыхары т.зв. Заходняй Беларусі і, магчыма, балтыйскіх краінаў (Е. Гарэлік “Курапаты.

Польскі сьлед”. Варшава, 1996). Толькі ў 1988 годзе гучны артыкул “Курапаты – дарога сьмерці” Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, апублікаваны ў тыднёвіку “Літаратура і мастацтва”, прымусіў улады заняцца гэтай справай. Пракуратура наладзіла грунтоўнае сьледзтва. Рабілася эксгумацыя некалькіх магілаў і дакладная экспэртыза рэштак целаў ды знойдзеных там прадметаў. Было праведзена шмат размоваў з вочнымі сьведкамі экзэкуцыяў і зь сем’ямі, якія мелі падставы лічыць, што іх блізкія загінулі менавіта ў Курапатах. Пасьля адназначнага заключэньня пракуратуры (а то быў час галоснасьці і перабудовы) на вяршыні просекі, зь якой адкрываўся від на разьлеглую тэрыторыю магілаў, устанавілі вялікі камень з прымацаванай да яго шыльдай, якая інфармуе, што “У гэтым лясным масіве, згодна з рашэньнем Савету Міністраў БССР ад 18.1.1989 г., будзе пабудаваны помнік ахвярам масавых рэпрэсіяў 1937–1941 гг”. У 1997 годзе, калі я была там апошні раз, сымбалічны камень працягваў нагадваць пра будучую пабудову помніка, але ўжо добра пабляклымі літарамі. Нешта накшталт мэмарыялу зьявілася ніжэй: вялікі прыгожы крыж Беларускага Народнага Фронту “Пакутнікам Беларусі”, крыж “Straïy Mogii Polskich”, польскай арганізацыі для апекі над ваеннымі пахаваньнямі, каменная лавачка Клінтана і шмат іншага. Аднак цяпер месца вечнага спачыну стольніх ахвяраў таталітарызму зноў пад пагрозай зьнішчэньня. Толькі супрацьстаяньне моладзі, якая арганізавала доўгатрывалую кругласутачную блякаду

працаў па будаўніцтве кальцавой трасы вакол гораду, прымусіла ўлады перасунуць дарогу, якая, згодна з плянам, павінна была праходзіць менавіта праз могілкі. Нядаўна я чытала рашэньне пра зьмену назвы вуліцы Курапацкай на Вінаградную, маўляў, дзеля клопатаў пра псыхалягічнае самапачуваньне тамтэйшых жыхароў.

***

Так сталася, што я пішу пра сваё бачаньне Беларусі на рубяжы лютага й сакавіка. Дата 5 сакавіка 1940 году ў палякаў адназначна асацыюецца з пастанаўленьнем Палітычнага Бюро ВКП(б) Савецкага Саюзу пра “прымяненьне вышэйшай кары” да польскіх афіцэраў, ваеннапалонных і арыштаваных у 1939–1940 гг. найлепшых прадстаўнікоў польскай інтэлігенцыі (прафэсароў, юрыстаў, дактароў, паліцэйскіх, кіраўнікоў лясніцтваў). Згодна з тым рашэньнем, загінула 22 тысячы асобаў, ня лічачы сем’яў расстраляных, якія былі вывезеныя ў Сібір і Казахстан, адкуль вярнуліся ня ўсе. Катыньскае злачынства (Катынь, Меднае, Харкаў) да цяперашніх дзён канчаткова не асуджанае. Інфармацыі пра месца забойстваў у рамах той жа акцыі каля 7 тысяч асобаў зь Беларусі дагэтуль ня знойдзена. Хіба ж столькі людзей магло загінуць ад стрэлу ў патыліцу безь ніводнага дакумэнту, безь сьлядоў прысуду? І ці насамрэч гэтай дакумэнтацыі няма ў архівах, як было сказана польскім дасьледчыкам у Міністэрстве ўнутраных справаў і бясьпекі ў Менску?

Замест пакаяньня й асуджэньня вінаватых, праз гады тут і там у расейскай і беларускай прэсе зьяўляюцца спробы адперціся ад гэтага злачынства й прыпісаць яго немцам. Гэтаксама як у адносінах да Курапатаў і іншых месцаў масавых экзэкуцыяў у Беларусі (напр., Барысава, Чэрвеня, Мазыра, Вялейкі і др.) – разам каля 250 тыс. загінулых. “Грамадзтву абыякавыя злачынствы мінулага, бо занадта многа людзей у іх удзельнічала”. Гэта словы Аляксандра Якаўлева, кіраўніка Камісіі па справах рэабілітацыі ў Расеі, над якімі кожны павінен задумацца (“Rzecz o ksiąïkach”, люты 2005, дадатак да газеты “Rzeczpospolita”).

“Людзі людзям прыгатавалі той лёс” (Зося Налкоўская). Пра гэта трэба памятаць, – але ня дзеля таго, каб сьпеліць варожасьць. А наадварот, дзеля таго, каб супольна стрымаць нянавісьць й дурноту, дзьве найвялікшыя чалавечыя хібы, якія ў міжнародных стасунках заўсёды могуць абярнуцца незьлічонымі бедамі.

Травеньскія ўрачыстасьці (2005 г.) у гонар 60-годзьдзя пераможнага заканчэньня Другой сусьветнай вайны ў Маскве зноў нагадалі нам, што для Польшчы й сьвету тая вайна пачалася 1 верасьня 1939 году. Калі пасьля нямецкага нападу на Польшчу 17 верасьня 1939 году Чырвоная армія ўдарыла з усходу, польская дзяржава была падзеленая на дзьве акупацыйныя зоны: нямецкую й савецкую. Але ў сьвядомасьці большасьці грамадзянаў былога Савецкага Саюза існуе толькі т. зв. Айчынная вайна, якая пачалася паміж Германіяй й СССР 22 чэрве-

ня 1941 г. Я пераканалася ў гэтым падчас палявых соцыялінгвістычных дасьледаваньняў у Беларусі. Тэма вайны неаднаразова гучала ў аповедах старых людзей. Але ж яны ня чулі ані пра пакт Молатава-Рыбэнтропа, ані пра збройны напад саветаў на польскую дзяржаву ў той час, калі яна змагалася з магутнай нямецкай арміяй. Для нашых суразмоўцаў гэта было выключна вызваленьне Заходняй Беларусі й Заходняй Украіны. Але ж калі мы жадаем захоўваць добрыя партнэрскія стасункі паміж нашымі краінамі-суседзямі, мы павінны пачынаць зь ведаў пра факты, нават калі гэтыя веды могуць значыць нешта зусім іншае для кожнага з народаў. Я паўтару: гістарычная памяць важная ня толькі для разуменьня мінулага. Яна грае значную ролю ў будаваньні будучыні, і таму нам трэба дбаць пра яе праўдзівасьць.

***

На заканчэньне хачу згадаць дзьве розныя карціны, якія дазваляюць мне аптымістычна думаць пра будучыню Беларусі. Першая – гэта бітма набітая, ахопленая энтузыязмам заля Опэрнага тэатру ў Менску 25 сакавіка 1993 г. На сцэне тагачасны палітычны авангард. У залі не змаўкаюць воклічы “Жыве Беларусь!”. Старыя й маладыя. Манахіні й салдаты ў мундырах. Паэты й працоўныя. Дыпляматычны корпус віншуе: “Жыве Беларусь!”

Другая карціна – гэта ўшанаваньне, выказанае грамадзтвам Васілю Быкаву, які вярнуўся на Радзіму

“назаўжды”. Хвалюючая бясконцая плыня людзей, што накіроўваюцца да Дому літаратара, каб разьвітацца зь пісьменьнікам (дакумэнтальны фільм “Вяртаньне”). Павага й спакой, кветкі, вельмі шмат блакітных васількоў, бел-чырвона-белыя сьцягі. На чале пахавальнай працэсіі вядомыя паэты-сябры, што па чарзе нясуць цяжкі драўляны крыж.

“Народ паказаў, як ён цэніць сваю аўтэнтычнасьць”, – сказаў у дыскусыі пасьля прагляду “Вяртаньня” малады рэжысэр фільму.

*Пераклала з польскай Марына Шода*

# НЕТЫПОВАЕ ГРАМАДЗТВА

## Рышард Радзік

На фоне Эўропы беларусы – грамадзтва нетыповае. Я пішу “грамадзтва”, а ня “нацыя”, бо, згодна з агульнапрынятым азначэньнем нацыі, гэты тып супольнасьці патрабуе зафіксаванай нацыянальнай сьвядомасьці – пажадана шырока распаўсюджанай і досыць разьвітай. Беларусы і жыхары ўсходняй Украіны фармаваліся як сучасныя грамадзтвы, абапіраючыся на іншыя тыпы сувязі, чым нацыянальны. З гэтага гледзішча ў Эўропе яны зьяўляюцца выразным адступленьнем ад правілаў. Таму для сацыёляга, якім я ёсьць, беларусы – цікавы аб’ект для дасьледаваньняў.

Прадстаўленым тут разважаньням значна больш адпавядала б назва *Хто такія беларусы і як фармавалася сучасная беларускасьць*? Але праблема заключаецца ў тым, што тэрмін беларускасьць (таксама як польскасьць і расейскасьць) хоць и існуе ў беларускай і польскай мовах, аднак яго немагчыма перакласьці на ангельскую і расейскую (а гэтая праца мае быць выдадзеная таксама на ангельскай і расейскай мовах). У большай ступені я маю за мэту хутчэй прааналізаваць паўставаньне беларусаў у іх сучасным вобразе, чым апісваць фармаваньне грамадзтва, то бок яго структураў, сувязяў ды інстытуцыяў, якія

разам ўзятыя перавышаюць беларускасьць у культурным ды ідэнтыфікацыйным сэнсах. Да таго ж сама размова пра беларускае грамадзтва ў XIX ст. здаецца не зусім карэктнай (дакладней было б карыстацца тэрмінам *грамадзтва Беларусі*, паколькі тады яшчэ не было сёньняшняга разьмежаваньня Літвы і Беларусі, а панятак *Беларусь* меў іншыя канатацыі й іначай разумеўся). Бадай, найбольш правільна было б казаць пра беларускую этнічную групу як адзін з складнікаў грамадзтва былога Вялікага Княства Літоўскага, хаця ў XIX ст. гэтае грамадзтва было ўжо моцна фрагмэнтаваным. Панятак "грамадзтва" прадугледжвае сьвядомае разуменьне адрознасьці пэўнага адзінства, аб'яднанага ўнутранымі сувязямі ды супольнымі інстытуцыямі. Беларусы не ўтваралі такога супольніцтва ў XIX ст.

Таксама я мушу падкрэсьліць, што маё бачаньне Беларусі і беларусаў – гэта погляд дасьледніка, які ўжо шмат гадоў цікавіцца ўсходнім суседам. Таму ён нетыповы для палякаў, якія звычайна маюць досыць абмежаваныя веды што да Беларусі, беларусаў і беларускай культуры. Сярэдні паляк ведае значна больш пра краіны Заходняй Эўропы, чым пра Беларусь, якая часьцей успрымаецца дзякуючы мас-мэдыя, праз прызму сэнсацыяў, зьвязаных зь дзейнасьцю прэзыдэнта Лукашэнкі. Прадстаўленыя тут разважаньні – гэта апісаньне мэханізму, дзякуючы якому беларусы існуюць у іх цяперашняй форме. І таму ў гэтай працы мы абмінем зьявы, якія ня мелі вырашальнага значэньня ў працэсе фармаваньня сучаснага беларускага грамадзтва.

## I. XIX стагодзьдзе – у межах традыцыі

Разважаючы пра рэаліі XIX ст., варта пазьбягаць прыпісваньня людзям, што жылі ў тыя часы, мысьленьня катэгорыямі, праз якія мы цяпер глядзім на сябе і свае асяродкі існаваньня. Той сьвет быў больш блізкі рэаліям апошніх дзесяцігодзьдзяў упадку Рэчы Паспалітай (то бок канца XVIII ст.), чым рубяжу XX і XXI стст. Людзі той пары часьцей за ўсё жылі ў лякальных супольнасьцях, галоўным чынам вясковых, зьвязаных сваяцтвам і штодзённымі кантактамі са знаёмымі. Гэта былі замкнутыя групоўкі з выразным саслоўным падзелам. Дамінавала шанаваньне традыцыйнай, у значнай ступені сакралізаванай, культуры. Час, асабліва ў вёсцы, ня меў лінейнага вымярэньня. Ён быў замкнуты ў чатырох порах году (мысьленьне – у катэгорыях *тут і цяпер*) і выяўляўся ў колькасных зьменах, а ня ў якаснай эвалюцыі супольніцтва. Людзі жылі ў атачэньні мітаў, казак і легендаў. Дамінаваў вусны пераказ; да кнігаў зьвярталіся галоўным чынам нешматлікія эліты. Знаёмства зь сьветам рэдка выходзіла за бліжэйшае навакольле і тычылася пераважна шляхты. Амаль 90% жыхароў цяперашніх беларускіх земляў жыло ў вёсцы, і большасьць зь іх ня ўмела чытаць і пісаць. Панаваў традыцыяналізм, стабільнасьць і кансэрватызм. Так працягвалася аж да адмены прыгоннага права (да 60 гадоў XIX ст.). Але і распачатая індустрыялізацыя гэтых земляў амаль да канца веку была яшчэ слабой, гэтаксама як і ўрбанізацыя, грамадзкі рух і ўзровень асьветы (вынік рэпрэсійных дзеяньняў царскай ула-

ды). Адным словам, тэмпы мадэрнізацыі былі нават ніжэйшымі, чым у першыя дзесяцігодзьдзі XIX ст. З гэтага гледзішча Беларусь усё больш адставала ад Эўропы.

У сьвядомасьці жыхароў беларускіх земляў таго часу не было падзелу *я – беларус, ты – паляк* у яго цяперашнім сэнсе. Па-першае, словы “Беларусь”, “беларус” ужываліся толькі адносна сучаснай усходняй Беларусі, да таго ж цягам усяго веку гэтыя словы мелі характар хутчэй тапанімічны, чым агульнаэтнічны. Сяляне лічылі сябе тутэйшымі, мясцовымі, пінчукамі, зарэчанамі, палешукамі, веры польскай (каталіцкай) ці рускай (праваслаўнай). Яны думалі ў катэгорыях вёскі, парафіі, ваколіцы, рэдка выходзячы за гэты абсяг. Вонкавы сьвет ім быў амаль невядомы – таму яны ня мелі нацыянальнай сьвядомасьці: ані беларускай, ані польскай. Каб набыць яе, яны павінны былі яшчэ адукавацца, узмацніць сувязі з сьветам па-за межамі лякальнага супольніцтва, зразумець, чым ёсьць Беларусь – яе гісторыю, межы і культуру.

Ігнацы Яцкоўскі ў 1858 годзе пісаў, стасуючы свае словы да тэрыторыі цяперашняй Беларусі: “Нашыя халопы на Літве ў рускай гаворцы ня маюць слова “войска”, але, гаворачы “маскалі”, маюць на ўвазе – “жаўнеры” ці “войска”, бо звыклі бачыць “маскалёў” толькі ў мундурах; не вайсковых, якія часам зьяўляюцца, называюць “бурлакамі”, і такіх наш халоп ніколі “маскалём” не назаве. Расеец у фраку называецца “панам”, а ў фуражцы з чырвоным абводам – то “асэсар”. Прышлых яны ўспрымалі згодна з саслоўнай ці клясавай, а не нацыянальнай прыналежнасьцю. І гэта

зразумела, бо ўспрыманьне ў нацыянальных катэгорыях патрабавала ўласнай нацыяналізацыі. Эма Яленьска, гаспадыня вёскі Камаровічы, у Мазырскім павеце, пісала на пачатку 90-х гг. XIX ст. пра сялянаў сваёй вёскі: “На іх перакананьне халоп-мужык на цэлым сьвеце абсалютна падобны да іх, кажа па-беларуску, папросту і вызнае такую самую, праваслаўную, веру”. Такое бачаньне вынікала зь недахопу ведаў пра шматнацыянальны характар сьвету. Беларускія сяляне да канца XIX ст. думалі ў катэгорыях малой, а не вялікай айчыны – аб’яднанай ідэалягічнымі сувязямі краіны. Словы, якімі яны пазначалі самі сябе, іх сутнасны сэнс і ўяўленьне пра тэрытарыяльныя межы паказвалі на тое, што – нягледзячы на несумнеўную эвалюцыю, якая адбывалася з беларускім грамадзтвам у XIX ст. – беларусы ўсё яшчэ не былі здольныя на больш шырокія ідэалягічныя абагульненьні, што характарызуюць нацыю.

Дык які характар мела беларускае грамадзтва тых часоў? Да якой ступені яно было беларускім? Падзеньне Рэчы Паспалітай сфармавала палітычную нацыю, якая аб’яднала эліты розных этнічных групаў, перадусім польскай, украінскай, беларускай і літоўскай. Для гэтых элітаў – галоўным чынам шляхты – нацыя была супольнасьцю надэтнічнай. Яе злучалі шляхецкія вольнасьці і дзяржаўнасьць, бо дзяржава належала шляхце, а ня шляхта дзяржаве (каралю, уладзе). Падобнае адбылося ў канцы XVIII ст. у Францыі ў выніку рэвалюцыі – нацыянальная, грамадзянская ідэя ахапіла ўсё рознаэтнічнае грамадзтва. Правансальцы, брэтонцы, эльзасцы пачалі

лічыць сябе французамі. Эліты Беларусі, асабліва ў XVII і XVIII стст., падпалі (перадусім добраахвотна) пад палянізацыю. Шляхецкасьць і правы, якія былі ў польскай шляхты, зьяўляліся для элітаў Вялікага Княства Літоўскага настолькі прывабнымі, што разам з правамі яны пераймалі польскую культуру. Але сярэдняя шляхта на абшарах сучаснай Беларусі была цалкам спалянізаваная толькі ў першыя тры дзесяцігодзьдзі XIX ст., у пэрыяд дзейнасьці Віленскага ўнівэрсытэту (і Віленскай школьнай акругі). Дробная шляхта засталася пераважна беларускамоўнай, хаця яе каталіцкая частка звычайна лічыла сябе польскаю. Аднак гэтая польскасьць адрозьнівалася ад сучаснай. Яна была палітычнай (хаця часта падсілкоўвалася культурай польскага этнасу), а не – як цяпер – культурнай (этнічна-моўнай). То бок у той час ня мова стварала нацыю (не яна была яднальнай вартасьцю), а палітычныя правы (як у рэвалюцыйнай Францыі – толькі там для ўсяго народу). Гэты тып нацыі ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе зьнік у выніку падзелаў Рэчы Паспалітай і распаду Аўстра-Венгерскай імпэрыі. Палітычныя нацыі не маглі існаваць безь дзяржавы.

Распад палітычных нацыяў даў шанец на нацыянальнае гуртаваньне плебейскім супольнасьцям Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, перадусім чэхам, славакам, украінцам, літоўцам і беларусам. “Маладыя” нацыі – хаця і мелі шматвекавую традыцыю – фармаваліся, абапіраючыся не на элітарную культуру шляхты і яе этнас (як гэта было ў польскім выпадку), а на культуру народных масаў. На абшарах былой Рэчы Паспалітай шляхта ў сваёй масе ўсё яшчэ лічылася

польскаю, а беларускую і ўкраінскую культуру асацыявала зь сялянскасьцю. Сярод шляхты былі, канечне, выключэньні, але не яны выяўлялі этнас “новых” нацыяў. Пошук формы сучаснага беларускага грамадзтва доўжыўся цэлае XIX ст. выключна на ўзроўні элітаў. Каталіцкія эліты (а ў момант падзеньня Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. пераважная большасьць шляхты была рыма- ці грэка-каталіцкаю) цягам усяго стагодзьдзя думалі пра сябе ў катэгорыі *gente Lithuani, natione Poloni* (роду літоўскага, нацыі польскай). Гэта быў адгалосак успрыманьня сябе як грамадзяніна Рэчы Паспалітай і адначасова яе складовай часткі – Вялікага Княства Літоўскага. Абедзьве гэтыя катэгорыі мелі палітычны характар, хаця польскасьць узвышалася над літоўскасьцю. Складнікам Літвы як малой айчыны была Беларусь. *Gente Rutheni*, дарэчы, было вытворным ад *gente Lithuani* і несла пэўную культурную спэцыфіку, адметнае ўсьведамленьне сваёй праваслаўнай рускасьці (але ні ў якім разе не расейскасьці).

Выхаваная ў такіх катэгорыях мысьленьня шляхта пачала ў XIX ст. – несумненна пад уплывам ідэяў асьветніцтва і рамантызму – беларускі культурны (пераважна літаратурны) рух, але не нацыянальна-палітычны. Сярод яго культурных герояў перадусім варта назваць – у парадку зьяўленьня – Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Канстанціна Каліноўскага і памерлага ў 1900 годзе Францішка Багушэвіча. Для шляхты атаясамленьне сябе з народам і яго культурай было надзвычай цяжкай справай. Яно патрабавала адмовіцца ад саслоўна-культурнай

элітарнасьці, якая вызначалася перадусім шляхецкасьцю. Для тых літаратараў, што кожны дзень пісалі і размаўлялі па-польску, іх беларускамоўная творчасьць – найчасьцей маргінальная стасоўна польскамоўнай – была пераважна забаваю, хаця досыць часта мела і больш сур’ёзную матывацыю: пазнаваўчую, навуковую, сацыяльную. Гэтыя літаратары прагнулі зблізіць культуры народу і эліты і там самым узбагаціць агульнанацыянальную культуру. Разам з тым яны імкнуліся далучыць сялянства да нацыянальнай супольнасьці, усё яшчэ зразуметай па-асьветніцку – надэтнічна. У гэтым кантэксьце ў першай палове XIX ст. і распачалася сучасная беларуская культура, галоўным чынам у этнаграфічна-літаратурным варыянце. Яе стваральнікі не намагаліся дэзынтэграваць традыцыйную грамадзкую сыстэму, а толькі хацелі правесьці пераацэнку адной зь яе асноўных частак. Дарэчы, сацыяльны статус ініцыятараў літаратурнай беларускасьці XIX ст., а таксама нацыянальны зьмест іх твораў значна розьніліся ад напісанага сялянскім сынам Тарасам Шаўчэнкам ці маладымі сэмінарыстамі, што стварылі ўкраінскую “Рускую Тройку” ў Галіцыі, як і ад твораў, якія пісалі аўтары літоўскай “Аўшры”, што таксама паходзілі з народу.

Толькі невялікая частка каталіцкіх элітаў прагнула разьвіваць беларускую культуру, якая адначасова разумелася як бар’ер, што бароніць краіну ад русіфікацыі. Зрэшты, і гэтага хапіла, каб расейцы – незалежна ад сілы культурнага і (з часам) нацыянальнага развою беларускага грамадзтва – назвалі ўсё гэта “польскай інтрыгай”. Беларуская літаратура XIX ст., якая ства-

ралася ў народным ці клясавым кантэксьце, зрабілася ў наступным стагодзьдзі істотнай часткай беларускай ідэалёгіі, як у яе нацыянальным, так і савецкім варыянце.

Нягледзячы на дасьледаваньні культуры беларускага народу, распачатыя ў Віленскім унівэрсытэце ўжо ў другім дзесяцігодзьдзі XIX ст., і стварэньне літаратуры на мове гэтага народу, ідэя беларускай нацыі на тэрыторыі Беларусі тады не была сфармулявана. Што цікава, першы раз яе агучылі ў першай палове 80-х гадоў у асяродку петэрбургскіх народнікаў (то бок па-за Беларусьсю), які галоўным чынам складваўся з студэнтаў Петэрбургскага ўнівэрсытэту, чальцоў і прыхільнікаў расейскай "Народнай Волі". У двух нелегальна выдадзеных у 1884 годзе нумарах часопіса "Гоман" (па-расейску) была сфармуляваная ідэя беларускай нацыі, адслоненай ад польскасьці і каталіцызму, але аб'яднанай з Расеяй у якасьці паўнавартаснага чальца будучай фэдэрацыі. Сытуацыя, у якой узьнік "Гоман", была, між іншага, сьледзтвам паразы паўстаньняў (1831 і 1863 гг.), ліквідацыі Віленскага ўнівэрсытэту (1832) і насьпелай неабходнасьці нацыянальнага адукаваньня беларускіх элітаў (у Расеі ці за межамі царскай імпэрыі). Зьмест выданьня сьведчыў пра эвалюцыю, не да канца яшчэ ўсьвядомленую, беларускага грамадзтва ад трывалых повязяў з польскасьцю (а таму і эўрапейскай культурай у яе ляцінскім варыянце) да канцэптуальнага ўлучэньня ў расейска-праваслаўнае культурнае кола. "Гоман" быў першым зародкам гэтай глябальнай падзеі. Але рэальнага ўплыву "Гоману" на нацыяўтваральныя працэсы амаль не было. Гоманаўцы не пакінулі пасьля сябе

ані наступнікаў, ані выразнага сьледу ў сьвядомасьці стваральнікаў беларускай нацыянальнай ідэалёгіі перадрэвалюцыйнага пэрыяду XX ст.

Відавочна, што мэтаю расейцаў пасьля захопу Беларусі стала паступовая русіфікацыя беларусаў. Гэтаму павінна была служыць ліквідацыя ўніяцкай царквы (1839) і пераход уніятаў у праваслаўе. Русіфікаваныя праваслаўныя эліты часта засяроджваліся на блізкіх ім элемэнтах рэгіянальнай культуры, спрыялі ўтрыманьню – у межах шырока разуметай расейскай супольнасьці – лякальнага патрыятызму, праўда, заўсёды злучанага з расейскацэнтрызмам і любоўю да Расеі. Расейскае было для іх чымсьці значна шырэйшым, чым беларускае. У гэтых умовах актыўна разьвіваўся (ідэалягічна адметны) заходнерусізм. Ён меў выключна расейскамоўны характар. У XX ст. заходнерусы супрацьпаставілі сябе беларускаму нацыянальнаму руху, усё яшчэ ўяўляючы яго “польскай інтрыгай”. Асяродак заходнерусаў мае значна большыя заслугі ў разьвіцьці этнаграфіі, чым беларускай мовы, якая ўспрымалася расейцамі як патэнцыйна канкурэнтная. Заходнерусы адрозьніваліся ад *gente Lithuani, natione Poloni* XIX ст. тым, што аўтаномнасьць Беларусі цікавіла іх у значна меншай ступені. Яны імкнуліся падпарадкаваць яе большай (расейскай) супольнасьці, а беларускую адрознасьць ацэньвалі перадусім у катэгорыях этнаграфіі, лякальнасьці, сантымэнту, не звяртаючы ўвагі на палітычна-рэгіянальны кантэкст, як і на традыцыю прыналежнасьці да Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Этнічна-нацыянальны ўклад Беларусі ня быў укладам расейцаў, таму яны спрабавалі яго зьнішчыць.

У якой ступені XIX ст. паўплывала на фармаваньне будучай беларускай супольнасьці? Які лёс напаткаў у наступным стагодзьдзі тагачасныя формы беларускай культуры (мы іх налічваем пяць – сярод іх польска-беларуская і расейска-беларуская) і зьвязаных зь імі сацыяльных стратаў былога Вялікага Княства Літоўскага? Першая форма абмяжоўвалася сялянамі, то бок пераважнай большасьцю былога беларускага грамадзтва (паводле перапісу насельніцтва ад 1897 году, аж 97,7% беларусаў жыло ў вёсцы, сярод іх была таксама дробная шляхта, якая часта ня лішне адрозьнівалася побытам ад сялянаў). Несумнеўна, вясковы характар беларускага грамадзтва паўплываў на яго пазьнейшы лёс. Хаця форма сялянскай супольнасьці зь цягам часу, зразумела, мянялася. Некалі сяляне вызначалі сябе амаль выключна ў катэгорыях тутэйшасьці і сваяцтва. Яны амаль ня мелі кантактаў з шырэйшым за іх наваколье сьветам. “Камунікацыя паміж дзьвюма вёскамі, – пісала ў канцы XIX ст. ужо цытаваная Эма Яленьска, – вельмі рэдкая. У асноўным перасоўваюцца жыды, а сярод сялян сустракаюцца людзі, якія цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў свайго жыцьця не наважыліся на далейшую за пару вёрстаў вандроўку”. Сучасны беларускі селянін – як і ўва ўсёй Эўропе – умее чытаць ды пісаць і разважае ў ідэалягічных катэгорыях (праўда, яны ў яго цалкам савецкія, а не нацыянальныя). А сваю беларускую ідэнтычнасьць ён успрымае пераважна ў дыялекталягічным і этнаграфічным вымярэньнях, гэта значыць як нешта другараднае адносна гарадзкой (расейскай) культуры.

Другую форму беларускай культуры ў XIX ст. стваралі прыхільнікі ідэі *gente Lithuani (Rutheni), natione Poloni* праз сваю родавую сувязь зь беларускім мінулым, мясцовымі традыцыямі, культурай і рэлігіяй (аднак гэтая сувязь заўсёды была пазначаная шляхецкім патэрналізмам і саслоўнай пыхаю). Разам са зьнікненьнем шляхты (у тым ліку і праз яе фізычнае зьнішчэньне пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі) і пераарыентацыяй пераважнай большасьці беларусаў на Маскву і расейскую культуру, гэтая сацыяльная група (плён якой амаль не заўважны ў сучасным стане беларускай культуры), улучна з сваім спэцыфічным успрыманьнем рэальнасьці, перастала існаваць.

Трэцяя форма культуры вырастала непасрэдна з другой, яна мела шляхецкі, але адначасова і беларускі характар, прынамсі ў літаратурна-культурным (але не ў нацыянальна-палітычным) вымярэньні. Яна таксама зьнікла ў мінулым, бо сацыяльная аснова сучаснай беларускай культуры не шляхецкая, а інтэлігенцка-плебейская і абапіраецца на выразнае нацыянальнае вымярэньне.

Чацьвёртая форма беларускасьці XIX ст. ужо мела нацыянальнае вымярэньне і была зьвязаная зь дзейнасьцю групы гоманаўцаў. У наступным стагодзьдзі яна заўсёды знаходзілася ў меншасьці, пераважна абмяжоўваючыся элітамі краіны. Яны часта, хай сабе і несьвядома, зьвярталіся да сваіх “пэтэрбургскіх вытокаў”.

Пятая форма – заходнерусізм – найбольш паўплывала на мысьленьне беларусаў наступнага стагодзьдзя. Заходнерусізм пасьля рэвалюцыі 1917 году быў пера-

фармаваны і, набыўшы савецкі кшталт, пераважаў у Беларусі (у сваёй абноўленай форме ён – пакуль што – дамінуе і ў незалежнай беларускай дзяржаве). Яго цяперашняя форма адрозьніваецца ад мінулай тым, што калі заходнерусы XIX ст. лічылі сябе адначасова беларусамі і расейцамі (рускімі), дык большасьць сучасных беларусаў расейцамі сябе ня лічаць, паколькі за гэты час моцна разьвілося пачуцьцё рэгіянальнай адрознасьці.

Варта зазначыць, што беларускі этнас перажыў XIX ст. і захаваўся ў некаторай ступені дзякуючы падзелу Рэчы Паспалітай і захопу краіны Расеяй. У выніку чаго фармаваньне палітычнай польскай нацыі ня выйшла за межы элітаў, пераважна шляхецкіх. Сялянская культура беларускай этнічнай групыператрывала гэты час ня толькі праз адсталасьць краіны і закрытасьць сялянскіх супольнасьцяў ад уплываў звонку, але таксама праз тое, што пазбаўленая дзяржаўнасьці і рэпрэсаваная царскімі ўладамі польская культура была занадта слабою, каб мясцовыя сяляне масава пераймалі яе, а расейская была яшчэ замала ўкарэненая, каб хутка распаўсюдзіцца сярод простага насельніцтва (хаця частковай палянізацыі падверглася ў той пэрыяд літоўскае насельніцтва Віленшчыны). Можа быць, захаваньне Рэчы Паспалітай прывяло б, з аднаго боку, да фармаваньня сучаснай палітычнай польскай нацыі (праз асыміляцыю палякамі беларусаў), а з другога – у дзяржаве, значна больш дэмакратычнай, чым Расея, павялічыліся б шанцы на больш ранняе паўстаньне беларускага нацыянальнага руху. Культурнае падпарадкаваньне Расеі прывяло да таго,

што масы праваслаўнага беларускага народу выразна дыстанцыяваліся ад нацыянальнай беларускасьці як у царскай Расеі пасьля 1905 г., так і ў СССР, не паддаючыся нацыянальным беларускім элітам, якія значна ахвотней, чым народ, зьвярталіся да заходніх каштоўнасьцяў.

На думку шматлікіх дасьледнікаў, у тым ліку Лія Грынфільда, нацыі ў Эўропе ў апошнія больш за дзьвесьце гадоў былі носьбітамі каштоўнасьцяў, што фармавалі сучасныя грамадзтвы. Ненацыяналізаванасьць беларусаў была прычынаю слабасьці мадэрнізацыйных тэндэнцыяў у грамадзтве, асабліва заўважных у XIX ст. (і ў незалежнай Беларусі пасьля 1991 году). Можна працягваць аналізаваць, чаму беларусы масава не былі ахопленыя нацыятворчымі працэсамі ў XIX ст. Але прычынаў гэтаму было вельмі шмат, каб мы маглі засяроджвацца на іх далей. Падкрэсьлім толькі яшчэ раз: беларускае грамадзтва было тады амаль выключна сялянскім і праваслаўным, што правакавала незвычайна моцную (у параўнаньні з каталіцызмам) заглыбленасьць жыхароў вёскі ў рэаліі багатай народнай культуры, якая адмяжоўвала адзінку ад вонкавага сьвету, як чужога і не зусім рэальнага (ува ўсходняй Беларусі дадаткова замыкаючыся ў сыстэме *абшчынаў*). З лякальнай групай адзінку ядналі толькі непасрэдныя, але вельмі шчыльныя сувязі. Праваслаўная вясковая супольнасьць не была здатная да выхаду ў сьвет вялікіх ідэяў. Разам з тым, можна дапусьціць, што багацьце праваслаўнай культуры, якая моцна інтэгравала мясцовыя лякальныя супольніцтвы, было адным з фактараў, якія баранілі

беларускія праваслаўныя (а раней уніяцкія) вясковыя супольніцтвы ад выцясьненьня (ці асыміляцыі) іх этнічнай культуры іншымі менш багатымі народнымі культурамі, у прыватнасьці – польскай. У той жа час рымскі каталіцызм, выцясьняючы духоўную культуру, якая мела дахрысьціянскія карані, часткова ўніфармізаваў каталіцкія супольнасьці і тым аблегчыў ім выхад у вонкавы сьвет, падвысіў шанцы на грамадзкую актыўнасьць, у тым ліку і нацыятворчую. Касьцёл, у супрацьлегласьць Царкве, быў нават здольны да нацыянальнага сэпаратызму (напрыклад, літоўскі Касьцёл). Важна, што ліквідацыя ўніяцкага Касьцёла пазбавіла беларусаў істотнага адрозьненьня як ад палякаў, так і ад расейцаў, і тым пазбаўляла іх дадатковага шанцу (як у выпадку з галіцыйскімі ўкраінцамі) нацыянальнага гуртаваньня. Сур'ёзнай праблемай была і палітыка царскіх уладаў – ворага беларускіх нацыянальных тэндэнцыяў, – якая цягам 40 гадоў (да 1905 г.) не дазваляла друкаваць беларускія кнігі і да канца свайго існаваньня забараняла выкладаньне на беларускай мове. Царызм лічыў беларусаў расейцамі, іх заходнім адгалінаваньнем, якое набыло спэцыфічныя рысы толькі пад узьдзеяньнем польскай культуры. Гісторыя сыстэмна фальсіфікавалася, і нідзе нават ня згадвалася, што руская традыцыя Кіева і Полацку (а пасьля беларуская і ўкраінская) была багацейшая і на стагодзьдзі старэйшая, чым Масквы і – асабліва – Пецярбурга, гарадоў, узьведзеных на заваяваных, першасна неславянскіх, землях.

Падсумоўваючы можна сьцьвярджаць, што XIX ст. было для беларусаў – галоўным чынам для бела-

рускага сялянства – стагодзьдзем супрацьстаяньня на іх тэрыторыі дзьвюх вялікіх палітычных сілаў (і культураў) – расейскай і польскай, і дзьвюх рэлігіяў – праваслаўнай і каталіцкай. Беларускія сяляне замест таго, каб нацыянальна разьвівацца, аб’ядноўваліся – безумоўна, пад уплывам палітыкі царызму, якая правакавала канфлікт паміж рознымі супольнасьцямі Беларусі – вакол рэлігійнай прыналежнасьці і тым самым не выходзілі за межы сваёй этнічнасьці. З гэтага яны заставаліся ў даіндустрыяльных традыцыйных структурах. Нават у самым канцы XIX ст. адукаваных сялянаў у губэрнях, дзе пераважна жылі каталікі, было дваццаць зь нечым адсоткаў – галоўным чынам на захадзе краіны, – а ў губэрнях, дзе большасьць складалі праваслаўныя – толькі трохі больш за дзесяць адсоткаў. Беларускае грамадзтва адно ў мінімальнай ступені было ахоплена працэсамі індустрыялізацыі, урбанізацыі і грамадзкага руху. Таму беларусы не імкнуліся зазіраць у далёкую мінуўшчыну ці будучыню, яны проста жылі ў замкнутых лякальных супольнасьцях, асьцерагаючыся пераменаў. Шанавалі культуру продкаў, нагружанаю для іх сакральным зьместам, і не імкнуліся да новых ведаў, якія б апісвалі сучасны сьвет за межамі звыклай прасторы. Прыняцьце якой-небудзь вялікай ідэалёгіі для апісаньня сьвету – у клясавым або нацыянальным вымярэньні – патрабавала адмаўленьня ад яго ранейшай структуры. Мадэрнізацыя беларускага грамадзтва адбылася намнога пазьней. Нацыянальны рух распачаўся толькі на пачатку XX ст. як адзін з найпазьнейшых рухаў у Эўропе.

## II. XX стагодзьдзе – паміж нацыяй і савецкасьцю

На пачатку XX ст. у Беларусі адбыліся падзеі, якія неўзабаве маглі прывесьці да зьяўленьня новай эўрапейскай нацыі (і нават дзяржавы) паміж Расеяй і Польшчай. Зьявіўся – праўда, пакуль даволі слабы – беларускі нацыянальны рух, а з 1906 году пачалі фармавацца культурныя інстытуты і нацыянальная ідэалёгія. Здавалася, што беларусы выйшлі на дарогу, якую раней выбралі сабе іншыя эўрапейскія народы. Але ў іх адразу паўсталі сур'ёзныя праблемы. Па-першае, выявілася, што эліты, якія навярнуліся на беларушчыну, вельмі невялікія. Супрацьстаяньне цягам XIX ст. дзьвюх вялікіх элітарных культураў – польскай і расейскай – падзяліла тагачасныя беларускія эліты на два бакі. Да таго ж сытуацыю ўскладняў рэлігійны фактар. Каталікі аддавалі перавагу польскаму дыскурсу, а праваслаўныя – расейскаму. Сацыяльная прастора для чыста беларускай ідэі была вельмі вузкай. Заможныя эліты краіны (абшарнікі), якія жылі тут "спакон вякоў" і найчасьцей мелі беларускія карані, хоць часткова спрыялі нараджэньню сучаснай беларускай культуры, але вельмі рэдка – праз сваю шляхецкасьць – лічылі сябе беларусамі па нацыянальнасьці (такіх былі адзінкі). Іх праваслаўны адпаведнік, перадусім расейцы, прыбылыя з расейскай глыбінкі, напрыклад, абшарнікі, якія занялі канфіскаваныя расейскімі ўладамі пасьля паўстаньня 1863 г. маёнткі мясцовай шляхты, відавочна не маглі лічыць сябе

беларусамі, гэтаксама як і мясцовыя прадстаўнікі царскіх уладаў, адміністрацыі і войска. Заставалася дробная праваслаўная шляхта, сыны сьвятароў і дзеці сялянаў, якія трохі прыўзьняліся па лесьвіцы сацыяльнай герархіі. Хаця і сярод іх выявілася зусім няшмат адэптаў нацыянальнага адраджэньня. Бальшыня шляхты (калісьці ўніяцкай) вагалася паміж польскай і расейскай культурамі, а праваслаўныя сьвятары і іх дзеці сымпатызавалі заходнерускай ідэалёгіі, варожай беларускаму нацыяналізму.

Што праўда, падчас перапісу 1897 г. больш за 8 тысяч прадстаўнікоў інтэлігенцкіх прафэсіяў назвалі беларускую мову роднаю, але яны былі пасыўныя ў культурным і нацыянальным пляне, бо атрымалі адукацыю на расейскай ці польскай мове і часта тымі мовамі размаўлялі на працы. Іх прызнаньне беларускай мовы роднай паказвала на іх этнічнае паходжаньне, сантымэнт да асяродку, у якім яны расьлі, і яго мовы. Праблемаю было тое, што цягам усяго XIX ст. беларусы дабрахоць пераймаліся польскай ці расейскай культурай, лічылі гэта цалкам нармальным і не ўяўлялі, як можа быць іначай? Элітарная беларуская культура фактычна не існавала, і ў кожным разе на яе асабліва не зважалі, прынамсі не лічылі за рэальную альтэрнатыву. Пачатак XX ст. паказаў, што такі падыход заставаўся дамінуючым і ў сытуацыі зьяўленьня беларускага нацыянальнага руху, адпаведнай ідэалёгіі і выдавецтваў. Сяляне, нягледзячы на тое, што зь цікаўнасьцю чыталі беларускую прэсу, рэдка празь яе нацыяналізаваліся. Беларускую мову яны лічылі халопскаю. Пераймаю-

чыся, найчасьцей у гарадах, расейскай ці польскай, яны – як ім здавалася – сацыяльна падымаліся над сваім станам. Адсутнасьць элітарнай беларускай культуры спрычынілася і да таго, што пачынальнікі нацыянальнага руху, намагаючыся ахапіць сваім уплывам сялянства, ад пачатку надавалі сваёй ідэалёгіі выразнае клясавае вымярэньне, засяроджваючыся на плебейскіх праблемах. Выразны недахоп элітарнасьці ў беларускай культуры абмяжоўваў магчымасьць прыйманьня яе простымі людзьмі, якія імкнуліся падняцца па сацыяльнай лесьвіцы. Гэтая сытуацыя была адной з асноўных прычынаў, якія тармазілі працэс нацыяналізацыі беларусаў цягам усяго ХХ ст. (у немалой ступені яна застаецца актуальнай і сёньня).

У Польшчы і Расеі народ імкнуўся да культуры элітаў, бо яна далучала людзей да вершнасьці сацыяльнага быцьця. У Беларусі ўжо на самым пачатку нацыянальнага працэсу стварылася сытуацыя, якую можна было б назваць "нацыянальнай квадратурай кола". Адсутнасьць элітнай традыцыі змусіла маладыя і нешматлікія эліты не распрацоўваць элітарную культуру (традыцыйна прыўзьнятую над народам), а насычаць нацыянальную культуру народнасьцю, што ў сваю чаргу не адпавядала памкненьням тых, хто хацеў узвысіцца над сваім сацыяльным станам. Таму перад Першай сусьветнай вайной колы нацыянальна актыўных беларусаў складалі ад некалькіх дзясяткаў да пары соцень асобаў. Сяляне ў сваёй масе не былі падрыхтаваныя да нацыяналізацыі. Яны ня праглі беларускай нацыянальнай сьвядомасьці (таксама ра-

сейскай ці польскай), як і значная частка плебейскіх жыхароў гораду, якія паходзілі зь беларускіх вёсак. Беларускі нацыянальны рух паўстаў занадта позна і меў замала часу, каб зьмяніць нацыянальную сытуацыю ў Беларусі за дзесяць перадваенных гадоў. Зрэшты, прычынаў гэтай сытуацыі было зашмат, каб мы маглі тут усе іх згадаць. Плебеі-літоўцы атрымалі нацыянальную перамогу галоўным чынам дзякуючы свайму выразнаму моўнаму і рэлігійнаму (каталіцызм) адрозьненьню ад расейцаў, але ў гэтым ім дапамагла і палітыка царскіх уладаў, якія выкарыстоўвалі літоўцаў супраць палякаў. А беларусаў не ўспрымалі як іншых, бо беларуская культура не адрозьнівалася ад расейскай так выразна, як літоўская. Што цікава, беларускі нацыянальны рух аж да Першай сусьветнай вайны адбываўся пераважна ў заходняй Беларусі і быў вельмі слабы на ўсходзе краіны. Яго творцамі выявіліся – гэтаксама як у выпадку зь беларускай літаратурай мінуляга стагодзьдзя – пераважна каталікі, то бок людзі з празаходняй арыентацыяй, якім лягчэй, чым праваслаўным, было дыстанцыявацца ад Расеі. Каталіцызм – у параўнаньні з праваслаўем – больш спрыяў фармаваньню індывідуалізму і самаідэнтыфікацыі асобы, палягчаў пашырэньне сфэры вольнасьці, адзьдзяляў касьцёл ад дзяржавы (улады), прыватнае права ад публічнага і тым самым ініцыяваў актыўнасьць масаў. Пераважнае прадстаўніцтва каталікоў у беларускім нацыянальным руху было відавочным ня толькі на пачатку, але і пад канец XX ст., калі Беларусь атрымала незалежнасьць. Як тады, так і цяпер гэта ёсьць адной з асноўных

прычынаў адмоўнага стаўленьня да нацыянальнай ідэалёгіі праваслаўнай большасьцю грамадзтва.

Падчас Першай сусьветнай вайны беларускі нацыянальны рух разьвіваўся дзякуючы падтрымцы яго германцамі, што акупавалі Беларусь. Але ўсё роўна ён заставаўся слабейшым у параўнаньні зь літоўскім, а расейцы (бальшавікі) увогуле рашуча супрацьстаялі зьяўленьню незалежнай беларускай дзяржавы і нават былі гатовыя аддаць Менск палякам пад умовою, што тыя не дазволяць узьнікнуць беларускай дзяржаўнасьці. Пасьля прайгранай Пілсудзкім усходняй кампаніі і скасаваньня плянаў – не да канца зрэшты зразумелых – пабудовы паміж Польшчай і Расеяй нейкага дзяржаўнага ўтварэньня, зьвязанага з Варшавай, заходнія абшары Беларусі, у значнай ступені каталіцкія, былі ўлучаныя ў Польшчу (прапанова Ёфэ заадно прыхапіць і Менск не была падтрыманая з прычыны праваслаўнага веравызнаньня большасьці яго насельніцтва). І тады савецкія ўлады збудавалі вакол Менску Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

Беларусь, як і Ўкраіна, не атрымала тады дзяржаўнай незалежнасьці ня толькі таму, што гэтаму супрацьстаяла Масква (а Польшча не была гатовая аддаць землі, што ўваходзілі ў склад абедзьвюх сучасных дзяржаваў, напрыклад, Усходнюю Галіцыю, хаця ў яе інтарэсах было стварэньне буфэрных земляў паміж Расеяй і другой Рэччу Паспалітай), але найперш таму, што ў гэтых народаў яшчэ не было сфармаванай

нацыянальнай сьвядомасьці, яны думалі пераважна ў саслоўных і клясавых катэгорыях, што спрыяла патэнцыйнаму саюзу з савецкай Расеяй. Украінцы масава не падтрымалі Пятлюру, што надоўга затрымала паўставаньне незалежнай украінскай дзяржавы. Падобна, але ў яшчэ больш радыкальным варыянце, склалася сытуацыя і на Беларусі.

Беларусы, якія ў сваёй большасьці з прычыны рэлігійнай (і культурнай) тоеснасьці схіляліся да Расеі, не турбаваліся за сваю суб'ектнасьць, ня ўдзельнічалі ў барацьбе за сваю нацыянальную ідэнтычнасьць, і таму ператварыліся ў аб'ект палітычных гульняў сваіх суседзяў (зрэшты, падобнае мы назіраем і сёньня). Прыклад балтыйскіх рэспублік паказвае, што адназначная падтрымка грамадзтвам сваёй незалежнасьці заўсёды дае шанец на посьпех. Што праўда, і міжнародная сытуацыя ў іх была іншаю – расейцы не былі моцна зацікаўленыя ў тым, каб паглынуць прыбалтаў  (гэтаксама як і цяпер).

Пасьля Першай сусьветнай вайны славацкі нацыянальны рух ня быў мацнейшы за беларускі (хаця і пачаўся значна раней). Але некалькі дзесяцігодзьдзяў саюзу славакаў з чэхамі і беларусаў з расейцамі далі абсалютна розныя вынікі. Славакі цалкам нацыяналізаваліся і пасьпяхова кіруюць сваёй дзяржаваю. А беларусы так і не разьвілі сваёй суб'ектнасьці і грамадзкай актыўнасьці (здольнасьці да рэформаў). Сувязь з расейскай культурай  затармазіла ў беларусаў станаўленьне нацыянальнай сьвядомасьці, зрабіла

іх грамадзтвам, якое ўвесь час аглядаецца на Маскву і шукае паратунку звонку – у сталіцы Расеі. Гэта ідэнтыфікацыйна, мэнтальна аддаляе беларусаў ад Эўропы. А вось славакі за гэты час сур'ёзна ўзмацнілі сябе нацыянальна – хаця ім ніколі і не пагражала выйсьце за межы эўрапейскага (ляцінскага) культурнага кола.

Пасьля стварэньня Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (у рамках СССР) мы можам сапраўды казаць ня толькі пра грамадзтва Беларусі, але, нарэшце, і пра беларускае грамадзтва, якое фармавалася вакол інстытуцыяў, будаваных бальшавікамі. 20-я гады – гэта пэрыяд т.зв. *беларусізацыі*, гвалтоўнага насаджэньня беларускай мовы на ўсіх узроўнях будаванага савецкага грамадзтва, у тым ліку ў адукацыі і адміністрацыі. Здавалася, што Беларуская Савецкая Рэспубліка становіцца прынамсі сурагатам незалежнай Беларусі. Посьпехі ў беларусіфікацыі статыстычна былі ашаламляльныя. Але такім жа імклівым быў і адыход ад тых посьпехаў, а значыць, прылучэньне да беларускай мовы і культуры (а тым больш – нацыянальнай сьвядомасьці) было вельмі павярхоўным. Адыход ад палітыкі беларусізацыі ня выклікаў масавых грамадзкіх пратэстаў, а беларусы, што сотнямі тысяч траплялі ў савецкія лягеры і масава расстрэльваліся (напрыклад, Курапаты былі брацкай магілай як найменей 100 тысяч жыхароў Беларусі), пад рэпрэсіямі хутка адмаўляліся ад беларускай нацыянальнай ідэалёгіі. У адрозьненьне ад літоўцаў, якія (што праўда, яны цягам двух дзесяцігодзьдзяў мелі незалежную дзяржаву)

шмат год змагаліся пасьля Другой сусьветнай вайны з савецкімі акупантамі, беларусы ніколі (калі не лічыць лякальнага, зь невялікім грамадзкім розгаласам, Слуцкага паўстаньня 1920 году) не ўздымалі паўстаньняў у абарону Беларусі і сваёй беларускай ідэнтычнасьці (бальшавіцкі партызанскі рух Другой сусьветнай вайны – зьява абсалютна іншая). Праўда, тут трэба браць пад увагу і тое, што ў трыццатыя гады беларускія культурныя, палітычныя і нацыянальныя эліты былі амаль цалкам зьнішчаныя. Была рэпрэсаваная пераважная большасьць чальцоў многіх беларускіх інстытутаў і творчых асяродкаў (напрыклад, каля 90% працаўнікоў Беларускай Акадэміі навук, а таксама пісьменьнікаў).

У выніку БССР ня толькі не распаўсюджвала беларускую культуру, але і зьнішчала ўсялякія формы беларускай своеасаблівасьці, якія выходзілі па-за межы этнаграфіі і фальклярыстыкі. Калектывізацыя сельскай гаспадаркі, зьяўленьне калгасаў і саўгасаў зьнішчылі беларускае сялянства. Калі ў беларускіх сялянаў забралі пашпарты, гэта на доўгія дзесяцігодзьдзі зрабіла немагчымым іх свабоднае перамяшчэньне па краіне, прывязала да зямлі, як падчас паншчыны, цалкам падпарадкавала сваволі ўлады, а практычна – старшыні калгасу (саўгасу). Калі ўзяць пад увагу, што пераважную большасьць жыхароў Беларусі складалі сяляне, дык можна сьцьвярджаць, што беларусы тады апынуліся ва ўмовах, якія падпадаюць пад азначэньне – нэафэадальныя. Тым больш, што беларуская вёска была вельмі беднай і нават, здаралася, жыла на мяжы голаду. За крадзеж некалькіх каласкоў

жыта суд – законна – мог вынесьці сьмяротнае пакараньне і менш за 10 год вязьні не прысуджалася. “Па гэтым законе, – пішуць Алег Латышонак і Яўген Мірановіч, – у Беларусі ў 1933–1934 гг. асудзілі амаль 11 тысяч асобаў”. Рэпрэсіі супраць жыхароў Беларусі (ня толькі беларусаў, але і ў значнай колькасьці палякаў), масавыя забойствы, што ліквідавалі цэлыя грамадзкія асяродкі – кулакоў (то бок заможных сялянаў), творцаў культуры, нярэдка слушна называюцца “генацыдам”. У рэпрэсіўных праявах сталінізму варта шукаць адну з галоўных прычынаў сучаснай беларускай бязвольнасьці, згодніцтва, нежаданьня актыўных дзеяньняў, схільнасьці да замыканьня ў межах сям’і, невялічкіх таварыскіх асяродках. Усё гэта посьледкі таго жаху – як і дыстанцыяваньне ад таго, што ёсьць афіцыйным, а таму чужым і пагрозьлівым. Цягам некалькіх дзесяцігодзьдзяў беларусы вельмі моцна рызыкавалі (часта сваім жыцьцём), выходзячы за межы канфармізму, каб цяпер актыўна выказваць нонканфармізм.

Сытуацыю ўскладняе той факт, што сучасная беларуская культура амаль цалкам пазбаўленая элітарных вартасьцяў. Яна адарваная ад культуры даўняе нашаніўскае эліты (названых так ад беларускага выданьня “Наша Ніва”, якое выдавалася ў 1906–1915 гг. у Вільні), а таксама – па клясавых прычынах – ад расейскіх элітаў перадрэвалюцыйнай Беларусі і рашуча адмежаваная ад фізычна зьнішчаных ці эмігравалаўшых у Польшчу асяродкаў *gente Poloni*, якія Масква лічыла ня толькі клясавымі, але і нацыянальнымі ворагамі

(нацыянальнай пагрозай для расейскасьці). Сучасная беларуская культура пабудаваная выключна – ці амаль выключна – на сялянскай культуры, спэцыфічнай для ўсходнеэўрапейскіх краін. Польскі дасьледнік Ёзаф Абрэмбкі, апісваючы ў сярэдзіне 30-х гадоў XX ст. палешукоў, якія засталіся з польскага боку мяжы, характарызаваў іх спосаб мысьленьня наступнымі словамі: “Калі ўлада руская, народ таксама рускі, пад польскаю ўладай – польскі, пад татарскай – татарскі”. У мэнтальнасьці беларусаў сялянская пакора пераважыла характэрную шляхецка-інтэлігенцкім элітам схільнасьць да паўстаньня ў імя ідэі. Цягам пакаленьняў у беларусаў сфармавалася ўяўленьне, што кіруюць заўсёды іншыя (расейцы, палякі і г.д.) – папросту ўлада, а мы, бедны народ, мусім дбаць пра сваё – матэрыяльнае, штодзённае, побытавае. Наступствы гэткага мысьленьня ўсё яшчэ трываюць у падсьвядомасьці. Народ трактуе ўладу ўва ўсходнім, патэрналісцкім варыянце, адсюль і стаўленьне да прэзыдэнта Лукашэнкі як да бацькі, які карае і ўзнагароджвае свой народ. Таму галоўнае не выбіраць сабе кіраўніка, а каб ён быў добры, справядлівы, забясьпечваў спакой і дабрабыт.

Працэс беларусіфікацыі грамадзтва 20-х гадоў ня меў шанцаў на посьпех яшчэ і таму, што супярэчыў клясавай ідэалёгіі савецкасьці. У значнай ступені ён быў маніпуляцыяй уладаў, якія ведалі, што ў будучым пазбавяцца прабеларускіх настрояў першага дзесяцігодзьдзя існаваньня БССР. З другога боку мяжы, у II Рэчы Паспалітай, адначасова з рэпрэсіямі ў Менску пачалі радыкальна абмяжоўваць (маса-

ва ліквідаваць) беларускую адукацыю. Тармазілася разьвіцьцё нацыянальнай беларускай культуры і станаўленьне інтэлігенцыі. Адной з прычынаў такога становішча была схільнасьць беларускіх сялянаў да камуністычнай ідэалёгіі, якія з матэрыяльнага недахопу сьпелілі ў сабе пачуцьцё клясавай крыўды. Чэслаў Мілаш, польскі Нобэлеўскі ляўрэат у галіне літаратуры, перад вайной жыў у Вільні і праз гады згадваў, што калі польскія ўраднікі на беларускіх землях “дазвалялі засноўваць асобныя школы, то вынікі аказваліся зь іх пункту погляду найгоршымі. Сялянскі сын, з дапамогай ведаў, разьвіваў свае ўкаранёныя комплексы і ўздымаўся на першую прыступку далучанасьці да цывілізацыі, то бок, як правіла, рабіўся камуністам і дзейнічаў на карысьць “рэўніфікацыі”, гэта значыць адзьдзяленьня ад Польшчы яе ўсходніх ваяводзтваў”. Тая частка беларускай інтэлігенцыі, якая выехала ў БССР (часта пакідаючы польскія вязьніцы па абмене з СССР), была там зьнішчаная цягам некалькіх гадоў. Уратавалі сабе жыцьцё тыя, хто застаўся ў варожай беларусам, на іх думку, Польшчы (тут яны, бывала, сядзелі ў турмах за камунізм і супрацоўніцтва з службамі СССР). У Польшчы не забівалі беларусаў, але палітыку супраць іх нельга лічыць ані палітычна правільнаю, ані вартаю пахвалы з маральнага гледзішча. У выніку падпісанага паміж гітлераўскай Германіяй і сталінскім СССР пакту Молатава-Рыбэнтропа заходнебеларускія землі былі – пасьля нападу СССР на Польшчу ў верасьні 1939 году – уключаныя ў склад БССР, а чарговая новая мяжа была

ўсталяваная пасьля Другой сусьветнай вайны. Нацыянальна супольнасьць беларусаў на захадзе краіны была занадта слабая (у пераважнай большасьці яна заставалася не нацыяналізаванай), каб у значнай ступені паўплываць на фармаваньне беларускай культуры ў пасьляваеннай БССР. Тым ня менш, заходняя Беларусь па сёньняшні дзень адрозьніваецца ад усходняй. Насельніцтва, якое там жыве, значна больш рэлігійнае, індывідуалістычнае, мае таксама вышэйшы ўзровень працоўнай этыкі (больш прадуктыўныя калгасы). Да таго ж яно зьяўляецца больш празаходным і пранацыяналістычным, хаця гэтыя розьніцы непараўнальна меншыя, чым між заходняй і ўсходняй Украінаю (Львовам і Данбасам).

З пачатку 30-х г. у БССР рэалізоўвалася палітыка саветызацыі беларускага грамадзтва, чаму стала спадарожнічаў працэс ягонай русыфікацыі. Сучаснае беларускае грамадзтва было пабудаванае не на нацыянальнай, а на савецкай ідэалёгіі. Савецкасьць разьвівалася ня побач з нацыянальнай сьвядомасьцю, а замест яе. Масавае разбурэньне постфэадальных лакальных вясковых структураў пачалося толькі ў БССР. Адукаваным сялянам, якія перасяляліся ў гарады, трэба было нанова апісваць навакольны сьвет – першапачаткова абсалютна чужы і значна шырэйшы, чым вядомы ім да гэтага часу. У гэтых умовах ідэалягізаваныя катэгорыі мысьленьня апынуліся вельмі прыдатнымі для фармуляваньня сэнсу жыцьця і ўкараненьня ў новым тыпе грамадзтва, якое аб’яднала дакапіталістычныя структуры з сучаснай сыстэмай вартасьцяў і тым самым ства-

рала цэласнае бачаньне сьвету. Такім чынам была радыкальна аслабленая патрэба фармаваньня нацыянальнага дыскурсу. Нацыянальная плыня ад 30-х гадоў XX ст. мела маргінальны характар адносна даміноўнай савецкасьці, што выражалася ў клясавым характары ідэалёгіі, якая павінна была аб'яднаць і ўзмацніць грамадзтва праз кіраваньне зьверху грамадзкімі працэсамі. Непартнэрскія стасункі паміж уладай і адзінкай (групай), адсутнасьць нацыянальнага гонару, гатоўнасьці да самаахвярнасьці ў імя нацыянальных ідэалаў, несфармаванасьць беларускага нацыянальнага інтарэсу (пры актыўным выкарыстаньні гэтага тэрміну), нежаданьне індывідуальнай уласнасьці (і індывідуалізму ўвогуле), вольнага рынку, дэмакратыі ў заходнім стылі – вось тыя чыннікі, якія фармавалі беларускае грамадзтва савецкага часу. А да таго ж улічым татальную залежнасьць ад Масквы і ўсяго расейскага (расейскай культуры, мовы і г.д.) і адсюль уяўленьне пра сваю краіну як толькі пра рэгіён у рамках СССР (ці адну з усходнеславянскіх супольнасьцяў). Беларуская адукацыя амаль зьнікла, саступіўшы расейскай. Расейская мова зрабілася мовай высокай (і адначасна – папулярнай) культуры – беларуская засталася толькі на вёсцы. Разам з тым, расейская мова не здэнацыяналізавала беларусаў, не зрабіла зь іх расейцаў, а толькі саветызавала. Аднак найбольш цікава тое, што самае каштоўнае ў сучаснай беларускай культуры найчасьцей пішацца не па-расейску, а на беларускай мовеў вузкім коле беларускіх інтэлектуалаў. Беларуская мова выяўляе падфарбаваны нацыяналістычнымі эмоцыямі нонканфармізм.

Нават нягледзячы на гвалтоўную ўрбанізацыю 60–70 гг. мінулага стагодзьдзя, а таксама індустрыялізацыю, беларуская супольнасьць сёньня – гэта, у значнай ступені, саветызаваная этнічная сялянскасьць. Несумнеўна, беларусы – сучаснае грамадзтва. Яны адукаваныя, ведаюць пра блізкі і далёкі сьвет, мысляць у ідэалягічных катэгорыях (а не ў катэгорыях лякальнай супольнасьці), будуюць грамадзкія інстытуты і нават маюць уласную дзяржаву (праўда, атрыманую ў падарунак ад гісторыі, а не заваяваную ўласным рашэньнем). Але іх гняце цяжкае мінулае. Дзяржаву яны ўспрымаюць хутчэй у катэгорыях сацыяльных, чым як вартасьць саму па сабе, у імя якой іншыя народы Эўропы ішлі на барыкады. Іх традыцыйнае ўспрыманьне сябе ў катэгорыях рэгіяналізму (што праўда, таксама гістарычна, палітычна і культурна вылучанага) выражаецца ў гатоўнасьці аб’яднаньня з Расеяй, хаця здаецца, што яны паступова прывыкаюць да сваёй незалежнасьці і гатовыя да захаваньня сваёй адрозьнасьці ў выпадку аб’яднаньня з усходнім суседам. Яны лічаць, што дэмакратыя пагражае ім балаганам і анархіяй (таму безь вялікіх пратэстаў у сярэдзіне 90-х гг. падтрымалі ліквідацыю парлямэнту, выбранага на сапраўды свабодных выбарах, які, на іх думку, праводзіў час у бессэнсоўных сварках), а свабодны рынак – беднасьцю. Безумоўна, так думаюць ня ўсе, прынамсі, ня менская інтэлігенцыя, але ўсё ж такі бальшыня *простага народу* Беларусі.

Пераважная большасьць беларусаў адчувае культурную сувязь з Расеяй. Аднак, нягледзячы на

праўсходнюю пазыцыю, беларусы вызнаюць сябе эўрапейцамі. І хаця яны непрыязна думаюць пра НАТО (постсавецкая інэрцыя), але ставяцца досыць станоўча – з матэрыяльных матывацый – да магчымасьці ўступленьня ў Эўрапейскі Саюз. Такім чынам, культура яднае іх з Усходам, а жаданьне быць заможнымі – з Захадам. У прынцыпе, самі беларусы не стварылі ані нацыі, ані дзяржавы. Гэта дзяржава (СССР) стварыла іх як грамадзтва. Яны не пачалі сваё існаваньне, як, напрыклад, палякі, са змаганьня за свабоду, паўстаньняў супраць дзяржавы-акупанта (якога былі стварэньнем), будаваньня ідэалёгіі ўласнай незалежнасьці. Пра сваю даўнюю гісторыю яны ведаюць няшмат (яна была калісьці фальсыфікаваная і застаецца такою да цяперашняга часу) і ня вельмі жадаюць ведаць. Яны ўсё жывуць мітам пра Другую сусьветную вайну, хаця іхныя страты былі вялізнымі (афіцыяльныя крыніцы кажуць пра 2 млн палеглых), а перамога азначала далейшае зьняволеньне. Большасьць грамадзтва думае катэгорыямі матэрыяльнага побыту, жыцьця адным днём, аддае перавагу расейскай мове, а беларускую мову ў гарадах асацыюе з варожым яе мэнтальнасьці нацыяналізмам. Распад СССР і савецкай ідэалёгіі выбіў з-пад беларусаў апору – той сьвет каштоўнасьцяў, дзякуючы якому яны паўсталі, ня даўшы (як перакананая большасьць зь іх) нічога роўналегляга ўзамен. У беларусаў (па-за часткай эліты) адсутнічае пачуцьцё нацыянальнай годнасьці, якое б магло абудзіць грамадзкую актыўнасьць і схіліць да самаахвярнасьці, цяжкіх рэформаў дзеля канкурэнцыі зь іншымі нацыямі, у імя лепшай будучыні.

Беларусам ніколі не дазвалялася сфармаваць цалкам незалежныя эліты. Прадстаўнікі народу, якія займалі досыць высокія пасады, заўсёды аглядаліся на Маскву, чакалі тэлефоннага званку з сталіцы – сапраўднага месцазнаходжаньня імпэрыі. Беларусы яшчэ мусяць сфармаваць эліты, што будуць думаць катэгорыямі ўласнай дзяржавы, яе інтарэсаў (асабліва нацыянальнага інтарэсу), годнасьці за ўласную культуру і гісторыю. І такія эліты ў Беларусі ўжо зьяўляюцца. Кожны год непадлегласьці ўзмацняе шанцы на далейшае існаваньне беларускай дзяржавы. Ствараюцца асяродкі людзей (дзяржаўная адміністрацыя, бізнэс), якія зацікаўленыя ў беларускай дзяржаве, нягледзячы на тое, што значная частка грамадзянаў успрымала Рэспубліку Беларусь, якая зьявілася ў 1991 г., як працяг БССР, то бок як палітычную, эканамічную і культурную аўтаномію ў межах нейкага глябальнага палітычнага арганізму. Беларусы, шукаючы шчыльных стасункаў з Расеяй, памятаюць, што нават у СССР яны існавалі як фармальна асобная рэспубліка з сваёй уладай і ўласным парлямэнтам. Жадаючы быць з Расеяй, яны не жадаюць быць расейцамі. Будучыя беларуска-расейскія стасункі яны бачаць як мадэрнізаваную праекцыю мінуляга: ані простае паглынаньне Беларусі Расеяй, ані адназначны разрыў зь ёю. Узровень іх палітычных прэтэнзіяў адпавядае моцы беларускага грамадзтва і той трываласьці сувязяў, якія яго яднаюць. Беларусы паволі прызвычайваюцца да незалежнасьці. Нягледзячы на ўсе пагрозы беларускай незалежнасьці, у Эўропе цягам апошніх дзесяці год было прасьцей утварыць новую дзяржаву, чым зьнішчыць яе.

Але пакуль што палітычныя партыі ў Беларусі маюць слабую грамадзкую падтрымку. Партыйная сыстэма выкрышталізаваная слаба, што зразумела, бо яна – калі браць пад увагу гісторыю двух апошніх стагодзьдзяў – ня мае трывалай традыцыі. Беларусь – краіна пераважна левых поглядаў. Нацыянальныя партыі з празаходнай арыентацыяй (напрыклад, Беларускі Народны Фронт) не карыстаюцца вялікай папулярнасьцю. Нацыяналізм, зразумелы як ідэалягізаваная форма ўзвышэньня над іншымі народамі, у Беларусі практычна не існуе.

Цяжка знайсьці адказ на пытаньне, як замяніць савецкую ідэалёгію, якая ляжыць у аснове сучаснага беларускага грамадзтва, нацыянальнай. Рэалізацыя гэтай замены патрабуе канструяваньня мэханізму, які б дазволіў заступіць аднаму тыпу сувязі на месца другога ў грамадзтве, якое не адчувае патрэбы ў падобнай замене. Можа быць, гэта лёгка здзейсьніць на ўзроўні адзінкі, але відавочна надзвычай складана для 10-мільённай дзяржавы. Тым болей, што сыстэма вартасьцяў, якая аб’ядноўвае беларусаў сёньня, не спрыяе стварэньню грамадзянскай супольнасьці.

Падводзячы вынік, можна сказаць, што, па-першае, беларусы адрозьніваюцца ад пераважнай большасьці супольнасьцяў Эўропы тым, што з спазьненьнем выйшлі з фэадалізму і таму сфармаваліся ў сваім сучасным выглядзе, абапіраючыся на клясавую, а не нацыянальную ідэалёгію. І з гэтага працягваюць глядзець на сьвет праз клясавыя вартасьці. Па-другое, іх

нацыянальная і грамадзкая няпэўнасьць ды недаафармаванасьць – гэта вынік частых зьменаў дзяржаўнай прыналежнасьці (Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітая, Расейская імпэрыя, СССР, Беларусь), моўнай практыкі (беларуская, польская, расейская), рэлігійнай абраднасьці (у гістарычнай чарговасьці: праваслаўе, грэка-каталіцызм, праваслаўе, рымскі каталіцызм і розныя варыянты пратэстантызму). Зьмяняліся ўлады, рэлігіі, мовы, цывілізацыйныя арыентацыі... Беларускі селянін навучыўся жыць ва ўмовах, калі над ім бясконца праносіліся гістарычныя буры. Таму ён пазьбягаў канфліктаў і замыкаўся ў сабе. І нават тады, калі пераяжджаў у горад, яму не было ад каго вучыцца грамадзкай актыўнасьці. Да таго ж на лёсы беларусаў значна паўплывалі іх вялікія суседзі. За апошнія два стагодзьдзі – больш расейцы, чым палякі (расейцы, дарэчы, па-ранейшаму не ўспрымаюць беларусаў як асобную нацыю). Расейскія ўлады, успрымаючы Беларусь як сфэру сваіх непасрэдных інтарэсаў, не спрыяюць рэфармаваньню і дэмакратызацыі беларускага грамадзтва. Яны баяцца, што заможная і дэмакратычная Беларусь накіруецца ў бок Эўропы. Палякі хацелі б бачыць Беларусь краінай з моцнай грамадзянскай супольнасьцю, дэмакратычнай і багатай. Бо тады яна будзе надзейным суседам Польшчы і ў будучыні прадоўжыць Эўропу на некалькі соцень кілямэтраў за яе цяперашнія ўсходнія межы (не ў інтарэсах Польшчы і патэнцыйна небясьпечна, каб яе мяжа была адначасова мяжою ЭС). Можа быць, інтарэсы Польшчы і Расеі з часам зробяцца падобнымі, і тады беларусы змогуць цалкам кіравацца ўласным нацыянальным інтарэсам.

Беларусь не павінна заставацца незразумелай краінай у геаграфічным цэнтры Эўропы і кіравацца Прэзыдэнтам, які паводзіць сябе, далікатна кажучы, дзіўна. Той, хто кажа пра зьнікненьне Беларусі ў будучым, павінен памятаць, якімі нечаканымі бываюць павароты гісторыі. Польскі выбух у жніўні 1980 году (які спарадзіў Салідарнасьць) ня мог быць вычытаны ў ніводным сацыялягічным дасьледаваньні. “Памаранчавая” рэвалюцыя ў Кіеве 2004 году была неспадзяванай падзеяй нават для саміх яе ўдзельнікаў. Беларусі не заўсёды заставацца чорнай дзіркай Эўропы. І мяне надзвычай цікавіць, як у выпадку з Беларусьсю будзе выглядаць гвалтоўнае прысьпешваньне гісторыі.

# TERRA INCOGNITA

*(Замест пасьляслоўя)*

Гэтыя радкі пішуцца для таго, хто прачытаў (ці хаця б прагартаў) кнігу да апошняй старонкі і цяпер складвае паасобныя ўражаньні ў агульны малюнак, каб засланіць ім тое месца, дзе раней для яго была “чорная дзірка Эўропы”, “самы таемны эўрапейскі этнас”, “terra incognita” і г. д. Але я папрасіў бы не сьпяшацца з канчатковымі высновамі. Бо хаця мы сваёй працай перадусім мелі на мэце “*адкрыць Беларусь*” для замежнага чытача, але і для многіх зь беларусаў яе *геаграфія* яшчэ поўніцца “белымі плямамі”. Па вялікім рахунку, мы толькі пазначылі асноўныя каардынаты, каб кожны ахвочы далей ведаў, дзе можна адшукаць (і ў гісторыі, і ў сучаснасьці) гэты загадкавы край...

Філёзаф Алесь Анціпенка неяк заўважыў: *пра Беларусь што ні скажы, усё будзе няпраўдай*. Калі інтэлектуальныя парадоксы могуць адлюстроўваць рэальнасьць, дык гэта якраз той самы выпадак. Рэч у тым, што беларускае грамадзтва пакуль не знаходзіць канвэнцыйнай згоды адносна хоць чаго -- уласнай гісторыі, свайго месца ў сучаснасьці, шляхоў праставаньня ў будучыню. Таму не існуе, бадай, ніводнай канцэптуальнай тэзы пра Беларусь, якая б не была для некага “няпраўдай” (ці ня гэтыя “няпраўды” ў супраціве адна адной і робяць Беларусь “невядомай”?).

Возьмем хаця б гістарыяграфію... Тут мы маем столькі канцэпцый гісторыі Беларусі, што іх хапіла б на тузін краінаў. На пачатак згадаем адну з найноўшых, якая сьцьвярджае, што этнічна беларусы прамыя нашчадкі сваіх *балцкіх* продкаў. Яны (*балты*) зьявіліся на нашых землях прыблізна дзесяць тысяч гадоў назад і за гэтыя тысячагодзьдзі амаль не зьмяніліся (этнічна), адно што *зьверху* трохі славянізаваліся. Прыхільнікі гэтай ідэі перадусім адмаўляюць наяўнасьць хоць якіх (і хоць калі) масавых міграцый на прасторах сучаснай Беларусі. Дзеля гэтага яны выкарыстоўваюць самую розную аргумэнтацыю: ад антрапалягічных замераў да фальклёрных матэрыялаў. Як вядома, беларускі фальклёр адзін з самых багатых у Эўропе. Аднак ніводная зь ягоных крыніцаў ня згадвае пра такую маштабную падзею, як "перасяленьне народаў". З чаго этноляг Сяргей Санько і выснаваў досыць радыкальную тэзу: *"Беларусы – славянамоўныя балты",* якая ў некаторых асяродках ужо займела немалую папулярнасьць.

Натуральна, што гэтая канцэпцыя рэзка кантрастуе адносна здавён нам вядомай (распачатай расейскай гістарыяграфіяй, здаецца, яшчэ ў XVIII ст.), якая сьцьвярджае, што этнічнай протаспадчынай рускіх, украінцаў і беларусаў зьяўляецца "стараруская народнасьць". І хаця гэткае разуменьне свайго этнічнага пачатку яшчэ досыць папулярнае ў беларускім грамадзтве, аднак ужо амаль не бярэцца пад увагу найбольш адукаванай яго часткай, паколькі не абапіраецца ні на якія гістарычныя крыніцы. Маўляў, цалкам ідэалягічны канцэпт.

Бальшыня сучасных беларускіх гісторыкаў, не адмаўляючыся ад ідэі славянскай протаасновы, актыўна працуе над стварэньнем ужо ўласна нацыянальнай гістарыяграфіі (яна найбольш шырока прадстаўлена ў нашай кнізе). Але для многіх беларусаў (і ўладных інстытутаў перадусім) плён іхняй працы – гэта не што іншае, як чарговая "няпраўда" пра Беларусь. Таму зусім не здзіўляе, што ў сытуацыі "вайны гістарыяграфіяў" дзяржаўная ідэалёгія вырашыла зусім абысьціся безь гісторыі, узяўшы сабе ў аснову толькі адну падзею мінуляга – Вялікую Айчынную вайну.

Я, бадай, залішне затрымаўся на канфліктах *гісторый* Беларусі (а колькіх яшчэ не згадаў), але адно дзеля таго, каб гэтым прыкладам патлумачыць, што прыблізна падобную сытуацыю мы маем і ва ўсіх другіх сфэрах: ад культуры да геапалітыкі. А значыць прадстаўленая ў нашай кнізе "вэрсія Беларусі" – толькі адна з магчымых як на сёньняшні дзень. Іншы калектыў аўтараў ужо ж, напэўна, стварыў бы нешта досыць адрознае ад таго, што атрымалася ў нас. І гэта найперш мусіць мець на ўвазе чытач "Невядомай Беларусі".

Разам з тым, было б вялікай аблудай сумнявацца ў Беларусі як у рэальным суб'екце эўрапейскай гісторыі на той падставе, што яна пакуль дазваляе інтэрпрэтаваць сябе ў розных вэрсіях. Апошняе зусім не адмаўляе выразнай адметнасьці гісторыі гэтай зямлі, прынамсі на ўсім яе летапісным прасьцягу. Нават у сытуацыі Вялікага Княства Літоўскага жыцьцё і падзеі тут разгортваліся зусім іначай, чым на землях сучаснай Літвы ці на Ўкраіне. (Ня кажучы ўжо пра Польшу і Расею). Калі ВКЛ улучылася

ў Рэч Паспалітую, Літва (сучасная Беларусь) жыла па ўласных законах. У складзе Расейскай імпэрыі Беларусь добрай сваёй паловай ваявала на баку Напалеона, актыўна ўдзельнічала ў антырасейскіх паўстаньнях (1831, 1863), заставалася шматканфэсійным краем і нават мела ў Полацку езуіцкую Акадэмію.

Альбо згадаем Другую сусьветную вайну. Для расія-наў гэта была Вялікая Айчынная вайна, для ўкраінцаў – памножаная на дзьве (адна вайна на баку саветаў, другая – немцаў); прыбалты найперш ваявалі зь камуністамі, а палякі хоць і змагаліся з немцамі, аднак былі супраць рускіх. І зусім іншай, чым ва ўсіх суседзяў, была вайна беларусаў – партызанская, з якой і паўстаў міт пра “партызанскі народ”.

Мы можам запыніцца на хоць якім пэрыядзе гісторыі і ўсюды пабачым, наколькі адрозна ад сваіх суседзяў пражывалі яго беларусы. А для не ахвочых да гістарычных экскурсаў прапаную зьвярнуць увагу на сучаснасьць, каб на “свае вочы” запэўніцца, як моцна беларуская вэрсія дзяржаўнай *незалежнасьці* розьніцца ад расейскай, польскай ці ўкраінскай, а тым болей – ад незалежнасьці балтыйскіх краінаў. (І ўжо зусім іншая рэч, як мы самі яе ацэньваем).

Вось чаму выклікае зьдзіўленьне, што ў Расеі шмат хто яшчэ лічыць рускіх і беларусаў адным народам, які ўсяго толькі праз нейкую палітычную недарэчнасьць апынуўся ў дзьвюх самастойных дзяржавах. Бо калі нават пагадзіцца з вэрсіяй расейскай гістарыяграфіі, што быццам рускія і беларусы сваім паходжаньнем укарэненыя ў агульную “старарускую супольнасьць”, дык і гэта ня можа быць сур’ёзным аргумэнтам на карысьць “адзінага народа”. Народы розьніць між сабой

не этнічнае паходжаньне, а ў кожным разе адметная гісторыя. Ці захоча хоць які расейскі заўзятар ідэі “адзінага народа” назвацца беларусам і злучыць сябе з нашай гісторыяй, у якой няма ні Аляксандра Неўскага, ні Гаўрыілы Дзяржавіна, ні заваяваньня Сібіры, ні штурма Зімовага палаца... Ці даспадобы яму будзе лічыць Аляксандра Суворава гвалтаўніком роднага краю, прызнаваць каталіцкі касьцёл як адну з сваіх рэлігійных асноваў і завучваць на памяць зь дзецьмі “школьныя вершы” не Аляксандра Пушкіна, а Янкі Купалы? Рытарычнае пытаньне! Дык пра якое *адзінства* тады ідзе гаворка?

Зрэшты, якім бы істотным ня быў гістарычны чыньнік, лёс кожнага народа найперш залежыць ад таго, наколькі гэты народ адэкватны сучаснасьці і ці здольны ён годна адказваць на яе выклікі. Не выпадкова нашыя расейскія і польскія калегі па супольнай працы над гэтай кнігай, як бы далёка яны не зазіралі ў мінулае, завершваюць свае аналітыкі пытаньнем (зьвернутым і да сябе, і да нас) пра будучае Беларусі. І нам варта ўважліва прыслухацца да іх далікатна выказаных трывогаў, хай сабе і заканцаваных аптымістычнымі прагнозамі. Бо іх трывогі паходзяць не з сытуацыйных эмоцыяў, а з аналітычных высноваў, на якія беларускія аўтары звычайна спрабуюць як бы не зважаць.

Рэч у тым, што беларуская нацыя па сваёй сутнасьці глыбока антыэлітарная. Натуральна, тут адразу карціць нагадаць і палякам і расіянам, што менавіта зь іхняй “ласкі” ва ўсе папярэднія эпохі беларускія эліты, калі яны не пераходзілі на польскі альбо расейскі бок, дык рэпрэсаваліся ці, у лепшым выпад-

ку, апыналіся пазбаўленымі хоць якіх прывілеяў, і тым самым гублялі статус элітаў. Але няма нічога больш неразумнага, чым вінаваціць іншага ў тым, што твая доля склалася непажаданым чынам.

Ёсьць відавочны факт, і давайце яго прымем як належнае. Беларуская нацыя нарадзілася ў вясковай калысцы. А потым у яе была пралетарская маладосьць, якая спакваля перарасла ў індустрыяльную даросласьць. Адным словам, беларусы – спрэс “мужыцкая нацыя”, што, безумоўна, зьяўляецца нашай досыць выразнай адметнасьцю. Толькі з гэтай адметнасьці мы займелі і адну вельмі складаную праблему. Бачыце, і вёска, і пралетарыят (як і “мужыцкасьць” увогуле) па азначэньні ня здольныя сыстэмна прадукаваць нацыянальныя эліты. А без адметнай і маштабнай эліты нацыя ніколі ня можа быць да канца ўпэўненай наконт сваёй будучыні.

На вялікі жаль, нацыянальныя эліты як асноўны фактар паспяховага нацыябудаўніцтва ў беларусаў дагэтуль яшчэ ня склаліся, прынамсі ў той меры і ў тым значэньні, каб нікому нават да галавы не было задавацца пытаньнем: быць ці ня быць Беларусі?

Так, лёс Беларусі ўсё яшчэ для многіх застаецца пад пытаньнем. Але мне здаецца, што мы яго абавязкова вырашым. І я нават ведаю чаму... Бо Беларусь – гэта наш лёс.

*Валянцін Акудовіч*

## ЗЬВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Васіль Быкаў** (1924–2003) нарадзіўся ў вёсцы Бычкі на Вушаччыне (Віцебская вобласьць). Вучыўся ў Віцебскай мастацкай вучэльні. Удзельнічаў у Другой сусьветнай вайне. Народны пісьменьнік Беларусі. Творы Васіля Быкава перакладзеныя на дзясяткі моваў сьвету.

**Уладзімер Арлоў** нарадзіўся ў 1953 г. у Полацку. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт (гістарычны факультэт). Празаік, паэт, эсэіст. Віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру. Аўтар больш як дваццаці кніг, многія зь якіх перакладаліся на замежныя мовы.

**Сяргей Дубавец** нарадзіўся ў 1959 г. у Мазыры. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Празаік, літаратурны крытык, эсэіст. У 1991 г. аднавіў легендарную газэту “Наша Ніва” і стаў яе першым рэдактарам. Аўтар шматлікіх эсэ і некалькіх кніг публіцыстыкі.

**Пятро Васючэнка** нарадзіўся ў 1959 г. у Полацку. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Кандыдат філялягічных навук. Празаік, драматург, літаратурны крытык. Аўтар некалькіх манаграфій і мастацка-літаратурных кніг.

**Алесь Анціпенка** нарадзіўся ў 1953 г. ў Слаўгарадзе на Магілёўшчыне. Скончыў Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўнівэрсытэт. Кандыдат філязофскіх навук. Аўтар шматлікіх публікацый, якія выходзілі ў Беларусі і за яе межамі. Кіраўнік Беларускага Калегіюму.

**Валер Булгакаў** нарадзіўся ў 1974 г. у Менску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Канды-

дат філязофскіх навук. Галоўны рэдактар часопіса «ARCHE». Аўтар кнігі “Гісторыя беларускага нацыяналізму”.

**Ігар Вуглік** нарадзіўся ў 1957 г. у Менску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Кандыдат філялягічных навук. Паэт, дасьледнік беларускай культуры. Аўтар некалькіх манаграфій і мастацка-літаратурных кніг.

**Валянцін Акудовіч** нарадзіўся ў 1950 г. у мястэчку Сьвіслач на Гарадзеншчыне. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. Аўтар пяці кніг інтэлектуальнай эсэістыкі, дзьве зь якіх перакладзеныя на замежныя мовы.

**Аляксандар Смалянчук** нарадзіўся ў 1959 г. на Слонімшчыне (Гродзенская вобласьць). Доктар гістарычных навук. Аўтар трох манаграфій і шматлікіх навуковых артыкулаў. Укладальнік і рэдактар некалькіх навуковых выданьняў. Сябар Выканкама Рады Беларускага гістарычнага таварыства.

**Андрэй Дынько** нарадзіўся ў 1974 г. у Берасьці. Скончыў Беларускі лінгвістычны ўнівэрсытэт. Пачынаў як празаік і публіцыст. Шэф-рэдактар штотыднёвіка “Наша Ніва”. Віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру. У 2003 г. Вацлаў Гавал перадаў А. Дынько Hanno Ellebogen Citizenship Award. Аўтар (супольна з Андрэем Скурко) кнігі “Беларусь за дзесяць падарожжаў”.

**Андрэй Акара** жыве ў Маскве. Кандыдат юрыдычных навук. Дацэнт Расейскай акадэміі дзяржаўнай службы пры прэзыдэнце РФ. Аўтар шматлікіх працаў па гісторыі палітычнай і прававой культуры, філязофіі і паліталёгіі.

**Аляксей Сіманаў** нарадзіўся ў 1939 г. ў Маскве. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт (факуль-

тэт усходніх моваў) і Вышэйшыя курсы кінарэжысэраў. Зьняў 20 дакумэнтальных, мастацкіх і музычных фільмаў. У 1985 г. фільм “Атрад” быў прызнаны лепшым савецкім фільмам. З 1991 г. прэзыдэнт Фонду абароны галоснасьці.

**Аляксандар Фадзееў** нарадзіўся ў 1953 г. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Кіраўнік адзьдзелу Беларусі ў Інстытуце краінаў СНД. Выкладае сацыялёгію і гісторыю ў Маскоўскім дзяржаўным лінгвістычным унівэрсытэце.

**Валянцін Гефтэр** нарадзіўся ў 1944 г. у Маскве. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Быў памагатым дэпутата Дзяржаўнай Думы Сяргея Кавалёва. Дырэктар Інстытута правоў чалавека РФ. Сябар Экспертнай рады пры Упаўнаважаным па правах чалавека РФ.

**Эльжбета Смулкова** прафэсар, доктар філялягічных навук, славіст-беларусазнаўца. У 1991 – 1995 гг. – генэральны консул, а затым першы амбасадар Польшчы ў Беларусі. Аўтар польскіх і замежных навуковых таварыстваў, у тым ліку Камітэта Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Аўтар некалькіх кнігаў і шматлікіх артыкулаў.

**Рышард Радзік** скончыў Унівэрсытэт Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне – цяпер прафэсар гэтага ж унівэрсытэту. Галоўным чынам займаецца сацыялёгіяй нацый. Вывучае працэсы стварэньня нацыяў у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Аўтар шматлікіх артыкулаў і некалькіх кніг, прысьвечаных гэтай праблематыцы.

**Аналітычныя эсэ**

# НЕВЯДОМАЯ БЕЛАРУСЬ

**Рэдактары выдання: Валянцін Акудовіч і Алесь Анціпенка.**

**Пераклады з польскай і расейскай моваў:**
Марына Шода і Валянцін Акудовіч.

Дызайн вокладкі: Сяргей Ждановіч.

Вёрстка: Ганна Кот.

Карэктар: Віка Трэнас.

**Падпісана** ў друк - 10.11.2008.
Гарнітура Georgia.
Фармат 84x108 1/32.
Наклад 1000 асобнікаў.
Надрукавана ў друкарні АТ «Vilt», Вільня, Літва.